Алесь Жук

# Праклятая любоў

АПОВЕСЦЬ,
АПАВЯДАННІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1991

ББК84 Бел7
Ж 85

Яну Кулешу, герою повести «Проклятая любовь», шел шестой десяток, когда он полюбил Галину Русакевич, которая вернулась с Севера, туда когда-то выслали ее семью. Это чувство заставило Яна оглянуться на прожитые годы, задуматься о жизни, о человеческом счастье, о судьбе своего поколения на родной земле.

Рассказы о наших современниках, их заботах, радостях и тревогах.

Ж $\frac{4702120201-181}{М 302(03)-91}$ 12—90

ISBN 5-340-00315-9

© А. А. Жук, 1991
© Афармленне. В. У. Альшэўскі, 1991

# *Праклятая любоў*

## *1*

Ваўкі беглі наўскід, маладыя, прыгожыя, лёгкія ў сваёй дужасці. Яны быццам і не спяшалі. Ян здзіўлена глядзеў на іх. Бліскуча льснілася шэрсць. Ваўкі нібы слаліся над халаднавата-засінелым некранутым снегам, толькі з-пад лап лёгенька ўзвіваўся снегавы пылок. Ваўкоў было многа, цэлая зграя.

Адкуль гэтак раптам узяліся яны?

Ян прыспешыў хаду. Снег засыпаўся ў боты. З глухаватым адчаем Ян паглядзеў наперад. За полем густа і насуплена ўставаў лес, над ім зелянелася стылае неба. Ва ўсім гэтым, снежным і марозным, было ўжо нешта вясновае, і яно востра пахла жыццём і маладосцю.

Ян паставіў у аўтамат поўны дыск, памацаў у кішэні кажушка гранату. Але холад, які шархнуў па скуры, калі ўгледзеў ваўкоў, не прайшоў: вельмі ж упэўнена, няспешна ішлі яны.

Ён заспяшаў падбегам, таксама малады і дужы. Ён выходзіў цэлы з сутычак не з такімі звярамі, якія мелі салдацкую трэніроўку і аўтаматы.

Таму ў гэтых лясных звярах было быццам нешта знаёмае, нават свойскае.

Ян адчуў, як пацёк па брывах пот, а да лесу аставалася яшчэ далекавата. Сіняе і некранутае ляжала перад ім снегавое поле, роўна наўскід беглі па ім напярэсцікі ваўкі... Неспадзявана Ян заўважыў, што ўсё гэта нібы бачыць збоку: ваўкоў, і поле, і лес, і самога сябе. Адсюль, збоку і зверху, ён разумеў, што ваўкам не пераняць і не дагнаць яго, пакуль не рухне сам у гэтай халоднай пагоні альбо не выдыхнуцца звяры.

А яны не спяшаліся, яны разлічылі сваю сілу надоўга. У яго пачынала рабіцца гарачым у горле ледзяное вечаровае паветра. Ян задыхаўся і ненавідзеў іх, іхнюю драпеж-

ную прыгажосць і ўпэўненасць. Рашэнне прыйшло імгненна. Ён спыніўся, завярнуўся да пагоні, падняў аўтамат, гатовы спыніць яе раз і назаўсёды...

Кулеш дыхаў часта і цяжка, адчуваў нават холад на спіне. Ён ведаў, што сасніў сон, але вачэй не расплюшчыў, усё роўна як спадзяваўся, што ўбачыць яшчэ яго канец. Кулеш не баяўся сноў і не верыў у іх правідчую сілу. Сны яму сніліся рэдка, як і звычайна чалавеку, які робіць цяжкую работу і якому за ноч трэба выспацца. Пасля сну Ян мог успомніць здарэнне, з якога вырастаў сон у сваім страшным, недарэчным альбо камічным увасабленні.

Кулеш думаў пра тое, што ніколі ў жыцці не бачыў зблізку ваўкоў, гэтак каб разгледзець на іх кожную шарсцінку. У час вайны іх многа развялося ў лесе, але ў памяці нічога не асталося пра ваўкоў. Можа, таму, што на іх тады не звярталі ўвагі, не да іх было. Адкуль жа ў памяці і бліскучая шэрсць, касцістая пярэдняя лапа, жаўтлявы клык?

Тая забітая пасля вайны ля аўчарні ваўчыца была худая, са злямчанай шэрсцю, у якую набілася ваўчкоў.

Кулеш, нарэшце, з палёгкай успомніў змярканне, снег, адвячоркавую цішыню, у якой коратка пстрыкнуў пастаўлены ў аўтамат новы дыск: ён тады ішоў у штаб на Бялібар. Густа пераліваліся трысняговыя мяцёлкі на балоце, і не было ніякіх ваўкоў. Ён радаваўся, што хутка будзе цёплая хата. Яму было пятнаццаць год, і ў памяці астаўся толькі слабы водгук тае маладое, радаснае сілы.

А першы раз ваўка Кулеш бачыў дзіцем. Яны з бацькам ехалі з лесу. Вялікі шэры воўк выйшаў з-за кустоў і стаў на пагорку непадалёк ад дарогі. Бацька схапіў сякеру, кінуўся да ваўка, каб спалохаць яго. Ён нават закрычаў «дзяржы воўка». Але воўк не падтуліў хвост, не кінуўся наўцёкі, а паволі, быццам нехаця, завярнуўся да бацькі, і той не адважыўся ні бегчы далей, ні крычаць больш. Воўк счакаў якую хвіліну, лена саскочыў убок за кусты і знік гэтак жа нечакана, як і з'явіўся.

Каб зусім адкаснуцца ад таго воўчага загону, Кулеш павёў вачыма па пакоі, у якім стаяў шараваты, як схаладалы верабей, летні ранішні прыцемак. З прачыненага акна павявала халадком. Ціха стаяла за акном рабінка, ацяжэлая ад зажаўцелых гронак.

У сенцах, чутно, тупала жонка. Прывезла ад дачкі стракатыя, на абцасіку, хатнія тапачкі. Тут, у хаце, здавала-

ся, што жонка бегае па сенцах, таўкучы пятамі ў падлогу. Кулеш ведаў, што гэта абазначае — жонка спяшае, занята неадкладнай і важнай работай. Яшчэ гэтым кавалерыйскім тупатам паказвала, што ў хаце ніхто ёй не ўказ і што захоча, тое і зробіць. Усё знаёма, прывычна, і Куляшу здавалася, што нібы і не з ім гэта ўсё робіцца, а з некім другім, у другой хаце, а ён глядзіць на ўсё гэта на маўклівым тэлевізійным экране.

Спектакль пачаўся яшчэ з учарашняга дня, у абед.

— Трэба было прывезці Ленку... Вунь дзяцей колькі навезлі,— пачала сама Мар'я.

— Канешне,— згадзіўся Кулеш, яму і самому раптам захацелася, каб прывезлі ўнучку. Захацелася звадзіць на цэнтральную, у майстэрню, паказаць гарадскому дзіцяці трактар і камбайн, які бачыла, можа, толькі ў тэлевізары.

— Дык Веры ж не даюць водпуску, на зіму ў іх.

— Вялікая ж ужо, пяць гадоў...

— Ага, чужое дзіця. Мала што даччыно,— Мар'я павысіла голас.— Будзе, як той бабе з討азаўка, што сын на судзе запатрабуе, каб у турму пасадзілі.

Кулеш ледзь не закашляўся. Страшны мінулагодні выпадак у акрузе ведалі ўсе: старая навязала калодзеж посцілкай, каб прывезеныя з горада ўнукі не ўкінуліся. А тыя якраз і ўзлезлі на гэту посцілку, падскоквалі, пакуль не шамнулі ўніз. І ніхто нічога не пачуў і не заўважыў.

— Кінь пра дурное,— глуха азваўся ён у адказ і адчуў, што патухла радасць, якая нарадзілася ад уяўлення, як пойдзе з унучкай за руку. І адклаў лыжку.

Маці моўчкі прыняла амаль поўную міску і нічога не сказала, паставіла на стол катлеты. Яна заўсёды вось гэтак маўкліва з'яўлялася калі трэба і не гаварыла ні слова. Худзенькая, маленькая ад старасці, яна з дня ў дзень ставіла на стол сняданне, абед, вячэру. І ўсё ў час, усё было ў яе заўсёды гатова, нібы рабілася само сабой.

— Табе даць катлеты ці кілбаса адвараная ёсць у мяне? — спыталася яна ў Мар'і. Чакала адказу, стаяла побач з рослай, раздабрэлай і моцнай целам нявесткай з па-гарадскому падкручанымі і падчасанымі валасамі. Мар'я рабіла прычоску ў цырульні, калі бывала ў дачкі, і потым спала ў касынцы, каб тая прычоска даўжэй захоўвалася. Яна яшчэ выдумала апошнім часам, што ў яе гастрыт, вазіла з горада мінеральную ваду, якая толькі траплялася ў продажы, і патрабавала, каб маці ёй гатавала толькі варанае.

— А чорцяга знае!

Кулеш усміхнуўся: жонка любіла пад'есці і на гульні ў дыету ў яе цярпення хапала ненадоўга.

— Давайце катлеты... Яны свежыя?

— Свежыя.

— Ленка і там прастудзілася... У цябе грошы ёсць?

— Я ж табе аддаў усю палучку.

— Палучка ў цябе!

Мар'я злавалася заўсёды, калі не ставала грошай. Іх не хапала і цяпер, хаця і кватэру дачцэ пабудавалі. А ў саміх расход невялікі — усё сваё з'есці, адзежы напакаваны аж дзве шафы. У гэтых шафах многа пахована і яго механізатарскага заробку, і яе, пакуль працавала даяркай. Тады пра грошы пытанне не ўзнікала, што хацелася, тое купляла. Цяпер, мабыць, напакоўвалі маці і дачка адзеннем шафы там, у гарадской кватэры, пакуль Мар'я тыднямі сядзела ў горадзе. Кулеш спачатку спрабаваў спыняць жонку, але кожны раз гэта канчалася сваркай. Мар'я на ўсю вёску паляравала, што ён дурань, што яна з ім век мучыцца і што не патрэбны ёй яго смярдзючыя мазутам грошы, яна сама на сябе зарабіла, паклала здароўе на кароўніку!.. Тады на вёсцы гаварылі: «Во ў Куляша зноў Мар'я бегае, чуеш, як рыкае?»

Каб спыніць пасмешышча і не было брыдка перад маці, Кулеш усе грошы, якія яшчэ аставаліся, перавёў на сынаву кніжку.

На жонку і на яе выбрыкі перастаў звяртаць увагу.

Мар'я «забаставала», месяцы са два праседзела ў дачкі. Потым вярнулася, на першым часе прыціхла, сядзела на лаўцы і расказвала жанкам пра гарадское жыццё, пра сваіх новых знаёмых, пра тое, як хадзіла ў кіно і ў тэатры. Дачка жыве якраз у тым раёне, дзе дамы для начальства. Відаць, ад гэтай блізкасці да людзей вялікіх і вучоных сама Мар'я пачала цаляць па-руску, найчасцей устаўляла «панімаеш?», не заўважала, што яно выгаворвалася як звычайнае вясковае «памаш».

Увайшла маці, запыталася:

— Ты не спіш? Устань хіба, падвязі да аўтобуса, а то бегае, позніцца ўжо.

— Нечага ездзіць. Дома лепш пасядзела б, работы хватае...

Кулеш ведаў, што маці цяжка цягнуць работу па гаспадарцы. У яе гады ўжо сядзець трэба склаўшы рукі, а яна ўсё пыніць і мужа і нявестку.

— Мама, а дзе мая касыначка, тая, што я прывезла з сабой?

У сваіх шафах, з клункамі, з хусткамі і хустачкамі, Мар'я не разбіралася. Маці павінна была памятаць, што і дзе пакладзена.

Кулеш устаў, адзеўся, спаласнуў твар, выйшаў у гараж, надзеў куфайку, павёў на двор матацыкл, завёў яго, адчыніў вароты і чакаў, пакуль з хаты напудраная і надушаная, з сумкай, звязанай за ручкі нейкім паяском, вырвалася жонка, уселася ў каляску, зірнула на гадзіннік.

Маці выйшла на ганак і стаяла на прыступках.

Калі выехалі за вёску, з узгорка ўгледзелі, што на прыпынку ля цэнтральнай сядзібы ўжо стаіць аўтобус. Па дарозе да вёскі ішла жанчына, якая прыехала першым рэйсам. Мар'я заварушылася, зноў паглядзела на гадзіннік, нават не звярнула ўвагі на жанчыну.

Кулеш заўважыў, што жанчына незнаёмая, прыбавіў хуткасці, пад'ехаў к аўтобусу, калі шафёр ужо завёў матор.

Едучы назад, Кулеш прытармазіў ля жанчыны: сумку яна несла цяжкую. Адзета жанчына была ў шэранькі касцюм, на нагах басаножкі, русыя валасы сабраны на галаве і заколаны заколкай. Жанчына здзіўлена зірнула на Куляша, нечакана такімі знаёмымі блакітнымі вачыма, што ён сумеўся.

— Давай падвязу,— прапанаваў ён і не мог успомніць жанчыну.— Вы да каго?

— Да Варвары Русакевіч.

Кулеш здзіўлена запытаўся:

— Наташа?

— Не, Галя. Сястра...

— А-а, ну правільна...

Правільна, Наташа яго равесніца, а гэтая жанчына маладзейшая. І з твару падобная на маці, Наташа больш на бацьку падобная была, крышку скуластая, а ў гэтае твар драбнейшы.

— Сядайце. Сумку ўдоўж пастаўце.

Жанчына нязграбна забралася ў каляску, абцягвала на каленях спадніцу. Кулеш нагнуўся, прыкрыў жанчыну брызентавым фартухом.

— Не гэтак дзьмуць будзе.

Жанчына кіўнула галавой. Ён не мог успомніць яе. Была недзе там далёка маленькая дзяўчынка, Наташына сястра, у беленькай, з сінімі гарошачкамі сукенцы. Больш нічога не асталося ў памяці.

Кулеш вёз жанчыну да хаты Русакевічаў. Старая Варвара памерла ўжо гады са два таму. Цяпер Кулеш успамінаў,

што хату яна завяшчала братавай дачцэ, якая жыла недзе ў Сібіры, куды выслалі Русакевіча. Пра завяшчанне гаварылі, калі калгас хацеў аддаць хату новай прыезджай сям'і. Але таму і не аддаў, што трэба было шукаць гаспадароў.

Хутка дзічэе чалавечае жыллё пасля таго, як не стала гаспадара. Даволі моцная і не такая малая хата Русакевічаў нібы паменшала і прысела ў зараснік крапівы, дзядоў, якія ўзяліся расці на дварэ, пад платамі. Перакасіліся моцныя яшчэ варотцы, пахіліўся, скрывіўся плот. А вытаптаная за многія дзесяцігоддзі сцяжынка ад парога да хлявоў густа зарасла спарышнікам. Як бельмы на вачах, у вокнах віселі пашарэлыя фіранкі.

Жанчына вылезла з каляскі, стаяла, глядзела на хату. На твары ў яе прамільгнуў не то спалох, не то разгубленасць. Яна не пазнавала, старалася і не магла ўспомніць хату, у якой некалі жыла.

Кулеш падумаў, што жанчыне, мабыць, страшна адной ўваходзіць у хату, дзе сыра, пахне цвіллю, цяжкім пограбавым духам, як і звычайна ў даўно не абпаленай, зачыненай будыніне.

Усё ж жанчына спыталася:

— А ключ у каго?

— Ключ? У Валодзі, дзе ж яшчэ,— Кулеш кіўнуў на суседнюю хату. Той даглядаў сад і абіраў яблыкі, на пляцы сеяў траву.

Жанчына няўпэўнена ўзялася даставаць сумку. Куляшу кінуліся ў вочы яе невясковыя, нерабочыя рукі з доўгімі далікатнымі пальцамі.

— Як жа ты ў пустой хаце? Паехалі да нас, прыйдзеш з мацерай маёй, прыбярэш тут, каб можна зайсці было.

— Няёмка неяк,— жанчына адказала няўпэўнена. Ёй не хацелася аставацца адной.

— Садзіся. Я помню бацьку твайго...

Кулеш не дагаварыў, таму што ўспомніў яе сястру.

Маці выйшла на ганак, калі ён заехаў на двор, прыглядалася да жанчыны.

— Не пазнаяце, мама? Русакевічава дачка, тая, што ў Сібіры жыла.

Галя павіталася.

— Гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам... Гэта меншая? Якраз як Тоня, маці.

Маці глядзела на Галю і некуды далей, бачыла тое, што не мог убачыць ні Кулеш, ні Галя.

— Мы з мацерай тваёй аднагодкі, разам гадаваліся. Вот

колькі я ўсё жыву. Пайшлі ў хату, снедаць гатова. Табе ж, Ян, і на работу пара...

Калі Кулеш прыехаў на абед, Галі ў хаце ўжо не было.

— Схадзіла я з ёй, ключ у Валодзі ўзялі... Парадак там наводзіць. Перасушвае ўсё, прыбірае, мые. Калі Варвара памерла, а газ у балоне дасюль стаяў... Пліту запаліла. У Варвары ж усё асталося. І пасуда, усё. З малых год усяго наглядзелася. Яна ж маленькая была, як забралі настаўніка? — маці расказвала. Яна любіла сядзець за сталом, пакуль сын еў.

— Маленькая,— пацвердзіў Кулеш, зноў падумаў пра Наташу. Маці нібы зразумела яго думкі.

— Адна асталася. Бацькі памерлі, і старэйшая сястра прапала. Недзе ў экспедыцыі, з геолагамі хадзіла і не вярнулася. А сама нажылася таксама. Як на каго бог, на таго і людзі. Ты хіба пасля работы вазьмі касу, пайдзі скасі бур'ян там на дварэ. І жэрдку вазьмі, галкі, мабыць, гняздо ў коміне звілі.

— Надоўга яна?

— На саўсім, казала. Кантэйнер сюды адправіла з дабром. Месца ёй сказалі дактары памяняць. А там нікога не асталося. Пенсію яна ўжо палучае. Чалавека, як адзін астаецца, вядзе дадому.

Пасля работы Кулеш узяў касу, жэрдку з убітым на канцы цвіком, пайшоў да хаты Русакевіча.

Галя здымала з платоў і заносіла ў хату перасушаныя коўдры, прасціны. Куляшу яна ўсміхнулася збянтэжана.

— Навязалася вам на голаў.

У спартыўным касцюме, з касынкай на галаве, завязанай на патыліцы, яна здавалася намнога маладзейшай. Ад работы твар заружавеўся.

Касіў Кулеш весела, стараўся як ніжэй падразаць зелле. Касу не шкадаваў. Адчуваў, што Галя глядзіць на яго. Дзіўна, але сам сабе ён здаваўся маладым, дужым.

Галя сапраўды пазірала на паджарага, жылістага Куляша, на яго чорныя ад загару рукі на касе. Ён напамінаў нечым бацьку, гэтакага ж рухавага, цягавітага і ў старасці, нават у апошнія гады, калі хварэў, аставаўся ўсё гэткі ж падцягнуты, з густымі белымі валасамі. Падсекла яго гібель Наташы. Не зламала, не скруціла ўсё жыццё, два арышты, лагеры, а потым і ссылка. А смерць Наташы зламала. Пас-

ля яе смерці часта пачаў нудзіцца па дому. Домам ён называў Стараселле, усё расказваў пра вёску і шкадаваў, што не сабраўся і не з'ездзіў на радзіму. Галя тады не думала, што і яе жыццё павернецца так, што яна прыедзе сюды.

Пасля таго як Кулеш выцягнуў з коміна звітае галкамі гняздо, запаліла ў печы, запрасіла яго ў хату на чай. За дзень яна многае ўспела. Нават схадзіла на канавы, прынесла аеру. І цяпер у праветранай хаце свежа і прыемна пахла прывялым аерам, ад гэтага паху хата здавалася абжытай. Схадзіла Галя і ў магазін, закупіла не толькі прадуктаў. Да чаю, заваранага на мяце, выставіла бутэльку каньяку, збянтэжана наліла Яну і сабе:

— Ну, Галя, гэта ўжо не трэба было...

— Яно ж так заведзена. Дзякуй вам, а то прыехала і не ведаю, куды ісці. Дзякуй вам і цётцы Любе.

— То хай табе добра жывецца на новым месцы. Каб дабро было ў гэтых сценах.

Галя толькі губы памачыла. Кулеш з гаворкі ўжо ведаў, што Галя кончыла педвучылішча, рабіла ў школе. Што цяпер, пасля хваробы, атрымоўвае пенсію, адносна і не малую, з улікам усіх паўночных надбавак. І тут збіраецца дзе-небудзь уладкавацца. У горадзе б было, можа, зручней, але ў горадзе ёй жыць не рэкамендуюць.

Спахапіўся Кулеш, калі пайшло на змярканне, заспяшаў дадому. Выходзячы, паспрабаваў зачыніць за сабой дзверы хаты. Яны не зачыняліся.

— Трэба падняць, правіслі. Зайду, як-небудзь...

— Дзякуй вам!

— Прыходзь да нас гуляць. Мацеры пагаварыць з кім будзе,— запрасіў ён Галю, адчуваў сябе не толькі старэйшым, а і гаспадаром, у якога госцю павінна быць добра.

Галя прыходзіла на першым часе пагуляць, пагаварыць з маці. Кулеш падрамантаваў дзверы, потым дапамог узяць машыну і прывезці са Слуцка са станцыі кантэйнер з рэчамі. Дапамог дагаварыцца з будаўнікамі, якіх Галя наняла пафарбаваць шалёўку на хаце, падрамантаваць плот. Непрыкметна, але даволі хутка занядбаная хата ажыла не толькі звонку, але і ўсярэдзіне. Галя наклеіла новыя шпалеры, белай фарбай асвяжыла столь, вокны, купіла новыя люстры, паставіла ў хаце перагародкі. Адразу за дзвярыма атрымалася невялікая кухня, далей прасторны пакой з тэлевізарам, сталом, таршэрам у кутку. Ля сцяны стаяла паліца з кнігамі (усё гэта Галя прывезла з сабой), а трэці пакой служыў спальняй.

Парадак і чысціня не кідаліся у вочы, не лезлі напаказ і не заміналі, а стваралі ўтульнасць. Кулеш потым здагадаўся, што святочна і ўтульна здавалася яшчэ і ад таго, што ў хаце не было лішніх рэчаў, незахламленая яна. Не заўважаў ён і таго, што з гэтай чыстаты і ўтульнасці не спяшае дадому, знаходзіць, што дапамагчы трэба. Пакуль усё нечакана не перамянілася, і прыходзіць у гэту хату пад зялёным клёнам ён пачаў зусім інакш.

*2*

Сонна і ціха заходзіў досвітак у вокны хаты. Ад вуліцы перад хатай разложыста стаяў клён з аднаго боку і ніцая бяроза з другога. У ёй, у дупле, ніжэй ра́ла, жыла шпачыная сям'я. Прысады былі непадцярэбленыя, гародчык ад вуліцы зарос густымі бэзавымі кустамі, пад якімі ўлетку раскашавалі, хаваючыся ад гарачыні і выкупваючыся ў пяску куры. Двор урос мураўкаю. Хата яшчэ моцная, пасляваенная, ашаляваная і пафарбаваная, з верандай. Па двары да хлява былі выкладзены з цэментавых плітак сцяжынкі. Вароты зробленыя з дошак, нямодная цяпер жалезная брама. І ў самой хаце справа, як увойдзеш з сянец, бялелася печ, паміж ёй і перагародкай у другую палавіну стаяў стары шырокі драўляны ложак. У кухню выходзіла дзверцамі грубка, якой зімой абагравалі чыстую палавіну хаты. Ад грубкі да коміна ішла бляшаная труба. Перад ёй на тоўстым дроце вісела лёгкая паркалёвая занавеска, якая закрывала запечны закутак. З левага боку да дзвярэй вісела на круку, убітым у сцяну, вядро з вадой, сучасная туалетная палачка з люстрам, пад якой на пакладзінцы вісеў вышываны ручнік. Пад палічкай шкафчык на посуд. На ім збанкі, прыкрытыя ручніком. У другім кутку, на покуці, стол, стары, свае работы, ужо паточаны шашалем, з паабдзіранымі катовымі кіпцюрамі ножкамі. Над сталом, на покуці, за фіраначкамі старая, у пачарнелых рамках ікона. Тут жа над сталом старыя ходзікі з паржавелаю гірай-шышачкай. Ды і сам цыферблат, на якім былі намаляваны вясёлыя таўсматыя мядзведзікі ў лесе, таксама, як воспай, пабіла ржою.

У чыстую палавіну хаты — філёнчатыя фанерныя дзверы. За імі з аднаго боку шафа, з другога грубка, два нікеляваныя пасляваенныя ложкі паўз сцяну. У прасценку між акон ад вуліцы — старамодная канапа з высокай спінкай і круглымі качалкамі. У куце стаяў круглы стол, на ім тэлевізар. На покуці фіранак не было. У срабрыста афарбаванай

рамачцы замест іконы вісеў партрэт маладога, стройнага кавалерыста ў поўнай форме, з шабляй. Партрэт быў павялічаны са старога здымка.

Ля сцяны ад двара, пад люстрам, стаяла нажная швейная машына. На ёй стаяла маленькая настольная лямпа-«грыбок». За гэтым самадзейным столікам сядзеў і сам гаспадар. Коратка астрыжаны густы сівы вожык валасоў, двое акуляраў на носе, звязаных ніткай. Ён пісаў у вялікай канторскай кнізе, мачаў пяро ў белую фаянсавую чарніліцу, з якой паглядала на пісьменніка хітрая сабачая мордачка.

У такт пісьму парыпвала старое венскае крэсла. Мужчына кончыў пісаць, паклаў ручку пяром на чарніліцу, адкінуўся да спінкі крэсла. Яно стомлена рыпнула. Мужчына заплюшчыў вочы, зняў акуляры і паклаў іх вобмацкам на столік, пацёр пальцамі пераноссе.

Ён кожнае раніцы стамляўся ў гэту пару, калі ранішняя шэрань быццам хаваецца ад блізкага ранішняга святла ў прысады, у закуткі. Яна адступае далей, за вёску, у лагчыны, туды, дзе на небакраі няроўна зубяцца, як замкавыя сцены, лясы. Лясы адышлі адсюль, пакінулі людзям поле. Мужчына памятае яшчэ і тут сярод палёў астраўкі лесу.

Ён нібы аглядае і палі, і малады лес. Пасля вайны на гэтай зямлі амаль усюды маладыя лясы, як і людзі, большасць ужо пасляваенныя. Недзе за гэтым полем, за гэтымі лясамі пачынаецца яго жыццё. Гэты пачатак такі далёкі, што зараз і не верыцца, што гэтулькі можа быць сабрана і ўвабрана ў памяць, у адно чалавечае жыццё. І што чалавек можа гэтулькі вытрываць, выжыць, жыць.

Цяпер ён не мог спаць раніцай, уставаў да свету.

— Во, зноў сядзіць, сава старая! Яшчэ скінешся спрасонку, пісацель!

Антон сцепануўся. Старая прачыніла дзверы з кухні ў чыстую палавіну.

Яе кожны раз прыпірала якраз у тую часіну, калі здавалася, што ён вось-вось звяжа ў адно ўсё ў сваім жыцці, усё стане на сваё месца, усё ён зразумее, тое, найвышэйшае, з-за чаго гэтулькі жыў і пражыў. І не толькі ён, людзі, усе людзі. І зноў, як ад чорта, ад яго шарахалася гэтая ісціна.

— Чаго маўчыш? Мо памёр ужо?

— Завялася, сячкарня мікалаеўская!

Антон ведаў, што спакою яму больш не будзе.

— Вот абы-што робіць. І час мае. А кол свінчо адарвала — тыдзень прыбіць не можа. Трэба ж дзяцініцца на старасць — пісацелем захацеў стаць.

Жонка яхідна ўсміхалася бяззубым ротам. Малая, усохлая ад старасці бабка з блакітнымі, быццам выгаралымі ад летняга сонца ў палях вачыма, яна ведала як і ўмела падпячы мужа.

— Цьфу, нарыца! Ужо не молішся, цэлую раніцу радзіва слухаеш, а ў пустой галаве нічога не астаецца. Чула, што летапіс трэба пісаць, бо ўжэ мала такіх, як я, асталося, хто ўсё бачыў і перажыў...

Старая пасміхалася, ківала галавой.

— Дык ты, можа, і сцішкі ўжэ пішаш? Як Андрэйка. Можа, і купацца будзеш бегаць голы на рэчку? Вот каб людзям расказаў!

— Ну ты ў мяне дабрэшашся!

Антон пагрозліва ўстаў, і старая на ўсякі выпадак падалася бліжэй да дзвярэй, прымірэнча загаварыла:

— Вот ужэ распанеў, і слова яму не скажы!

Антон не слухаў яе. Загарнуў кнігу, закруціў у кавалак газеты ручку, узяў чарніліцу і ўсё паставіў у ніжнюю шуфляду ў шафе, замкнуў ключыкам дзверцы.

Ён баяўся, што старая не ўтрывае і ляпне каму пра ягоную пісаніну, тады не дадуць праходу. Зробяць Андрэйкам, які ад старасці сапраўды пачаў прыдумляць вершыкі, праўда, разабрацца, што ён мармыча, было цяжка, але ж прыдумляў і сам сабе гаварыў. Ад старасці ён і ранішняй гімнастыкай пачаў займацца, наглядзеўся на сына, раніцаю бег да рэчкі, купаўся голы аж да самых замаразкаў. Антону, ветэрану, старшыні калгаснай рэўкамісіі, чалавеку грамадскаму толькі і не хапала такога падрыву аўтарытэту. Старая не магла зразумець яго. Яна, акрамяградаў, хлява і печы, нічога не бачыла. Дзяцей гадавала, выгадавала, у вайну зберагла, гэта праўда. Але ж да тых жанчын, якія былі, якіх ён ведаў, ён...

Антон зачыніў за сабой варотцы. На вуліцы было намнога святлей, чым у хаце. Пасвятлела неба там, дзе павінна ўзысці сонца. Зямля не ўспела астудзіцца за ноч, ад яе цяплела паветра, прапахлае ўжо спелай збажынай. Ці, можа, гэтае хлебнае цяпло ішло ад палеткаў, як ад угрэтай хлебнай печы. Палеткі акружалі вёску, і калі глядзець на вёску здалёку, то яна здавалася сваімі прысадамі нейкім невялікім зялёным астраўком у жоўтым разліве. Вышэй вёскі бялелі шыферным дахам пабудовы цэнтральнай сядзібы — майстэрні, гаражы, сушылка, кантора. Цэнтральная займала і вышэйшае месца — Курганішча. Тут і праўда некалі былі курганы, а на іх рос бярэзнік, які пасеклі ў першую нямец-

кую вайну на траншэі і бліндажы. Курганы пакрысе парас-копвалі, бралі каменне на паграбы. Потым іх зраўняла цэнтральная сядзіба, а вялікі курган, які высіўся над усім наваколлем, раскапалі і насыпалі новую дарогу да вёскі.

Антон паволі ішоў вуліцай, удыхаў пах бярозавага лісту, прысад, травы, якая макрэлася лёгкай расой. На нейкае імгненне прыпыніўся ля Жыгаравай хаты. Не новай, але прасторнай, намнога лепшай за яго, дагледжанай, з агародамі і высока падцярэбленымі бярозамі — каб менш падала ценю на агарод. Старыя бярэзіны былі падобны на бабуль, на якіх надзелі кароценькія, як дзяўчаткам, спаднічкі.

Як ні ішло, як ні мянялася, ні круціла віхрам жыццё: і калектывізацыя, і вайна, і партызанка, не разыходзіліся надалёка Кіршчэневы і Жыгаравы дарогі. Але кожная ішла ў свой бок.

Новы пасёлак пачалі будаваць за вёскай, на ўзгорку. Спачатку паставілі каробку двухпавярховага, на два пад'езды доміка і воданапорную вежу пры ёй. Потым адумаліся, пачалі ставіць цагляныя домікі з гаражамі і хлеўчукамі, з прысадамі, з агародам пры доміку. Цяпер гоняць вуліцу двухпавярховых, кожны па-свойму зроблены. Катэджамі завуць. За вёскай некалі ішла вузкакалейка — ад Слуцка да ваеннага гарадка. Цяпер яна зарасла травой, горбілася сям-там над полем, бялелася кветкамі крываўніку і жаўцела суквеццем піжмы. Антон яшчэ хлопцам у калёсах вазіў пясок сыпаць гэтую дарогу. Ад гэтага ўспаміну Антон толькі ўсміхнуўся. Ад усяго таго, што было, астаўся цяпер лёгкі смутак. Ён, актывіст, камсамолец, тады гэтак улопаўся ў простую дзеўку, што адабраў у Жыгара і ажаніўся, хаця яна так і не стала ні актывісткай, ні памочніцай яму. Ён тады любіў яе і думаў, што гэта самае галоўнае, што зможа зрабіць усё, што хоча ў жыцці. Ад гэтай згадкі, быццам ад сонечнага праменьчыка, які зазірнуў праз густую лістоту, адчулася нейкае лёгкае цяпло і святло, і Антон нават заплюшчыў вочы. Калі расплюшчыў іх, то наткнуўся позіркам на сутуленую Жыгараву постаць.

Жыгар прыпасваў карову на старым вераўчаным пастронку, які быў прывязаны за ашыйнік, пашыты са старой паясніцы — ад здзіву. У куфайцы, у кірзавых ботах, ён не бачыў Антона, стаяў плячыма да яго, карчукаваты, здаровы. Зусім падобны на бацьку. Антон успомніў старога Жыгара, крываногенькага, белага з твару, затурканага работай і голадам. Ён увесь час пакашліваў сухім кароткім кашлем. Ён, стары Жыгар, рабіў яму, Антону, і свайму Хве-

дарку дудачкі з гусінага пяра. Антон быў ужо большы, памятае тую вясну. Са старым Жыгарам яны пасвілі кароў па першай маладой траве. Стары быў слабы ад голаду і кашляў часцей, чым звычайна.

— Думаю, гэтага году ў мяне сама мала пудоў шаснаццаць груш будзе. Як ніколі хораша груша старая зацвіла.

Антону хацелася есці, і грушы яму бачыліся сухімі, не нейкія там пуды, а кішэня сушаных салодкіх груш, каб наесціся ўволю.

— Я і вам мяшкоў колькі дам. Насушыце, зімой узвар зварыце, як мёд салодкі...

На восень з тых шаснаццаці пудоў і самому Жыгару нават і каша не было — пустацветам адцвіла груша. На старасць Антону ўсё часцей нечаму пачала ўспамінацца гаворка пра тыя грушы. А пасля ўспаміналася, як ён, Антон, камсамолец, хадзіў з наганам і шкадаваў, што стары Жыгар не бачыць, які ён начальнік.

Жыгар, нібыта Кіршчэнеў позірк укалоў яго, хуценька азірнуўся. Да старасці ён не развучыўся чырванець, калі рабіў шкоду якую-небудзь і яго хто заспяваў у ёй. Чырванеў, але ўсё роўна рабіў, усё жыццё. І цяпер ён шмаргануў за вяроўку карову, якая мяла канюшыну ўздоўж дарогі на полі. Вялікаватая, зашмальцаваная куфайка была на Жыгару нібы з чужога пляча.

Карова не разумела тонкіх намёкаў гаспадара і не хацела падымаць галаву з канюшыны. Жыгару нічога не асталося, як прытварыцца, нібыта і ён толькі цяпер прыкмеціў, што карова ў шкодзе.

— Куды гэта ўбілася, чортава мяса! Не хватала, каб апушыла!

Кіршчэню не хацелася нават і падыходзіць, вітацца, не тое што глядзець на гэтыя Жыгаравы хітрыкі, якімі ён жыў усё жыццё. Прыклаў нейкага зелля да нагі, каб не пайсці ў армію,— нага і цяпер не магла загаіцца, адкрывалася язва. Так і жыў па суседстве ў Антона, нібы чорны цень. А некалі раслі разам, потым і дзеці ж разам у школу хадзілі, гуляць адно да аднаго бегалі, і там, пагаворваюць, што і ў горадзе яны цяпер сустракаюцца.

Антон завярнуўся, каб выйсці да новых домікаў, прайсці па вуліцы і вярнуцца дадому.

### 3

Галя прачнулася раптоўна. Спачатку ёй здалося, што сасніла нешта страшнае, таму і прахапілася са сну. На першым часе разгубілася — дзе гэта яна? Запаліла настольную лямпу, з палёгкай уздыхнула. Патушыла святло. Дзіўна, чым больш абжывала цётчыну хату, тым усё больш нешта трывожыла душу. Ні з таго ні з сяго раптам хваляй накочвала трывога, хаця ўсё атрымлівалася, што лепш і не прыдумаў бы.

Вось і зараз яна прачнулася ад гэтай трывогі. Цішыня стаяла на двара, было відно ад месяца, і пахла густа зялёнай і полем. Яна пастаянна адчувала ўсе дні пах збажыны, невядомы ёй дасюль, новы.

І ўспомнілася ноч, гэтакая самая месячная, яшчэ калі жылі ў вёсцы. Апоўначы яна прачнулася і выбегла на двор «да ветру», і нечакана ўбачыла бацьку. Ён стаяў, прытуліўшыся да сцяны, і глядзеў некуды ўдалечыню, у глухую, сонную тайгу. Яна крыху спалохалася, таму паклікала. Бацька здрыгануўся ад нечаканасці, махнуў рукой, каб падышла да яго, паклаў руку на галаў, пагладзіў. Рука яго была гарачая і каструбаватая і лёгенька дрыжала.

— А там у нас дома выйдзеш, як глянеш — жыта, жыта скрозь стаіць! І пахне. Жнівом пахне ўлетку. Здаецца, каб толькі раз удыхнуць, глянуць, і паміраць было б можна!

— Не трэба паміраць! — яна спалохалася: незнаёмы быў бацькаў голас.

Ён усміхнуўся:

— Ну не буду, не буду. Бяжы, а я пакуру яшчэ.

Галя ўсміхнулася: бацька многа расказваў пра тое, як там прыгожа і добра «дома». Расказваў пра палі, пра рэчку, пра бярозавы гай. І ёй здавалася, што ён прыдумляе ўсё, казку нейкую. Маці толькі ўздыхала, часам выцірала слязу. Наташа маўчала. Яна канчала школу, хацела вучыцца на геолага, але такіх, як яна, дзяцей «ворага народа», вучыцца не бралі. А яна ўсё роўна збіралася ехаць у горад, пайсці на работу ў геолагаразведку, а потым усё ж вучыцца. І маці плакала па ёй, а бацька толькі цяжка ўздыхаў і курыў самакрутку. Ад яе пальцы ў яго былі жоўтыя.

Далёка асталася тая сібірская вёска, іхні дом. Пераехалі ў горад, потым атрымалі кватэру, ужо пасля таго, як рэабілітавалі бацьку. Яна паступіла ў тэхнікум. Наташа ўжо была замужам, скончыла інстытут. Наладжвалася жыццё, але па-

чала хварэць маці. Ціхая, цярплівая, яна не скардзілася і цяпер, моўчкі старалася трываць боль.

Бацька сядзеў пры ёй і вечарам, і ноччу, і каб лягчэй было, гаварыў, успамінаў маладосць. Усё было там, на радзіме, дзе яны некалі былі шчаслівыя, і калі б жылі там, то і цяпер былі б шчаслівыя.

Яна тады не вытрывала аднойчы і сказала:

— Тата, ну дык чаго ж вы не паехалі назад, як рэабілітавалі?

Маці дакорліва зірнула на яе, падняла худую, слабенькую руку — не гавары больш нічога.

А бацька нечакана пабялеў:

— Ты мяне не вучы! Не вучы! Ты хочаш, каб я вярнуўся туды і каб потым мяне зноў бралі? Каб зноў па этапу? І вас зноў следам за мной? Не!

У яго дрыжалі губы, дрыжала рука, якой ён ківаў на дачку, і толькі тады яна ўбачыла, які стары і які ўжо нямоглы і сам бацька, хаця і не разумела, адкуль у яго раптам гэтакі пранізлівы страх. Ён не мог супакоіцца, і маці зноў махнула на яе, і яна здагадалася выйсці з пакоя. Больш пра пераезд пры бацьку яна ніколі не заракалася, калі ён і потым вечарам пачынаў расказваць, якая там рэчка, якія там людзі. Расказваў, быццам казку, і кожны раз у гэтай былі-казцы было нешта новае і прывабнае, яе можна было слухаць і нават хацелася ўявіць усё гэта.

Дзіўна, але цяпер, калі яна ўгледзела тое, пра што гаварыў бацька, яно не здзівіла і не ўразіла яе. Непрывычныя і сапраўды былі гэтыя голыя палявыя абшары з астраўкамі вёсак. Нават на даляглядзе не праступаў, не абазначаўся лес, і палі здаваліся аднастайна сумныя. Не было за вёскай і тае рачулкі, тых кустоў лазняку, пра што расказваў бацька. Ды не было і поплаву, і аселіцы. Рэчку даўно ператварылі ў меліярацыйную канаву. Пры ёй на пасеянай траве, разбітай на ўчасткі, пасвіліся статкі калгасных кароў. Сумны і аднастайны краявід, дзе няма за што зачапіцца воку.

Усё ж яна гараджанка, прывыкла да горада, бо і тая сібірская вёска амаль забылася ўжо, засталася ўсяго толькі ўспамінам дзяцінства. Тут, мабыць, каб жыць, трэба ведаць людзей. Гэта ў горадзе апынаешся ў натоўпе, дзе ўсе незнаёмыя і дзе здаецца, што ты быццам бы і не адзін, хоць не ведаеш нікога і цябе таксама ніхто не ведае. Тут няма і натоўпу, няма гарадское ілюзіі неадзіноты. Тут трэба ведаць чалавека, каб з ім загаварыць, трэба, каб было пра што загаварыць.

Адзіная пакуль што цётка Люба, да якое яна хадзіла, з якою падоўгу гаварылі. Яна слухала цётку Любу, прыслухоўвалася да яе гаворкі, якой некалі гаварылі між сабой бацька і маці, а часам звярталіся і да іх дзяцей, успамінала невядомыя словы і пачынала разумець сэнс. Ян стараўся гаварыць з ёй па-руску, каб зразумела яна, але словы гучалі зусім інакш, не па-руску. Галя ўсміхнулася, калі ўспомніла пра Яна. Нечым нагадваў ён бацьку — хударлявасцю, уменнем рабіць ўсё, за што ні возьмецца, спагадлівасцю.

Спагадлівасць гэтую яна адчула адразу, як толькі ён спыніўся на дарозе, каб падвезці яе. Не шкадаванне, а спагадлівасць, ад якой не ўзнікала пачуцця няёмкасці. І вечарам яна чакала, што ён прыйдзе, як і абяцаў, адрамантаваць дзверы. Не, яны не надта і заміналі, але яна непрыкметна рыхтавалася да яго прыходу — заварыла на травах чай.

Дачніцы з яе не выходзіла, сядзець проста вось так цэлыя дні яна не можа. Ды, мабыць, і незразумела будзе гэтая яе сядня здаровай з выгляду, не зусім старой яшчэ жанчыны. А можа, і сапраўды гэтая перамена клімату дапамагла, не мучыла хвароба? Тады тым больш нельга сядзець адной цэлыя дні, бо і ад нуды захварэць можна. Трэба ўладкоўвацца на работу, а работа дасць не толькі занятак, але і з людзьмі звядзе.

Рашэнне гэтае супакоіла, і Галя заснула спакойным і роўным сном, каб раніцай устаць і ехаць у райана.

Назаўтра Галя пайшла на першы рэйс. У будні дзень людзей на прыпынку амаль не было, толькі дзве дзяўчыны і хлопец, які ўвесь час пазяхаў і пацягваўся — не мог прачнуцца. Раніца абяцала спякотны і пагодны дзень.

У аўтобусе Галя села на сядзенне побач са старой у сінім вязаным жакеце і белай, у макавую крапінку хустачцы. На каленях старая трымала невялікую жоўтую сумку.

Старая спачатку прыглядалася сваімі жывымі блакітнымі вачыма, ■ потым не вытрывала, прызналася:

— Вот прыглядаюся і не пазнаю, хто вы. Здаецца ж, усіх са Стараселля ведаю.

На твары ў старое была шчырая і добразычлівая зацікаўленасць і жаданне ведаць.

— Русакевічава,— у тон ёй з усмешкай адказала Галя.

— Якога ж гэта Русакевіча?

Старая ўважліва паглядзела на Галю — не ўспамінала.

— Быў такі некалі.

Старая прымоўкла, яшчэ раз паглядзела на Галю, задумалася.

— Дык ці не настаўніка? Варварынага брата? — няўпэўнена запыталася яна.— Вой, галава дзіравая, гэта ж і гаварылі, што ў Варварыну хату дачка яго аднекуль з Сібіру вярнулася. Вой, дак ты ж тады маленькая была, як бацьку твайго забралі. Варвара мне расказвала. Як і забіралі яго расказвала, як пасля маці паехала туды і цябе потым павезла. Варвара баялася, што не даедзеце у гэтакую далеч. Вот гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам...

Старая загаварыла ахвотна і не чакала, каб у яе больш што пыталіся — рада была, што ёсць магчымасць пагаварыць.

— Мы з Варвараю аднагодкі. Яе ўжо і няма, а я жыву яшчэ.

— А куды ж гэтак рана?

— Паеду да дачкі ў госці. З унучкам яна малым сядзіць. Казала ёй — прыязджай да мяне на лета. Не хоча. Там у кварціры ў яе і гарачая вада, і халодная. Усе выгоды. І чысціня. Сядзіць там. Завязу ім малачка, яек, агурочак ужо свой ёсць... Цяпер жа труцяць усё ўдабрэннем, а тут свой, на гнаі. А бацька як жа твой, пажыў троха?

— Пажыў. Мог бы і яшчэ.

— А дзе ж ты хочаш, турма, яна здароўя нікому не дадае. Гэта ж яго, Варвара казала, другі раз забралі былі... Многа тады бралі, і цяпер ні чуткі, ні дзейкі. Вой, рабілася. Кіршчэня малады, камсамолец, з наганам калікцівізаваў... А як рабілася? Хто на каго злосны — удасць, што кулак, што людзей на работу наймае. І забралі. Але ж пра гэта не скажаш. А сама як жа, на пенсію ўжэ? Там жа раней пенсію даюць?

— На пенсіі.

— Яно і на пенсіі не ўседзіш. Пакуль здаровы чалавек, трэба ж варушыцца, рабіць. Гэта ж не ў горадзе. У дзярэўні без работы і нуда заесць.

Старая пільна глядзела на Галю сваімі чыстымі вачыма.

Галя ківала галавой. Ад прыпынку да прыпынку аўтобус напаўняўся людзьмі. Жартавалі на заднім сядзенні хлопцы, перагаворваліся між сабой жанчыны, і голас старой уплятаўся ў гэты гоман і дудзенне, на яго ніхто не звяртаў увагі.

За кіламетры два ад горада пачаўся асфальт, і старая заварушылася, каб прайсці да дзвярэй. Тут у мікраараёне на ўскраіне жыла яе дачка, якой яна везла свежае малако.

Выйшла Галя ў цэнтры горада, на плошчы. Райана павінна быў быць тут, у будынку выканкома. Плошча невялікая, з помнікам Леніну. Тут жа стаяў і трохпавярховы буды-

нак выканкома, а райком партыі відаць быў цераз вуліцу, меншы, але акуратнейшы двухпавярховы будынак.

На першым паверсе спыталася ў вахцёра, узышла на другі паверх і хутка знайшла патрэбныя дзверы, абабітыя старым дэрмацінам. У маленькай прыёмнай пажылая сакратарка за вялікай пішучай машынкай адказала на прывітанне, кіўнула галавой, што загадчык на месцы, і зноў пачала друкаваць.

Кабінет загадчыка таксама быў невялікі, застаўлены старой пасляваеннага завозу мэбляй. А таму загадчык, малады, хударлявы мужчына студэнцкага выгляду ў акуратным касцюме і пры гальштуку здаваўся ў ім нечаканым і выпадковым.

Ён устаў з-за стала, адказаў на прывітанне, запрасіў садзіцца да стала.

Галя прысела, дастала з сумачкі, паклала на стол перад загадчыкам дакументы, але ён не спяшаўся глядзець у іх.

— Слухаю вас.

І слухаў уважліва, потым толькі перагарнуў дыплом, працоўную кніжку, падаў назад.

— Наогул, нам настаўнікі пачатковых класаў патрэбныя. І ў васьмігодку ў «Радзіму» патрэбны. Мы падалі заяўку на размеркаванне. Чалавека нам размеркавалі. Вы не засмучайцеся — практыка паказвае, што дзяўчаты і пасля размеркавання да вёскі ўмудраюцца не дабірацца. Адным словам, адпачніце крыху, думаю, што сітуацыя хутка праясніцца. Да нас да гэтага часу выпускніца не аб'явілася, баюся, што і не аб'явіцца. Ага, мне Мяцельскі плакаўся, што ў іх там у садзіку ніводнага чалавека з дыпломам... Знаеце, Галіна Іванаўна, вы зайдзіце да старшыні. Там, памойму, у садзіку месца так і пустуе. А з першага верасня ўсё стане на свае месцы.

— Мне зайсці да вас яшчэ раз? — Галя ўстала. Усё правільна гаварыў гэты з выгляду занадта малады загадчык. Ён ёй не адмовіў, даў магчымасць папрацаваць у дзіцячым садзіку, каб прыгледзецца.

— Я запісаў, не забудуся.

Загадчык устаў з-за стала і правёў Галю да дзвярэй.

У горадзе яна пахадзіла па магазінах, купіла прадуктаў, не ўтрымалася ва універмагу, памерала і купіла кофтачку — светлую, у буйныя блакітныя валошкі, потым даехала на гарадскім аўтобусе да вакзала.

Бабка, якая ехала раніцай, чакала аўтобуса на прыпынку на выездзе з горада. У сумцы ў яе ляжаў хлеб, батоны. Ста-

рая кіўнула Галі як даўняй знаёмай, падсела да яе на сядзенне і адразу ж загаварыла:

— Вот свет стаў кручаны! Гэта ж чаму мая сядзіць тут і баіцца ад мяне ад'ехаць? Пільнуе свайго. А дзе ж ты ўпільнуеш? Неяк пасля абеду вырвалася, каб на базар глянуць. І якраз жа на яго насунулася. Стаіць з цвяточкамі ў руках, чакае. Мая аж утрупела, прытулілася за вуглом. Бачыць, і гэтая яго ідзе. І маладая ж яшчэ, гладкая, накрашаная. На добры лад, маёй трэба было пацікаваць, высачыць іх... А то яна і кінулася, каб морду той паабдзіраць. А тая здаровая, як дала пад дых, дык і свету не ўгледзела. Яшчэ тыдзень чарнякі на твары насіла. А ён завярнууся і пайшоў. Два дні дадому не паказваўся. А як пачала сварыцца на яго, прыгразіў, што скалечыць. І кіне. Вот свет пайшоў!

Старая гаварыла лёгка, усё роўна як спяшалася, каб пра ўсё паспець расказаць, і не зважала, што людзі ў аўтобусе таксама слухаюць. І яе гэтыя лёгкія словы нібы і не даходзілі да Галі, адскоквалі, адляталі, як бурбалкі. І ўсё ж успомнілася сваё жыццё, найперш, здавалася, вось гэтае адчуванне крыўды і знявагі, калі чалавек зразумеў, што ён не патрэбен, што цераз яго пераступілі і што таму другому ягоныя пакуты нічога не гавораць, яны проста не даходзяць да яго, яму ўсё роўна ці ёсць і будзеш ты на зямлі, ці цябе не стане.

І быццам не сябе, а некага іншага ўгледзела яна там у двухпакаёвачцы, якую ім далі праз пятнаццаць гадоў. Пасля пакоя ў бараку яна любіла гэтую маленькую цесную двухпакаёвачку, якую цяпер называюць «хрушчоўкаю», перш заўсё за цішыню і за тое, што Валодзя раптам перастаў піць, адарваўся ад барачнай кампаніі, якая больш, здаецца, нічога і не ведала,як гуляць у карты і піць «чарніла». Ён і сам нібы пасвятлеў з твару, перафарбоўваў вокны, сам парабіў карнізы на шторы. І аднойчы зусім нечакана прынёс купленыя білеты ў кіно, і яна ледзь не заплакала ад удзячнасці і любові да яго. Запомніліся чамусьці тыя білеты, той паход у кіно, можа, таму, што пачыналася вясна, і паветра было чыстае і звонкае, сіняватае нейкае, ім лёгка і чыста дыхалася. І сінява гэтая, ужо густая, заставалася ў небе, калі яны вярталіся, і зоркі былі вялікія і калючыя, і на гэтую маладосць адзывалася сэрца і пачынала хвалявацца кроў.

Гэта была іх апошняя вясна з Валодзем. Той адвячорак яна памятае, нібыта быў ён учора. Ужо дыхнула першым цяплом зямля, прабілася востра і дружна трава, і зацвіла чаромха. Яна расла ў двары іхняга дома, і таму водар яе праз адчыненыя дзверы на балконе не дурманіў, а наплываў прыемна і соладка.

Яна ставіла вячэру і не заўважала, што Валодзя сядзіць нейкі сцяты, занадта пільна глядзіць за кожным яе рухам і чакае, каб яна хутчэй скончыла мітусіцца.

— Не трэба, Галя. Сядзь,— папрасіў ён крышку глушэйшым, чым звычайна, голасам. І яна прысела на табурэтку, адчувала, як нешта вострае і калючае ўваходзіць знізу ў сэрца, нават не адчуванне было, а ўсяго толькі прадчуванне гэтага тонкага вострага халадку.

— Я сёння пайду ад цябе...

Яна міжволі ўскінулася, каб заплакаць, закрычаць, затрымаць — яна і сама не ведала, што зробіць — толькі адчула памкненне. І ў той жа час убачыла, як незадаволена перасмыкнуўся яго твар, як злосна ўспыхнулі вочы: яму не трэба было нішто, яму было ўжо усё роўна, яго злавала, што яму перашкаджаюць рабіць тое, што ўжо вырашана. Толькі і ўсяго. І яна асела на табурэтку, спасцігаючы ўсім сэрцам тую вялізную глыбіню холаду і адчужэння, у якім яны жылі ўсе гады. І ёй стала страшна. Яна глядзела на яго хударлявы, ужо загарэлы на вясновым сонцы твар з прыгожымі цвёрдымі мужчынскімі губамі, на пасму сівых густых валасоў, што прывычна спадала на лоб, чамусьці думала, што ён молада яшчэ выглядае, і слухала, як ён гаварыў, што пакідае ёй і для дачкі кватэру, што просіць, каб сабрала яго рэчы, ён зойдзе заўтра і забярэ... Яна толькі слаба махнула на яго рукой, і ён з палёгкаю і ўдзячнасцю падняўся і пайшоў.

А яна не памятае, колькі сядзела, і не адчувала, ці ў яе ёсць сэрца, баялася паварушыцца, не тое што ўстаць, і чакала, што ён вернецца, каб дапамагчы ёй. Але звечарэла, і ён не вяртаўся і не папярэдзіў нават дачку, каб прыехала да яе. Яму было ўсё роўна, ён ўжо не думаў, што ёй можа быць дрэнна, для яго яе не існавала. Гэта ўжо пасля яна зразумела, тады толькі адчувала.

Рэчы яму яна не збірала, праз некалькі дзён ён зайшоў сам, падабраў час, калі яна была на рабоце. Узяў толькі ўсё сваё, самае неабходнае і на трумо ў прыхожай пакінуў ключы.

З таго часу ў яе і пачало балець сэрца. І дактары не маглі даць рады, а яна ведала, што ў сэрца яе ўвайшоў холад, і пакуль будзе там, сэрца будзе хварэць. Гэты боль і хваробу не згладзіла і ўнучка, якая нарадзілася ў дачкі, прыемны, мілы клопат. Дачку з зяцем яна прапісала да сябе. Усё нібы наладзілася, яна ўжо розумам пераконвала сябе, што нічога страшнага не адбылося, што калі не было любові ў сэрцы, то і добра, што разышліся. Але сэрца засталося хворым,

прыступы ўсё паўтараліся, ёй афармілі пенсію, дактары працягвалі настойліва рэкамендаваць памяняць клімат...

— Я заехала да яго маці і да Аляксандра. Яны паехалі, прасабачылі яго троха, быццам і супакоіўся,— старая ўсё гаварыла, як маленькі жывенькі рэпрадуктарчык у аўтобусе.

Галі падумалася, як проста і лёгка ўсё разводзіла на свае месцы бабулька.

— Дык а ты ж прыехала хату прадаць ці на саўсім?

— Можа, і на саўсім.

— А сям'я як жа? Ты ж яшчэ не старая.

— Сям'я там пабудзе.

Бабулька недаверліва паглядзела на Галю.

— Мне дактары сказалі клімат памяняць...

— Вунь яно што! То спяшаць не трэба, агледзішся, а ў нас тут добра жыць. Як будзе здаровіцца, і сям'ю перавязеш. У Сібіры ж там не мёд, а ў нас тут добра, ой добра ў нас тут жыць! І чаго гэтыя маладыя толькі пруцца ў той горад?

Бабулька была гатова гаварыць пра што хочаш.

Аўтобус падыходзіў да прыпынку, Галя ўстала, развіталася са старой, пайшла да дзвярэй. І ўжо калі глядзела ўслед аўтобусу, заўважыла, што старая ўсё глядзіць на яе сваімі вострымі, выцвілымі вочкамі, быццам нешта разгадвае.

*4*

Ногі гулі ад болю, і Жыгар здаўся, прысеў на ўрослы ў зямлю камень з невялічкім, як ад дзіцячага ступачка, слядком на ім. Камень гэты з «божым слядком» ён памятаў з дзяцінства, калі тут на ўзгорку стаяў вятрак. Тады дзецьмі яны прыходзілі сюды гуляць. Ля млына было цікава, асабліва восенню, калі здараўся завоз. Млын разгуляўся быў ужо потым, пры калгасах, разламаў трыбы. Рамантаваць яго ніхто не браўся, а потым і згарэў ён. Гаварылі, ад маланкі ў навальніцу, а сёй-той пагаворваў, што спаліў яго сам млынар Аляксандр пасля таго, як вывезлі ў Сібір разам з сям'ёй яго сына, Мікалая, які не ўступаў у калгас. Разбіты старасцю і хваробай Аляксандр тады ўжо нікуды не выходзіў з двара.

Потым узгорак раскапалі, бралі з яго пясок сабе на патрэбу людзі, парасцягвалі каменне — валуны парвалі на кавалкі, толькі вось гэтага каменя, які цяпер амаль урос у зямлю, чапаць ніхто не адважыўся.

Цяпер і ямы зараслі зеллем і травой, на пустку панадзіліся вывозіць смецце і непатрэбнае ламачча. Звалка большала, і вакол яе Жыгар ужо другі год касіў летам траву на сена карове. Яшчэ выкошваў паўз высахлыя абмялелыя лужкі на полі і паўз дарогі, якіх пакуль што не з'аралі ўшчэнт.

Трава высахла, можна было забіраць, але каня не ўдалося ўзяць, і Жыгар толькі падгроб сена ў кучкі. Складзі ў копы — забярэ хто. Калі раздумацца, то і забіраць не было каму, бо так, як ён, сена не здабываў больш ніхто ў весцы,— абыходзілася тым, што давалі з калгаса. Ды і ён, каб трымаў адну карову, таксама абышоўся б, але і на наступны год меркаваў яшчэ патрымаць цялушку. Не першы год ужо ён даваў сабе слова не трымаць гэтулькі жыўнасці дома, але ўсё не выходзіла. І свіння-мацёра ў яго, мабыць, аднаго асталася ў наваколлі.

Ногі гудзелі ад болю і аж торгаліся. Жыгар думаў, што яшчэ трэба зайсці забраць з прыпаскі карову. Не, усё. Сабраў меншай і на каапературную кватэру, і на вяселле. Хопіць. Што толку, што збіраў ён дзвюм старэйшым? З'ехалі ў горад, разжыліся за яго грошы, парабілі сабе там нейкія дачы і цяпер гады ў рады заедуць калі. І то каб палаяць, што душыцца работай. Але тым не менш бяруць з сабой і сала, і каўбасу, і яблыкі, і агуркі — усё бяруць, поўнымі сумкамі, аж легкавічкі задам ледзь не да зямлі дастаюць. Жыгар ведаў, што любяць заўсёды таго, хто мае, хто мае і можа даць. А таму ўсё жыццё ён рабіў, каб мець, каб не залежаць ні ад кога. І меў. Перажыў і калектывізацыю, і вайну, і пасля вайны! Колькі ўсякага было, а ён заставаўся, бо быў патрэбны Без яго не абыходзіліся.

Кіршчэня той усё ў начышчаных ботах, у галіфэ пры начальстве подбегам бегаў, у камсамольцы запісаўся яшчэ смаркачом, а наган насіў і камандаваў. І яго, Жыгара, папракаў, а як упаўнаважаныя ўжо і пасля вайны прыязджалі, то бег да яго з паперкай, каб выдаў самагонкі. І Жыгар выдаваў. І самагонкі, і закускі яшчэ ад сябе, бо ведаў, што ў Кіршчэні закусіць не надта. А выпіць, хоць і бальшавіком драўся, Кіршчэня любіў і любіць дасюль, прывык толькі чужое піць і чужым закусваць. Цяпер на пенсійныя грошы не надта разгонішся, а рабіць сам самагонку не навучыўся, да гатовае прывык. Бач, як глянуў сёння, што карову ў канюшыну прыпусціў, усё роўна як гэта яго канюшына, а не калгасная, ці ўсё роўна як грошы яму плоцяць за тое, што пільнуе. Цяпер мінулася тая пара, калі ў калгасе трымалі паплаўнічых. Як нічога не мелі, дык усё старажоў больш

ставілі, быццам прыбавіцца дабра ад таго, што вартаўнікі ёсць. А цяпер не трэба ні тыя паплаўнічыя, не трэба і вартаўнікі, калі ёсць, то хапае і людзям, і калгасу і ніхто не лезе, каб красці. Бяруць цяпер, і сам Жыгар, калі хочаш, і гатовага сена меў бы, колькі душа пажадае. Пад тыя цэнтнеры, што выпісаў у канторы, калі даць трактарысту і кладаўшчыку гарэлкі, поўны хлеў табе навозяць. Вядома, прасованае і цюкаванае сена не раўня сваімі рукамі зробленаму.

Жыгар перасіліў сябе, устаў з каменя і павольна пайшоў, спачатку абапіраючыся на грабільна. Сілу адчуваў унутры, у плячах, у руках, а вось ногі, ногі не давалі жыць. А запасу жыцця і здароўя ў яго, здавалася, было яшчэ на двух. Яму аж не верылася, што гэта ён, той самы смаркаты маленькі Хведарка, галодны і халодны ў хібарцы, дажыве да такіх год, выбудуецца, выгадуе дзяцей і выведзе ў людзі,— што ён той самы Хведарка, які круціўся, туляючыся да старэйшага брата і намагаўся сцягнуць з яго дзяружку. Але брат моцна трымаў на сябе яе. І ён у ціхім адчаі і з зацятай крыўдай сонны споўз жыватом на прымурак печы, адтуль на палок і па палку — на бацькаў ложак, пад бацькаву цёплую коўдру-падбіванку, адзіную ў хаце. Ёй накрывалі хворага бацьку. Шчаслівы, ён нырнуў у чаканае цяпло і заснуў, нават не адчуўшы яшчэ яго, радуючыся, што апярэдзіў братоў. Ачнуўся ён ад незразумелай недзіцячай трывогі, не ад холаду. Першае, што ўбачыў — маці, якая сядзела пры ложку ў ранішнім шэрым святле, якое заходзіла ў хату праз акенца. Яна тупа глядзела перад сабой у запечак, дзе спалі дзеці. Яна пачула, што прачнуўся малы, паглядзела на яго, паволі ўстала і пайшла да яго. Яму не хацелася ўставаць, не хацелася на холад у хаце, і ён закрычаў, заплакаў, чапляючыся за бацьку і не чуючы, што той ужо даўно халодны. Маці адарвала яго да сябе, прытуліла і толькі тады загаласіла гэтак тонка і страшна, будзячы ўсіх у хаце, акрамя бацькі, што ён спалохана сціх, прытуліўся да яе...

Выжыў ён, як выжыў гэтакі ж галодны і халодны смаркаты Кіршчэнеў Анцік. Разам жа і сады латашылі, і агароды, усё, што можна было з'есці і дзе можна толькі дабывалі. У школу разам хадзілі. Праўда, бацька ў Анціка жыў, але дастатку ў хаце ў іх было не болей, чым у іхняй, сіроцкай. Стары Кіршчэня любіў узяць гармонік, любіў пагуляць і выпіць, а на работу ў яго не ставала цярпення, спрыту і часу. Вучобы ні ў аднаго, ні ў другога вялікай не выйшла. Хведар з дванаццаці год узяў на сябе гаспадарку, а Анцік яшчэ павучыўся, а потым якраз і пачаліся камуны, таварыствы, кам-

самол. У камуне Анціку выдзелілі боты з высокімі халявамі, добрыя, спраўныя боты, і насіў ён іх многа, бо ўзяў навырост.

І ўсё жыццё Кіршчэня кіраваў такімі, як Хведар. То культурным гаспадаром вучыў быць, то ў калгас запісваў, то аблігацыі пазыкі прымушаў браць, то яблыні ў садзе пералічваў і жыўнасць перапісваў...

А вось цяпер як смарчок стаў, збегаўся, справаваўся за ўсё жыццё, хоць і цяпер яшчэ правуецца, але даўно няма тых ботаў і мода на наган прайшла. Другія людзі нараслі, другое начальства, не тое, што з вайны вярнулася, з партызанаў. Тое яшчэ любіла боты і наганы.

Але вузел адзін на дваіх жыццё завязала не з-за Кіршчэневага начальства. Марыля Змітрачкова завязала вузел. Раслі разам, гулялі разам. Марыля вырасла ў прыгожую дзеўку. Невысокую ростам, але ладную, прыгожую і на работу здатную. Стары Змітрачок умеў трымаць і гаспадарку, і сталярку ведаў, і ўмеў рабіць.

Шнуры іхнія яшчэ да калгаса побач былі на палетку, а таму і жалі разам, і касілі. І калі трэба было, то і падмагалі адно аднаму — ці на воз падаць, ці падгрэбці, ці зжаць. Больш таго, Марыля была памочніцай у маці, амаль гаспадыня, і ён ужо ў гаспадарах, лічы, хадзіў. Ды на той час чаму не кінуцца росламу, дужаму кучараваму хлопцу дзяўчыне ў вочы? Была ў іх яшчэ ранейшая, з тае пары, дзе канчаецца дзяцінства і пачынаецца юнацтва, свая невялікая прыгода і невялікая тайна.

Раніцай, пасля навальніцы, якая пачалася звечара, маці адправіла яго раскрыць мэндлікі, каб абветрылі, прасохлі снапы. Раніца была сонечная, чыстая, блішчала расою, а там, дзе збягалі па палявой дарозе ручаіны, пад нагамі туга і цвёрда пахрумстваў намыты ручаём пясочак. Мэндлікі ён раскрываў хутка, бачыў, што апярэдзіла яго, раней прыйшла, робіць гэтакую ж работу Марылька. Ён усё ж дагнаў яе, і ў канец шнуроў выйшлі разам.

— Каб захацела, то і не дагнаў бы мяне,— Марылька цяжка дыхала, і Хведар зразумеў, што яна старалася, каб ён не дагнаў. Але ж сіла была няроўная.

— То і трэба было захацець,— падражніўся ён.

— Вот другі раз паспрабуем наперагонкі.

— Паспрабуем.

Хведар ішоў крыху прыадстаўшы, бачыў, як заружавела-

ся Марылька ад работы, і нечакана сам для сябе нагнуўся, сарваў з-пад мэндліка густы кусцік мокрых ад дажджу «коцікаў» і пырснуў на яе.

— Вой! — піскнула Марылька і весела кінулася бегчы, а ён даганяць яе. Невядома, чаму Марылька смяялася і ўцякала да не дажатага яшчэ шнура жыта, ускочыла ў яго і спынілася, нібы не ведала, што далей рабіць і куды бегчы. На нейкае імгненне Хведар замёр, а потым успомніў, як дурэюць з дзяўчатамі вялікія хлопцы на сене, схапіў і паваліў яе. Яна ўпала лёгка, і пад сарочкаю ён адчуў меленькія і тугія гурбанкі яе грудзей. І ўсё ўспамінаючы тых жа вялікіх хлопцаў, пачаў рабіць тое, што рабілі і яны. І бачыў блізка перад сабою прыадчынены рот, туманныя яе вочы, якія не бачылі яго, чуў кароткае перарывістае Марыльчына дыханне. Яна сама са здзіўленнем прыслухоўвалася да яго рук на сваіх грудзях, і ён не адважыўся ціскаць іх, як ціскалі хлопцы, асцярожна, нібы пазнаваў, правёў далонню і адчуў, якая каструбаватая далонь і якія пяшчотныя яны пад рукою. Ад гэтай пяшчотнасці не толькі гарэлі, але і пачыналі дрыжаць рукі, і яго ўсяго праціпала ад дрыжыкаў, горача рабілася ў галаве, і ўжо скрозь туман ён бачыў, як не хапае Марыльцы дыхання, як здзіўлена замерла і прыслухоўваецца яна да сябе і як цела яе пачынае адзывацца хваляваннем і гарачынёй. І рука яго міжволі саслізгнула ўніз. І толькі тады Марылька выхапілася з забыцця, адштурхнула яго і імгненна выскачыла з жыта. Ён таксама памкнуў следам, але не спяшаў даганяць, ды і яна не ўцякала, стаяла і чакала яго і старалася стрымліваць дыханне.

Ён не ведаў, што сказаць, і яна выручыла яго.

— Як малыя, уздумалі жыта таптаць.

— Такі гаспадар, як Кіршчэня, патоптанага не ўгледзіць.

— Усё роўна было б брыдка, каб хто бачыў.

— Не надта мы і патапталі. Можна было і больш.

Ён ужо супакоіўся і расхрабрыўся. Але Марылька не падтрымала яго жарту, строга паглядзела, усё роўна як не разумела, пра што ён гаворыць, і ён больш не ўспамінаў пра гэта.

Але ўжо і потым, калі сустракаў Марыльчын позірк, здавалася, адчуваў, што яна непрыкметна, па-змоўніцку ўсміхаецца яму, і адказваў гэтакай жа ўсмешкай.

А як прыйшла пара хадзіць на вячоркі, ён на правах усё той жа суседскасці пачаў праводзіць яе. І гэта быццам само сабой разумелася.

А потым з'явіўся ў сваіх высокіх ботах і пры нагане

Кіршчэня. Спачатку ладзіў з камсамольцамі спектаклі, дзе дабівалі недабітых буржуяў і трэслі міраедаў-кулакоў, а потым зачасціў і на вячоркі. Хведару з-за гаспадарчых клопатаў часу не было надта хадзіць на тыя спектаклі ды і на ўсе вечарынкі. Запасу спектакляў і частушак, якія прывёз Кіршчэня, хапіла яму ненадоўга, з частушак у памяці асталася адна:

Камсамолачка Дарота,
Пойдзем разам ваяваць.
Я страчыць із кулямёта,
Ты патроны падаваць.

Дык вось гэтай «камсамолачцы Дароце», як дражнілі Кіршчэню, і заманулася Марыля. Пачаў ён яе праводзіць, і не на жарт. Хведар цярпеў, а потым перастрэў яго пасля праважанак ля грэблі.

Кіршчэня ішоў пасярод дарогі, цвёрда і бадзёра. Сустрэць нікога ён не чакаў і таму, калі Хведар выступіў насупраць з-за вярбы, спыніўся як укопаны і лапнуўся рукою за кабуру.

— Што ўтрупеў? Гэта я...

— Цяпер бачу, што ты,— голас Анціка быў яшчэ сіплы з перапалоху. І ад таго, што перапалоханы, і, можа, з-за месячнага святла Жыгар раптам убачыў, які ён на самай справе мізэрны і слабы супроць яго. Вазьміся і страсяні добра, дык і душа як з ката вытрасецца. І гэтае разуменне надало яму яшчэ большай рашучасці.

— Ты вось што, дзеяцель, забудзь дарогу да Змітрычкаў, а то...

— Што а то? — задзіракаватая натура адразу ж узяла сваё.— Што «а то»? Біцца са мной хочаш? Не, я з табою біцца не буду. Гэтыя перажыткі мы пераступілі! Цяпер ніхто не дазволіць кулакамі жонак сабе адбіваць. Цяпер жанчыны самі будуць рашаць! Ясна табе! І ты не забывай, што цяпер кулакі караткі! Не забывай, якая ўласць! А то мы табе напомнім. І паглядзім, чым ты дыхаеш!

Ён нават патрос пальцам, і Хведар добра запомніў гэты палец у сябе пад носам, міжволі саступіў з дарогі, і Кіршчэня пайшоў далей, прыпыніўся, азірнуўся:

— Будзе так, як сама Марыля рошыць. А ты не смей мне мяне больш перастраваць на дарозе. З-за таго, што разам раслі, пашкадую на першы раз. А калі што, то паглядзім, чым ты дыхаеш, запомні, Хведар.

І ён запомніў. Адчуў, што і сама Марыля пачынае абыходзіць яго, ўсё ж пераймаў, але гаворкі не выходзіла. Пакуль не перастрэў аднойчы на загуменні сам стары Змітрачок. Прапанаваў закурыць.

— Бач, азімыя як аўчына бяруцца. Добры год павінен быць.

— Ага,— адказаў Жыгар.— Добры. Толькі каму будзе гэтае жыта? Ці нам, ці ў калгас ссыплюць.

Змітрачок не адказаў нічога, зацягнуўся самасадам.

— Возьмецца мароз, трэба будзе пусціць авечак, спасвіць, бо як укіне снегу, выпрае. Зіма цяпер павінна снежная быць. Рабіны многа.

— Спасвіцца рунь...

Хведар не ведаў, пра што болей гаварыць.

Змітрачок зноў зацягнуўся дымам:

— Ты не бяры на мяне крыўды, хлопча. Тут нічога не зробіш. Што ж я не бачу, што ты гаспадар, а ён пустадомак? І я так думаў, што пaберацеся вы з Марыляй... Але ж нанесла яго нячыстая. А цяпер гэтых кулакоў вышукваюць. У цябе гаспадарка, у мяне гаспадарка... А дурню не ўкажаш, падаткне, і канцоў не знойдзеш. Адным словам, забярэ ён Марылю.

Стары Змітрачок нагнуў галаў і пайшоў паўз вішнякі да свайго пляца. Хведар стаяў, глядзеў услед яму і не разумеў, што ўсё скончана, што Марыля не яго. А потым ужо ўзышло пасеянае ў душы старым Змітрачком і насенне страху: а як падаткне, удасць — ніякай управы не знойдзеш? І гэты страх падагнаў яго потым у калгас, гэты страх прымусіў яго ссутуліць плечы і не надта вытыркацца, хадзіць на работу, адбываць яе.

Ажаніўся ён з рабацяшчай і дужай Корзунавай Волькай, з вялікай сям'і яна пайшла да яго ў хату, рабіць умела, мела сілу, нарадзіла і пагадавала яму дзяцей і цяпер яшчэ цягне, як можа. Дзякуй богу, грашыць яму няма чаго. Пасля таго камсамольскага вяселля з брычкамі ў Марылі весялосці многа не было. Аж чатыры дзеўкі ўспелі нарадзіць яны з Кіршчэнем. Той усё парадкі наводзіў, арганізоўваў кампаніі. Ездзіў то верхам на коніку, то на брычцы, калі на чарговае павышэнне выплываў. Адзін год нават на легкавіку быў паездзіў, пакуль недзе ў спажыўкааперацыі падымаў справу. Але ўсё роўна ніжэй каня не апускаўся і толькі ўжо перад самай вайной вымушаны быў вярнуцца дадому і стаць брыгадзірам. За ўсе гэтыя гады ён быццам і не змяніўся, усё гэтакі ж лёс лёгкі быў, як падмецены, і ўсё некуды спяшаўся, і нешта рабіў, арганізоўваў. Асабліва любіў сустракаць упаўнаважаных. А тыя нібы нюх на яго мелі, ніяк не абміналі. І яшчэ палюбіў сходы праводзіць і гаварыць на іх. Збіраў брыгаду і перад пасяўной, і перад жнівом, і па патрэбе,

і без патрэбы. Гаварыў пра важнасць моманту. І слова «таварыш» любіў.

— Таварышы, яравыя, таварышы, азімыя, таварышы, сеяць пара!

Альбо:

— Таварышы, плугі, таварышы, бароны, таварышы, валяюцца за хлявамі...

Гэтак Кіршчэню пачалі перакрыўліваць у вёсцы. Людзі хутка адчуваюць, калі пахіснуўся чалавек. І тады гатовы адпомсціць за ўсе мінулыя балячкі. А таму і не шкадавалі самагонкі, налівалі, хто дзе і як мог, умаслівалі ўладу. І Кіршчэня амаль зусім згубіў той ранейшы начальніцкі бляск, зліняў увесь...

Невядома, чым бы кончыў ён, калі б не вайна. Вайна раскруціла ягонае жыццё па новым крузе. Вядома, чакаць, пакуль прыйдуць немцы і возьмуцца за актывістаў, ён не стаў. Дзяцей поўная хата, а таму ў першы ж дзень сабраўся і падаўся ў Слуцак да ваенкамата, прызывацца ў армію. Прызвацца ён прызваўся, але апынуўся ззаду за франтам разам з усёй камандай, якая на чале з ваенкомам вымушана была асесці ў лесе. Сёй-той даў цягу дадому, а каму не было як паказвацца, сядзелі, пачалі немцаў палохаць. А потым выйшла так, што натрапіў ён на той атрад, які меў спецыяльнае заданне, і разам з ім пайшоў аж у Заходнюю Беларусь. Гэта ўжо пасля вайны расказваў сам Кіршчэня. А тут Марыля пусціла пагалоску, што на фронт пайшоў. Так усю вайну і думалі, і не чапляліся да сям'і нават паліцаі. Пасля вайны ён зноў пабрыгадзірыў, а потым красаваўся па раёне, страхагентам быў, і баяліся яго, як агню. Карову з хлява мог вывесці, а потым, як скончыўся гэты страх, гадоў з восем пастаршыняваў. Пакуль старшыняваў, памяняў падрубы ў хаце, прыбудаваў яшчэ кухню і наогул абжыўся, зрабіў добрую пенсію і тут ужо ў калгасе праз нейкага паўгода прыстроіўся на пасаду паплаўнічага, атрымаў каня, дастаў і сядло, толькі ўжо з гарэлкай асцерагаўся, але выступаў на ўсіх сходах і спуску не даваў ні старшыні, нікому з калгаснага кіраўніцтва...

Жыгар выйшаў да кустоў у лужку, дзе была прыпята карова. Яна здалёк угледзела яго, падняла галаву і чакала. Жыгар выцягнуў з зямлі штыр, сабраў у руку ланцуг.

— Ну што, пайшлі, аднаасобніца,— пагладзіў карову за вухам, і яна цяжка пайшла побач з ім. Не выпускае карову ў чараду ён з-за ног. Чараду ўжо не адпасе, не вытрывае. Збіраўся сабаку завесці, навучыць карову пасвіць. Але не са-

браўся. Сабаку завядзі, карміць трэба, даглядаць. Цяпер жа не спусціш, каб сам дзе хадзіў пажывіцца, цяпер на прывязі трымаць трэба. А карове, калі на добры лад, то і лепш гэтак. Пашы няма, ходзяць цэлы дзень па голым, як бубен, выгане, ды яшчэ і плату калгас прыдумаў браць за тое, што каровы пасвяцца.

Яшчэ па дарозе Жыгар думаў пра тое, што раніцай трэба ўстаць самому і вынесці малако малакавозу, каб дамовіцца з ім узяць каня і прывезці сена.

Калі Жыгар падыходзіў дадому, насустрач па вуліцы прапыліў старшынёўскі «козлік». Жыгар не чуў, як у машыне, гледзячы на яго побач з каровай, весела засмяяўся старшынёў шафёр:

— Чаго смяешся? — запытаўся Мяцельскі.

— А Жыгар ходзіць ногі растапырыўшы, як і яго карова!

— Каб і ты з яго век парабіў гэтак, як ён, то яшчэ больш раскарэчыўся.

— Дурная работа дурняў любіць!

— А разумных?

— А разумных ніякая не бярэ.

— Чаму?

— За разумных другія робяць. А яны таму і разумныя, што другіх рабіць вучаць.

— А я тады, па-твойму, хто?

— А вы, Сямёнавіч, нармальны.

— Што значыць нармальны?

— Ну, нармальны. Адны вас вучаць, як рабіць, а вы — другіх, нармальны. Пасярэдзіне. А гэта надзёжна.

Мяцельскі ўважліва паглядзеў на шафёра.

Вечарэла, і з палёў пахла збажыной, якая даспявала, налівалася, хілілася коласам долу. І было ціха і спакойна, і цішыня заходзіла над зямлёй разам са змярканнем.

## 5

Мар'я чула, як звінеў у суседнім пакоі будзільнік, як уставала Верка, потым былі чуваць цяжэйшыя зяцевы крокі, потым ужо бацькі будзілі ў садзік Леначку. Ласкава ўгаворвала яе мама, падыходзіў бацька, і праз мінут дзесяць малая прачыналася, разгульвалася, чуўся яе тоненькі вясёлы смех. Яна шлёпала босымі ножкамі да туалета, мылася пад кранам і ваннай. І ўжо не пераставала шчабятаць і смяяцца, і голас яе звінеў у кватэры, як званок.

Пасля яны ўтраіх пілі на кухні чай, і Мар'і не чуваць

было іхніх галасоў. Затым адзяваліся ў прыхожай, і Валодзя супыняў Ленку:

— Алёна, ціха, бабуля спіць. Ціха!

Мар'я звала ўнучку Ленкай, бо Алёна асацыіравалася ў яе з Аленай, той дурной Аленай, якую яна памятала змалку і якую застрэлілі немцы ў час вайны, у першыя дні. Гэтак надарылася, што дурная Алена адна аказалася на вуліцы, калі немцы ўехалі ў вёску. Рабы з твару, худы і высозны немец нешта загергатаў да дурное, памахваючы аўтаматам, які вісеў на грудзях. Алена не зразумела, што ад яе хочуць, а памахванне аўтаматам успрыняла як пагрозу ці знявагу і скруціла, сунула амаль пад нос абедзвюма рукамі адразу дзве дулі.

Немцы, што асталіся сядзець у машыне, дружна зарагаталі са свайго таварыша, [redacted] той страсянуў плячом і коратка пырснуў з аўтамата ў дурную, і тая адразу ж і асела ў вулічны пыл, [redacted] пальцы гэтак і асталіся скручаныя ў дулі.

Тым часам успеў выскачыць з двара Жыгар з боханам хлеба на ручніку, пайшоў да немцаў, накульгваючы на хворую нагу, нахіляючы галаву — ішоў і кланяўся.

Тады з кабіны выйшаў другі немец, з нашыўкамі на пагонах, узяў у Жыгара хлеб, перадаў салдатам у кузаў, а вышываны ручнік разгледзеў, акуратна склаў і сунуў у кішэню. Напалоханы, Жыгар усё паказваў на мёртвую Алену і круціў пальцам ля скроні. Немец не зважаў на забітую, паўтараў сваё «гут, гут», два разы паляпаў Жыгара па плячы, потым сеў у машыну, і немцы паехалі. Аказалася, што то была яшчэ не нямецкая ўлада, а проста нейкая армейская машына заблукала ў іхнюю вёску. І таму Жыгару давялося яшчэ раз выносіць немцам хлеб-соль, калі яны прыехалі ўжо з перакладчыкам. За гэты хлеб-соль Жыгар потым усю вайну мусіў разлічвацца з партызанамі: гнаў ім самагонку, падказваў, у каго падсвінак на падыходзе. І самагонка ўратавала яго пасля вайны. Нехта з партызанскіх камандзіраў выдаў Жыгару даведку, што ён з'яўляўся сувязным партызан амаль што з першых дзён вайны. Але нягледзячы на даведку і пасля вайны Жыгар доўга яшчэ адкупляўся самагонкай — калі прыязджалі ўпаўнаважаныя і спыняліся хоць бы ў таго ж Кіршчэні, то пасылаўся ганец па выпіўку да Жыгара.

А пра Алену ў вёсцы толькі і засталася прымаўка: «Дурны, як Алена Кумава».

Таму Мар'я і звала ўнучку Ленкай. Едзіць Мар'я да дачкі прынаравілася пасля таго, як нарадзілася ўнучка. На пер-

шым часе — навучыць, як даглядаць дзіця, а потым, калі Вера пайшла на работу, гадавала Ленку — тая, як і ўсе гарадскія дзеці, хварэла ў ясельках. Добра, што ў свой час Мар'я не пашкадавала грошай і дачцэ пабудавала трохпакаёвую кааператыўную кватэру. Цяпер і на кааператыў не ўбіцца, і дзяржаўнае не дачакаешся. На лета ў вёску везці малую Вера не дазваляла — тут, у горадзе, і вада цёплая, і ўсё чыстае, акуратнае.

Мар'я ўстала, падышла да акна. Яно выходзіла на рэчку, на зялёную, парослую вербамі лугавіну. Месца харошае, утульнае, ні вуліцы не чуваць, ні машын. І рэчка, і аселіца — быццам вясковае ўсё. На лугавіне зранку прагульвалі сабак. Такіх сабак Мар'я не бачыла ніколі ў вёсцы: і маленькія, кучаравенькія, і вялізныя, валасатыя, і аўчаркі. Да аўчарак узнікала сама сабой павага. І выгульвалі аўчарак звычайна мужчыны. Нешта саліднае, сур'ёзнае было ў тых, хто выводзіў аўчарак. І цяпер Мар'я прыглядалася, каб угледзець знаёмую постаць Віктара Антонавіча. Яго чорная вастравухая аўчарка гуляла без павадка, ішла за ім і пры ім, слухалася не тое што голасу, але нават позірку. Разумела ўсё.

У двары Віктара Антонавіча звалі ўсе Генералам. Вера гаварыла, што ён самы сапраўдны генерал, на пенсіі. Апыніўся жыць у гэтым ускраінным раёне таму, што пакінуў сваю генеральскую кватэру дачцэ. З імі асталася і жонка. Вечна злосны і п'яны нават ад піва стары Кір'як мацюкаўся і ўсім расказваў, што генерала выжылі з хаты, бо выманілі ўсе грошы, а пенсіі генеральскай па цяперашнім часе і на скрынку каньяку не хопіць. Мар'я не зважала, як між іншым і ніхто ў двары не зважаў на тое, што пляце стары, злосны на ўвесь свет і вечна п'яны Кір'як. Пра самога Кір'яка гаварылі, што служыў ён ахоўнікам у лагерах і што пры Хрушчове яго выгналі з арміі за тое, што пабіраўся і краў, праўда, далі пенсію, якую Кір'як і прапіваў. Калі пенсіі не хапала, спрабаваў красці з дому рэчы, і тады зяць біў яго смяротным боем, пасля чаго Кір'яка па тыдню не было відаць у двары альбо на перавернутай скрынцы ля магазіна. Жывучая парода Кір'яка пераносіла ўсё, і праз некаторы час ён з'яўляўся ў вялікаватым, добра вынашаным зяцевым касцюме, з радочкам узнагародных калодак на пінжаку спачатку ля пад'езда на лаўцы, а потым перабіраўся і да магазіна і там цікаваў парожнія бутэлькі,— піва ў магазіне прадавалася толькі на вынас, і людзі часам выпівалі піва тут жа ля магазіна, а парожнія бутэлькі пакідалі.

Хаця, можа, стары Кір'як і праўду гаварыў — за ўвесь час, колькі Мар'я ні бывала ў дачкі, яна ні разу не бачыла, каб да Віктара Антонавіча хоць хто прыязджаў, каб унукі з'яўляліся. Можа, ён ездзіў адведваць іх? Пра гэта не папытаешся, ды Мар'я не была і знаёма з гэтым сівавалосым, худым, пастаянна маўклівым чалавекам так, каб распытвацца пра яго жыццё. Проста аднойчы ў магазіне, дзе сабралася вялікая чарга ў касу, Мар'я па вясковай прастаце абазвалася да генерала, які купіў бутэльку малака і палавінку хлеба, прапусціла перад сабой у чаргу.

А па дарозе з магазіна генерал дапамог ёй паднесці сумку з прадуктамі, назваўся Віктарам Антонавічам, а яна Мар'яй Паўлаўнай. Пасля гэтага яны віталіся, перакідаліся словамі пры выпадку пра надвор'е.

І кожную раніцу Мар'я бачыла генерала перад домам — сабаку ён выгульваў у адзін і той жа час, а яна ўставала пасля таго, як Вера з Валодзем ішлі на работу, каб не замінаць ім.

У Мар'і быў свой распарадак на тыя дні, калі яна прыязджала да дачкі. Першы дзень уставала, мылася пад душам, потым снедала на кухні і пачынала прыбіраць у кватэры — уключала пыласос, потым праціpала падлогу мокрай анучкай. На другі дзень Мар'я займалася мыццём. Перамывала бялізну, адзенне. Калі гэтая работа ў кватэры была зроблена, прыходзіла чарга магазінаў. Яна ўжо на памяць ведала, што трэба Веры, што Леначцы, што Валодзю. У горадзе даўно нічога проста не куплялася, а «даставалася», то Мар'я з задавальненнем «даставала». Для гэтага яна адпраўлялася к адкрыццю магазінаў па сваім ужо вывучаным і правераным маршруце. І такім чынам рана ці позна вылоўлівала патрэбную рэч.

Мар'і падабалася гэтая работа. Дзень праходзіў непрыкметна, а там, стоячы ў чэргах, яна даведвалася пра ўсё, што рабілася ў горадзе: і пра тое, што нейкі бандыт забівае дзяўчатак, і пра цэны, якія будуць павышаны, і пра тое, колькі тысяч урвала Пугачова за адзін канцэрт у Палацы спорту, і яшчэ многа чаго...

Усё гэта Мар'я пераказвала ў двары пасля таго, як забірала Леначку з садзіка. Малыя гулялі, а старыя і мацяркі сядзелі і расказвалі пра ўсё на цэлым белым свеце. Таму Мар'я нават усміхалася вечарам, калі Валодзя спяшаў да тэлевізара, каб паглядзець праграму «Час» — яна была ўпэўнена, што пра ўсе самыя галоўныя навіны яна даведалася зранку, а не цяпер, па тэлебачанні.

Мар'і падабалася прыязжаць да дачкі — і тут яна ўспамінала сваю маці — старую Хоцьчыху, як яе звалі ў вёсцы. Маці лічылася разумнаю і нават мудраю. У вёсцы хто багаты, хто меў пад'есці, той быў і разумным. Цяпер Мар'я гэта ведае. А іх сям'я ніколі ў галыцьбе не сядзела, ні пры дзеду Хоцьку, ні пасля, а таму мела да сябе і павагу, і нават зайздрасць. Дык вось маці і вучыла Мар'ю змалку рабоце — хто не робіць, хто не цягне пад сябе па каліве, той ніколі нічога мець не будзе. Таму і цяпер раніцай — а ўжо ж цэлае жыццё зжыла — Мар'я раптам адчувае, як халадна ад ранішняй расы ў ногі, калі выганяла на пашу гусей, ■ потым і свіней. Здаецца, што як нарадзілася, дык адразу і пагнала тых гусей на пашу, і астудзілася на ранішнім холадзе. І пячэ ад дубца, якім маці даймала раніцай па лытках — гэта калі не хацела гнаць гусей тых на пашу.

Гэтаксама ў рабоце памятала і бацьку, як уставала зранку, цэлы дзень не прысядаў дома па гаспадарцы, у калгасе, а вечарам яшчэ плёў на продажу кашы, палукашкі. Палукашак гэты займаў амаль усю хату, і ад лазовых пукоў пахла прывялай лазою. Палукашкі мелі попыт, і іх куплялі ў бацькі, ішла жывая капейка.

Бацька ператрываў вайну, убярогся, не пайшоў ні ў партызаны, ні ў паліцыю, але перад самым прыходам нашых ноччу паліцаі паднялі яго з пасцелі і мабілізавалі ў краёвую абарону. Павялі пад вінтоўкай. І маці не змагла нічога ні ў чым дапамагчы. А як прыйшлі чырвоныя, загрэблі ў армію, на фронт. Кажуць, разбірацца не было каму, адправілі ўсіх гэтых «бэкаўцаў» у штрафныя батальёны і амаль ніхто з іх не вярнуўся назад.

Але і гэта не выбіла з каляіны Мар'іну маці. Яна ведала, што трэба рабіць работу, трымаць гаспадарку і што на гэту гаспадарку, якімі б ні былі жаночыя рукі, трэба мужчына. Толькі вайна і мужчын знішчыла, выпалала.

У гэты час і з'явіўся са шпіталя Янка Куляшоў. У вайну ён партызаніў, адтуль забралі ў армію. Прыйшоў са шпіталя зялёны з твару, як цень той.

— Дарма што зялёны. Ты на гэта ў мужчыны не глядзі. Мука ў мяне на блінцы ёсць. І скварку спячы асталося сала. Мужчыну трэба пад'есці добра, а тады ўсё пойдзе ладам і парадам. А цёплым блінцом з салам як паснедаеш, цэлы дзень работу рабіць будзеш.

Старая як гаварыла, гэтак і рабіла. Восенню папрасіла Яна разараць бульбу, а потым наняла хляўчук перакрыць. І блінцоў цёплых не шкадавала, і сала на патэльню рэзала

тоўстымі кавалкамі. І самагонкі падлівала, хаця ядок з Яна на тым часе быў невялікі, піток таксама, але выпіць прывык за партызанку і потым на фронце.

А зімою ён ужо праводзіў Мар'ю з вячорак ці з вечарынкі, і гэта быццам бы само сабой разумелася ў вёсцы, і Мар'і зайздросцілі сяброўкі. Дома Ян акрыяў, сышла з твару нездаровая белізна, пашырэлі, раздаліся плечы. І ў руках, у гаворцы з'явілася сталая мужчынская няспешнасць. Няспешнасць дужага, упэўненага ў сабе маладога мужчыны. Ды і наогул, тады, пасля вайны, здаецца, непрыгожых мужчын і не было, нават старых, а што там гаварыць пра маладых. Мала іх асталося, а таму кожны навідавоку быў.

Быў вечар другога дня на вялікдзень. Ранняя тады пачыналася вясна, і на вуліцы амаль не аставалася снегу. Удзень прыгравала па-вясноваму шчодрае, нават гарачаватае сонца, і дзятва асвойвала вуліцу басанож на падсохлай, прыгрэтай зямлі. Толькі сям-там за платамі ў гародчыках ляжалі пачарнелыя снегавыя плахі — дзе зімой былі самыя вялікія, амаль да страхі, гурбы. З-пад іх сачылася вада, і ад гэтых гародчыкаў павявала холадам.

І вечары ўжо былі не стылыя, а нейкія мяккія, чорныя і глыбокія, як і неба, у якім чыста і вяліка свяціліся зоркі. Яны нібы наблізіліся да зямлі і глядзелі ноччу на яе зблізку.

Мар'я з Янам раней, чым звычайна, прыйшлі з вечарынкі, якую рабілі ў Тодаравых. Можа, таму, што другі дзень запар, ці з-за таго, што гарманіст Вецік пасля учарашняй выпіўкі і дзённай пахмелкі не-не ды і кляваў носам у гармонік, танцы не надта ладзіліся. У дадатак да ўсяго нехта з падшыванцаў, якіх не пускалі яшчэ на вечарынку, усё ж умудрыўся і падсыпаў на гліняны дол нацёртае махоркі.

Яны стаялі ў двары, у зацішку пры сцяне. Гэты вечар Мар'я запомніла, нават пах снегу, таго, нерасталага з гародчыка, цёплага, прыгрэтага за дзень бярвення драўлянае сцяны. Янавы пацалункі хвалявалі. Ёй самой хацелася цалаваць Яна. І яна цалавала яго, адчувала, як увесь ён адклікаецца на яе пацалункі. І гэтаму жаданню, гэтаму хваляванню, здавалася, не было мяжы, не было канца і краю...

Не хацелася вызваляцца з абдымкаў нават пасля таго, як пачула, што маці адчыніла дзверы з хаты, што яна выходзіць на двор. Толькі крыху адхілілася ад Яна і падумала — ну чаго маці не спіцца, спала б ужо.

Маці не выйшла на двор, толькі прачыніла дзверы і сказала:

— Гэта вы на дварэ? То ідзіце ў хату. Вячэра яшчэ на стале, я не прыбірала.

І пайшла сама назад, пакінула дзверы сянец адчыненымі. Калі Мар'я з Янам зайшлі ў хату, там ужо гарэла лямпа, а маці ставіла на стол шклянкі. Потым дастала са шкафчыка літровую бутэльку з самагонкай, паставіла шклянкі. З прыпечка на стол падала патэльню з печанай каўбасой, чыгунок з бульбаю, міску з качаном капусты. Схадзіла і прынесла з каморкі халоднага сала.

— Што гэта вы ўздумалі на ноч гледзячы? — запыталася Мар'я.

— Чалавек жа дурны. За работаю свету божага не бачыць. Вот падумала, што і вялікдзень, а і свята быццам не свята. У нас жа, слава богу, ёсць што на стол паставіць. А нам ўсё часу не выстачае. Пасядзець, пагаварыць няма калі. Вот сядзем разам вып'ем, пад'ядзім як людзі, пагаварым...

Маці не адвярнулася, выбірала з шуфлядкі ў шкафчыку відэльцы. Толькі цяпер Мар'я заўважыла, што маці ў навейшай спадніцы і ў кофце.

Мар'я не любіла самагонку, але маці прымусіла і яе выпіць, а сама выпівала амаль нараўне з Янам і не п'янела. Ян раздабрэў першы, пачаў расказваць пра тое, як яшчэ ў партызанах трапіў у засаду, як паранены ледзьве вырваўся амаль голы на кані і ляцеў па лесе да атрада. Мабыць, ад таго, што захмялела, Мар'я як перад сабой бачыла і чорную асеннюю ноч перад замаразкамі, і гэтакі ж глухі і настылы лес, і чалавека ў белым, што як здань імчаў на кані з аўтаматам. Потым ён яшчэ расказваў пра фронт, пра тое, як ляжаў паранены мінай сярод поля, сцякаў крывёй і ніхто яму не мог дапамагчы, пакуль не сцямнее, а сам не мог зрабіць перавязку. Ляжаў і слухаў, як выцякае разам з крывёй з цела жыццё.

Потым маці незаўважна знікла, і яны забыліся пра яе, заснуўшую на печы за занавескаю. Патушылі лямпу, потым перайшлі на Мар'ін ложак...

Прахапілася Мар'я ад таго, што ў хаце нешта перамянілася: ужо зламалася, заманулася на дзень ноч, і над зямлёй незаўважна пасвятлела. І гэтае святло зазірнула ў хату. Яшчэ Мар'я адчула, што ў хаце не спяць, што маці ўжо прачнулася. Яна прыслухалася. У хаце панаваў душнаватакіслы ранішні дух. Пахла дымам махоркі ад учарашняга Янавага курэння і самагонным духам. Але ўсё гэта выцяснялася свежым паветрам, якое плыло нізам ад крыху прачыненых дзвярэй,— маці, калі выходзіла з хаты, пакіну-

ла прачыненыя дзверы. І гэтае свежае паветра і было тым пастароннім, што з'явілася ў начной хаце і пабудзіла Мар'ю. Першым жаданнем было падхапіцца, і Мар'я прыўстала на локці, зірнула на Яна. Той спаў моцна, крыху падвярнуўшы галаву, і белая яго шыя была тонкая і доўгая, як у хлапчука, і сам ён здаваўся нейкім нязграбным, малым на тоўстай і вялікай белай падушцы. І пахла ад яго перагарам і махоркай. Чамусьці, можа, ад таго, што прачнулася раней, яна раптам адчула сябе намнога старэйшай і мацнейшай за гэтага мужчыну, які ляжаў побач, хоць ён прайшоў партызанку, фронт, ляжаў паўгода паранены ў шпіталях, пабачыў смерці і быў старэйшы за яе нават па гадах. Гэтак тады здалося ёй, можа, таму, што яна была дома, і гэта надавала ёй упэўненасці і гаспадарскай вартасці. І яшчэ яна падумала, што маці знарок усё падстроіла ім. Чамусьці ад гэтага крыху прыкра стала — і што Ян паддаўся, і што саму яе, як малую, падманулі. Мар'я легла на падушку, глядзела ў столь, ужо спакойна чула, як грукала ў сенцах карытцамі маці. Ян спрасонку паварушыўся, пацягнуўся рукой, каб прыгарнуць яе, але яна асцярожна і цвёрда адвяла яго руку і крыху пасунулася на край.

Потым занавеска прахілілася, і маці паглядзела на іх, убачыла расплюшчаныя Мар'іны вочы, памкнулася адпусціць фіранку, але адумалася, буднічным голасам сказала:

— Можа, трэба ўставаць, а то перад людзьмі...

— А што перад людзьмі? — Мар'я адчула незнаёмую ўпэўненасць і спакой.— Што перад людзьмі? Гэта наша дзела...

— Яно ж то так.

— Скора ўстанем,— перапыніла яе Мар'я, завярнулася да Яна, паклала на яго руку, чула, як маці пастаяла ў хаце, відаць, не ведала, што рабіць, потым грукнулі, зачыніліся дзверы ў сенцы. Ян спрасонку пацягнуўся да Мар'і, і яна спачатку перасільваючы сябе паддалася яму, адчуваючы нейкую агромністую слодыч, якая захапіла яе усю, закружыла гэтак, што знікла ўсё на свеце, і хата, і маці, і нават Ян,— усё на гэтым свеце. Потым яна, дзівячыся сама з сябе, вярталася з другога свету, стомленая, спустошаная і светлая, лёгкая, як пушынка. І гэтая светласць і лёгкасць была ва ўсім целе, у кожнай жылачцы, спявала недзе ў душы. І перапоўненая незнаёмай ёй дасюль радасцю, яна міжволі гладзіла рукой Яна па галаве, і ад гэтага радасць, вяртанне здалёку доўжылася і цешыла.

Потым яна заснула чыстым лёгкім сном, можа, нават і

не заснула, а толькі задрамала на некалькі хвілін, але ўсё цела яе заснула, і калі прахапілася, то ўжо не адчувала той першай тамлівай млявасці, наадварот, хацелася нешта рабіць, рухацца.

Яна адзелася, выйшла на двор, дзе ў лад з яе настроем пачыналася чыстая, прыхопленая марозікам і халадком вясновая раніца, прынесла з калодзежа вядро чыстае сцюдзёнае вады і толькі тады напілася з яго, поўнага, звонкага, зачарпнула кубак і падала Яну. Той піў таксама прагна і радасна, памкнуўся ўставаць, але яна перапыніла:

— Паляжы яшчэ. Няма чаго рабіць. Я зараз паснедаць пагляджу.

Яна сама запаліла ў печы, прыбрала са стала ўчарашнюю ежу, прыгатавала снеданне, паклікала Яна, карміла снеданнем, нават наліла чарку пахмяліцца, і калі глядзела, як ён задаволены сабой і выпівае, і снедае, не магла пазбавіцца адчування, што яна старэйшая за яго. Ён нічога гэтага не заўважаў, а таму ўся ягоная саліднасць і нетаропкасць здавалася ні больш ні менш як жаданне хлапчука паўтараць дарослага.

Мар'я правяла яго да варотцаў, не адхілілася, прыняла ягоны пацалунак, а сама думала, куды ж знікла маці.

Тады яна не ведала, што маці, узяўшыся за работу, не адкладвала яе надоўга. Пакуль яны дасыпалі з Янам, маці пабыла ў Янавай маці, пагаравала, што звёў дзеўку, і кончыла гаворку тым, што і пра вяселле, пакуль пасяўная не пачалася, дамовілася, і пра тое, што Ян пяройдзе жыць да іх у хату, не весці ж маладую жонку ў старэнькую хібарку, а будавацца нанава нашто, калі ёсць добрая і прасторная хата.

Так вырашыла старая Хоцьчыха адразу не адно пытанне, а найпершае — тое, што Мар'я не паедзе адбудоўваць Мінск. Тады сама ехала моладзь адбудоўваць горад, і дзяўчаты ехалі туды, каб уцячы з вёскі. Мар'я сказала пра гэта маці, бо сяброўка яе, Волька, сабралася. Гэта і прымусіла маці як найхутчэй выдаць замуж дачку. Потым яна ўжо хвалілася перад імі, перад Янавай маці:

— Бачу, што дур дзеўцы запаў у галаў. Што яна там нойдзе? Галота, з'есці кавалка хлеба няма. А дзе прытуліцца? Тут жа ў нас усё ёсць. І жаніх тутака, свой. А там на каго нарвецца? Так яно па-мойму і выйшла. А мне што — тут адной гібець, дачку ў свет выправіўшы?..

Мар'я цяпер не раз вярталася ў думках да таго, што маці некалі не пусціла яе ў горад. Як яно там ні было, як ні пера-

бівалася і тая ж Волька Стафанава, але прыязджала яна пасля адзетая чыста, з нафарбаванымі губамі. Муж яе працаваў прарабам на будаўніцтве, добра зарабляў, кватэру атрымалі. Вольку прыстроіў у сталоўку афіцыянткай. Прыязджалі яны на грузавой машыне, набіралі бульбы, яблык.

Маці ў той час ужо не было — захварэла яна раптоўна, забалеў жывот. Сама бульбу капалі, і яна некалькі дзён хадзіла, учарнелая з твару, цярпела, прыкладала да жывата нагрэтую і закручаную ў анучу цагліну. Ян запрог каня ноччу і павёз маці ў бальніцу, калі ўжо тая крычала ад болю і траціла прытомнасць. Казаў, крычала дарогаю гэтак, што ў яго валасы на галаве варушыліся. У дарозе і сканала. Дактары гаварылі, што з-за свае дурасці памерла: грыжу ўпраўляла сама сабе, парвала вантробы, пачалося запаленне.

Янава маці яшчэ некалькі гадоў жыла ў сваёй хацінцы — і Мар'я з Янам трымалі два пляцы і дзве гаспадаркі. Маці перайшла да іх у хату жыць пасля таго, як Ян пайшоў у МТС на курсы, стаў трактарыстам, а потым і камбайнерам. У яе ўжо тады нарадзіўся Аляксей і ўпраўляцца і з калгаснай работай, і з малым, і з двума пляцамі не ставала сілы.

Са свекрывёй жыць стала лягчэй, паціху на яе перайшоў увесь клопат пра парадак у хаце і па гаспадарцы. Мар'я тым часам выйшла ва ўдарніцы, і яе славілі нават у раённай газеце,і запрашалі ў школу завязваць гальштукі дзеткам, якія ўступалі ў піянеры...

Але ўсё гэта было не тое — цяпер Мар'я ведае, што ўсё не зраўняеш з горадам, з тымі выгодамі, якія там маюць людзі. І цяпер яна ўпэўнена, што каб тады не асталася гібець у вёсцы, то жыла б, як людзі жывуць, як жыве дачка. Таму і цягнула яе цяпер у горад, як магнітам, бо ў вёсцы не асталося ніякага інтэрасу. Некалі іх адтуль не выпускалі, трэба былі рабочыя рукі, а цяпер не надта хто пільнуе і глядзіць. Як сабе хочаш, калі пайшоў на пенсію. Гэта толькі хіба такія дурныя, як яе Ян, не могуць адкаснуцца ад калгаса і калгаснае работы. Усё ідуць туды на работу, усё нешта хочуць паправіць і ці перамяніць, а цяпер на іх ніхто не глядзіць і не зважае, хіба што заткнуць дзірку на рабоце, куды ніхто з маладых ісці не хоча. А тут хоць на старасць гадоў можна паглядзець на жыццё, пабачыць людзей.

І зноў Мар'я адчувала сваю перавагу над Янам, якому гэтага нават не зразумець ніколі, калупацца там, пры доме, а грошай усё роўна век не было, колькі ні зараблялі.

Мар'я пайшла на кухню заварваць чай. Трэба было збі-

раца ў горад — Вера заказала ёй басаножкі, учора іх давалі ў ЦУМе.

Дзень пачынаўся ясна, сонечна, і абяцаў спякоту.

## 6

У зале было душна, хоць адчынілі ўсе фрамугі. Мяцельскі зручней умасціўся на крэсле, расслабіўся, каб адпачывала цела. Прывычка гэтая была даўняя, яшчэ з таго часу, калі пасля язды верхам альбо ў вазку, хацелася аднаго — не варушыцца. Крэсла цяперашняе, мяккае, абабітае тканінай. Гэта не тыя голыя і рыпучыя пасляваенныя. Ды і залы тады такой не было, і трыбуны з мінералкаю, і людзей намнога менш збіралася. Ды і нарад такіх, зараней запланаваных, з распісанымі на паўдня выступоўцамі не было. Тады найчасцей выклікалі аднаго альбо некалькіх і не гаварыць давалі, а пыталіся і ставілі задачу.

Мяцельскі не чуў прамоўцаў, ён на памяць ведаў, што гавораць на такіх нарадах. Кожны рапартаваў аб гатоўнасці. І запчастак хапала, і элеватар гатоў прыняць усе машыны са збожжам за адну хвіліну... Дзе ўсё потым дзяецца: і запчасткі, і магутнасці на элеватары? Пасля правяральшчыкі дакладвалі пра гатоўнасць да жніва ў саміх калгасах, называлі прозвішчы старшынь, патрабавалі тэрмінова дарабіць недаробленае, падрыхтавацца да жніва. Хаця, які ж то гаспадар, якога падганяць трэба і падказваць? Прозвішча Мяцельскага не называў ніхто, ён быў ужо з рангу тых, каго пахадзя не чапаюць. Гаспадарка яго няхай і не перадавая, але адна з самых стабільных у раёне, са сваім ладам-парадам. Ён меў права лічыць куранят восенню. Права гэта было заваявана не толькі доўгімі гадамі старшынёўства, ордэнамі, але і трыма партыйнымі вымовамі, а за канюшыну і вызваленнем ад старшынёўскай пасады, праўда, ненадоўга. Яшчэ знаёмствам і сяброўствам на абласным і рэспубліканскім узроўні, салідарнасцю былых партызан, якіх асталіся адзінкі пры ўладзе, але якія ўмелі трымацца сваіх. І набытым вопытам паводзіць сябе з начальствам. Усю гэту крытыку з трыбун ён лічыў непатрэбнай — калі чалавек не гаспадар, то яго не вучыць трэба, а мяняць. Але ён ведаў, што ў жыцці гэтак нельга, як нельга і без нарад, без выступленняў на іх, як, нарэшце, і без гэтай агульнай па раёне каманды зажынаць альбо сеяць, і не толькі пачаць кампанію, але і ўкласціся ў некім прыдуманыя тэрміны, своечасова адрапартаваць. Каманда будзе дадзена ў канцы нарады, пасля ўсіх

выступленняў, дзе адназначна падкрэслівалася, што сам старшыня павінен усё рашаць, за ўсё адказваць. Мяцельскі прывык ужо, што старшыню нязменна застаецца адно гэта права — за ўсё адказваць. З-за дробязі ён не лез на ражон, пакрасавацца начальству не замінаў. На ўзлобках можна знайсці мясціны, каб пусціць камбайны і завезці некалькі машын на элеватар, а там падыдзе да жніва і ўся ніва.

Звычайна Мяцельскі адпачываў на гэтых нарадах, слухаючы другіх, перабіраў у памяці, што яшчэ недароблена, дзе якія прарэхі падлатаць, каб шумнуць жніво адным дыхам. А цэнтнеры і тоны ён у канцы года пакажа, калі пракоцяцца па раёне пару дадатковых планаў продажу збожжа дзяржаве. Але сёння нешта выбівала яго з каляіны. Яшчэ зранку, калі аб'язджаў калгас, праводзіў нарад, пакуль ехаў у раён. Нічога быццам і не здарылася. Звычайны дзень, нават без дробных непрыемных здарэнняў, без якіх не абыдзешся ў гаспадарцы.

Мяцельскі адчуў на сабе позірк першага і заўважыў, што той паспяшаў адвесці вочы, як толькі зразумеў, што Мяцельскі адчуў ягоны позірк. Мог і не адводзіць, усміхнуцца ці кіўнуць галавой. І Мяцельскі кіўнуў бы: у іх у кожнага каторы ўжо год сваё месца — у аднаго ў прэзідыуме, у другога ў зале. Сам таго не заўважаючы, Мяцельскі заўсёды садзіўся на адно і тое ж крэсла, не ў цэнтры, а збоч, блізка ад праходу, каб бачыць перад сабой залу. Ён не прыкмячаў, што займаў адно, «сваё» месца і што іншыя яго стараліся не займаць. Цяпер падумалася не пра свой узрост, а пра тое, што гэтак многа ўжо першы на сваёй пасадзе. Мяцельскі памятаў яго камсамольскім работнікам, можа, ён і запомніўся тады тым, што быў у касцюме сярод іхніх фрэнчаў і гімнасцёрак. Гэты малады камсамолец потым працаваў загадчыкам адзела ў райкоме, затым сакратаром, на некалькі гадоў пайшоў у вобласць на павышэнне і адтуль вярнуўся ўжо гаспадаром, першым. Мяцельскаму падумалася, што першаму ўжо пара б зноў на павышэнне, бліжэй да сталіцы, на добрую перадпенсійную пасаду, на якой трымаюць яшчэ і пасля пенсіі. Мяцельскі ведаў, якая гэта цяжкая і не заўсёды ўдзячная работа — везці на сабе воз, які называецца раёнам. Але не хацелася замены, новага прывыкання, як і на сваё месца Мяцельскі пакуль што не бачыў чалавека. Ды гэта, здавалася, і не тэрмінова, не самы пільны клопат.

Мяцельскі ці не задрамаў. Ачнуўся ад цішыні, што запанавала ў зале, які ўвесь час прывычна шушукаўся і рас-

казваў анекдоты. Гаварыў першы. Голас у Вячаслава Антонавіча поўны, пастаўлены. У паперкі заглядвае між іншым. Ён нібы падсумоўваў гаворанае, а на самай справе аддаваў свой загад на жніво. Першы некалі ўмеў рабіць доўгія даклады, з асвятленнем палітычнага моманту ў краіне і ў свеце. Але новы час, новыя кадры патрабавалі крыху інакш будаваць нарады, надаваць ім дзелавітасці. І дзелавітасць гэта надавалася большай лаканічнасцю. Каб не паўтараць гаворанае многа гадоў, першы скарачаў за кошт агульных мясцін сваё выступленне, але загад усім службам і ўстановам гучаў канкрэтна і адназначна.

На гэтым нарада скончылася. Ні табе перапынкаў, ні абедаў, ні гаворак кампаніямі. Старшыні селі ў машыны і раз'ехаліся. Мяцельскі ведаў, што маладзейшыя, каму ў адну дарогу, з'язджалі ў лес, размяшчаліся на прыродзе. І яму раптам захацелася піва. Успомнілася тое, халоднае, з бочак, з сапраўдным селядцом, таксама з бочак. Усё гэта было ў райкомаўскім буфеце ў старым драўляным будынку. Піва ён не піў даўно, яшчэ раней пакінуў курыць. Як жартавалі маладзейшыя — Мяцельскі свой ліміт на салярку выбраў, на бензін толькі крыху пакінуў.

— Дзень добры, Васіль Сямёнавіч!

— А, Васілевіч!

Мяцельскі паціснуў руку маладому, з раннімі залысінамі хударляваму мужчыну. Твар у яго загарэлы да чарнаты. Адзеты ён быў у джынсы і блакітную рубашку з закасанымі рукавамі. На руцэ трымаў невялічкую скураную сумачку.

— На зажынкі прыедзеш, упаўнаважаны? — з усмешкай запытаўся Мяцельскі.

— А паспрабуй не прыедзь. Думаю, і сто грам паставіце.

— Абавязкова. Паехалі і сёння пасядзім.

— Не, сёння не выйдзе. Ды і вас Касцюк прасіў зайсці. Заўтра ці паслязаўтра заеду.

— Заязджай. Разам глянем, дзе на зажынкі выйсці хачу.

— Можа, трэба што?

— Не, дзякуй богу, пакуль што не.

Мяцельскаму нічога не трэба было выпрошваць у намацаванага за калгасам адказнага таварыша, як іх цяпер называюць.

— Знаеш, Васілевіч, кідай ты гэту кантору, давай да мяне,— раптам ляпнуў Мяцельскі.

— У вас усе вакансіі занятыя, нават парторга новага далі.

Васілевіч весела засмяяўся.

Мяцельскі пачырванеў ад злосці — парторга яму падсунулі, Васілевіч папярэджваў.

— Ёсць адна вакансія. На старшыню.

— Ласкавыя душы і так ужо здзекуюцца, што я да вас на стажыроўку прыстроіўся і чакаю, пакуль Мяцельскі загнецца. І да вас дайшло?

— Не, не дайшло. Плюй, не слухай дурняў. А я сур'ёзна.

— Тут на такую гаспадарку, як ваша, во колькі сядзіць у канторах, чакае. А я яшчэ зялён, чужы. Не пусцяць. Трупамі палягуць.

— Пусцяць, калі я захачу.

— Усяму свая пара і свой час, Сямёнавіч.

Васілевіч неяк сурова паглядзеў на Мяцельскага. Той і сам разумеў, што не да месца і не ў пару пачаў гаворку, падаў руку і пайшоў на другі паверх, да кабінета першага.

З гэтым аграномам з упраўлення жыццё звяло Мяцельскага выпадкова некалькі гадоў назад. Васілевіча тады прымацавалі адказным да яго калгаса. Гэта Мяцельскага мала хвалявала, хто будзе прымацаваны і што будзе дакладваць пра яго. А той год яго перад жнівом прыхапіў апендыцыт. За ўсе гады старшынёўства гэта было першае жніво без яго.

Агранам і парторг, якія «не адважыўся ісці супроць партыйнай лініі райкома», жніво пачалі дакладна, як загадалі. А замацаваны за калгасам адказны з раёна Васілевіч вярнуў камбайны з поля і не даў жаць недаспелае збожжа. І ўсю ўборку кожны дзень быў зранку ў гаспадарцы. З таго часу ён і застаўся пастаянным «замацаваным» за калгасам Мяцельскага, хаця пад злосць першы і гразіў неаднойчы разагнаць гэты непаслухмяны дуэт.

Мяцельскі зайшоў у прыёмную, кіўнуў галавой сакратарцы. Касцюк яшчэ не вярнуўся ў кабінет, на хаду вырашаў дробныя пытанні, з якімі да яго падыходзілі. На нарадзе можна і з дробным падсунуцца, пры ўсіх не шумне, як адзін на адзін у кабінеце.

Мяцельскі не заўважаў, што сёння яму ўвесь дзень хацелася сядзець. Ён не жартаваў і з сакратаркай, не бачыў, што яна ўважліва прыглядалася да яго. А старшыня думаў пра ўпаўнаважаных, якіх ён шмат перабачыў на сваім вяку. Іх трэба было сустракаць і праводзіць, і не проста праводзіць, але і ўлагодзіць на дарогу. Траляліся і такія, што ні чорта не петрылі ў гаспадарцы, а лезлі праводзіць «пар-

тыйную лінію райкома». Іхняя дапамога канчалася часам выклікам на бюро. Адзін такі, райваенком Брыкаў, патрабаваў ад яго звесткі па тэлефоне — ездзіць у калгас было для яго зашмат гонару. Мяцельскі і далажыў, што ўсе на полі, аруць. А назаўтра тэрмінова ў райком выклікалі. Ваенком далажыў: «В «Родине» все собрались на собрание и орут вместе с председателем, а землю им уполномоченный пахать должен!» Цяпер пра гэта ўспамінаюць старэйшыя як пра анекдот.

Сакратар лёгка зайшоў у прыёмную, узбуджаны і энергічны. Працягнуў руку Мяцельскаму, адчыніў дзверы, прапусціў у кабінет.

— Сядай, Васіль Сямёнавіч,— паказаў рукой на крэсла, зняў пінжак, павесіў на вешалку ў шафе, расшпіліў рукавы рубашкі, крыху закасаў іх, аслабіў вузел на гальштуку.

Разагрэты выступленнем, ён быў упэўнены, што зараз яму падуладна ўсё, усё ён можа вырашыць.

Зайшла сакратарка з паперкамі ў папцы, прыпынілася ў дзвярах, Касцюк паказаў на край стала. Сакратарка паклала паперы на паказанае месца, выйшла, асцярожна прычыніла за сабой дзверы.

— Што такі мінорны, Васіль Сямёнавіч? Няўвязкі якія?

— Увязаваць будзем тое, што сажном,— паўжартам адказаў Мяцельскі. Не было настрою падыгрываць сакратару. Ды і паклікаў ён яго не дзеля таго, каб проста пагаманіць за здорава жывеш.

— Баішся, завалім жніво?

— Чаму завалім? Ніколі не завальвалі. А цяпер ёсць жаць што. Гэта галоўнае.

— А што твайго парторга не відно?

— А сёння якраз багамазы наглядную агітацыю прывезлі. Шаснаццаць тысяч дзяруць чортведама за што.

— А ты з тою дапатопнаю разлучыцца не можаш? На агітацыю грошай шкадаваць не трэба.

— Агітацыя — з чалавекам гаварыць, а не карцінкі развешваць!

— Тут да нас на пару дзён дэлегацыя з сацкраін прыязджае. Ёсць меркаванне паказаць ім твой калгас.

— Мой не паказны. Мой рабочы калгас.

— Там кіраўнікі кааператываў. Ім не парад трэба.

Касцюк здзіўлена паглядзеў на Мяцельскага — незразумела была яго ўпартасць.

— У мяне няма здароўя піць з імі,— буркнуў Мяцельскі.

— Ну няхай парторг і п'е. Здаровы ж у цябе, як бычок. Хоць якая карысць будзе,— Касцюк паспрабаваў перавесці гаворку на жартаўлівы лад.

— З такім горлам ён, дай волю, і калгас прап'е. І не пачастункаў я баюся. Будзь чалавекам, хоць на старасць год збаў мяне ад гэтай паказухі!

Касцюк адчуў, як ад гарачыні пачынала шумець у галаве — ён не любіў, каб было не па яго. Кінуў кароткі позірк на Мяцельскага — той насупіўся, гатовы стаяць да канца. Касцюк падсунуў да сябе прынесеную сакратаркай папку з паперамі, як мага спакойна сказаў:

— Не гарачыся, Васіль Сямёнавіч, каб было за што.

Мяцельскі стрэліў вачыма на сакратара. Урэшце, сустрэць гэтую дэлегацыю невялікі клопат. Але нейкі чорт сядзеў сёння ў ім і не дазваляў пагадзіцца. Мяцельскі ведаў, што Касцюк можа адступіць, але не забудзе гэтага ніколі. Калі згадзіцца на прапанову, то можна выпрасіць асфальту на пару кіламетраў, каб давесці да ладу гравійку. Ці гэта ад злосці і рэўнасці да маладзейшых калег, якія ахвотна згаджаліся праводзіць у сябе і розныя семінары, і нарады? А пад іх выбіваюць і фонды на тэхніку, і дэпутацкія званні, і машынныя двары парабілі, і пасёлкі пабудавалі, нават кандыдацкія дысертацыі абараняюць. Усё, што такія, як Мяцельскі, гадамі нажывалі сваім мазалём. Зрабілі з іх паказ, няхай там і паказваюць. Хопіць з яго і сельгасакадэміі, якую агораў завочна найбольш з-за таго, каб не псаваць раённую статыстыку.

Касцюк працягнуў руку, узяў з вазачкі аловак. Першая хваля гарачнасці прайшла. Урэшце, якая розніца, дзе сустрэнуць гэтую дэлегацыю. Яго пытанне вырашана, засталося пару фармальнасцей. Пасада намесніка міністра не горшае, што можа свяціць раённаму кіраўніку, які заседзеўся. Наверсе будуць рады, калі дэлегацыя трапіць у надзейную, «абкатаную» гаспадарку. Але чаму ён успомніў пра Мяцельскага? Такіх, як ён, большасць. Яны даюць і мяса, і малако, хоць не навідавоку і не грымяць, яны навучыліся жыць і выжываць.

Касцюк кінуў аловак у вазачку, і ён глуха стукнуў аб пластмасавае дно.

— Не хочаш — як хочаш! Калгас справа дабравольная. Я хацеў як лепш.

Сакратар устаў, даў зразумець, што гаворка скончана. Мяцельскі спакойна падаў руку. Касцюк глядзеў услед старшыні і ўпершыню заўважыў, што ў Мяцельскага цяж-

кая старэчая паходка. І падумаў пра тое, што ён рабіў, кіраваў тут і ведаў: пойдзе адсюль далей, будзе ў горадзе дажываць. А Мяцельскі, калі пачынаў, і цяпер ведае іншае — на месцы будзе да канца, і нават пасля смерці астанецца там, дзе пражыў.

Коратка і патрабавальна зазваніў тэлефон. Касцюк узяў трубку.

— А, дзень добры. Вырашана, будзем прымаць у «Кастрычніку»? Усё ў парадку будзе. Вялікая дэлегацыя? Сем чалавек... Ну, гэта не рэспубліканскі семінар.

Мяцельскі тым часам выйшаў з прыёмнай, спусціўся на першы паверх, выйшаў у невялікі скверык перад райкомам, перайшоў вуліцу да стаянкі машын.

— Здароў, Мяцельскі! Што нос апусціў? Падліў газы першы?

Сухі ішоў насустрач Мяцельскаму і ўсміхаўся, здалёк падаваў руку для прывітання. Прозвішча сваё ён апраўдваў: вастраносы, лысы і тонкі, ён падскокваў, як верабей. Равеснік Мяцельскага, калгас вечны «серадняк», на пясочках. Прывык, што начальства больш крытыкавала, чым хваліла, таму яго і баяўся, перад выклікам хваляваўся і тым, хто выйшаў з начальніцкага кабінета, спачуваў шчыра.

— Здароў, Сухі. Чаго тут скачаш?

— А Свісцёлік мой недзе закруціўся. Во гарыць шкура. Мо дзе ўжэ прадаўшчыцу ў падсобцы шчупае. Каб яго ўжэ ажаніць як...

Свайго жулікаватага шафёра Толіка Сухі інакш і не называў, як Свісцёлік. Гэтакі ж шустры, як і яго начальнік, Толік то спазняўся, то некуды спяшаў.

— Мо па «Арбіту» табе паехаў?

— І да цябе дайшло. Апазорыў на старасць на ўвесь раён. Сёння і Касцюк не лае, а смяецца, як сустрэў. Пайшлі ў рэстаран, па бакалу піва вып'ем!..

Сухому не стаялася на месцы. Мяцельскаму таксама захацелася піць, але ісці і слухаць скаргі Сухога на начальства сёння не было жадання. Ды якраз аб'явіўся і Толік, тармазнуў гэтак, што ветрам знесла пыл на старшынь.

— Рызіну новую паставіў, дык трэба жыўцом драць? Дзе быў, курашчуп няшчасны? Я тут стаю, чакаю!..

— Я ў магазін...— прывычна пачаў апраўдвацца Толік, але Сухі яго не слухаў:

— Найдзі ты яму, Мяцельскі, дзе якую стрэмку, каб яйца ўшчаміў. Дык вып'ем?

— Я ж не п'ю.

— Ну, як знаеш. Паехалі, Свісцёлік!

Шафёр падміргнуў Мяцельскаму, узяў з месца рыўком — Сухі любіў, каб яго вазілі з форсам, і за гэта цаніў свайго Свісцёліка, пра якога з ягоным старшынёй па раёне хадзілі і былі, і небыліцы. Апошняя быль была такая. Вясною Сухі вазіў па калгасе сакратара Ігнатаву, дзябёлую старую дзеўку, якая правярала, як ідзе падрыхтоўка да пасяўной.

Захацелася Ігнатавай і ў самую далёкую вёску, дзе адны пенсіянеры асталіся. Пенсіянеркі перабіралі ў капцы на пагорку бульбу. Сухому за час язды з яго хворымі ныркамі было зусім неўмагату, а Ігнатавай захацелася пагаварыць са старымі, распытацца, як жывуць. Ад злосці Сухі бубніў на свайго Свісцёлкіна, што ў машыне не аказалася ніводнай цыгарэты.

Як толькі спыніліся ля капцоў і Ігнатава пайшла да баб, Сухі адразу ж прытуліўся за сваім «козлікам» ля задняга кола. І толькі ўздыхнуў з палёгкай, як машына ўзяла з месца і ён астаўся з бабамі і Ігнатавай сам-насам са сваёй работай, якую ўжо спыніць не мог. Ад разгубленасці і злосці ён не здагадаўся нават адвярнуцца, а соваў услед машыне фігу і прыгаворваў:

— Во табе, Свісцёлік, во табе!..

Успамінаючы гэта ў машыне, Мяцельскі засмяяўся, і шафёр запытаў:

— Чаго гэта вы, Сямёнавіч!

— Успомніў, як Свісцёлік Сухому па цыгарэты паехаў... А ці можна дзе халоднага піва выпіць?

— Зробім. На піўзавод закруцімся.

У буфеце было надзіва немнагалюдна. Мяцельскі залпам выпіў палову куфля, адарваўся ад пітва і адчуў у роце толькі горыч. Піць больш не хацелася.

Іван, які за многа гадоў ведаў Мяцельскага, прывык і да яго маўчання, і да гаварлівасці, заўважыў, што сёння старшыня не такі, як звычайна. Занадта ўжо не адводзіў вачэй ад палявой далечыні, ад пшанічных і ячменных палеткаў, між якіх раптам у далінах адкрываліся роўныя сталы затравянелых калектараў на былых балотных нізінах. Да дарогі са збажыны вытыркаліся бледныя кветкі валошкі, жаўцеліся вочкамі рамонкі, і першымі пяшчотнымі пялёсткамі пачынала зацвітаць кастлявая цыкорыя. Над дарогай

стаяў дух збажыны і пылу. Старшыня прагна ўцягваў у сябе гэты водар і, здавалася, смакаваў яго.

Ён крыху ажывіўся, калі прыехалі на свае палі. Вярнуўся аднекуль здалёку, акідаў іх вокам.

На цэнтральнай сядзібе Іван збавіў хуткасць, ведаў, што старшыня хоць на некалькі хвілін павінен забегчы ў кантору.

— Давай дадому,— папрасіў Мяцельскі і быццам апраўдаўся:— Абед, няма нікога ў канторы.

Ля дому Іван спытаўся:

— У колькі прыехаць?

— Прыязджай у чатыры.

Мяцельскі з палёгкай ступіў у вулачку, якая вяла да двара, у шырокі, спрадвечны цень ад старога вяза, на хаду зняў пінжак, узяў пад паху. Амаль у два абхваты вяз, расшчэплены маланкай, цяпер выгніў дуплом, у якое і чалавек у рост можа стаць, а тоўстая абалонь трымала раскідзістыя шаты. Суседзі гаварылі Мяцельскаму, што вяз трэба спілаваць, пакуль не рухнуў і не разламаў хату. Гаварылі гадоў з дзесяць, а вяз стаіць, трывае і ў зімовыя, і ў вясновыя буры. Мяцельскі падумаў, што трэба прабіць у дупле дзірку ў зямлю, паставіць арматуру, забетаніраваць, і тады дрэва прастаіць яшчэ столькі, колькі прастаяла. Рукі толькі не даходзілі.

Дома не было нікога. Зайшоў у свой пакойчык, невялікі, адгароджаны дошкамі ад ложкаў, дзе спалі з жонкай. Тут усяго і месціліся канапа, столік і кнігі на паліцы. Пакойчык гэты выгарадзіў сабе, калі вучыўся завочна і трэба было сядзець начамі. І любіў прылегчы ў ім і цяпер адпачыць ці пачытаць.

Адчыніў акно, прыцененае рабінкай, на якой ужо асмужыліся і зацяжэлі гронкі. Нагнуўся зняць чаравікі і адчуў у грудзях пад сэрцам тоненькі, але пякучы боль. І адтуль слабасць расцяклася па ўсім целе. Прыслухоўваючыся да сябе, паволі прылёг на канапу. Ён ведаў гэты боль — асколачак ад нямецкае міны, чорны вузялок на рэнтгенаўскім здымку. Ён не зямніўся больш чым за сорак гадоў.

Заснуў Мяцельскі незаўважна цяжкім сном, як спіцца на дождж, і прачнуўся а палове чацвёртай — уключыўся ўнутраны старшынёўскі будзільнік, які пакуль што ніколі не даваў збою.

Болю не было, нібы і сасніўся ён. На кухні спаласнуў твар пад кранам, разагрэў абед.

Іван, які прыехаў у чатыры гадзіны, убачыў Мяцельскага

гэтакім жа, як і заўсёды, а калі прывёз у кантору, паехаў шукаць інжынера па будаўніцтве, якому Мяцельскі загадаў тэрмінова заняцца ўмацаваннем старога вяза.

## 7

У жыцці, на нейкім пераломе яго, чалавек як бы заварочвае назад, і нібы галоўным клопатам становіцца яшчэ раз прайсці пражытае. Можа, таму гэтакімі кароткімі на сон робяцца старэчыя ночы. Усё думае, думае чалавек пра тое, што было, і пра тое, што ёсць цяпер,— і сіліцца звязаць усё ў адно, разгадаць вечную загадку жыцця, і, мабыць, не прызнаючыся самому сабе, з сумотаю і болем, што хутка, хутка...

Цётка Люба, як прывычна звалі ее ў вёсцы і цяпер, хоць даўно ўжо прамінуў «цётчын» узрост, прабабчын прыйшоў, уздыхнула, прыслухалася да ціхае начное хаты. Звечара яна засынала і недзе запаўнач спала моцна, як спіць натомлены чалавек. Каб на маладзейшыя гады, смешна было б сказаць, што нарабілася: работы тае і было што падаіць карову, адно свінчо накарміць і яшчэ курам пасыпаць. Ну, папароцца ў градах на агародзе. Бабіна дарога з печы да парога, але і яна ўжо цяжкая.

Старая прыслухалася, і ёй здалося, што хата, складзеная са стрыжнявога дрэва, звініць ціхім звонам. Ці гэта ад цішыні звініла ў вушах, але тоненька, хораша.

І гэты звон нечым напамінаў далёкі жаўранкаў спеў над полем, не аднаго, а калі многа іх угары звоніць у паветры. І нешта было ў ім і ад перапёлчынага тамлівага, неспакойнага і палявога перапеву. Як тады, калі яна жала ў Крыніцы дапазна, з Тэкляю, малодшаю сястрой. Ад алешніку, якім ураслі крыніцы, павявала халадком, і жалася лёгка, цёпла клалася ў руку жытнёвая салома, і яны наўзахваткі, адна перад адною, жалі радасна, усцешаныя, што асталіся на ноч, не пайшлі дадому і што назаўтра будуць наперадзе ўсіх. Але хутка схавалася сонца, і зусім сцямнела.

— От каб месяц быў, мы з табою яшчэ б гэтулькі нажалі!

Тэкля выпрасталася, уперла рукі на клубы, пацягнулася, выгнула натруджаную паясніцу. Тоненькая, маладзенькая, дзіця яшчэ, белавалосая, у вышыванай кашулі, з сярпом, які на плячы цьмяна бліснуў. У якім куточку памяці збярогся гэты сястрын здымачак?

— Табе здаецца. А назаўтра не разагнуцца будзе. Лепш

прыдрэмлем, ранічкою ўстанем, то, можа, і дажнём да вечара...

Вячэралі на снапах, па кавалачку сала было, квасам запівалі. І неяк адразу ж аціхала Тэкля, разамлела і задрамала на снапах, і яна таксама пачала ўмошчвацца поруч, каб акрыцца адною світкаю. Але ёй здалося, што недзе, над ціхім полем, за мэндлікамі, чуваць нечыя галасы. Яна наструнілася, прыслухалася. Здалося, што шорхнула пад нагамі ржышча. Яшчэ паслухала, устала, нячутна, як мышка, праслізнула за мэндлік. Моцна тухкала сэрца — пакуль ішла да схованкі, чутно было, што гаварылі хлопцы. Сама не ведаючы чаму не хаваецца, не прытойваецца, яна перайшла да другога мэндліка. Ну, каб хто з жанок застаўся жаць, а то чаго мужчыны тут ночы будуць? Горача было ў грудзях, мякка туліліся коцікі да ног. Зайшло сонца, святлела толькі ў тым краі, біла, званіла ў свой званок нястомная перапёлка. І звінела аж у скронях кроў. Нешта вяло і вяло яе далей, далей. І не магла растлумачыць што, не магла спыніцца. І выйшла ў канец поля, да сенажаці, якая пераходзіла ў куп'істае балота, якое цягнула аж да рэчкі.

Звінела перапёлка, паціху супакоілася сэрца, і чамусьці смутна і горка стала, што няма нікога. І ўжо крыўда на долю, на сіроцтва, на беднасць і нават на маці, якая прымушае іх тут начаваць. Стомлена, бо балела ўсё цела, пайшла назад.

Старая Люба прахапілася са сну, быццам нехта пачуў яе мрою і мог падслухаць, што нядобра падумала пра маці.

Божа, і трэба чалавеку памятаць такое да гэтае пары! Даўно няма маці, паўміралі сёстры.

Старая ведала, што ўжо больш спаць не зможа, калі растурбавалася гэтак сярод ночы, уздыхнула. Цяпер лепш, каб настроіць сябе ўспамінаць добрае: тое, як гулялі дзяўчатамі, тыя вяселлі, вячоркі з прасніцамі. І адразу ж у памяці выплыў Антось, у кажушку з аблямоўкаю, з чубам над вачыма, зімняя ноч, месяц, як ён дагнаў яе, паваліў на смех пад піск і рогат дзяўчат і пацалаваў. Зноў нібыта засаромелася памяць, спатыкнулася. Паўвеку прайшло, як зямлю касцьмі парыць, дзяцей трое на яе пакінуў. От каб цяпер падняць яго, паказаць, як жывуць. Каб і выпусціў з таго свету, то не пазнаў бы чалавек, дзе ён і куды трапіў, падумаў бы, што ў рай перапхнулі. Старая ўсміхнулася. Але да гэтага раю дажыць было. Дзіва толькі, што з памяці і з душы жыццё гэтае не выбіла памяць пра тыя песні, пра

тую маладосць — кароткую, як сонечны зайчык, светлую плямку ў жыцці.

Нечаму, як успамінала пра тое, пачынала кружыцца галава, і нешта засціла вочы. Гэтак бывала тады, калі пухла з голаду. Здалося, што і цяпер ляжыць на палку, пад коўдраю-падбіванкаю з кудзелі, ужо злямчаную за зіму. Усё плыве, плыве ўваччу. Плача Ян, тады маленькі яшчэ, галодны. Лучына гарыць. Газоўкі нават не мела. Слаба, як з-пад вады, чула: дзверы грукнулі, павіталіся ў хату:

— Ве-ечар добры! Але ж і лядоўня ў цябе!

Яна нічога не адказала на прывітанне.

— Гэта я гляджу, што цябе нідзе не відно... Дай, думаю, зайду, адведаю. Занядужала, ці што?..

— От ляжу... Як прайду крыху, галава кругам ідзе, ні рукі, ні ногі не служаць.

Суседка прайшла, прысела на ложку.

— Дак ты ж, бадай, пухнуць пачала. Ось яно што! Я бо думаю... Як жа гэта ты з дзецьмі так? Што ж ты рабіць будзеш?

Яна не магла гаварыць, туманілася ў галаве, заплюшчваліся вочы.

Волька яшчэ патапталася, пабожкала.

Калі Люба ачнулася зноў, старэйшая яе, Маня, паліла ў печы. Тут жа тупала Волька, памагала ёй. Пасля яны кармілі яе рэдзенькаю падкалоткаю з мукі, зашчымленаю. І маленькі збаночак Волька прынесла.

— Як жа гэта ты з дзецьмі так дапусцілася. Яны-то нічога, а сама гэтак... А што ж яны без цябе? Прападуць.

— Гэта ж я некалі Хранусісе пяцярык давала, як пашню пазычала. Яна мне яшчэ мяшок вінна. Але вот не аддае. А я і думала. Пайшла, а яна на мяне з вілкамі — вочы выму. І Хранусь з-за стала ўстаў: «Кхэ-кхэ, галубка, пра які ты пяцярык? Не чапіся без толку, каб горшага граху не было, кхэ-кхэ». Плакала я і галасіла, а што ты з праціўным зробіш? Зловіць — заб'е, абязвечыць. Хто ж за мяне заступіцца...

— То хай бы Тэкля твая хоць што перакінула дзецям. Сястра ж, не чужая.

— І ў яе хата дзяўчат.

— Хата-то хата, але ж ён з сякераю, і падзаробіць, і гаспадарку мае. Я-то ёй выгавару. А табе на чорта было гэта будаўніцтва ўшчыняць? Хай бы дзеці падняліся. А то ні каровы, ні таго свінчаці. Як жа ты іх пагадуеш? На чорта

тады табе і гэтая хата будзе, што ты сама дзерава з лесу цягаеш...

— Трэба ж неяк агораць, а то гэтая возьме і паваліцца. Памогуць мо і сестрыны, і той жа Змітрык.

Люба выслабанілася з-пад падбіванкі.

— Ты ўжэ паляжы троха і сама еш. Я табе там крыху мукі прынесла і здору скрутачак. Сама троху еш, не толькі дзецям давай. І майму ж праціўнаму нічога не кажы, ты ж яго ведаеш. А ты, Манечка, не хадзі к нам больш плот на дровы ламаць, бо мой ужэ прыцікаваў, то не хадзі лепш у наш.

Яна паглядзела на старэйшую, на Маню. Дроў таксама не было пад весну, і Маня хадзіла красці дровы альбо ламаць платы.

— Не пайду,— панура буркнула Маня...

Старая Люба ляжала, глядзела ў столь. У вачах усё мітусіўся той чырвоны, на чорным агарку лучыны агеньчык, і ад яго веяла не цяплом, а холадам старое, гнілое хаткі. Яна павяла рукою перад тварам, нібыта здымала, адганяла ад сябе тую здань, якая жыве разам з ёю. І каб зусім адкаснуцца ад усяго, паволі ўстала з ложка, выйшла ў чыстую хату, пастаяла.

Роўна пагрукваў на сцяне вялікі з жоўтым маятнікам гадзіннік, чорным вокам глядзеў з покуці тэлевізар, адбліскваЛі дзверцы паліраванае шафы.

Падышла да акна, паглядзела цераз вуліцу. За густым бэзам, бярозаю і ліпаю, што нізка вісела веццем над варотцамі, і не відно было Вольчынае хаты. Плот, яшчэ не цяперашні, коланы з круглякоў, ледзьве відзён быў на зеляніне прысадаў. Каторы ўжо год, як памерла Волька, чужыя людзі жывуць у яе хаце.

Старая Люба ўссунула на ногі тапачкі, мяккія, растоптаныя, выйшла на двор, пастаяла на цэментавых прыступках веранды.

На небе ўставала далёкая ранішняя яснасць, і неяк зашарэла, запалавела ноч, і зоркі, якія яна бачыла ўжо слабенька, як расінкі, відны былі высока і рэдка. Цяплом павявала зямля. Не астывала яна за ноч, толькі крыху засмучаная расою і халадком дзе на нізінках ці ў зацішных сырых мясцінах. Вільготная свежасць ішла і ад саду, ад густое, лапушыстае канюшыны над ім.

Старая пастаяла, нібы хацела прыдумаць, што ўзяцца ра-

біць. Уздумала старая баба, выпаўзла ночы з хаты на двор і стаіць. Карову даіць рана яшчэ.

Яна вярнулася ў веранду, прычыніла за сабою дзверы, зірнула на газавую пліту, на якой стаяла цяперашняя, белая, з накрыўкаю скаварада, і гэтакі ж чайнік.

І ўсміхнулася сама з сябе. Спіць спакойна вёска. Кузні і тае ўжо няма. На тым месцы, дзе яна стаяла, толькі вялікае каменнае кола ляжыць з дзіркаю ўсярэдзіне, на якім нацягвалі шыны на абады, ды кучка гліны і шлаку там, дзе быў горан. Няма тых кавалёў, што ўмелі рабіць і зубіць сярпы. Думка спатыкнулася на тым, што і жней ужо няма. Цяпер хто пойдзе жаць? Маладзейшыя ніколі не жалі і не ўмеюць. Цяпер ў жніво і людзей нідзе не ўбачыш у полі, не гэтак, як некалі. Толькі і відно, як стаяць у полі, нібы горы, гарбатыя камбайны.

Старая памацала кран на балоне — ці закручаны. Адзін клопат у яе — накарміць Яна. Мо ўжо гадоў дваццаць выпраўляе на работу. Механізатары цяпер і пааруць, і пасеюць, і пажнуць, і памалоцяць, і звязуць — усё мужчыны, не жанкі. І бульбу пасадзяць, і дагледзяць, ужо і на кароўніках, і на свінарніках на пастаяннай рабоце мужчыны. Ці ж гэта можна цяпер жанкам казаць, што цяжка? Грэх казаць. І дзяцей больш за двух баяцца нарадзіць. Хоць бы дзяцей раджалі, гадавалі, мужчын глядзелі. Жанкі выжылі і ў вайну, а колькі мужчын паклалі там? І цяпер з імі ўсякага бывае, і гарэлка гэтая губіць. Жанкам трэба глядзець мужчын, шанаваць. Яна век пражыла без мужчыны, яна ведае. І была крыўда на Мар'ю, што вось так, яшчэ здаровая баба, села на пенсію, ніякае работы не хоча, і Яна не глядзіць. Сабралася і паехала да Веры, малую даглядае. Сама работа ў вёсцы. Яна, маці, не вечная, колькі ёй за ім глядзець і пыніць яго. А трэба і памыць, і зашыць, што ж гэта ён, як салдат, усё сам і сам. З малых год у рабоце, і касіць, і араць не ў пару пайшоў за плугам. Баялася, што ад нястачы, ад цяжкае работы закажанее, не вырасце... Вырас, падняўся. Яшчэ падлеткам і ў партызанах з вінтоўкаю папахадзіў, а пасля і на фронт трапіў. Пабіты, ледзьве душа ў целе, але жывы вярнуўся...

У тую ноч ёй другі раз сасніўся адзін і той жа сон. Першы раз ён сасніўся перад тым, як яна сабралася і паехала ў партызаны. Сон прыгожа пачынаўся. Раніца сонечная, пасля дождажыка, першая травіца зазелянела. І на

вербах цераз грэблю вызубіліся зялёныя лісцікі. Яны дзяўчаткамі яшчэ ішлі гуртам у цэркаў на вербную нядзелю. І ў ранішнім сонцы, як толькі ўзышлі на горку перад Баслаўцамі, угледзелі: ззяў золатам на сонцы купал. І галоўнае ў сне было — святочнасць і радасць, нібы пеўчыя з неба спявалі хорам. Потым, калі ўжо зусім падышла да царквы, чамусьці адна засталася Люба. І дзіўна, што нікога не чуваць і не відаць. Як пахаваліся ўсё роўна людзі. Тады яна занепакоена азірнулася навокал — нікога не відаць. А людзі ж не прапалі, людзі толькі нечага схаваліся. І ў самой царкве нешта змянілася, зблізку не сталася залатога ззяння. І тут яна нечакана ўгледзела вялікі стары кош, які вісеў над дзвярыма ў царкву. З каша тырчала пацямнелая старая салома. У кашы сядзела вялікая рабая курыца, амаль чорная, толькі крапінкі невялічкія беленькія. Нахіліла галаў з прымарожаным грэбенем на адзін бок і глядзела на Любу адным вокам, не маргала. Яна адчула, як пахаладзела спіна, памкнулася адступіць, але ногі не слухаліся. Раптам вяроўка, якой быў падвязаны кош, лопнула, курыца залапацела крыллем, спалохана закрычала, а кош шумнуўся на зямлю, яйкі, якія былі ў ім, гэтакія ж, як і курыца, амаль што чорныя, рассыпаліся, і з іх павыскаквалі і шыбанулі ў розныя бакі маленькія пацучкі.

А над уваходам у царкву, там дзе толькі што вісеў кош, заззяла срэбным акладам ікона. І гэтак паволі паварочвалася, паварочвалася на залачоным шнурочку, павярнулася да Любы тварам і засвяцілася на сонцы, аж заблішчала ў вочы...

Ад гэтага святла старая Люба прачнулася. Была раніца, пачынала днець. Другі дзень на вялікдзень.

Ляжала і дзівілася сама сабе, што наноў сасніла той ваенны сон. Яна яго разгадала тады па-свойму: што не будзе немец, калі паляцела з гнязда чорная курыца, а пацукі разбегліся ва ўсе бакі. Іконка засвяцілася і тварам павярнулася. Гэта быў тады знак, што не запануюць тут чужыя. І яшчэ, што трэба ёй уцякаць ад тых пацукоў, якія разбегліся навокал. Гэтак яна і ў партызанах гаварыла жанкам.

І вось сон гэты сасніўся ў другі раз ужо пасля вайны. Яна ўстала з пасцелі і толькі тады зразумела, адкуль трывога пасялілася ў сэрцы — Ян яшчэ не прыйшоў дадому. Хаця турбавацца не было чаго, не дзіця, ды і ведала, што з Марыяй Хоцькавых ён.

Усё ж устала, памылася, адзелася, падрыхтавалася за-

паліць у печы і гатаваць снеданне. І ўгледзела, што з вуліцы ў двор ішла старая Хоцьчыха.

Было чутно на дварэ, як яна асцярожна памацала дзверы ў сенцы, адчыніла іх, потым знайшла клямку дзвярэй у хату, прачыніла іх і спыталася з-за парога:

— Можна ў хату?

— Заходзь, Анця, заходзь,— запрасіла Люба.

— То дзень добры ў хату. Хрыстос уваскрэс!

— Ва ісціну васкрэс! — адказала Люба і паказала на лаву за сталом насупраць, каб садзілася.— Нешта ж ты рана да мяне ў госці.

— Яно мо і рана, але рана лепш, чым позна. Я думала спачатку — няхай маладыя, як устануць, самі да цябе прыйдуць. А потым раздумалася — а нашто? Самі мы з табой лепш пагаворым. Дзеўка ж мая спраўная, чаго ім не жаніцца? Ужо ж больш года ходзяцца. Пакуль работа не пачалася, і вяселле трэба зрабіць. Ці ты супроць?

Што ўсё гэта так, Люба ведала. Ведала, што трэба жаніцца Яну, што дзеўку ён выбраў спраўную, здаровую, рабацяшчую. Нічога благога не скажаш. Толькі чамусьці халадна стала пад сэрцам і сціснулася яно, як і тады, калі там, у партызанах, упершыню ўбачыла яго з вінтоўкай. Ведала, куды едуць, але, калі ўбачыла з вінтоўкай, сцялася сэрца, а з вачэй пацяклі слёзы, усё роўна як забіралі яго ад яе назаўсёды. І цяпер гэтае ж самае адчуванне.

— А ты з імі гаварыла, Анця? — толькі і знайшлася што запытацца.

— А што ж я з імі, мая залатая, гаварыць буду?

Хоцьчыха ўжо аслухалася ў хаце, ямчэй уселася на лаву.

— Я гэтак падумала, мая залатая, калі мы з табою дагаворымся, то і яны не супраць будуць. Я гэтак думаю, што як бы там гора не было і бедна, але ж пачостку мы ім зробім, хоць невялікую. Ведаю, што вяселле нам не выцягнуць, і цягнуць мы яго не будзем. У цябе падсвіначак ёсць, у мяне старога яшчэ сала хапае. А самагонкі я сама наганю. І зробім у мяне ў хаце. Няхай і людзі будуць, і гармонік пайграе.

Усё правільна гаварыла разумная і хітрая Хоцьчыха, не заікалася, што маладыя ў яе хаце жыць будуць. Ну не ў Любіну ж хату ім лезці. А маці Люба адчувала, што сына ў яе забіраюць, што ў хаце сваёй, якую яна агорвала, астанецца адна і слова не будзе да каго сказаць. Можа, ад гэтага і халадзела сэрца.

— Ну, а работу табе парабіць, вядома ж, і ён паможа;

і ўсе разам зробім. Гаспадарку цяпер трымаць трэба, куды ж без яе. Гаспадарка трэба, каб і абжыцца, каб і жыць. А як жа...

Анця яшчэ пасядзела крыху, парасказвала, як яна мяркуе, каб маладым жылося, а потым заспяшалася:

— Пайду, трэба каб уставалі. Няма чаго, каб усе глядзелі, што Ян раніцай ад нас ідзе.

Маці Люба сядзела за сталом, чакала, пакуль вернецца Ян, і не чула, што па шчоках цякуць слёзы. І ёй успаміналася, як вярнулася яна дадому з партызанаў. Каня ў атрадзе далі ім, нейкага падбітага, заморанага, пакінутага армейскімі абознікамі. І карова іхняя вярталася, ішла назад следам за возам. Душна было, спякотна, і конік быў увесь мокры ад поту і ледзьве цягнуў воз. Гэта пасля ён акрыяў, крыху адкарміўся, адгуляўся і нават плуг цягаў у калгасе.

А ёй хацелася дадому. Каб не Янка побач, здаецца б, кінула і каня, пабегла б паперадзе бягом. Гэтак хацелася дадому. А дарога доўжылася, асабліва апошні кіламетр на Касой дарозе, пакуль з лагчыны падымаліся на ўзгорак і конік прыпыняўся ад знямогі.

Яна падварушвала яго ляйчынай, падахвочвала:

— Но-но, маленькі, но!

А з узгорка вёска адкрылася гэтакай, як і была. Быццам нічога і не змянілася. Высіліся шатамі на былой панскай сядзібе векавыя ліпы, на беразе ў Федзевых чарнелася вялікая шапка буслінага гнязда. І сады тыя ж самыя ў людзей, і вішняк. Як нічога і не было.

Тут на пагорку яна спыніла каня, каб аддыхаўся, каб хапіла ў яго сілы дайсці вуліцаю да хаты. І на Яна паглядзела, нават прыкрыкнула, каб крыху зашпіліўся. Нейкую праvату сваю і нібы перамогу адчувала яна тады і радасць за тое, што не асталася сядзець пад немцам, што падалася ў партызаны і што цяпер вяртаецца адтуль.

Жанкі выходзілі на вуліцы вітацца. Хто плакаў ад радасці, а хто чамусьці і няёмка сябе адчуваў. А яна рада была ўсім.

А потым угледзела і сваю хату, якая здалася зусім маленькай, урослы зеллем двор. Ушчэнт выламаны і спалены на дровы плот, павыбіваны шыбы ў вокнах. За гэтыя гады, пакуль яна не была, хата нібыта асела ў зямлю.

Замка, які вешала яна на дзвярах ад'язджаючы, таксама не было. Дзверы ў хату расчынены насцеж, і з сянец, і з хаты нават у летнюю спякоту патыхнула пахам варыўні,

у якую носяць на ноч вуголле. У хаце закураныя, чорныя, як у кузні, столь, сцены. І гола. Толькі на покуці нечакана вялікі стол, ля сцяны ложак, драўляны, роблены яшчэ самім Іванам. Чамусьці яго не разламалі і не спалілі.

Як у тумане выйшла яна з хаты, села на парозе і нічога не бачыла за слязьмі, здавалася, што чарната на свеце, як тая сажа на столі. Ян стаяў на дварэ пры кані, глядзеў на маці, чамусьці пацягнуў за папругу і зняў з пляча вінтоўку, узяў яе ў рукі, нібы зброя магла дапамагчы.

Яна перасіліла сябе, устала з парога і папрасіла:

— Дай мне з клунка ікону. Яна там, зверху.

Забрала ікону, зайшла ў хату, узлезла на стол і павесіла на покуці.

Калі выйшла на двор, угледзела суседку. Волька цяжка ішла ёй насустрач, абняла, заплакала:

— Нічога, жывая асталася, то і абжывешся. Не ўсё прапала. Я пасуду тваю ўзяла, і радня разабрала тваё дабро. Вернуць людзі дробязь. А зараз пайшлі да мяне, пад'ешце з дарогі. А тады я жанок пазаву, і хату пойдзем табе адмыем...

— А яе што, палілі?

— Ніхто не паліў. Самагонку гналі. Гэта Жыгар, мабыць, адчуў, што ты вернешся, забраў апарат, а так ён тут і стаяў. Па чарзе тут бровар рабілі.

Вечарам яны заснулі з Янам у сваёй хаце, на сваім ложку, на матрацы, напханым свежым сенам.

Праз два дні Яну трэба было ісці на зборны пункт, адтуль на фронт, а ёй — пачынаць жыць з нічога. Праўда, начамі пачалі падкідаць, вярталі людзі то сахор, то цэп, то цабэрак, то табурэтку.

Старая схамянулася: з пляца, садам, нехта ішоў да хлява. Яна адхіліла рукою гардзіну, прыгледзелася. Ян ішоў, шырока, лёгка, як малады саўсім, прыгнуўся пад нізкую яблыневую галіну, перад хлеўчыкам прыпыніўся, азірнуўся, і старая апусціла гардзіну, адхілілася — спалохалася, што угледзіць яе.

Бачыла, як зайшоў у хляўчук, дзе спаў летам на сене. Нашто гэта яму? Стары чалавек, унучку ўжо мае. Што ён сабе думае!

Старая ткнулася ў хату, пастаяла, не ведаючы, што рабіць і чым забавіцца. Аставалася толькі чакаць, пакуль даіць карову, выганяць яе на пашу, пасля пабудзіць Яна... І крыху са злосцю думала пра нявестку, што так ёй і трэба, што каб другі, то даўно гэтак бы рабіў.

У роздуме прысела на крэсла ў хаце, паклала рукі на калені і гэтак і сядзела, пакуль першы сонечны праменьчык не праблікнуў у акно.

Ёй гэтак хацелася ўсё жыццё, каб у хаце заўсёды было шчасце, радасць і лад.

## 8

Ян памятаў на гэтым месцы толькі падмурак з камення. Падмурак урос быльнягом, лебядой, дзядамі. Чамусьці зелле любіць бушаваць на былым чалавечым котлішчы. Варта чалавеку толькі пакінуць жытло, як цераз годдва двор зарастае. Над падмуркам улетку мядова цвілі і пахлі на ўсю вёску векавыя ліпы. Мабыць, яшчэ дзяды ці прадзеды пана Чэчкі садзілі гэтыя прысады. Ян ніколі не цікавіўся, але чуў ад маці, што род пана Чэчкі даўні і багаты, і апошні збяднелы пан з яго дажываў век у іхнім маёнтачку. Знакаміты пан Чэчка быў яшчэ і тым, што яму выбілі вока. Тут, у лагчыне, за маёнткам у крыніцах. Невядома на каго нарваўся гэты даволі бяскрыўдны пан, але мужчына патырчакай гэтак папусціў у яго, што трапіў у вока і яно потым выцекла. Пасля гэтага здарэння засталася звязаная з панам Чэчкам у народзе прымаўка: «У цябе напагатове, як у пана Чэчкі». А справа ў тым, што калі той чалавек напаў на пана, то пан стрэліў з нагана, які ён насіў заўсёды з сабою. Але насіў у кішэні загорнутым у хусцінку, і таму пакуль дастаў і раскруціў, не толькі вока пану можна было выбіць, але і без галавы пакінуць.

Пана Чэчкі пасля рэвалюцыі не чапалі, праўда, гарлапаны накшталт старога Кіршчэні і трох братоў Баласёў, гэтаксама гультаёў і беззямельнікаў, памыкаліся распатрашыць пана. Людзі не далі і добра зрабілі, бо потым прыйшлі палякі, і тым, хто сваіх паноў патрашыў, крывёй рыгнуць давялося. Аднак пан Чэчка не астаўся чакаць, пакуль скруцяць яму ўсё ж голаў, а падаўся разам з палякамі, і больш пра яго ні слуху ні духу. Нават з немцамі ніхто не вярнуўся з радні пана Чэчкі. А было ў Заселлі, што вярнуўся сын панаў і загадаў людзям знесці ўсё назад, што некалі цягнулі з панскіх пакояў. І неслі, баяліся ўтаіць. Праўда, як прагналі немцаў і гэты самы панскі сын уцёк з імі, зноў прыйшлі і разнеслі, кожны «сваё», нават не пасварыліся.

Дабро з маёнтка пана Чэчкі пакрысе, употайкі расцягнулі. У гаспадарцы ўсё прыгодзіцца мужыку. І разнеслі, не ведалі толькі, што рабіць з кнігамі, іх у пана было многа,

гарэлі ў печы яны дрэнна, а таму ляжалі на падлозе, бо робленыя з дубовага дрэва шафы таксама паразломлівалі на дровы, а хто ўмеў сталярыць — на палічкі. Кнігі з панскіх пакояў выкінулі і спалілі на двары, калі ў Чэчкавым доме арганізавалася камуна. Цяпер Ян і не ведае, якую назву яна насіла, бо ў народзе і дасюль яе называюць Чэчкавай. У яе з'ехаліся з наваколля тыя, хто не толькі ў тую камуну верыў, але і хто нічога не меў і не надта стараўся рабіць. У адной палавіне жанчыны жылі, у другой мужчыны. На работу строем хадзілі з рэвалюцыйнымі песнямі, вячэралі летам у панскім садзе за адным доўгім сталом, а вечарам ладзілі танцы,і на іх, на гэтыя танцы і спектаклі, збіраліся з усяго наваколля. Лета было ў камунараў вясёлае, першая зіма крыху сумнейшая, бо ўраджай у той год быў не надта, ды і за песнямі, за паходамі з поля на абед і на вячэру, не ўсё як след убралі. Тое, што ім выдзелілі на заснаванне камуны, камунары праядалі, а памнажаць набытак нешта ў іх не атрымоўвалася, ды і пры блізкім сумесным жыцці пачалі скоса паглядаць адзін на аднаго мужчыны, а бабы часам адна адну і за валасы хапалі. Хто больш хітрэйшы, той, пакуль не позна, даў з камуны цягу, усё ж якая б ні была, а свая хаціна і надзельчык зямлі надзейней. Самыя загартаваныя пратрымаліся яшчэ амаль з год, а потым зніклі, і пасля іх зноў ад былога панскага маёнтка засталіся толькі абшарпаныя голыя сцены, вытаптаныя здзічэлыя кусты і хлеў з расчыненымі насцеж варотамі.

Хлеў гэты служыў потым калгасу, у ім была калгасная канюшня. Згарэў хлеў у пачатку вайны, пасля таго як па вёсках пайшла чутка, што немцы калгасы не распускаюць і не даюць разбіраць па дамах калгаснае дабро.

У Стараселлі калгас разабралі хутка. Актывіста Кіршчэні не было, ніякае ўлады таксама, немцы ехаць не спяшаліся сваю ўладу ўзаконьваць. Дзяліў калгас Ванька Адасёў, гуляка, забіяка, рослы, гарбаносы малады мужчына. Ян памятае, як сядзеў ён у канторы за старшынёўскім сталом, падпіты, вясёлы, задаволены сваёй уладай:

— Бальшавікі адбальшавічыліся, а чорту лысаму, які прыйдзе з немцам, пакідаць дабро не будзем! Распісвайся, цётка, забірай сваё дабро. І зямлю падзелім, як да калгасаў.

Ванька дзяліў, седзячы са спіскам, але спісак складаў не ён сам. Гаварылі, што і рахункавод тут прыклаў руку, і стары Мурзік, які аціраўся пры канторы і быў у праўленні, і Жыгар сваё слова падаткнуў. Яно і відно было, што некато-

рым і коні лепшыя, і карова, і збруя. І не толькі ім, але і сваякам іхнім.

Маці не пускала Яна на гэтую дзялёжку, і пайшоў ён па сваё дабро, калі наказалі з канторы, каб прыходзіў.

— Ідзі, калі клічуць. Не па сваёй волі. Пабралі людзі, і ты бяры, не правуйся. Што там будзе, бяры і ідзі ціхенька.

Прававаццa не надта і направуешся з Ванькам. Калі хто спрабаваў заікнуцца, што яго абдзялілі, Ванька гігікаў, ягонае вока драпежна мружылася, і ён раіў:

— А ты ў сельсавет ідзі і на мяне паскардзіся!

Калгас размялі за тры дні, як і не было яго.

А як пайшлі чуткі, што немцы не чапаюць калгасы, заняліся ў ноч пад навальніцу дымам панская канюшня і панскі дом. Ян добра запомніў гэтую рабінавую ноч. Аж слаліся маланкі на самую зямлю, хацелася прыгнуць галаву і зраўняцца з ёй. Не спала ўся вёска не толькі ад навальніцы. Не спала з-за пажару, які заняўся над былым панскім дворышчам. Усе ведалі, што гарыць, але ніхто не біў у рэльсу, ніхто не бег тушыць. Ні гвалту, ні руху ў вёсцы, быццам вымерла яна. Вецер дзьмуў ад вёскі, і таму не страшна было, што яна зоймецца гарэць. Падпальваў разумны чалавек — усё прымеркаваў. І страшней за самую навальніцу, за маланку было гэтае зарыва, якое высвечвала чорныя нізкія хмары над зямлёй. Цяпер, праз многа гадоў, пасля ўсяго бачанага і перажытага, пасля таго, як нагледзеўся, як гараць запаленыя цэлыя вёскі, Ян усё ж найярчэй памятаў той пажар. У яго свядомасці гэта адклалася як пачатак вайны. Вайна пачалася ў іхнім Стараселлі з таго пажару. Бо і маці, якая хадзіла па двары і малілася, паўтарала: «Вот і да нас вайна дайшла!»

Ванька Адасёў, які гэтак заліхвацка дзяліў калгас, потым хадзіў па вуліцы з белай паліцэйскай павязкай, прыгожы, задаволены формай і тым правам, якое яму далі немцы. Уволю было і пад'есці, і выпіць хапала, і жанчыны любілі яго, а паспрабавала б якая не палюбіць.

Ён п'яны часам пагражаў, што ведае, хто падпілаваў мост цераз рэчку. Падпілаваны мост — гэта яшчэ адна прыкмета пачатку вайны у іх. Невядома хто за ноч падпілаваў усе сваі ў мосце над вадой. На кані з возам можна праехаць, але ўжо ні машына, ні тым болей танк па гэтым мосце не пройдзе. А з раёна да вёскі дарога да іх была цераз рэчку, цераз гэты мост, бо іншым шляхам кружыць трэба было далёка. Але ж падпілаваным мостам не адгародзішся ад вайны. Дык вось, п'яны Ванька пагражаў, што ён выведзе на

чыстую ваду дыверсантаў. І, мабыць, нешта ведаў, бо пасля таго як у лясах за полем з'явіліся першыя групы акружэнцаў, як пачалі заяўляцца ноччу нават сюды, у палявую вёску, узброеныя людзі і называць сябе партызанамі, Ваньку Адасёва знайшлі застрэленага. У полі паміж Стараселлем і Азярцом, дзе жыла тады самая Ванькава любоў. Прыпільнавалі яго ля крушні і застрэлілі. І запіску пакінулі на грудзях, яго крывёй напісаную: «Смерть предателю трудового народа». Усё было спісана на партызан, якія прыходзілі з лесу. Толькі як на цяперашні розум, то Ян ведае, што п'яны і пакуль што бяскрыўдны паліцай Ванька тым партызанам не замінаў і не патрэбны ім быў. Забілі Ваньку тыя, хто добра ведаў яго дарогі і хто баяўся таго, што той ведае. А ведаў Ванька тых, хто складаў спіскі на падзел калгаса, можа, ведаў і тых, хто мост падпілаваў, і таму не надта немцы наязджалі ў іхнюю палявую вёску, найбольш свае, паліцаі, на падводах і конна.

Пахавалі Ваньку Адасёва немцы з гонарам, людзей сагналі, на могілках месца выбралі на самым узгорачку. Цяпер ад тае магілы амаль і следу не асталося — ніхто яе не даглядаў і не правіў, але месца вакол пуставала — побач з ім людзі не хацелі хаваць родных.

Пра ўсё гэта думаў Кулеш, рамантуючы дзіцячую пляцоўку на былой панскай сядзібе. Работа няхітрая, і рабіў ён яе з задавальненнем. Пазабіваць дзіркі ў драўляным барабане, паставіць лаўкі, паправіць качэлі. На дзіцячую пляцоўку зазіралі не толькі садзікавыя дзеткі, але і мясцовыя школьнікі. Ды і пасля таго, як зрабілі гэтую пляцоўку, яе, мабыць, ніхто не рамантаваў. Ян падумаў, што, на добры лад, трэба будзе пасля рамонту выпісаць на складзе фарбы і перад выхаднымі днямі пафарбаваць. Як прыедзе ў госці ўнучка, таксама можна будзе прывезці яе сюды пагуляць, хаця гарадскія дзеці па гэтакіх гульнях не сумуюць.

Адрамантаваць дзіцячую пляцоўку Яна папрасіла Галя. І ён згадзіўся. Пакуль працаваў, дзяцей яна павяла ў сад, каб не заміналі пад рукамі, але ён бачыў, што і з саду яна паглядае на яго.

Хто б гэта думаў, што панскі падмурак згодзіцца на такое — на дзіцячы садзік. Але прыйшоў час, дарос калгас і да свайго дзіцячага садзіка. Паставілі на панскі падмурак фінскі домік, абклалі яго цэглай, і выйшаў цёплы домік для дзяцей. Гаспадара толькі на яго не находзілася, вясковыя бабы ў ім даглядалі дзяцей па-вясковаму: накарміць, выпусціць на вуліцу пагуляць, зноў накарміць, спаць па-

класці і бацькам аддаць... А Галя бралася дзяцей вучыць.

Кулеш здалёку ўгледзеў старшынёўскую машыну. Чамусьці падумаў, што з Мяцельскім ён сустракаецца кожны дзень, калі не сустракаецца, то бачыць старшыню. Цікава, як ён умее гэтак ездзіць па калгасе, што ўсюды ўспявае паказацца і пабыць?

Машына спынілася насупраць садзіка, Мяцельскі вылез з машыны і няспешна пайшоў да варотцаў, адтуль напрасткі да Куляша.

— Здароў, Ян. Хоць у аднаго рукі дайшлі навесці тут парадак. Я сваім будаўнікам колькі разоў пра гэту пляцоўку напамінаў...

— Напамінаў — не загадваў. Загадаў бы, зрабілі б.

— І гэта праўда.

Мяцельскі ўважліва паглядзеў на Яна, потым туды, далей, дзе гулялі разам з Галяй дзеці. Ян таксама завярнуўся, паглядзеў. Святочна выглядала Галя ў белай кофтачцы і лёгкай яркай паркалёвай спадніцы.

— А яна звонкая яшчэ баба. Пры такой і памаладзець можна, яй-богу! — падміргнуў Куляшу Мяцельскі.

Кулеш заўважыў, як загарэліся прыжмураныя старшынёвыя вочы, і адчуў, што чамусьці стала горача ў шыю: ён і сапраўды адчуваў сябе, што нібыта памаладзеў за апошні час, цела стала лёгкім і настрой светлы. А Галя і праўда здалёк была падобная на дзяўчыну.

— А сястра яе, помніш, прыгажуня была! Мы за ёй бегалі. Ой, бегалі. Гарадская! Ты помніш?

— Чаму ж не! Помню. Я і Галю як угледзеў, папытаўся — Наташа? Гаворыць, Галя.

— Наташа? А я і забыўся, бачыш ты. Ты ж яшчэ зусім смаркач быў, як жа ты помніш?

— А ўжо помню, і што прыгожая была, помню. Можа, таму, што большыя ўсе ў яе паўлюбляліся і аж біліся...

— Біліся, і праўда,— Мяцельскі засмяяўся, мабыць, успомніў тыя хлапчукоўскія бойкі з-за прыгожае гаражанкі.— Цяпер і яна, мабыць, старая, гэтакая ж, як і я.

— Загінула яна ў экспедыцыі, там, у Сібіры.

— Во так. Каму на звод, таму і рады няма. Ведаеш, чаму Русакевіч сюды прыехаў? Уцякаў з горада, дзе тады ўсіх вучаных людзей бралі, нацдэмаў. Пакінуў усё, дадому, у вёску схаваўся. Але і тут дастала яго яжовая рука. Без сваіх не абышлося, нехта сігналізаваў...— Мяцельскі на хвіліну звёў бровы, быццам ўспамінаў таго, хто тады сігналізаваў.— Просьба ў мяне да цябе, Ян.

— А-а, а то я думаю, чаго ты сам сюды з'явіўся. Камбайнёра не хапае?

— Выручай, брат.

— Каторае лета ўжо выручаю, Сямёнавіч. Ты што, не верыш, што нельга мне цяжкая работа? Думаеш, дактароў падкупіў? — запытаўся Кулеш.

Ён ведаў, што зноў не хапае камбайнёраў, ведаў, што давядзецца зноў яму жаць, як і ў мінулым годзе, дарма што на пенсіі і дактары забаранілі цяжкую работу. Ведаў гэта і Мяцельскі. Не ведаў толькі, што ў мінулым годзе жаць Кулеш пайшоў з радасцю — і каб падзарабіць, і засумаваў па рабоце. А сёлета не хацелася яму чамусьці.

— Знаеш, калі адмовішся, не пакрыўджуся, але...

— Але прасіць прыехаў. І ведаеш, што не адкажу я табе.

— Знаеш, ведаю. Мы ўсё-такі партызаны.

— А камбайн зноў стары дасі і п'яніцу якога памочнікам.

— Стары. А папробуй забраць у каго навейшы?

— Мог бы па блату і новую машыну даць, а я на ёй зноў бы на ўвесь раён рэкорд паставіў, яшчэ б мне адзін ордэн! — Кулеш засмяяўся.

— Ты сур'ёзна рэкорда хочаш?

— Не, Сямёнавіч, я не здзяцінеў яшчэ... Ужо як ні пнiся, а свой куток ведаць трэба. Рэкорды ўжо ты з другімі арганізоўвай. Я табе тут не памочнік. Некалі мог — і рэкорд рабілі.

— Рабілі. Знаеш, Ян, а і я цяпер на рэкорд не іду. Вось думаю, каб дажаць, прыбраць з поля. Пра хлеб нечаму думаю, ■ больш ні пра што. Мабыць, старасць...

— У цябе парторг і тры рэкорды арганізуе. Усе, калі хочаш, жаць будуць, аднаму скідацца. Кожны год новы рэкардсмен будзе!

— Не-е, Ян, на гэта ў мяне совесці не хопіць. Ты ішоў на рэкорд — свае жылы рваў. Значыць, быў рэкорд. І ў мяне азарт быў. А на паказуху я не пайду. На старасць трэба думаць, каб і тое, што за жыццё нажыў, не размяняць, каб людзі не смяяліся.

— Ладна, я чалавек вольны. Толькі ты дай каманду сваім будаўнікам, хай пафарбуюць тут усё дзецям.

— Дам каманду. Слухай, Ян, а ты свае Мар'і не баішся? — І старшыня зноў кіўнуў у глыбіню саду на Галю.— Ці твая Мар'я ў горадзе замуж выйшла? Як гавораць, жывяце па-сучаснаму, свабоднай сям'ёй.

— Сямёнавіч, сплетніц і без цябе хопіць!

— Не крыўдуй, я толькі табе самому. А знаеш, калі чэсна, то і зайздрошчу. Дай бог на старасць!

Мяцельскі крута завярнуўся і хутка пайшоў да машыны.

Кулеш глядзеў услед яму і адчуваў, што гарачыня ад шыі пайшла аж некуды ў галаў — ці не сказаў Мяцельскі ўслых тое, у чым ён не адважваўся прызнацца самому сабе. Яму прыемна было глядзець на Галю і быць пры ёй, таму і рамантуе гэтую дзіцячую пляцоўку.

Кулеш глядзеў услед старшынёўскай машыне і ўспамінаў другі час і гэтакую ж самую яснасць, якая прыйшла ад Мяцельскага.

Партызаны прыехалі адвячоркам. Ехалі яны з агародаў, ад лагчыны, парослай алешнікам і лазняком, на конях, трое. Ехалі амаль не хаваючыся, мабыць, ведалі, што ў вёсцы нікога чужога няма — ні немцаў, ні паліцыі. Роўна, прыгожа ішлі коні, крышку пазвоньвала збруя. Потым нехта з іх заспяваў песню. Ян ніколі больш не чуў гэтае песні. Спяваў партызан нямоцна, і ў песні спявалася пра казака, пра дзяўчыну, пра тое, як яна праводзіла яго, пра тое, што ён загінуў і што ніхто ніколі дзяўчыне пра гэта не раскажа і ніхто яе не суцешыць. Песня была незнаёмая, можа, украінская, але нейкая блізкая, свая.

Ян стаяў, абапёршыся на жэрдкі, якім быў адгароджаны агарод, і глядзеў на партызан. Яму хацелася ехаць гэтак, як едуць яны, каб у яго была і шабля, і конь з сядлом.

— Здароў, Янка,— павітаўся з ім Мяцельскі. Ён ведаў яго па школе яшчэ. Двое другіх былі пажылыя мужчыны, неяк грузна, цяжка сядзелі на конях. А Васіль лёгкі, малады.— Няма нікога ў вёсцы.

— Няма, слава богу.

— Гэта добра. Але дабяруцца скора. Усюды дабіраюцца і да вас дабяруцца. Поле тут у вас, дарога ім удзень адкрытая.

Мяцельскі крануў каня шпорай, каб ехаць далей, услед за мужчынамі, якія яго чакалі, але адразу ж нацягнуў павады.

— Пра Маню вашу нічога не чутно?

Пра сястру яны нічога не чулі і не ведалі.

— Не. Ніхто не аб'яўляўся.

— Мужык яе ж райкомавец? Знаеш, што я табе скажу, будуць яны шукаць яго. Добра, калі ўцёк ён і сям'ю схаваў. А так канцы не толькі самому. Так яно, брат, пачынаецца, а што будзе, падумаць страшна. Сваіх сволачаў гэтулькі

павылазіла! Будуць шукаць яго, дабяруцца і да вас, пойдзеце пад пятлю як сям'я камуністаў. І ні цябе не пашкадуюць, ні мацеру. Што вам траціць? Бярыце манаткі ў воз і давайце да нас ў зону. А то паб'юць без суда і следства. А ў нас пераждывяце, быць не можа, нас немец не возьме. Скажы, Янка, што гэта я табе гаварыў, а мяне прасіў перадаць мой бацька. Твая маці яго ведае. Ты ёй гэтак і раскажы, як я гаварыў. Усё раскажы. І скажы, што мае бацькі забралі гаспадарку, клункі і паехалі.— Ён узмахнуў нагайкай, і конь лёгка і ахвотна пабег даганяць тых двух коннікаў наперадзе.

Пра тую гаворку Ян расказаў маці. Яна разоў некалькі перапытвала, плакала, а ноччу загадала капаць яму, каб схаваць куфэрак са скарбам. За ноч сабрала клункі, запрэглі каня і паехалі на Старыцу, нібы пагарэльцы жабраваць паехалі. Нават хату не забілі. Усё пакінулі, карову толькі налыгалі, карову маці пакінуць не магла. І за раніцу даехалі да лесу. Адтуль дарога ішла на Старыцу, адтуль са Старыцкага лесу прыязджалі партызаны. І ён стаў партызанам, і конь у яго з'явіўся потым, і сядло, шаблі гэтак і не дастаў за ўсю вайну, ды і не патрэбна была яна, шабля, хіба толькі для форсу. Граната ў разведцы надзейней, калі што якое, і аўтамат, і каб патронаў пару дыскаў было заўсёды пры сабе.

А па іх паліцаі прыязджалі. На дзвюх падводах, перавярнулі ўсё ў хаце, у хлявах, узяць нічога не было. Хату не спалілі толькі таму, што ўпрасілі суседзі — занялася б гарэць уся вёска.

Кулеш аж здрыгануўся ад кароткага барабаннага тупату — рыжы хлопчык у белай маечцы з воўкам і зайцам на грудзях ускочыў на адрамантаваны драўляны барабан, з задавальненнем круціў яго і слухаў, як барабан грыміць.

— Ян, пакуль яшчэ не кладуцца яны спаць, папраў ложак гэтаму рыжаму касманаўту. Там, дзе ён, усё грыміць, рвецца, ломіцца!..— папрасіла Галя.

Малы як пахвалу слухаў пра тое, што пра яго гавораць. І Ян кіўнуў галавой у знак згоды.

*9*

— Што ж, таварышы, пачнём наша рабочае паседжанне. Ніхто не пярэчыць?

Мяцельскі ўстаў з-за стала.

— Я сабраў вас, таварышы члены ўборачнага штаба, каб яшчэ раз разам са спецыялістамі зняць апошнія пытанні, унесці ўдакладненні ў наш план уборачнае кампаніі. Прапаную такі план работы: я прайдуся па ўсіх асноўных пазіцыях нашага плана. Нам канкрэтна кожны па сваёй епархіі далажыць. Калі што новае, няўвязкі якія... Адным словам, пачнём.

Гаварыў ён стомлена, нібыта надакучыла гаварыць адно і тое ж. Але пільны яго позірк непрыкметна і ўважліва сачыў, хто і як рэагуе на сказанае. Па гэтай рэакцыі ён хацеў зразумець — як там на самай справе?

— Першае, галоўнае — тэхніка. Камплектацыя, гатоўнасць да выхаду ўсіх звенняў на сённяшні дзень?

— Гатовы хоць сёння,— коратка адказаў інжынер.

— А на пробным выездзе будзе то ў аднаго, то ў другога недарэгулявана, недакручана?

— На тое ён і пробны выезд, каб усё да канца падагнаць. Калі пробны?

— У нядзелю. Будуць з раёна. Памочнікаў падабралі?

— Расстаўлены канчаткова,— адказаў інжынер.

— Каго паставілі да Куляша?

— Жолуда.

— Кулеш згадзіўся?

— Згадзіўся. А што пенсіянеру.

— Ельніцкаму каго?

— Тагановіч з майстэрні...

— Ельніцкаму за тое, што гэты Жолуд яму цягае віно на работу, трэба было і памочнікам пакінуць,— не утрымаўся Кіршчэня.

Старшыня не дагаварыў, на нейкую хвіліну прымоўк, гледзячы ў паперу.

Кіршчэня сядзеў чыста паголены, у клятчатай мультановай рубашцы, у афіцэрскіх галіфэ і вынашаных, але да бляску наваксаваных хромавых ботах. З поўным адчуваннем сваёй годнасці ён прадстаўляў рэўкамісію. І хацеў, каб усе зразумелі, што ад яго пільнага вока нішто не схаваецца. Ён быў наперадзе і ўсё бачыў, як і некалі, на коніку, у штанах з леямі, з наганам. На гэтага старога трэба мець жалезныя нервы, каб трываць. У канцы нарада ён возьме слова і ўсім яшчэ дасць рэвалюцыйнага запалу.

— Ну што ж, можа, і добра. У Куляша можна павучыцца. Інструктаж па пажарнай бяспецы?

— Праведзены.

— Пётр Пятровіч, па лініі партыйнай работы?

— Па нашай партыйнай лініі. Пачну па парадку. Сумеснае паседжанне партбюро з праўленнем праведзена. Разгледжаны пытанні аб рабочым плане правядзення ўборкі і продажу збожжа дзяржаве. Зацверджаны персанальны склад звенняў і экіпажаў. Апошнія ўдакладненні, якія былі, гэта з памочнікам Тамашову. Мне здаецца, што Жолуду варта пабыць з такім механізатарам. Распрацаваны ўмовы сацыялістычнага спаборніцтва, меры матэрыяльнага і маральнага заахвочвання. Вырашана грашовыя прэміі выдаваць талонамі, якія будуць атаварваны грашыма ў канцы года, пры падвядзенні вынікаў усяе ўборачнае кампаніі...

Парторг зрабіў паўзу, каб даць магчымасць ацаніць вынаходніцтва. Круглатвары, лысы, пры гальштуку нават у спякоту, на твары заўсёды задаволенасць сабой — і за тое, што здаровы і малады, і за тое, што ўсё ведае, і правільна рашае, і ўмее гаварыць. Гэтак здавалася Мяцельскаму, ён не любіў парторга за тое, што працаваць той ленаваўся.

— Хм! — не ўтрываў, хмыкнуў Кіршчэня.

Радзюк прымоўк, быццам чакаў, што той нешта скажа, але Кіршчэня прамаўчаў — парторг быў новы чалавек, і ён яго асцерагаўся.

— У кожным уборачна-транспартным атрадзе створаны партыйныя групы, замацаваны палітінфарматары. Вялікая работа праведзена нашымі народнымі кантралёрамі, думаю, Антон Аляксандравіч тут сам нам пра гэта раскажа.

Парторг кіўнуў галавою да старога Кіршчэні.

— Праведзена інструктыўна-метадычная нарада ідэалагічнага актыву калгаса, падрыхтавана патрэбная літаратура, зацверджаны план культурна-бытавога абслугоўвання. Правялі агляд работы нашых клубаў, бібліятэк, агітбрыгады, іх гатоўнасць абслугоўваць жніво. Падрыхтавана наглядная агітацыя. Як найшырэй будзем разгортваць сацыялістычнае спаборніцтва. Важна, каб забяспечыць аператыўнае рэагаванне кіраўнікоў служб гаспадаркі на прапановы і заўвагі калгаснікаў. І з паведамленнем аб прынятых мерах, каб кожны камуніст на любым пасту, на любым месцы быў нашым паўнапраўным партыйным прадстаўніком, не даваць ніякага спуску недахопам!

Ну, а па выніках, вядома, правядзём вялікі святочны вечар з ушанаваннем пераможцаў жніва гэтага года...

— Таварышы, вы ведаеце і мне не трэба яшчэ раз гаварыць пра тую важнасць у такой адказнай і жыццёвай кампаніі, як жніво, сацыялістычнага спаборніцтва. Арганізуючае, сапраўды творчае сілы. Таму невыпадкова дэвіз

нашае сёлетняе кампаніі «ўбраць кожны колас, кожнае зернетка!». Вырашана вынікі сацспаборніцтва праводзіць штодзённа...

— Давай, Пётр Пятровіч, канкрэтней. Якія канкрэтна прапановы. Гэтыя лічбы мы ведаем, зацвярджалі мерапрыемствы і ўмовы спаборніцтваў,— усё ж не стрымаўся, перапыніў парторга Мяцельскі.

— Гм... Патрэбна сканцэнтраваць усю ўвагу ўдзельнікаў працоўнага спаборніцтва на забеспячэнні строгага рытму, апераджальных тэмпаў, дасягнення найвышэйшай прадукцыйнасці.

Радзюк спаважна сеў на сваё месца з годнасцю чалавека, які зрабіў патрэбную і важную справу.

— Мне б хацелася ведаць, ці ўсё мы прадугледзелі, ці нашы мерапрыемствы адпавядаюць надзённым патрэбам, ці няма надуманасці. Вось што галоўнае, каб цяпер можна было падкарэсліваць. Ліда Пятроўна, у вас, як агранома, што-небудзь ёсць?

— У мяне ёсць адно пытанне.— Ліда паднялася.— Дзе і калі мы будзем пачынаць выезд?

Яна спынілася, паглядзела на старшыню, быццам чакала ад яго адказу, але ён прамаўчаў.

— Я павінна сказаць, што збожжа на нашых землях яшчэ не гатова да параднага выезду, які запланаваны ў раёне. Нам патрэбен будзе яшчэ з тыдзень, ну дзён з пяць, каб пачаць выбарачна, класці ў валкі...

— У суседзяў папросім загончык — і пачнём,— Мяцельскі дабрадушна ўсміхнуўся.

Весела засмяяўся Радзюк у падтрымку, камсамольская сакратарка, эканамістка. Маўляў, не адна ты такая разумная, усе мы ведаем і бачым, але з раёна запатрабуюць справаздачу, а калі не будзе яе — прыгрозяць, што на бюро быць давядзецца...

— У вас усё?

— Пакуль што ў мяне ўсё. Астатняе будзе, як пачнецца сама работа.

— Так, Ліда Пятроўна правільна сказала — асноўнае будзе, як пачнецца работа,— Мяцельскі зірнуў на яе.— Акрамя аднаго — часу. Тады сапраўды нам не будзе калі збірацца, а практыка паказвае, што, як і звычайна, у працэсе работы пачынае ўзнікаць многа нечаканых пытанняў. А таму трэба яшчэ раз напярэдадні прадумаць усё, прадугледзець, прадбачыць, угадаць усе тыя цяжкасці... Так што давайце, у каго ёсць заўвагі, прапановы. А дзе зрабіць выезд, мы, Ліда, разам з табой пашукаем.

— Ну, мабыць, пара мне, калі ўжо ў нікога і нічога няма.— Кіршчэня паволі ўстаў з-за стала, зняў акуляры, паглядзеў на тых, хто сабраўся, зноў начапіўся, зазірнуў у паперку.— Гэтак тут добра пагаварылі, усё роўна як і зжалі ўжэ, і ўпарадкавалі. Толькі асталося прэміі ўручаць і гарэлку выпіваць. От я сядзеў і слухаў усё. Ну як па нотах распісана, і хто куды ступіць павінен, і хто за што, і хто як... Ну, а калі тое будзе чытаць і правяраць, хто, калі і як? Як хлеб пойдзе, дыхнуць ніколі дзядзьку не было, пакуль не прыбярэ. Поле адно, зямля адна, людзі адны, хлеб наш адзін. А мы ўжэ тут будзем глядзець, каб аграном комплексам кіраваў, а Радзюк прыедзе, вынікі за дзень падвядзе, агітатараў прывязе, укруга пасадзіць, палітінфармацыю правядзе. Пачынаючы ад Маркса базу падвядзе. А што тут грунтаваць, тут поле з хлебам стаіць. Вось на гэты час і ўвесь грунт. Камсамолка будзе канцэрты вазіць. Пачакайце, [illegible] колькі ж на аднаго работніка на камбайне, на машыне, на трактары, машыніста на таку гэтых памочнікаў, як мух у вала на рагах? Можа, яны замінаць толькі будуць і надаядаць? Або во тут параспісвана, колькі кожным агрэгатам, у адзін дзень, колькі дзён патрэбна будзе. Як у класе крэйдаю на дошцы. А дзень ці два вам дажджу ды поля гразкага. Самі ж ведаеце, што не навозішся гэтых агітатараў, што не нарысуеш усяго жніва на паперцы. А рысуем, а распісваем. І ўжо гэтым і справаздачу даём. Ужэ, мабыць, сказалі, што добры план, а значыць, і добра падрыхтаваліся, а яно быццам і зжалі. Вось ты агітаваць будзеш, прэміі ўручаць гэтымі талонамі. А чаму талонамі? Баішся, што прап'юць камбайнеры гэтую дзесятку. Во чаму гэта робіш. А, дык ці чэсна ўсё да канца, га? Вось ты ўдахнавіш, раскажаш і пра час, і пра тое, як цяжка. Усё раскажаш, і людзі цябе паслухаюць. Паслухаюць, бо людзі самі разумеюць. Адале машына ў Слуцку на разгрузцы засела — і стаіць камбайн у полі. Або гэты во ланцуг, якога трыццаць сантыметраў на калгас засталося і на базе ў раёне няма, лопне гэты ланцуг — і будзе стаяць камбайн. А ты назаўтра прыйдзі, паагіціруй. Паслухае цябе кожны, але ўжо не паверыць. Няма таго бальшавіцкага запалу, які быў некалі ў нас! Парадку няма!

Кіршчэня прымоўк, пільна паглядзеў на ўсіх, чакаў, каб яму хто запярэчыў. Худы, ссутулены, з кароткім, не па гадах густым сівым вожыкам валасоў, ён нібыта памаладзеў, глядзеў востра. Яму не пярэчылі. Ён не заўважаў, што яму ніколі не пярэчылі, калі ён выступаў і гаварыў. Але

ён не адчуваў, што ўсё паўтаралася, як у нейкім зачараваным коле. Праз год тое ж самае будзе, з папраўкаю толькі на дату. І цяпер ён на нейкае імгненне спыніўся, здалося, што ўсё не на самай справе адбываецца, а ўспамінаецца яму. І як сядзіць спакойна, уважліва старшыня, голаў нахіліў так, што Кіршчэня не бачыць яго твару. Маўчыць, нешта ці то піша, ці то малюе на лістку паперы старшыня парткома, лысіна ў яго аж пачырванела ад незадаволенасці. Маладая аграномка слухае, наструнілася. Інжынер спакойна пасміхаецца, як чалавек, якому ўсё гэта — старана. Ён сваё ведае, сваю работу зробіць і з гэтымі планамі і паперкамі, і без іх, яны яму калі і не дапамагаюць, то не замінаюць.

— Во тут інжынер пасміхаецца, што ён, як бы ні было, а работу зробіць сваю. А ты б не надта разагнаўся, мабыць, каб твой механік з тваімі механізатарамі не хадзіў, як курыца з куранятамі. Толькі курыца куранят гарэлкаю не падпойвае... Вы тут з аграномкі пахіхіквалі. Я **сам** па полі паехаў. Праўду яна кажа. Але ёсць каманда. І правільна, парадак павінен быць. Гэта важней за ўсё!

Кіршчэня звярнуўся да старшыні.

— Помніш, як некалі было — паспрабуй не зрабі, калі сказана. А на цяперашніх часах гэтых раённых начальнікаў як хочаш абкруціць можна. А не — гарэлкай вочы заліць...

— Ну, гэта ўжо, братцы мае, поўна анархія і антыпартыйнасць,— не ўстрымаўся Радзюк.

— Што ты сказаў? Ты яшчэ мяне парційнасці вучыць хочаш? Я за яе жыццё аддаў, а ты, за яе хаваючыся, хочаш жывот сабе гадаваць? Пенсію выседзець у падлакеях ходзячы?

Радзюк знік ад такога павароту, а старшыня яшчэ ніжэй нагнуў голаў, каб не відаць было, што ён усміхаецца.

— Я пра што,— Кіршчэня перавёў дыханне і пачаў выкіроўваць на праверaную дарогу.— Трэба нам планаваць разумна, правільна планаваць, але не хавацца за гэтыя планы, не планамі перад людзьмі адчытваць, а тым, што зроблена. А то мы схаваемся за нашы мерапрыемствы, за іх нас пахваляць. Што было б, каб мы ў партызанах так планавалі і мерапрыемствы пісалі?

— От пайду на пенсію скора, Антон Аляксандравіч, так і рабіць буду,— Мяцельскі ўсміхнуўся.— А можа, успомніўшы маладосць, і курэй папалохаю.

Мяцельскі заўважыў, як асекся пасля яго слоў і нібы паменшаў і так малы Кіршчэня. Ён не чакаў напамінку пра

той куратнік, бо за ўвесь час, які прайшоў з таго часу, Мяцельскі гэтак нікому нічога не сказаў. І не таму, што баяўся на першым часе Кіршчэні, калі той быў пры ўладзе ў раёне, ■ проста памятаў, што абяцаў яму маўчаць, і маўчаў. А сёння не стрываўся, вывела з сябе гэтае жаданне павучаць і патрабаваць. І каторы ўжо год нязменна адно і тое ж самае гаварыць, прыправіўшы толькі знарок перад гэтым вычытаным з газеты дзеля «важнасці бягучага моманту».

*10*

Тады Кіршчэня яшчэ толькі вярнуўся дадому. На фронт яго не прызвалі, таму што ў Заходняй ён застаўся ваяваць з бандамі. А адтуль удалося выкруціцца і вярнуцца дадому. І таму пасаду брыгадзіра ён не мог не заняць.

Восень ужо была. Сухая, добрая восень. Сама нарыхтоўку здавалі. Зранку абозы павінны былі ісці на горад, а таму на таку працавалі ноччу: веялі, чысцілі, рыхтавалі абоз. Кіршчэню, як аматару і галоўнаму спяцу гэтых абозаў, Мяцельскі і даручыў работу. У самога справа была неадкладная, ■ таму, як сцямнела, ён прыладзіў у вішняку апарат і пачаў гнаць самагонку — брага перастойвала, ды і гарэлкі ў хаце не было. За гэтаю работаю яго і застаў упаўнаважаны па мянушцы Нос. Быў ён маленькага росту, худы, кірпаносы. Ездзіў на гнядым коніку, гэтаксама худым, як і яго гаспадар. Празвалі ўпаўнаважанага Носам за тое, што выпіўку ён, мабыць, чуў за вярсту. І не толькі выпіўку, заходзіў у хату, як вожык паводзіў сваім вострым носікам — і не памыляўся:

— А і заскваранная капуста пасля чаркі добрая штука.

Заскваранная капуста сапраўды была ў чыгунку ў печы. А пасля сказанага, калі і не было, то даводзілася шукаць тую чарку, без якое Нос не мог есці нават і заскваранную капусту.

— Стой, што дзелаеш? — скамандаваў Нос Мяцельскаму, калі Мяцельскі прысеў, каб падкласці ў печку дроў.

— Цьфу! Адкуль вы, Васільевіч?

— З неба замест бога. Значыць, не нарыхтоўку рыхтуем, а промысел наладзілі?

— Трэба ж, Васільевіч, са свежага збожжа.

Мяцельскі наліў у шклянку яшчэ цёплае самагонкі:

— Здыміце пробу, Васільевіч.

Носу двойчы паўтарыць не трэба было. Шклянку ён аглушыў залпам, закусіў пададзеным салам з агурком.

— А харашо палучаецца ў цябе, таварыш Мяцельскі.— Ён смачна дажоўваў сала і прысеў на бярэмца дроў непадалёку ад печкі.— І сала харошае. А я прагаладаўся.

— Падзяжурце, пайду ў хату, вазьму пад'есці больш чаго.

Мяцельскі схадзіў у хату, прынёс яшчэ і гуркоў, і сала.

— Я, таварыш Мяцельскі, к табе і не планаваў сёння. Ты чалавек надзейны. Ужо хацеў каня паварочваць на горад, але бачу праз рэчку агеньчык свеціцца. Рашыў, заеду, праверу, што гэта там тлее. Пад'язджаю, пацягнуў носам, панятна стала. А гэта аказваецца сам прадсядацель, замест таго каб арганізоўваць работу, такое дзела робіць.

Мяцельскі яшчэ наліў у шклянку самагонкі.

Маленькі Нос мог не толькі кубкамі піць гарэлку і не п'янець, але і многа есці, што аж не верылася — куды ў гэтакага малога яно ўсё ўлазіць.

— Дык далажы, як у цябе дзялы з нарыхтоўкай? Веюць людзі?

— Павінны веяць. Брыгадзіру сказаў, каб быў там і арганізаваў усё.

— Гэта правільна. Трэба каб лічны кантроль быў. Тады ніякага ўрадзіцельства не будзе.

У меру таго як пад'ядаў і выпіваў, Нос станавіўся лагаднейшы і пачынаў хваліць Мяцельскага. Наогул крыклівы і строгі Нос, гэта ўжо потым Мяцельскі ўспамінаў, не даносіў на старшынь,募стараўся абысціся без гэтага. Але што службу сваю правіць, любіў паказаць.

— Знаеш, таварыш Мяцельскі, скажы жонцы, хай тут каравул панясе, а мы з табой давай пройдзем, праверым, як людзі работаюць.

У падпітага Носа акрамя ўсяго яшчэ ўзнікла і прага дзейнасці. Мяцельскі ведаў, што адгаворваць яго — марная справа, а таму паклікаў жонку, каб пабыла пры апараце, а сам павёў упаўнаважанага глядзець работу.

Дзверы ў гумно былі прычынены, за імі слабенька свяціў ліхтар. Калі Мяцельскі адчыніў дзверы, то ўбачыў, што падрыхтаваныя мяшкі складзены збоч ад тока, веялка стаяла прыбраная, а вартаўнік, стары Сымон, які прымасціўся на мяшках у кажуху, з месца далажыў Мяцельскаму:

— Усё ў парадку, старшыня.

— Какой тут парадак! Нарыхтоўка ідзе, абозы! Палітычная важнасць моманту!.. Дзе гэты негадзяй, я з ім раз-

бяруся! Знаеш, што за сабатаж па цяперашніх мерках?

Мяцельскі недагледзеў, і Нос успеў перабраць. Цяпер не мела ніякага сэнсу тлумачыць яму, што на заўтрашнюю адпраўку збожжа прыгатавана дастаткова. Цяпер Носам кіравала гарэлка і «важнасць палітычнага моманту».

— Ідзём, ты мне пакажаш гэтага сабатажніка, і я лічна з ім разбяруся! Ён мне наладзіць работу ў начную змену!

Калі падышлі да Кіршчэневай хаты, Мяцельскі пагрукаў у дзверы раз-другі, пачуў, як у сенцы выйшлі, і Марыля папыталася:

— Гэта ты, Антон?

— Не, гэта я, упаўнамочаны! Дзе ваш муж?

— На таку. Там жа пашню веюць. Там яго шукайце.

Мяцельскі паспеў шмаргануць упаўнаважанага за рукаў, каб ён больш не гаварыў нічога з Кіршчэніхай.

— А дзе ж гэты твой сабатажнік? Мы яго з-пад зямлі павінны дастаць,і ён нам павінен арганізаваць работу!

— Знойдзем, знойдзем.

Мяцельскага пачынала разбіраць злосць і на Кіршчэню, якога не аказалася дома, і на Носа, які водзіць яго апоўначы па вуліцы. Мяцельскі чуў ад мужчын, што Кіршчэня падглядвае да маладое і адзінокае Любы Залескай. Гэтаму ён не верыў, думаў, што пацвяляюцца. Але цяпер вымушаны быў ісці да Любінай хаты.

У дзверы грукалі некалькі разоў, у хаце ніхто не адзываўся, потым нібы там чуваць была нейкая ціхая валтузня, і ўжо пасля Люба запыталася сонным голасам:

— Хто там?

— Гэта я,— падаў голас Мяцельскі.— Тут упаўнаважаны прыехаў, брыгадзіра шукаем, а Кіршчэня як скрозь зямлю праваліўся.

— Адкуль я знаю, дзе ваш Кіршчэня,— няўпэўнена і спалохана абазвалася з-за дзвярэй Люба.

Нос недачуў, што яна сказала, па партызанскай звычцы грукнуў ботам у дзверы, мацюкнуўся:

— Ты нам дзвер адкрой, потым гаварыць будзем! Я гэтага сабатажніка з-пад зямлі дастану!

Дзверы не адчыніліся, але з сянец па жэрдках у хляву нешта зашумела, загрукала, потым пачуўся трэск і курыны вэрхал у хлевушку, лапаценне крылляў.

Ад нечаканасці аслупянеў Мяцельскі, але падпіты Нос не разгубіўся і тут паказаў прыклад: выхапіў з кабуры наган, кінуўся да хлява з пагрозлівым:

— Рукі уверх, варышка! Страляць буду!

— Васіль, не страляйце, гэта я, Кіршчэня!

Брыгадзір асцярожна вылез праз дзверы з хлевушка і ў начным прыцемку Мяцельскаму было відаць, як ён ад нечага гідліва агрэбаецца і абтрэпаецца. Мяцельскі ўявіў, як імчаў Кіршчэня па жэрдках у хляве, каб вышмыгнуць з Любінай хаты, як падаў разам з прагнілаю страхою ў куратнік і які выгляд у яго зараз. Відаць нічога не было, але свежым курыным памётам ад Кіршчэні патыхала.

Можа, падпарадкуючыся нейкай мужчынскай салідарнасці ці таму, што сам Кіршчэня прасіўся напаўголаса, Нос таксама злавесна зашыпеў на яго:

— Пад суд падвяду, сабатажніка! Пачаму абоз не гатовіш? Табе таварыш Мяцельскі паручыў, а ты зрываеш заданне. Знаеш, што цяпер за ўрадзіцельства? Падымай людзей і што б работаў з імі ўсю ноч? А раніцай я праверу абоз!

— Васіль, дык я ж глядзеў у гумне, там бабы нядаўна толькі кончылі...— пачаў Кіршчэня.

— Ты чуў, сабатажнік, што табе сказана? Падымай людзей, а то заўтра будзеш адказваць за ўрадзіцельства.

— Ёсць, таварыш упаўнаважаны,— Кіршчэня крыху аслухаўся і зразумеў, што Нос п'яны. Носа ён таксама ведаў і частаваў яго не адзін раз.

— Мы былі ў гумне, глядзелі. Заўтра сам абоз падрыхтуй! І мы з таварышам упаўнаважаным падыдзем.

— Усё зраблю. Толькі ж ты, Васіль, барані бог, нікому!

— А мне што.

— Я цябе прашу!

Кіршчэня жанок не будзіў, абоз яны з Мяцельскім адправілі раніцай. Нос, які далёка за поўначы дапамагаў Мяцельскаму «несці вахту» ля апарата, ледзьве дайшоў да ложка. Кіршчэня раніцай быў дзелавы, рухавы, і як Мяцельскі ні прынюхваўся, нічым ад яго не пахла. І толькі калі Кіршчэня запытаўся:

— Чаго ты да мяне прынюхваешся? — Мяцельскі не вытрымаў і зарагатаў.

Любоўныя прыгоды Кіршчэні хутка скончыліся, таму што ён зноў усплыў на хвалю, атрымаў пасаду страхагента, і ўжо цэлы раён быў пад яго ўладаю.

Да канца нарады Кіршчэня праседзеў моўчкі, і Мяцельскі падумаў, што каб у ранейшыя часы, то ён, мабыць, не даравуў бы яму гэтага і сігналізаваў бы туды, куды трэба.

## 11

У Стараселлі Усцінка першая адважылася на тое, на што не адважыўся ніхто са старэйшых людзей: прадала хату, збыла ўсю гаспадарку і паехала ў горад да свае Марусі. Маруся ўся ўдалася ў маці, якая і звала яе не інакш, як «мая прыгажунька». Прыгажуньцы сваёй з малых год Усцінка купляла сукеначкі, завязвала банцікі, вадзіла за сабою на вечарынкі і вучыла спяваць і танцаваць. І ўсім гаварыла: «З мае прыгажуні толькі арцістка і будзе». І Маруся спявала ў пачатковых класах, у школьнай самадзейнасці, потым і ў клубе. Прыгожая, чарнявая, у бацьку з твару і стройная, рослая, як і Усцінка, Маруся ўжо ў чатырнаццаць гадоў выглядала прыгожаю, сталаю дзеўкаю. Поспех у самадзейнасці Маруся мела бяспрэчны, яе нават вазілі на раённыя агляды самадзейнасці. І вядома ж, знаўцы мастацкай самадзейнасці міма сваіх рук прапусціць дзяўчыну, якой хацелася поспеху і ад жадання якога кружылася галава, не маглі. Але не была б Усцінка хітраю Усцінкаю, каб і з гэтага не знайшла выйсце сабе на выгоду.

Як яно там усё было, ніхто толкам не ведае і не даведаецца, аднак пакуль ішоў чарговы агляд мастацкай самадзейнасці, пакуль Маруся Усцінчына жыла ў Слуцку ў свае цёткі, сама Усцінка некалькі разоў ездзіла туды, кажуць, нават у засадзе сядзела. Гэта злосныя языкі такое гаварылі. А сама Усцінка расказвала, што той рэжысёр гэтак у яе Марыю ўлюбіўся, што ледзь рукі на сябе не наклаў. А таму з-за любві пакінуў і першую жонку з дзіцем, забраў і павёз Марыю з сабою ў сталіцу. І вучыцца ўладкаваў, Усцінка ў горад ездзіла амаль кожны тыдзень. Спачатку з карзінаю, як і было заведзена спрадвеку ў вёсцы, а потым Марыя сказала, што гэтак па-вясковаму ездзіць брыдка, і Усцінка купіла сумку. Марыя давучылася, праўда, вялікае артысткі ці спявачкі з яе не выйшла, яна ўладкавалася выкладчыцаю ў вучылішчы.

За гэты час Марыя выгадавалася ў маладую прыгожую жанчыну, якая ведала, чаго варта і што можа яе жаночая прыгажосць. І таму той першы яе лысы і памаўзлівы выпівака ад мастацкае самадзейнасці задаволіць яе ўжо не мог, гэтаксама як і аднапакаёвая кватэрка, якую меў ён пасля разводу з першаю жонкаю.

Марыя падабрала сабе больш перспектыўнага сябра ў жыцці і больш прэстыжнага. Чорнабароды, рослы, дужы, як

грэнадзёр, мастак быў і крыху маладзейшы за яе, і ўдачнік, які адразу ж трапіў у лік перспектыўных і таленавітых. А таму меў не толькі майстэрню, але і кватэру, грошы, выхад у інтэлектуальныя колы. За ім Марыя магла і адзецца як след, каб яшчэ больш падкрэсліць сваю прыгажосць. Яна, вядома ж, стала гарачай аматаркай мастацтва, зычлівай гаспадыняй, якая ўмела сустрэць гасцей, забяспечыць мужу ўсе ўмовы для творчай работы. Таму і на рабоце яна толькі лічылася, нейкія сімвалічныя гадзіны ў вучылішчы мела, а ў астатні час дапамагала мужу. Гэтая дапамога, мабыць, забірала занадта сілы і часу, таму, калі нарадзілася дзіця, Марыя забрала да сябе маці, каб дапамагала ёй. Усцінка з радасцю паехала, бо гасцюючы ў дачкі, яна нагледзелася сапраўднага жыцця, як людзі жывуць на радасць сабе.

Пра гэта жыццё яна расказвала суседкам, паказвала свае новыя абновы. Усцінка мела цудоўную якасць — нават з гадамі цяга прыгожа апранацца і пахваляцца адзеннем у яе не паменшыла. Яшчэ будучы маладой, яна не магла дачакацца, купіўшы мацеры, пакуль пашыецца спадніца. Брала кавалак тканіны, абкручвалася, сашпільвала шпількамі і выходзіла на вуліцу, каб паказацца ў абнове. Цяпер, жывучы ў дачкі, Усцінка многаму навучылася, абгаражанілася і таму зрэдку завітвала ў вёску з падфарбаванымі губамі, з завіўкаю, а потым і з нафарбаванымі кіпцямі. І гаварыць цаляла «па-гарадскому», асабліва на пачатку гаворкі, а потым забывала і шпарыла, як і ўсе, «па-дзеравенску».

Па расказах Усцінкі, жыла яна як сыр у масле качалася, але даходзілі да вёскі і другія чуткі. Прыгожай Марыі спадабалася быць прыгожай і ўсімі любімай. Гэта не магло не дайсці да яе чорнабародага мужа, і ён пачаў адвучваць жонку ад памаўзлівасці зусім не інтэлектуальным, а спрадвечным мужыцкім спосабам. Тут зноў Усцінцы прыгадзілася яе прыродная хітрасць і дальнабачнасць: грошы і за прададзеную хату, і тыя, якія мела ў запасе, Усцінка трымала пры сабе. І таму пасля таго як у даччыной хаце не стала ладу, стала горача, Усцінка неяк вымудравала, пабудавала сабе асобную кааператыўную кватэрку. І ўжо жывучы збоку, яна мірыла дачку з зяцем, дапамагала гадаваць унука. Марыя з гадамі расплылася, растлусцела, і прыгажосці тае ўжо не стала, а таму свайго багатага, раўнівага мужа трымалася і шукаць лепшага не збіралася, хаця не магла і ўтрываць, каб не падгульнуць.

Але зноў гэта ўсё злыя языкі. «Мая ты галубка: лю-

дзям жа не можацца, як другому добра жывецца. Аж не спіцца. У мужыка ж адна радасць — каб у суседа конь здох»,— гэтак гаварыла Усцінка, калі ў яе спрабавалі выпытацца, як жыве яе Марыя, ці праўда, што не ладзіцца ў яе жыццё.

Не менш затуманенае, чым цяперашняе гарадское, было і вясковае жыццё Усцінкі. Бог даў высокі рост ад бацькі, але ад маці не даў прыгажосці з твару. Не тое што брыдкая яна была, але і не прыгажуня. А прыгажуняй ёй быць хацелася, і жыць хораша хацелася, і адзявацца,— усяго хацелася. Ды не разгонішся за бацькавым багаццем, хоць і не бедна жылі, але не да раскошы было ў іхняй хаце. Вось тады і аб'явіўся у суседнім Стараселлі Тодар Амерыканец. Амерыканец было прозвішча Тодарава, таму што ён падлеткам паехаў з бацькам на заработкі ў Амерыку і вярнуўся адтуль з багаццем. Да гэтага часу ўсе пераканаНы, што багацця было навезена многа, не толькі адзенне, а галоўнае — золата. З гэтага золата хітрая Усцінка мела грошы і да гэтага часу. Людзі гэтак гаварылі, хоць золата таго і тых грошай, вядома ж, ніхто не бачыў і не лічыў.

Калі была маладзейшая, Усцінка сама расказвала жанчынам пра сваё замужжа і пра нелюбоў да мужа.

Як толькі першы вечар Амерыканец падбіўся, каб праводзіць з вячорак, не ўпадобаўся Усцінцы. Быў ён маленькага росту, дробненькі, а тварык — як у дзіцяці, а не ў дарослага чалавека, у мужчыны. Але як і ўсе маленькія ростам людзі, цягне іх знайсці сабе ў пару чалавека высокага росту. Гэтак, мабыць, і ў Тодара было, можа, і таму пагнаўся ён на Усцінку, што не надта на яе хлопцы зазіраліся. А дзеўкі маладыя і прыгожыя не па зубах былі Амерыканцу. Бог ведае як, але Амерыканец пачаў ухажорства не на жарты і ў хату ўжо да іх пачаў заходзіць, а потым і сватоў заслаў.

«Сядзяць яны, мая галубка, выпіваюць, з бацькам маім. А бацька рады, што дзеўку з хаты забяруць, ды яшчэ і за багатага пойдзе. Рады бацька Амерыканцу і гарэлцы. І маці рада. А я, пакуль проста ўхажвалі, дык і нічога, а тады, у той вечар, як падумаю, што мне з гэтакім няўдаленькім век жыць, дык аж сэрца заходзіцца. Выбегу я, мая галубка, у сенцы, а паліто яго пры дзвярах амерыканскае вісіць. І гэтак пахне духамі, адтуль прывезенымі. А я тых духоў ніколі і ў руках не трымала. Стану я і тое паліто нюхаю. І сэрца крывёй абліваецца, а як успомню тыя пахі, іду назад у хату»,— гэтак потым пад настрой расказвала сяброў-

кам Усцінка. Гэта ўжо калі за Амерыканцам абжылася, сілу сваю пачула. І духі ўжо ў яе былі, і строі, як ні ў кога ў вёсцы. Тады Усцінка гонар займела, з носам задраным хадзіла. Амерыканец яе, як муравей той, цягнуў работу дома, а Усцінка прынаравілася, як што не даспадобы, абвязаць голаў хустачкай і легчы на ложак паміраць. Зусім немагушчая была, і чым надалей, тым болей. На работу не хадзіла. Калі была камуна, Амерыканец у ёй рахункаводзіў, а Усцінку прыстроіў дзяцей даглядаць камунаўскіх. Потым у фельчара яна за медсястру лічылася. У фельчара Марозіка доктар адзін час жыў, узмацнілі такім чынам фельчарскі пункт. Да таго доктара Усцінка сама бегала, падпоіць свайго Амерыканца і ноччу праз акно да таго доктара.

«Вой, мая ты галубка, хіба ж мой мужчына? Гэта ж адна Капелька»,— смяялася потым Усцінка. Калі ў добрым настроі, то клікала яна свайго Тодара — Капелька. А часцей ніяк не называла, проста «ты» альбо Амерыканцам і звала.

А Тодар разумны чалавек, бачыў усё наскрозь і разумеў. Можа, з-за гэтага і прывучыўся да гарэлкі. Не, не напіваўся ніколі, каб валяцца дзе ці непатрэбнае што рабіць, але піць пачаў памногу, і гэтая гарэлка знутры паціху дачасна і спаліла яго.

Расказвалі суседзі, як Тодар аднойчы падмазваў комін на страсе. Горача было, папрасіў ён Усцінку, каб падала вады напіцца. А яна наліла вады ў бутэльку і шыбанула на страху. І папала па Тодару. Тады ён кулём і скаціўся са страхі. Першае, што трапілася пад руку, была пуга з ядлоўцавым пугаўём. Схапіў ён гэтае пугаўё і пачаў малаціць Усцінку, завалок у хлеў на ток і там лупіў, пакуль ядлоўцавае пугаўё ушчэнт не расхвастаў. Крычала яна на ўсю вёску, але хто палезе ў чужы двор мірыць. Мо тыдні з два Усцінка не паказвалася з хаты і ляжала плахаю, пакуль адышла.

«Гэта ж, дурная, думала, што маленькі. А мужчынская ж сіла. Як ухваціў, мая галубка, за руку, як павалок! Думала, што заб'е, жывую не выпусціць. Дальбог, каб не збіў ён мяне тады, што на ногі стаць не магла, я б яго зарэзала тады ноччу. Ляжала і думала, каб устаць і зарэзаць, але не магла падняцца. Пасля таго панадзіўся ён мяне біць. А я яму гарэлкі не шкадавала, як нап'ецца, саўецца і спіць, а я што хачу, тое і раблю».

Усцінку клікалі, калі да фельчара збіраліся госці. Спірту выпіць у дактароў хапала, а каб пад'есці, то не асабліва разгонішся. На чарговую пачостку яе паклікалі, галоўны доктар з раёна прыехаў Курганчык. Сярэдняга росту,

кругленькі, дагледжаны. Пасля чаркі-другое загаварыў Курганчык пра сала з кубла, свежанькае. Усцінка і сказала, што прынясе, калі доктар гэтак сала любіць. З хаты выйшла, прыпынілася пры прачыненым акне, а там смяюцца з яе — дурная кабета, сала цягае чарцям лысым. Пастаяла, падумала, аднак сала прынесла, гаспадыні, якая сустрэла яе на кухні,аддала загорнутае ў палатняную анучку, а сама назад, сказала, што Амерыканец яе хваціўся, не можа больш пабыць з гасцямі. А сама пад акно і глядзіць. Марозічыха проста з пакункам у вялікую палавіну хаты, дзе госці сядзелі. Яны аж у ладкі запляскалі, пра Усцінку і не ўспомніў ніхто. Разгарнула гаспадыня анучку, а там замест кавалка сала цагліна закручана.

Курганчык аж рукамі развёў:

— Пфуй, ды што ж гэта такое?

А Усцінка пад акном слухае і глядзіць, а потым ужо адчыніла дзверы і другі скрутачак на стол паклала.

Балявалі да раніцы пад тое сала, Усцінка яго не пашкадавала, і Курганчык чым больш еў і выпіваў, усё часцей паўтараў:

— Пфуй, якая ж ты, аднак,Усцінка!..— і круціў галавой з адабрэннем. І ягоныя вочкі масляна пазіралі на Усцінку.

Яна тады не праваронiла свайго, як бы ненарокам кінула, што ад свайго спрацівелага Амерыканца з'ехала б і папрацавала б ў раёне.

Курганчык з тых быў, што прапускаць міма на сваім шляху не любіў, і ў хуткім часе Усцінка аказалася пераведзенай на работу ў раённую бальніцу, хаця не мела ніякай медыцынскай адукацыі.

Там яна кватаравала, раз у тыдзень, а то і радзей, наведвалася да свайго Амерыканца, каб узяць з сабой і таго ж сала, і каўбасы. Гадоў колькі доўжылася медыцынская кар'ера Усцінкі і чыстая работа, пакуль, нарэшце, жонка Курганчыка, мабыць, па нечыяй падказцы, не заспела Усцінку разам з мужам у ягоным кабінеце, на тапчанчыку.

Тады ў раённай бальніцы і адбылося непланавае скарачэнне штатаў, і Усцінка ў вёсцы тлумачыла сваё вяртанне: «Дзе ж мне раўняцца з тымі, у мяне ж дзіплома няма!»

Яе Амерыканец выказваў пра жонку іншую думку: «Гэтая б... без дыплома любой і з дыпломам фору дасць!»

Бурнае Усціньчына жыццё скончылася са смерцю Амерыканца. Хочаш не хочаш, а ўся гаспадарка, уся работа асталася на адны рукі, і тыя жаночыя. Ды і Марыя ўжо пад-

растала. І ўсю сваю ўвагу і энергію Усцінка пераключыла на дачку, бо той бог даў і прыгажосць і дастатак у доме.

Мар'я толькі вярнулася з паходу па магазінах, не ўспела паабедаць, калі ў дзверы пазванілі. Падышла, адчыніла і не паверыла сваім вачам: перад дзвярыма стаяла Усцінка.

У чорным капялюшыку, чорная спадніца, белая кофтачка. На нагах туфелькі, рыдыкюльчык. І губы падфарбаваны, і бровы таксама падведзены.

— Дзень добры, галубка мая! Пазнала мяне?

— Пазнала, як жа! Пазнала,— Мар'я вачам сваім не верыла.— Заходзьце ў хату.

Усцінка лёгка, як мышка, прашмыгнула ў прыхожую, зняла туфелькі, паклала на палічку свой рыдыкюльчык, азірнулася, дзе б узяць пантофлі. Мар'я дала старой даччыны пантофлі, запрасіла ў пакой.

— Вой, галубка мая, нахадзілася зранку, прысяду. Але была тут блізка, дай, думаю, зайду. Я ў Стараселлі нядаўна была. Мне там і сказалі, што ты Верцы памагаеш малую гадаваць. Марыя ж мая прыхварэла, а тут на вашай вуліцы доктар жыве, прафесар, з Астраўка. Я яго адрас дастала, прыехала. Трэба, каб паглядзеў ён маю Марыю.

— Адкуль жа вы яго ведаеце?

— Вой, мая галубка, дактароў жа ўсе ведаюць. А ён справядлівы чалавек. Нікому з землякоў не адмовіць, паможа, калі трэба, і ў бальніцу к сабе пакладзе.

Аднак Усцінцы не сядзелася:

— А кварціру ты Верцы добрую пастроіла. Тры пакоі?

— Тры. Пайшлі, пакажу,— прапанавала Мар'я, якая ўсё яшчэ не ведала, што рабіць і пра што гаварыць з Усцінкай. А тая адчувала сябе, як рыба ў вадзе, хуценька абгледзела кватэру, зазірнула на кухню.

— Вы ж не абедалі, цётка. Давайце паабедаем,— прапанавала Мар'я.

— Давай, мая галубка. На кухні яно і зручней неяк пасядзець і пагаварыць.

Усцінка ела нямнога, але паволі, не спяшалася, і Мар'я, якая згаладала, абагнала яе.

— У горадзе, мая галубка, многа есці цяжка. У горадзе чалавеку лёгкаму трэба быць. Усё на нагах і на нагах. Пачуць усяго — і карысна, і хапае. Гэта некалі ў дзярэўні, дык каб толькі сала кавалак ды хлеба, каб жывот напхаць. А цяпер другое дактары гавораць...

— Гэтых дактароў, цётка, не разбярэшся,— абазвалася Мар'я.— Гаварылі, што сала няможна, што сала шкоднае. А потым, як мяса не стала, дык гавораць, што наадварот, сала самы карысны прадукт, усё ў ім ёсць, усё гатовае, нават і жаваць не трэба.

— Яно, мая галубка, і дактароў трэба слухаць, але на ўсё свой розум мець. А ты ж як тут жывеш? Унучка ў садзік ходзіць?

— Ходзіць. Там з дзецьмі ёй цікавей і весялей.

— І чым жа ты занята?

— А ўсяго хапае. Пакуль у магазіны схажу, па горадзе праеду, дык і Леначку забіраць трэба ісці.

— Не, мая галубка, гэтак жа і надаесць скора. Я табе падкажу. Трэба тут падругу якую знайсці, па гадах тваіх. Дык і схадзіць разам можна ў кіно паглядзець, у цеатр... У горадзе многа куда схадзіць можна. Гэта я цяпер мала хаджу, гады не тыя, ногі баляць мае зусім. А так я і на танцы хадзіла. У парку танцы тут робяць. Тым, каму за трыццаць,— Усцінка чамусьці засмяялася.— Гэта я, мая галубка, таму смяюся, што толькі гавораць, што танцы тым, каму за трыццаць. А прыходзяць тыя, каму па пяцьдзесят і за пяцьдзесят. І кавалеры гэтаксама прыходзяць. А што ж ты думаеш, хто ўдаўцом астаўся, як без жанчыны дажываць? І жанкі гэтаксама...

— Дык а чаму ж вы нікога не знайшлі, цётка? — Мар'і не спадабалася пасміхоўванне старое.

— Праўду табе скажу, пабаялася. Прыб'ецца які п'яніца, да часу ў магілу ўтопча. Пабаялася. Адной лепш. Вот так схаджу, пагуляю... Калі праўда, дык там, знаеш, якія кавалеры? З-пад горада пенсіянеры садзяцца на аўтобус і едуць. Дома старой гаворыць, што да дзяцей у госці, а самі сюды на танцулькі ходзяць! Дальбог, мая галубка!

Усцінка засмяялася.

— Раскажу табе, мая галубка, са мною было. Як пачаў жаніхацца адзін, адбою не стала. З выгляду яшчэ малажавы такі, валасы сівыя, поўны рот сваіх зубоў. Гаварыў, што настаўнік, з Крупак. Адзін жыве, дзеці тут у горадзе. Я ўжо была і задумалася. Надта ж спраўны быў, зараза! А раз бачу ў горадзе ён з бабкаю сваёй ідзе. Яна ў яго тоўстая, як гара, ледзьве плыве. І ўсё нешта яму талкуе. А я тут насустрач ды і кажу: «Дзень добры, Віця! Ты на танцы сёння прыйдзеш?» Каб ты бачыла, мая галубка, як ён крывёю наліўся, аж лопне твар, здалося. Ды як мацюкнецца на мяне, ідзі, калі здзяцінела, куды ідзеш!.. Пабаялася я, што кулаком

гваздане, а то б сказала яго старой. Пасля таго на танцы не паказваўся. А ты, мая галубка, думаеш. У мяне ў нашым доме знаёмая ёсць, яна туды яшчэ ходзіць, я цябе звяду з ёю. Схадзі, паглядзі хоць пад старасць свету.

— Дзякуй, цётка, дзякуй!

Усцінка піла чай, пакрысе адкалуплівала чайнай лыжачкай торта.

— А як вы мяне знайшлі, цётка? — не вытрымала, папыталася Мар'я.

— А незнарок, мая галубка. У суседкі мае дачка разам з тваёй Веркай працуе. Неяк зайшла гаворка ў іх у хаце. Пачула я, што са Стараселля. Пытаюся, з якога. Як прозвішча. А як была ў вёсцы, папыталася, як твая Верка па мужу пішацца. А тады ўжо папрасіла дачку суседчыну, каб яна ў Веркі твае адрас папыталася. Яна і папыталася. Верка і дала адрас. Але выбрацца ўсё не магла. Гэта што да доктара ехаць, дык я і ўспомніла пра цябе, і пра твой адрас...

Усцінка расседзелася, спяшаць ёй нікуды не трэба было, і яна гатова была расказваць Мар'і пра ўсіх вяскоўцаў, якія жывуць у горадзе. Яна аднекуль ведала, хто і як жыве, хто развёўся, у каго колькі дзяцей, чые дзеці ўжо пажаніліся, у каго муж п'яніца, у каго жонка гуляшчая...

Мар'і пара было ісці ў садзік забіраць Ленку, і таму яна перапыніла старую:

— Вой, цётка Усціна, па Ленку ісці мне трэба.

— Вот час бяжыць, як вада!

Усцінка паглядзела на свой гадзіннічак на руцэ і хуценька затупала ў прыхожую, абула туфелькі, надзела капялюшык, зазірнула ў трумо, узяла рыдыкюльчык, дастала памаду і лёгенька падмазала губы.

— Пайшлі, я правяду, цябе ды і пайду ўжо на аўтобус. Заеду да Марыі, скажу, на калі з прафесарам дагаварылася.

Усцінка схадзіла разам з Мар'яй да садзіка, пахваліла Леначку, якая яна прыгожая, і на развітанне папрасіла ў Мар'і нумар тэлефона.

— Ведаеш, мая галубка, у жызні ўсякае бывае. Гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам... Можа, і табе што спатрэбіцца, то і ты мне пазвані.

Усцінка дастала з рыдыкюльчыка маленькую кніжачку і ручку, запісала туды нумар тэлефона, а на прабітым аўтобусным талоне напісала нумар свайго тэлефона і дала Мар'і.

— Дзякуй табе за пачастунак, галубка мая. Верачцы

прывет перадай. А ты, Леначка, здарова расці.— I Усцінка лёгкім крокам патупала па тратуары.

А Мар'я павяла ў двор Леначку. Там ужо збіраліся жанчыны. I ні з таго ні з сяго раптам падумала, а хто ж з іх ходзіць на тыя танцы? I засмяялася з самое сябе. Танцы гэта ўжо справа такая. А вось сабаку купіць усё ж трэба. Яна ўжо не першы раз думала пра гэта, але пакуль што не адважвалася сказаць Веры. Калі добры сабака ў хаце, то гэта і варта. Цяпер, калі ў горадзе лазяць у кватэры і сярод белага дня, сабака патрэбен. Яна нават ужо была і на базар раз з'ездзіла, на той, дзе прадаюць жыўнасць. I калі думала пра сабаку, то чамусьці бачылася, як будзе прагульваць яго там, дзе выгульвае сваю аўчарку і генерал. Вось з-за гэтага і не адважвалася загаварыць пра тое, каб купіць сабаку.

Ужо вечарам у хаце, калі вярнулася дадому Вера, Леначка сустрэла яе радасным паведамленнем:

— Мама, мамачка, к нам сёння жывая Шапакляк прыходзіла!

— Якая Шапакляк? Што ты выдумала.

— Сапраўдная Шапакляк! Яна прыходзіла мяне разам з бабуляй з сада забіраць!

— А госпадзі, гэта ж трэба прыдумаць! — ахнула Мар'я, калі здагадалася, пра што гаворыць малая. I сапраўды, Усцінка была якраз тая старая з мульцікаў, якія паказваюць па тэлевізары дзецям.

За вячэраю Мар'я расказвала пра тое, як да яе з'явілася нечаканая госця і як назвала яе Леначка, і ўсе разам весела смяяліся.

## *12*

— Вылазь, дэсант!

Дзверцы «лятучкі» адчыніліся, і шафёр, белабрысы, каратка астрыжаны, насмешліва глядзеў на Лазоўскага, які мяглюевата меркаваў вылезці з машыны, каб не скакаць на зямлю.

— Чаго, Тавот, не спяшаеш памыцца?

Лазоўскі нічога не адказаў. Ён прывык маўчаць на кепікі. Ссутулены, у кірзавых ботах нават у гарачыню, чорны з твару і ад мазуты, ад сонца і ветру, ён не любіў многа гаварыць.

Куляшу падумалася, што Лазоўскі старэйшы за яго на гадоў шэсць, а ён быццам і памятае яго гэтакага ж старога

і карчукаватага, і вечна ці на трактары, ці калі ідзе на работу альбо вяртаецца з зашмальцаванай, прапыленай і прамазучанай палявой сумкай, якой, здавалася, гэтулькі гадоў, колькі і Лазоўскаму. Ён больш звыклы быў за рулём трактара, нават не цяперашняга «беларуса», а таго, першых выпускаў, яшчэ без кабіны.

Кулеш раптам паспрабаваў уявіць сябе, гэтакім жа сагнутым, скурчаным ад работы, у быццам адной і той жа шэранькай картовай рубашцы, у картовых штанах у свята і ў будзень. Аддаў замуж дачку, купіў машыну ў падарунак, унукі растуць, а ён усё не можа разагнуцца.

Можа, ад гэтага суседства Куляшу здалося, што ён зусім малады яшчэ, лёгкі. Недзе звінела ў ім маладая, здавалася, і забытая ўжо струна, і, можа, ад гэтага апошнім часам ён не адчуваў стомленасці. Кулеш удыхнуў востры пах пылу, які яшчэ не асеў пасля машыны, цёплае вады і балота, недалёкага сасновага бору.

— Ну, мо ссадзіць дзеда? — насмешліва папытаўся ў Лазоўскага Бранавец. Чарнявы, з густымі кудлатымі валасамі, крышку крываногі, ён стаяў на зямлі, як матрос на палубе, і яго чорныя зладзейскія вочы насмешліва глядзелі на Лазоўскага.— Дазарабляўся!.. Кулеш вунь, як выпустачак, нагой падрыгвае.

Лазоўскі цяжка гопнуў ботам на дарогу і пайшоў следам за механізатарамі, да масткоў, якія дугой выгіналіся да абсаджанага ніцымі вербамі астраўка.

— Пайшлі з намі, Міша,— запрасіў ён шафёра.

— Не, тавоцьцеся самі. Мне яшчэ, можа, прыйдзецца ў Слуцак ехаць.

— Табе вечна некуды ехаць. Скора к Верцы ў евангелісты запішашся! Пайшлі, Васільевіч, заадно і абмыемся трохі!

Бранавец не мог і тут прамаўчаць. Ён хватка, як чапляючыся ўсё роўна нагамі за зямлю, пайшоў наперадзе.

Кулеш, Жэнік — малады, круглатвары мужчына ў камбінезоне, новенькім і чыстым, быццам ён і не пры камбайне хадзіў,— і Васілеўскі ішлі паволі, як адпачывалі ўсё роўна.

Зажурана вечарэла. Ля возера павявала няхай і цеплаватым, але халадком, вадзяным духам, а ўся гарачыня і спякота сабралася і стаяла зараз там, над палеткамі, дзе сонца, нібыта нейкая касмічная гаспадыня ў вялікай сваёй печы, даводзіла, дапякала цэлыя палі збожжавых караваяў.

Праз некалькі дзён яны, гэтыя няўклюдныя, самаві-

тыя людзі ўвойдуць туды, у тую летнюю печ, у гарачыню, і тады лета быццам зложыцца ў адзін доўгі і спякотны дзень. Нават за ноч не будзе астываць зямля і цела ад гарачыні. І ночы прапахнуць водарам свежай збажыны, залацістай, не пацямнелай, свежай саломы. Гэты пах будзе перамагаць не толькі ў наваколлі, але нават і ў майстэрні ён будзе ўладарыць над пахам саляркі і мазуты.

Можа, таму зараз адвячорак здаваўся нейкім кароткім зацішкам, кароткім святам вады і сонца.

Кулеш яшчэ пастаяў на мосціку, прытрымліваючыся за жэрдачку-парэнчу, удыхаў пах вады, а мужчыны ўжо раздзяваліся на траве пад вярбой. Лазоўскі скінуў толькі боты і па-салдацку павесіў анучы на халявы, выцягнуўся на траве. Жэнік, круглы і шустры, быў ужо ў адных даўгаватых сямейных трусах, мацаў нагой ваду. Бранавец падпорваў Васілеўскага:

— Чаго ўжо сеў і суслу ўпёр у зубы? Раздзявайся і спаласніся. Трыццаць год мужчыну, а як мохам аброс. Кэх-кэх! Раздзявайся, а то пакупаю, як парсюка, адзетага!

— Ай, толькі гразь размажаш... Фёдаравіч прыедзе, перакусім, тады...

— Тады цябе і не купаючы выкручваць можна будзе! — абазваўся Корзун, які сцягваў цераз галаў рубашку.

— Хто б абазваўся, а не ты! — агрызнуўся Васілеўскі і ўсміхнуўся з Корзуна — той стаяў, як пабелены. Недарэмна яго дражнілі — Здор.

— Ты са мной пацягаешся? Я паўлітра вып'ю і не маргну. А цябе ад сто грам у бакі вядзе, як пеўня.

— Паўлітру вып'еш? Зіна цябе і ў хату не пусціць, у вяргінах пад плотам начаваць будзеш!

Васілеўскі скрывіў губы і нехаця пачаў раздзявацца, пазіраючы паўз лясок на бераг возера, нібы чакаў адтуль паратунку.

На возеры не было нават і дробненькае хвалі. Туга пахрумстваў намыты вадой мылец ля самай вады. Адзінокая аблачынка на небе, нібы невялікая белая купіна, нерухома стаяла на адным месцы ў вылінялай васільковай сінечы неба.

Бранавец першы зайшоў у ваду, разганяючы яе санлівы спакой, моцна плюхнуўся і паплыў, коратка ўзмахваючы рукамі. Ад яго не хацеў адставаць і Корзун. Ён далёка ўперад выкідаў свае белыя доўгія рукі.

Жэнік увайшоў у ваду паволі, спаласнуў грудзіну, лёг асцярожна і паплыў уздоўж берага.

Васілеўскі пацепаў плячыма, тупаў на мелкім паўз бераг, як кулік, дакурваў цыгарэту і пазіраў на дарогу.

Лазоўскі таксама ўстаў, раздзеўся, зайшоў у ваду, некалькі разоў прысеў, намачыў голаў і пачаў намыльваць яе.

Кулеш паплыў таксама паўз бераг «па-сабачаму», высока падымаючы над вадой голаў.

— Во дае сабачы брас,— рагатнуў Бранавец, перавярнуўся на спіну,— паказваў і сваю сілу, і свой спрыт. Але яму мала было плаваць спакойна.

— Што агінаешся, спаласніся хоць, а то стаіш, як цявіна абвіслая! — дабіраўся ён да Васілеўскага.

Той толькі махнуў рукой. Бранавец не вытрываў, выйшаў на бераг, згроб Васілеўскага папярок тулава, бягом панёс на глыбейшае і шыбануў у ваду. Калі сышліся кругі, Васілеўскі так і не паказаўся з вады. Бранавец спалохана стрыгануў вачыма наўкруга, нібы выбіраў, куды кінуцца ўцякаць, спыніўся вачыма на Лазоўскім і на Куляшу.

— Нырай, асмалак, маць тваю! — крыкнуў на яго Корзун, які з усяе сілы гроб рукамі да таго месца, дзе Бранавец укінуў у ваду Васілеўскага. Але Бранавец толькі пазіраў усё на Лазоўскага і на Куляша, адступаўся да берага.

— Нырай! — яшчэ раз раўнуў на яго Корзун.

І якраз у гэты час за метраў дваццаць паказалася з-пад вады галава Васілеўскага, ён фыркнуў, як кот, і мякка, спакойна паплыў у возера.

— Хопіць, а то дагуляецеся,— толькі і знайшоўся сказаць з палёгкай Кулеш. Бранавец першы пайшоў да берага. Ачомаўся крыху, страсянуў галавой:

— Бач, здыхляк, як плавае!..

— А ты, герой, мо і трусы ўжо абмачыў,— не прамінуў Корзун, выходзячы на бераг.

— Я ж не ты, здор, які не тоне..

Падплыў да берага і Жэнік. Па чарзе шаравалі адзін аднаму спіны, мылі галовы. Потым расчэсваліся, абсыхалі на сонцы.

Васілеўскі ўсё плаваў, потым прыпыніўся, прыслухаўся, нават галава яго прыпаднялася над вадой, і хутка паплыў да берага. Мужчыны таксама пачулі далёкі трэск матацыкла. Бранавец рагатнуў:

— Во падла, гарэлку чуе! Глянь, як грабе!

Яны засмяяліся, гледзячы, як спяшае Васілеўскі. Да масткоў тым часам пад'ехаў на матацыкле механік.

Тоўсты, у расшпіленай да пупа клятчатай рубашцы, крыху касалапы, уперавалку з нагі на нагу, у адной руцэ ён

нёс пакаўную гаспадарчую сумку, другой выціраў узмакрэлы потны лоб.

Сумку паставіў пад вярбой, а сам, на хаду раздзеючыся, зачэкаўся да вады.

— Во дзе дабрыня, хлопцы!

Пот цёк у яго па лысіне, але механіку гэта не замінала спяшаць, гаварыць:

— Давай, Васілеўскі, рассцілай газеты, а я паплаваю троха.

Ён смела плюхнуўся ў ваду і лёгка паплыў.

— Бач, які гладкі, як асянчук. Трыбух нагадаваў, хату выбудаваў, машыну купіў і начальнікам стаў.— Бранавец востра кінуў вокам на механіка.

— А табе хто не даваў? Трэба было вячэрнія дзесяць канчаць, а не гарэлку жлукціць і баб шчупаць,— Корзун не даваў яму спуску.

— А маць яго... Хоць пагуляў, а цяпер можна, як каню, у баразну станавіцца і валачы. Або яго навука ў механікі вывела? Во гэтая рыжая карова,— ён кіўнуў на сумку.— Каму толькі не дагаджаў. Цяпер, каб як след мы на жніво выйшлі, грошы і на нас найшоў, на возера прывёз...

— Але ж, падла, аднае гарэлкі набраў. Каб віна, то кожнаму па адной на рыла было б.

Васілеўскі абураўся на механіка па-свойму. Ён разаслаў газету, разрэзаў сала, расклаў пер'е цыбулі, адчыніў дзве кансервавыя бляшанкі, парэзаў буханку хлеба, паставіў дзве шклянкі. Адвінціў пластмасавы бітончык, панюхаў:

— Бярозавы...

— А ты думаў, самагонкі табе,— сцепануў плячом Бранавец.

Лазоўскі сядзеў, прытуліўшыся плячыма да вярбы. Кулеш прылёг на траву, прыслухоўваўся да цішыні і да сябе самога. Не часта астаецца часу вось так проста паляжаць, даць адпачыць целу і прыслухацца да цішыні.

— Калі будзе гэтак жарыць, то нам толькі ўспявай ухваціць усё з поля,— гаварыў механік, расчэсваючы рэдзенькія валасы, на хаду адзеючыся.— У панядзелак пробны выезд, а там і зажнём...

— Рана нам яшчэ, хіба на ўзгорках дзе,— сказаў Лазоўскі і падсунуўся бліжэй да газет.

— Цябе пытацца не будуць! Дадуць каманду з раёна, каб зажалі, і зажнём, усе дружна, і першыя тоны здадзім, каб не адстаць ад другіх. Наша дзела цехніка. Усё, мы гатовы, праўда, Фёдаравіч? — Бранавец зірнуў на механіка.—

Я свайго сёння завяду, і ён, як звер, дзве такія ўборкі адмалоціць...

— Чаму не адмалоціць? Новенькая «Ніва». На новым любы герой пад сябе рваць,— усміхнууся Жэнік.

— І мой некалі старым стане.

— Не трэба, хлопцы, наперад... Выедзем у поле, там яно сваё пакажа. Давайце за тое, што кончылі мы рамонты, а пакуль перадышка — вып'ем.

Механік піў паволі, як смакаваў, і бачыў усіх. Бранавец хвацянуў залпам, зара́з, Корзун роўна, за два глыткі, Лазоўскі піў паволі, як ваду, Васілеўскі моршчыўся, але не адымаў стограмоўку ад рота, Кулеш адпіў паўчаркі і паставіў.

Закусвалі моўчкі. Першы насцеражыўся механік, калі пачуў вуркатанне «козлікавага» матора.

— Не, гэта не яго... Гэта аграномка.

— Вельмі ты яго баішся! Не было яго, спраўляўся і ты сам, без інжынера. Гэта цяпер напрыдумлялі.— Корзун мачаў цыбулінай у соль.

— Не, чаго... Ён ведае цехніку, самі бачылі. Я што, такі, як і вы, самавучка, практык. Паправіць што, запчасткі прывезці. Ён толькі што хоча, каб у нас, як на заводзе, усё было, як на канвееры. І мы да гэтага не дараслі, непрывычныя, ды і не канвеер у нас.

— Няхай неба цэлафанам завесіць, каб дождж не паліў,— усміхнууся Бранавец.

— Нічога, пабудзе, абатрэцца, я так рашыў. Мы ўсё роўна тут былі і тут будзем. Ніхто без нас нашу работу не паробіць. А таму лепш не заядацца. Разумны чалавек прыжываецца, а не — далей пойдзе шукаць сваё. А нам з вамі,— механік зноў наліў.

Мужчыны згодна кіўнулі галавой.

— Яно пазней мо так і будзе, а цяпер яшчэ далёка нам да такой работы, як на заводзе.

— Чаму далёка? Бач, пасёлак пастрояць адзін, як гарадскі, знясуць нас усіх на цэнтральную,— падкінуў Корзун Жэніку.

— Ты пра гэтыя неперспектыўныя? — папытаўся механік.

— Дзе тых грошай набярэшся, каб усё ўзяць і перавезці. Ты альбо я кінем усё дагледжанае і паедзем? Усё гэта мо калі і будзе, але яшчэ не пры нас. Праўда, на прадсядацеля жмуць, каб домікі строіў. А ён гне, што трэба ферму здаць, каб грошы былі, а пасля можна будзе і тыя домікі ў пасёлку ставіць.

— Прыжмуць, і будуць ставіць,— гмыкнуў Васілеўскі.

— Ты закусвай, Коля, закусвай,— прапанаваў яму Лазоўскі.

Пасля выпітага Васілеўскі неяк размяк увесь, нібы распоўзся.

— А што ты мне рот затыкаеш?

— Пад'еш, а то ап'янееш.— Жэнік таксама падклаў Васілеўскаму хлеб і сала.

На нейкі час мужчыны прыціхлі. Самы малады з іх, з тых пасляваенных парасткаў, што не паехалі ў горад, Васілеўскі быў і брыгадзірам. Трое дзяцей. Цяпер механізатар. І співаецца з кожным днём.

— Мне плот трэба было паправіць, а то на агарод абваліцца,— сказаў пра свой клопат Лазоўскі.

— Гаспадар, летам плот правіць,— гмыкнуў Корзун.

— Дзеці па папяроўкі лазяць, паламалі.

— Пасядзі дзень без работы, бо саўсім у корч сагнешся. Думаеш, дзеці твае цябе за твае грошы даглядаць будуць? Здадуць у багадзельню. Бач, Кулеш, робіць і робіць, а яго выбранка ўсе яго грошы на анучкі з дачкой, як цераз прамую кішку прапусціла. Паехала да дачкі, а ён сам сабе трусы мые.

— Ён хоць сам сабе мые, але з расшпіленымі штанамі, як ты, пры добрай жонцы, не ходзіць,— заступіўся за Куляша Корзун.— Не даюць табе спакою чужыя грошы.

— Хваціць вам, на рамонце згадзела вас слухаць. Во адвячорак які, хоць ты прыляж ды прыдрамі. Маці некалі казала, усё роўна як і сам бог прыгрэўся на сонцы,— перапыніў іх Лазоўскі.

Яму яшчэ хацелася сказаць, што як прыйшлі яны з вайны, то не было ні тае выгады з работы, ні таго дастатку, як цяпер, не кажучы ўжо пра заработак, а яны рабілі. Ды і як рабілі, ад цямна да цямна, ноч прыхватваючы. На спустошанае прыйшлі, з холаду, з голаду. А і цяпер, здаецца, ніхто лепш за іх не робіць, яны яшчэ рабочая сіла. Цяпер за работу і пашана, і грошы, і ордэны, як Куляшу. За вайну не далі, а за работу зарабіў.

Зялёная дубровачка,
Чаму рана зашумела,
Жоўтым лісцікам зажаўцела?

Заспяваў механік ціха, глыбокім, але нейкім вольным, шырокім голасам. Быццам аднекуль звысоку аглядаў ён і поле, і тую далёкую, аж пры небасхіле, дуброву. Здавалася,

што і песня сама наплывала з лёгкае спрадвечнае палявое смугі над слуцкімі палеткамі. Услед ім песню падхвацілі Бранавец і Корзун.

Паўз мяне купцы едуць,
Яны з мяне дубцы рэжуць,
На карэнні агні кладуць,
Вышэй верху дымы ідуць...

Кулеш ківаў у такт песні галавой, глядзеў на Лазоўскага, які варушыў губамі, нібы хацеў падспяваць, але не адважваўся, ці развучыўся. Жэнік прыжмурана глядзеў удалечыню за возера, на белы будынак калгаснага клуба.

— Ой, ты вярніся мой войчанька,
Бо ты мяне не дагоніш,
Вараныя конікі ўтоміш.
— Ой, коні мае вараныя,
Слугі мае маладыя...

Цяпер ужо нібы перагаворваліся два галасы, расказвалі вечную, няхітрую гісторыю чалавечага жыцця. І затухалі згодна нейкай ціхай і светлай журбой.

Зялёная дубровенька,
Чаму рана зажаўцела...

Пасля песні маўчалі, як пасля доўгае дарогі.

Потым Корзун прыслухаўся і сказаў:

— Здаецца, мая ўжо разведала. Гарэлку, як карова воўка, за вярсту чуе.

Па дарозе да возера курэў матацыкл.

— Чорта яна цябе з-за гарэлкі пільнуе! Каб якую даярку не завёз сюды,— падкалоў яго Бранавец.— На, чмыхні на дарогу, усё роўна папахваліць цябе сёння.

— Каб мая гэтак, як ведзьма на мятле, лятала, я б яе адмясіў,— пракаменціраваў далей Бранавец і глядзеў, як Корзунава жонка падрулявала да масткоў.

— Ты адно толькі і ведаеш — адмясіць.

Корзун устаў, уссунуў на ногі сандалі.

— Пайду, а то як уварвецца сюды мая алкагольная рэвалюцыя, то будзе і вам!

Жонка тым часам ужо па-мужчынску, рыўком паставіла матацыкл на падножку, завярнулася да вострава, узяла рукі ў бокі. У чырвоным шлеме, у белай кофтачцы без рукавоў, у караткаватай спадніцы і спартыўным трыко — чакала.

Корзун з мосціка, як прэм'ер з трапа, махнуў ёй рукой.

У адказ жонка паказала кулак, зняла матацыкл з падножкі.

Ад матацыкла Корзун памахаў мужчынам рукой, сеў на задняе сядзенне, абняў жонку і, мабыць, ціскануў яе за грудзі, бо яна круцянула на яго галавой, і матацыкл паехаў па поплаве на дарогу.

— Во здор, выбраў сабе, прывёз з-за свету,— не стрываў Антон.

— А чаго? Добрая баба. І яго глядзіць, і ён да яе.

Лазоўскі ўстаў. За ім усталі і ўсе. Механік зграб у сумку астаткі закусі разам з газетамі, забраў бутэлькі.

Бранавец раскатурхаў Васілеўскага, які мірна задрамаў пры парожняй чарцы, павёў яго да матацыкла і пасадзіў у каляску. Лазоўскі таксама паехаў з механікам. Жэнік і Бранавец пайшлі да свае вёскі, а Кулеш — на сваю сцежку.

Душна, ціха вечарэла і яшчэ мацней пачынала пахнуць спелай збажыной.

## *13*

— Ну-у, Пярэсты! А, ваўкарэзіна, лянуешся ногі змяніць! — Жыгар дастаў каня дубцом па нагах, і той нехаця затрухаўся бягом. Колы мякка пакаціліся па паплаўной дарозе. Жыгар паправіў касу, якая была запрэжана і ляжала ў возе. Здаецца лета, цяпло, а зранку ў адным пінжачку і не тое каб халаднавата, але неяк свежа. Як ні гавары, хоць і былое балота, а трымае ў лагчыне вільгаць.

Наводдаль ад дарогі, за электрапастухом, хадзіў калгасны статак. Каб раней, то такую цімафееўку ніхто б не даў каровам таптаць. А цяпер яны пасвіліся па траве ў калена, калі вытоптвалі, пераганялі чараду на суседні калектар, адгароджаны электрапастухом. А на гэтым падсявалі ўгнаенне і нават палівалі, каб трава адрастала. Усё ж пасля меліярацыі на ўробленым людзьмі балоце запасіў на зіму сена і калгас сабе, і людзям хапала, і пашы трымаў вунь якія, што некалі і не сніліся. Ганялі кароў на пустых папарах і хацелі, каб малако давалі.

Пярэсты прабег крыху і зноў перайшоў на свой прывычны роўны ход. Жыгар не падганяў яго, каб не калаціцца ў драбінах, бо поплаў кончыўся і дарога пайшла па цвёрдай зямлі. І адразу ж павеяла цяплом, як ад нагрэтае печы. Жыгар неўзабаве скіраваў каня на вузкую, зарослую піжмай і крываўнікам мяжу, якую невядома нашто пакідалі паміж палеткамі.

Сінія валошкі выйшлі з жыта да сонца. Бярозка абвівала жытнёвыя сцябліны, цягнулася ўгору. З другога боку ад мяжы расла бульба. Ліст на ёй пажаўцеў мясцінамі, а сям-там і высахлі сцябліны.

Жыгар з'ехаў у лагчыну, да невялічкага лужка сярод поля. Жыта вымакла ўвесну, і да лужка можна было пад'ехаць з возам. Толькі зрэдку тырчалі сям-там жытнёвыя сцяблінкі, праменькія, з пустым коласам. Такія лужкі былі на кожным полі. У іх стаяла цёмная балотная вада, дно было гразкае. У самае спякотнае лета лужкі перасыхалі зусім, і гразь камянела, трэскалася. Цяпер трактарамі, калі аралі восенню, лужкі зворвалі амаль зусім, а некаторыя і зусім заворвалі. На месцы гэтых лужкоў шэра бялеўся глей. І ўсё роўна на іх месцы нічога не расло, бо вымакала вясной. А калі трымалася дажджлівае лета, то зноў пачынала брацца асака, трава. У засуху ж, акрамя травы, разараныя лужкі пачыналі зарастаць ваўчкамі і драсёнам.

Лужок, да якога прыехаў Жыгар, неараўся ніколі. Ён быў вялікі, у куп'і ў пояс чалавеку. А на купінах высока і густа расла асака. І толькі ў самым цэнтры стаяла вада, маленькая лапінка якой не высыхала нават у самае гарачае лета. Праўда, пакрысе меншаў і гэты лужок. Паўз краі яго, на тупкім, расла доўгая тлустая трава.

Жыгар злез з воза, выпраг каня, прывязаў яго ляйчынай за куст, потым уваткнуў кассё ў зямлю і абудзіў ранішнюю цішыню нязвыклым звонам мянташкі аб касу. І потым узмахнуў касой, адчуў, як яна мякка і напорыста ўвайшла ў траву. Вільготная, мяккая трава рэзалася лёгка і густа клалася ў пракос. Такую траву прыемна касіць, гэта не цімафееўка з цвёрдымі, як дрот, сцяблінамі. І пахне тая пакоша не гэтак.

Лёгка і плаўна хадзіла каса, і кошля была прыемная Жыгару, як і ўся сялянская работа. Ён рабіў яе з дзяцінства, ён ведаў, як рабіць яе, толькі не трэба было яго вучыць ці тузаць. А ўвесь век вучылі і тузалі. Усё нехта то зверху, то збоку правіў Жыгару. І ў калгасах, і нават на сваім пляцы. Усё абрэзвалі, усё абагульнялі, карову з хлява выводзілі. Цяпер, на пенсіі, урэшце ён можа рабіць што захоча і гэтак, як хоча. Праўда, Кіршчэня сказаў, што за гэтую кошлю на лужках калгас будзе браць грошы. А за што браць грошы? За тое, што Жыгар высушыць траву, дасць сена карове, а потым здасць гэтае малако і яно пойдзе і калгасу ў залік? Ды гэта не бяда, гэта не тое што было. Гэта не страхагенты, не падаткі, не ўпаўнаважаныя з раёна. Во папассалі

яны з Жыгара, асабліва пасля вайны, тае хлеба-солі, які ён вынес немцам. Усё роўна як ён прыяў тым немцам. Вынес, каб не чапалі, каб не пабілі ці не папалілі ўсіх. Хай сабе і пра сябе думаў, але ж, выходзіла, для ўсіх добра ад таго хлеба-солі было. Партызанам жа памагаў потым усю вайну...

Пад узмахі касы нават і пра тое непрыемнае думалася лёгка і балюча. У пракосе ішлося вольна, і Жыгар толькі зрэдку спыняўся, каб падмянціць касу.

Ён гэтак захапіўся кошляю, што не пачуў гук матора і камбайн угледзеў зусім блізка. Камбайн сышоў з дарогі ў жыта і спыніўся.

Жыгар адразу ж пазнаў Куляша. Ды і хто з маладзейшых у гэтакую рань паедзе ў поле. Цяпер хоць і спаборніцтва, і грошы добрыя плоцяць, а ў поле выязджаюць, калі ўжо насохне салома, тады круцяць дапазна. А Кулеш прывык, яшчэ з таго часу, калі ў МТС працаваў. Вось ён пры доме быць не любіць, яму трэба ісці ў людзі, каб з людзьмі. На пенсію пайшоў, а ўсё роўна хоць газаўшчыком прыстроіўся, каб быць на цэнтральнай.

Жыгар уваткнуў касу і пайшоў да Куляша, які ўглядаўся, хто косіць, і невядома ці пазнаў. Са шпрыцам у руках ён хадзіў каля камбайна, падглядаў яго.

Жыгар ішоў няспешным, гаспадарскім крокам, як чалавек, які таксама не спіць і робіць работу, не тое што іншыя. Але ўсё ж нешта быццам і муляла ся, трэба было растлумачыць Куляшу. Спаважная хада надавала ўпэўненасці.

— Дзень добры, Іванавіч! — павітаўся Жыгар, падаў руку.

— Дзень добры, дзядзька Хведар. Вам і на старасць год няма спакою. Цяпер жа ніхто ўжэ не збірае сена пры дарогах.

— Не збіраюць, чакаюць гатовага з калгаса. А я варушуся. Не зраўняеш сена, зробленае самім, і цімафееўку з балота.

— Яно-то не зраўняеш, але з-за клопату,— Кулеш усміхнуўся.

Хударлявы, рослы, у акуратнай чыстай спяцоўцы ён выглядаў і маладым, і вясёлым нейкім.

— А ты, Ян, на пенсіі як памаладзеў, дальбог! Хоць у сваты цябе вязі...

Жыгар асекся, спахапіўся: з Куляша, мабыць, і так ужо жартуюць з-за гэтае сібірачкі.

— Кажуць, дзядзька, што як хто сябе адчувае, гэтак яно і ёсць — калі маладым, то малады, калі старым — то стары.

— Яно бывае і ў старасці, што на маладое пацягне...

— Ага, а калі зусім на маладзенькае, то і кажуць, што здзяцінеў чалавек...

У Куляша быў вясёлы настрой, і яму прыемна гаварылася са старым Жыгарам, які ўсё сваё жыццё з дня ў дзень, з цямна да цямна нічога, акрамя работы, мабыць, і не ведаў. Ды і сам Кулеш усё некуды спяшае. І як у прорву тое назараблянае, амаль нічога ад яго не асталося. Радасці і тады не было, часу не ставала на радасць, а ў запас радасці не назбіраеш. Цяпер Кулеш ведае гэта, калі жыццё прайшло і назад яго не завернеш.

— А як Павел твой? Ён жа ў цябе начальства...

— Павел у Сібір у камандзіроўку на лета усё паехаў.

— І мае раз'ехаліся. Ты яшчэ маладзішся, а я ўжо часам, як скруціць хвароба, аж завыць гатовы сабакам...

— У іх сваё жыццё. Ім там лепш жывецца, і мая Мар'я, бач, задрала галаў і ў горад, як карова ў канюшыну, на старасць год.

— Ты свае Мар'і не знаеш... Яна як панясе дык панясе,— раптам засмяяўся Жыгар.

— Ну, ляйчына як пападзе пад хвост, то панясе. Гэта я ведаю. Гэтага дабра з мяне за век хапіла,— Кулеш згадзіўся весела, быццам усё тое было з некім другім.

Жыгар глядзеў, як Кулеш спрытна завіхаецца са шпрыцам.

— Баба, Ян, цёмная сіла, дна гэтай цёмнай сіле і канца няма. Гэта як пашанцуе каму, і калі любіць яна каго, то і жыццё зжыве, як песню саспявае чалавек. А як не, то ўсё будзе то не гэтак, то не так, то сяк-напераўкасяк. Альбо і зусім разваліцца. Не, бабская натура нязменная. А так жывеш, жывеш, а ўспомніць і няма чаго.

Кулеш паклаў у скрынку з інструментамі шпрыц, паглядзеў на Жыгара і прамаўчаў, падумаў пра нешта сваё.

— А ты хіба адзін, без памочніка? — запытаўся Жыгар, каб перавесці гаворку на другое.

— Жолуда мне далі. Мабыць, перапіўся ўчора, не аб'явіўся пакуль што. Пад абед калі хочаш прыйдзе.

— Прападае мужчына з-за гарэлкі. Хоць бы лячыць яго адправілі.

— Туды яго нельга, ён на туберкулёзным уліку.

— Дык ты сёння за дзень і шумнеш гэтае поле? — папытаўся Жыгар.

— Калі мой ветэран не паломіцца, то сажну.

— Як душа мая чула, што трэба браць падводу і травой дадому везці. А то кароў пусцяць, і прапала маё сена.

— Дадому забраць надзейней,— згадзіўся Кулеш і палез у кабіну.

Жыгар паволі пайшоў назад да свайго лужка. А цікава, калі падумаць пра таго ж Куляша і пра дачку Русакевічаву, як яны любяцца? Зусім як маладзенькія? Хаця і ён, Жыгар, тады быў не намнога маладзейшы, чым Кулеш цяпер. Праўду сказаў Кулеш, што калі не адчуваеш сябе старым, то і не стары. І ён тады не адчуваў сябе старым, пра гэта і не думалася, цела было здаровае і паслухмянае. Усё спраўнае, усё на месцы, а таму пра ўзрост, пра гады і не думалася. Тады яшчэ пляцы не абрэзвалі, па шэсцьдзесят сотак мелі. І тады яшчэ на пляцах сеялі збожжа, часцей жыта, бо хлявы саломаю крылі, і трэба было рамантаваць стрэхі і перакрываць. Сеялі жыта на пляцах на кулі.

І схапіць гэтыя снапы з поля дадому было толькі пасля работы, адвячоркам. Жыгар у той дзень вазіў калгасныя снапы ў гумно і ўжо ехаў ў канюшню выпрагаць каня, калі Мар'я Куляшова ад малатарні ішла. Моцная, у лёгенькай, цеснаватай на ёй сукенцы, з касынкай на галаве і з сахаром у руцэ.

— Садзіся, Марыя, падвязу.

— Вы б лепш, дзядзька, каня далі снапы з пляца прывезці.

— Паехалі. Хто ж табе накладзе? Ці я ўжо гэтакі ўломак.

— Вой, то дзякуй вам! Я думала сама накладу, а Паўлік бы падаў.

— Паўлік твой яшчэ малы снапы цягаць.

Жыгар шлеганyў каня ляйчынаю па баку. Мар'я сядзела побач з ім на аглабіне, і ён адчуваў цеплыню ад яе цела.

— А твой ударнік жне ўжо недзе?

— Жне. Камбайн яму далі гэтае лета.

— На камбайне хоць заробіць, не тое што мы тут.

— Павінен зарабіць, а так на чорта гэтакая работа, што і дома не стыкаецца.

— І гэта праўда. Пры гаспадарцы мужчына дома патрэбен.

— Усё з-за гэтага заработку гонішся...

Мар'я была быццам незадаволена заробкамі мужа. Ужо пачынала цямнець, але не спала яшчэ дзённая гарачыня. Мар'я лёгка падавала яму на воз снапы, ён глядзеў на яе

плечы, на яе рукі, на ўсю яе, налітую спелым жаночым сокам і сілай, і гэта хвалявала яго. Воз наклалі хутка, уціснулі, і калі ўціскалі і Мар'я прытулілася да Жыгара, то плячо было надзіва гарачае і мяккае.

Дадому Мар'я пайшла напрасткі, каб адчыніць вароты на двор і прыгатаваць на таку месца: куды скідаць снапы, а Жыгар паехаў наўкруга па дарозе.

Сонца ўжо чырвона села за небасхіл, але цямнела павольі, як і заўсёды ўлетку.

Снапы Жыгар скідаў прама на ток, а Мар'я стараніла. Потым ужо рукамі падаваў з воза, падносіў іх у гумно. Яны не гаварылі больш нічога, Жыгар толькі адчуваў, што хвалюецца ўвесь, і гэтае хваляванне панавала ў паветры. І яно ішло ад Мар'і. Калі яна брала ў яго з рук сноп і выпадкова дакранулася да яго рукі, гарачыня гэтая ашпарыла. І наступным было адчуванне, што яе вялікая і тугая гарачыня абхапіла ўсяго яго. Жыгар ступіў да Мар'і. І потым то быццам знікаў у ёй, то зноў на нейкія імгненні вяртаўся з небыцця. Здавалася, што гэта было доўга-доўга, і пасля асталася светлая пустата і лёгкасць...

Мар'я ляжала нерухома, бялелася ў прыцемку і не саромелася яго. Яна не вярнулася яшчэ са свайго бяспамяцтва.

Жыгар ціха, асцярожна выйшаў з гумна, выехаў з двара. І пакуль ехаў, стоячы ў возе, адчуваў, што не можа супакоіцца, трымціць кожная крывіначка ў яго целе.

Праз дзён колькі Мар'я перастрэла яго ля кузні, павіталася:

— Можа б, мне касу пабілі, дзядзька, а?

Жыгар убачыў, як блішчаць яе вочы, і зноў ад яе голых рук, ад усяго цела пачуў тую самую цеплыню, якую адчуў у той адвячорак. І зноў захвалявалася ўсё цела, затуманілася ў галаве, нібы вочы яе ўцягвалі ў сябе.

— Не, Манечка, не! У мае гады ніхто мне такога не даруе. Ты маладая, табе можна.

— Як ведаеце, дзядзька! — усміхнулася яна.

І не спяшалася пайсці. І потым яшчэ неаднойчы Жыгар лавіў позірк яе вачэй, затуманена бліскучы, які прыцягваў да сябе.

Жыгар роўна махаў касою. Цяпер ён не адчуваў у сабе нават і следу таго хвалявання. Ён і тады, і цяпер думаў пра тое, што Куляшу не пашанцавала з жонкаю, бо ведаў, чаму і чаго рыкае Мар'я. Але так уладкавана ў свеце, што нічога само па сабе не праходзіць і не даруецца. Здавалася, жыццё пражылі Куляшы, а трэба было з Сібіры ехаць сюды

Русакевічавай дачцэ... І хутчэй за ўсё абаім ім, ёй і Куляшу, радасці мала будзе.

Жыгар да абеду скасіў і наклаў на воз траву, прывязаў яе вяроўкамі, каб не раскідалася, а Куляшоў камбайн спорна снаваў па полі, і жытнёвая палоска ўвачавідкі меншала і меншала.

## *14*

Голас Усцінкі Мар'я пазнала адразу. Ды і чуваць было добра, быццам побач стаяла Усцінка.

— Вечар добры, мая галубка. Ты думала, што я забылася пра тое, што з табой гаварыла? Дамовілася я з маёй суседкаю, запішы яе тэлефон.

— З якою суседкаю? — не зразумела спачатку Мар'я.

— Ну, з тою, на танцы разам схадзіць.

— Дзякуй, цётка, не трэба. Якія тут танцы? Трэба паехаць дадому, хоць памыць там што, прыбраць.

— Яно трэба, мабыць, табе паехаць. Я Маню Міхаілаву на днях на Камароўцы сустрэла была. Прадаваць яблыкі яна прыязджала. Дык яна мне расказвала, што вярнулася з Сібіры дачка Русакевіча, настаўніка. Таго, што некалі да нас з акадэміі прыехаў. А Кіршчэня выдаў тады наццэма.

— Адкуль вы ведаеце, цётка? — папыталася Мар'я.

Тое, што вярнулася Русакевічава дачка, яна ведала. Свякроў расказвала пра яе вяртанне і пра тое, як памагала ёй.

— Гэта тады ўсе ведалі. А хто ж яшчэ? Ён жа акцівістам быў. Усюды ўрагоў тады арыштоўвалі. І яго арыштавалі. Пра гэта я чула тады, як медсястрою рабіла. І Марозік-фельчар, і Курганчык многае расказвалі пра тое, што рабілася. І пра Кіршчэню. Ён жа быў, як каршачок над усімі. Колькі мой Амерыканец яго папагадзіў, папаіў гарэлкаю і кілбаскаю папакарміў! Мая ты галубка, даўно гэта было. А настаўнік — чалавек новы, прыезджы. Дык мне, ведаеш, што Маня расказала? Надта ж твой Ян шчыруе ля гэтае жанчынкі. Яна маладзёна яшчэ і з выгляду. Ды Маня казала, што і ў хаце ў яе ён усё парабіў, і нават у дзіцячым садзіку, дзе яна рабіць асталася, усё паправіў, павыфарбоўваў.

— Вой, вы нагаворыце, цётка?! Унукі ў чалавека ўжо!..

Мар'я адчула, як гарачыня ашынула галаву. А чаму і не, калі маладая. Паміж сабою яны, здаецца, вечна ці рубам адно да аднаго, ці зусім задам.

— Я ж, мая галубка, нічога не кажу. Табе ж самой відней. Я табе пераказала толькі, што мне Маня сказала. Бабы, яны і нагаварыць усякага могуць.

Мар'і не хацелася больш слухаць Усцінку. «Бач ты, Леначка нутро пачула: і сапраўды Шапакляк чорны»,— падумала Мар'я, але ўжо спакою не стала, пачала званіць на работу Веры, каб тая сама забрала з сада Леначку.

У буднія дні на вакзале народу хоць і збіралася многа, але на Слуцк білеты былі, і Мар'я села ў аўтобус адразу ж. Аўтобус мяккі, вялікі, новы, ішоў экспрэсам, і на слуцкім вакзале Мар'і давялося чакаць амаль паўтары гадзіны.

Са Стараселля нікога на аўтобусе не было, толькі дзяўчынкі-школьніцы Кавалёвых ехалі. Ды яшчэ з калгаснага пасёлка. У твар іх Мар'я ведала, але — не болей. Цяпер у калгас наз'язджалася з усяго свету. І яны нікога вясковых не ведаюць, і вясковыя іх не надта.

Мар'і было гэта на руку, не хацелася, каб хто лез з роспытамі ці з расказамі. Яна прыстроілася ля акна і не бачыла, як у горадзе, на выездзе зайшла старая Ясіха.

— Дзень добры, Маня. А я глянула, здаецца, і знаёмы нехта.

Ясіха не чакала адказу, умасцілася побач з Мар'яй.

— Ты гэта з Мінску едзеш? У каторага ж была? Але што я пытаюся! У дачкі. Сын жа ў цябе старэйшы, у начальстве, яму ўсяго хапае. А маці з-за дачкі хіба спакой будзе?

Старая паправіла пад барадой ражкі хустачкі, і вочкі яе востра і пільна зірнулі на Мар'ю.

— І вам жа не сядзіцца, цётка.

— Не сядзіцца. Дзе ж ты, жывы чалавек, уседзіш. Усё ж хочацца паправіць ці зрабіць, каб лепш было. Сам ужо пра сябе не надта і думаеш.

— А што вам думаць? Кватэру ж пабудавалі, мэблі накуплялі. На ўсім гатовым пасадзілі.

— А думаеш, усё гэтае гатовае грэе? Мо каб самі зарабілі, самі агоралі, як некалі гаварылі... Што ж ты думаеш, ад лёгкіх грошай дабро вялікае? Ён жа прывучыўся піць, пасля работы не можа, каб не хлебануць дзе. А дзе п'янка, там і на дурное цягне. Цяперашнія ж жанкі не глядзяць, альбы пад руку мужчына папаўся.

— А некалі надта лепшыя былі? Старыя ж расказваюць.

Мар'я ўсміхнулася, паглядзела на старую. Гэта ў яе была мянушка Аборачка. А пайшла з таго, што мужчынам, якія да яе падыходзілі, наказвала: «Як прыйдзеш да сянец, руку прасунь у акенца і пацягні за аборачку». Аборачка тая

вяла да замыкла-засаўкі ў дзвярах у сенцах. А сама на тую пару выходзіла ў сенцы спаць, бо ў хаце ад цяжкага духу ў яе галава пачынала балець.

Старая паглядзела на Мар'ю востранькімі вачыма, выгляду не падала, што зразумела, у чый агародчык кінуты камень, і вырашыла аднесці пірагі:

— У цяперашнім свеце верыць цяжка. Вот і на твайго б хіба хто хоць што сказаў? Век бы і не падумаў! А як прыехала гэтая сібірачка, дык ён там у яе і платы ўсе пагарадзіў, пакуль цябе не было! Мала што ў хаце ўсё абрабіў, дык і ў садок следам пайшоў. Яна дзяцей у калгасны садок устроілася даглядаць. Дык і ён ля яе цэлыя дні, тыя дзіцячыя гушкалкі быццам рамантуе. І адрамантаваў, і нават павыфарбоўваў. Усё роўна як і работы ў старога мужчыны няма больш...

Старая гаварыла моцна, каб чуў увесь аўтобус:

— Я б, на тваім месцы, завязала б ёй на галаў спадніцу і па вуліцы б з крапівою голую прагнала...

— Вот страху вялікага, што памог жанчыне плот загарадзіць. А хіба ж вам ваш Ясь, як усе, хто толькі не лянаваўся, за вяровачку шморгалі, на галаў спадніцу завязваў? — адбрыла старую Мар'я.

Хлопцы, якія сядзелі ззаду, рагатнулі:

— Во даюць, старушкі!

Мар'я не стала чакаць, пакуль старая пачне аскірзацца, бо сварыцца тая ўмела, устала і пайшла бліжэй да дзвярэй. Але злосць бушавала ў грудзях. І з аўтобуснага прыпынку Мар'я шыбавала дадому не пераводзячы духу.

Старая Люба, як угледзела нявестку, па тым, як яна прэ, нібы ласіха, напрасткі з аўтобуса па разорцы між бульбоўніку, здагадалася, што да Мар'і дайшлі чуткі.

Мар'я павіталася са свекрывёй, уляцела ў сенцы, выклала з сумкі ў буфет прывезеныя батоны і хлеб, шмарганула нечага ў хату, вярнулася адтуль. Ёй нібы цесна было ў хаце.

— Есці хочаш? У мяне макарона зварана,— прапанавала старая, як быццам нічога і не заўважала.

— Не хачу я есці. А Ян дзе?

— Жне. Ён жа зноў на камбайн пайшоў.

— Жне? А можа, яшчэ і малоціць начамі?

— Можа, і малоціць. Ты сама ў яго папытай.— Старая Люба адказвала роўна, спакойна, хоць у самой трымцела нешта ў грудзях.— Ты менш слухай, што чужыя языкі наплятуць.

— Ага, можа, пачакаць, пакуль клунак звяжа і зусім да гэтае к... пяройдзе? Кніжку туды ад мяне, ад дзяцей занясе?

Мар'я не верыла, што ў Яна няма яшчэ аднае ашчаднае кніжкі, на якой ён назбіраў грошай, тых, што не аддаваў ёй.

— Не пляці дурнога. Якія грошы ў яго?

— Дурную з мяне робіце! Не, я так сядзець не буду! Я іх гэтак развяду, што дзесятаму закажуць! Я ім любоў пакажу!

Мар'я яшчэ пакруцілася па хаце, а потым пашыбавала на двор, з двара на вуліцу.

Прадчуваючы нядобрае, старая Люба выйшла на двор, потым у вулачку. Ціха і душна на дварэ. І людзей нідзе не відно, толькі дзіцячыя галасы чуваць. Дзеці гулялі на вуліцы, і нават гарачыня не перашкаджала ім. І раптам гэтую цішыню ўзарваў трубны Мар'ін голас. Старая Люба не магла разабраць слоў, але крык ператварыўся ў гвалт, умяшаліся другія галасы. Крык чуўся з былое панскае сядзібы, ад дзіцячага садзіка. Мар'я дабралася да сваёй суперніцы і як сава зайца, мабыць, драла яе.

Калі выходзіла з дому, Мар'я яшчэ не ведала, што будзе рабіць. Ногі міжволі самі панеслі да хаты Русакевічаў. І прыглядацца не трэба было: платы і варотцы падрамантаваны, павыкошвана ўсё пустазелле. Мар'я нават ткнулася згарача на двор, але на дзвярах у сенцы вісеў замок. Цераз агароды выйшла на гуменную дарогу і адтуль пакурэла да дзіцячага садзіка.

Час быў пасля абеду. Галя паклала дзяцей спаць, а сама прысела насупраць адчыненага акна ў альтанцы з кнігаю. Змалку яшчэ бацька прывучыў яе чытаць. Было чуваць, як на кухні кухарка Каця і нянечка Волька ціха бразгаюць, мыюць посуд.

Галя ўгледзела жанчыну, мажную, рослую, незнаёмую, якая ад варотцаў заўважыла яе ў альтанцы і павярнула туды.

— Вот ты якая, курва сібірская! Дак гэта ён мяне высадзіў, а цябе пасадзіў у матацыкл? Чаго вытрашчылася? Я табе бельмы твае бясстыжыя выдзеру! Мала табе тых, што па ўсім свеце скаланула, дак ты і сюды дабралася!

— Ціха, дзяцей пабудзіце! — ступіла ёй насустрач Галя, і ў той жа час твар балюча апякло. Мар'я растапырыла пяцярню і паласнула суперніцу па твары.

— Я з цябе кудлы гэтыя завітыя выдзеру!

Галя закрычала ад болю і ад страху, ад неразумення,

што адбываецца, баронячыся, сунула рукамі перад сабой і зноў пачула рык:

— А, курва, дык ты яшчэ пальцамі ў вочы цаляеш! А вот табе! Я цябе голую ў людзі выпушчу!

Мар'я рванула на суперніцы кофтачку.

У гэты час з будынка выбеглі Каця з Волькаю, кінуліся да разлютаванае Мар'і:

— Што ты робіш? Чалавека скалечыш!

Жанчыны павіслі ў Мар'і на руках, Галя адскочыла ўбок, прыкрываючыся разарванай кофтачкай. Адчувала, як пячэ ў твар, як солана ў роце ад крыві:

— Сюдою, загуменнем, Іванаўна, бяжыце дадому! Дадому бяжыце! — махала на Галю рукой старая Волька.

— Я табе ўсе вокны вымалачу! Я цябе, курва, бягом назад у тваю Сібіру запру!

Мар'я бачыла, як суперніца бокам, нібы спатыкаючыся, ішла загуменнаю дарогаю дадому. Мар'я яшчэ спрабавала вырывацца, але вырывацца ўжо не было чаго. І яна крычала, каб усе ведалі. Крычала ўсё, што магла, каб чулі ўсе. Яна ганьбіла і верыла, што ад гэтае яе ганьбы нікому не адмыцца. У вокны на яе спалохана глядзелі дзеці.

Кулеш заўважыў, што машына, якая адвозіла збожжа, едзе насустрач камбайну, хоць у яго намалочана толькі трэць бункера і ён не падаваў машыне знаку. Машыны звычайна чакалі пры дарозе, пад'язджалі пасля сігналу.

Малады, толькі пасля арміі шафёр, Колік Маталыцкі махнуў Куляшу, каб спыніўся, і, стоячы на падножцы, крыкнуў:

— Дзядзька, едзьце сваю Мар'ю налыгвайце, а то заб'е гэту вашу сібірачку!

Сказанаму Ян паверыў адразу ж, можа, было прадчуванне, што нешта павінна здарыцца, занадта добра і лёгка было яму апошні час,— можа, таму, што Толік гэтакага не мог прыдумаць і пажартаваць з ім.

— Садзіся, жні,— загадаў Кулеш памочніку, які з-за недахопу «гаручага» быў цвярозы, паслухмяны і сумны.

— Паехалі,— не то загадаў, не то папрасіў ён Маталыцкага.

Мар'я паляравала ўжо на вуліцы ля садзіка. Крыху збоч стаялі Каця з Волькай, наводдаль з веласіпедамі і без іх малеча, якая збеглася на крык.

— А во і малады прыляцеў! Я і табе, як гэтай тваёй, вочы выдзеру!

Мар'я ап'янела ад перамогі, ёй нічога не страшна было, тым больш муж, які вечна змоўчваў, яна прагла пакараць яшчэ і яго.

— Дзе Іванаўна? — Кулеш нібы не чуў Мар'і і не заўважаў яе.

— Пабегла агародамі дадому! Скрывавіла яна яе ўсю,— спалохана адказала Каця.

— Я і табе вочы выдзеру!

Мар'я пайшла на Куляша.

Ён не памятаў, што ў руках у яго стары прывадны пас, з камбайна. Але рука ведала, што трымае.

Удар цераз плячо сагнуў і апёк Мар'ю. Яна аж прысела, міжволі завярнулася ўцякаць, але другі гэткі ж бязлітасны, роўна адмераны ўдар зноў прыгнуў яе да зямлі.

Замест крыку з грудзей вырвалася толькі тоненькае:

— А вой-я-ёй!

Яна не ўспявала разагнуцца, прысядала ад кожнага ўдару. І боль, і ўдары не давалі пабегчы, паралізавалі, прыгіналі, здаецца, збівалі з ног.

Кулеш гнаў жонку вуліцай і роўна, раз за разам адмерваў, паўтараючы толькі адно:

— Гэта табе за ўсё!.. Гэта табе за ўсё!.. Гэта табе за ўсё!..

Мар'я хісталася перад ім, як п'яная, з боку ў бок, запляталіся ногі, і з грудзей вылятала толькі скуголістае «авой-я-ёй!».

Першая апамяталася старая Волька.

— А божачкі, што ж гэта нарабілася? Колік, бяжы, забяры яго, а то заб'е, дальбог, заб'е!

Маталыцкі дагнаў Куляша, зграб ззаду ў абдымкі. Кулеш не вырываўся, толькі паўтарыў услед жонцы, якая скуголіла і ўкосікі ішла па вуліцы:

— Гэта табе за ўсё!..

І паслухмяна пайшоў з Маталыцкім да машыны. Толькі ля камбайна зноў агледзеўся, што пас трымае ў руцэ, гідліва адкінуў яго ўбок, моўчкі падняўся ў кабіну.

І да самага канца дня не разгінаўся, жаў люта, без перапынку.

Мар'я дайшла дадому, як п'яная, скуголіла і толькі прыгаворвала:

— Забіў, жыўцом забіў!

Старую Любу яна нібы і не заўважала, снавала па хаце, збірала сумку, і толькі калі Люба папыталася:

— Куды ж гэта ты? Хоць абмыйся.

— Не буду мыцца. Паеду да дзяцей! Хай бачаць, да чаго бацька іхні дажыўся. Паеду!

Аднак у той дзень да Веры яна не даехала. У аўтобусе крыху аслухалася, адышла, і ў Слуцку зайшла да Шуры Грышкавай, з якой некалі сядзелі на адной парце. Там выказала ўсю сваю крыўду, выплакалася, і каб правучыць Куляша, пайшла ў міліцыю, адтуль у бальніцу, зняла даведку пра пабоі. У суд падаваць не адважылася, ды і Шура адгаварыла. А ў райком напісала і медыцынскую даведку прыклала.

Ідучы з работы, ужо зусім у прыцемкі, Кулеш з гуменнае дарогі, азіраючыся, зайшоў да Галі ў двор. У хаце не было святла, адчынены варотцы на вуліцу. Кулеш прайшоў па двары. Ён адчуваў, што яна не спіць, што павінна чуць, як ён ходзіць па двары. Потым падышоў, узяўся за клямку. Дзверы былі замкнуты з сярэдзіны на засаўку. Ян адпусціў язычок, і ў начной цішыні коратка металічна грукнула клямка. І больш ні шолаху, ні гуку. Грукаць Ян не адважыўся. Чаго грукаць і што гаварыць? Ён і сам не ведаў. Стаяў пасярод двара, нібы на нешта спадзяваўся. Падумалася, што Галя ўсё ж пакліча яго. Яна не паклікала. Ён выйшаў на вуліцу, зачыніў за сабой варотцы, зашчапіў іх.

Дома ў хаце гарэла святло. Ісці ў хату не хацелася. Прысеў на лавачцы на дварэ і адчуў, які стомлены, які стары, як баліць усё цела. Не хацелася нават пальцам паварушыць. Здалося, што ён стары-стары, жыве невядома колькі. Не хапала яшчэ на ноч жончынага лямантy і крыку.

А яна, мабыць, пачула, грукнулі дзверы з сянец, прачыніліся дзверы з веранды.

— Ідзі вячэраць, Ян,— паклікала маці, як і звычайна.

— А дзе яна?

— Паехала ўпрочкі.

— Слава богу! Што яна з Галяй зрабіла?

— Жанкі казалі, твар кіпцюрамі абадрала, кофтачку парвала. От дажылася я на старасць год да сараматы! От дажылася! Трэба ж табе, старому чалавеку!..

Старая Люба выцерла ражком хустачкі вочы.

— Ідзі вячэраць. Заўтра на работу.

Па-старэчаму цяжка Ян устаў, доўга мыў рукі пад кранам, потым вячэраў. Жаваў сілком і не адчуваў ніякага смаку. І не мог зразумець — да чаго гэта ён дажыўся.

*15*

— Васіль Сямёнавіч, чэпэ,— Радзюк увайшоў у кабінет і забыў зачыніць за сабой дзверы.

— Што такое? Што здарылася?

Па тым, які рашучы быў партыйны сакратар, Мяцельскі паверыў, што нешта здарылася і сапраўды.

— Вось. З рэзалюцыяй. Тэрмінова разабрацца і строга пакараць.

Радзюк падаў змацаваныя скрэпкай паперы.

Пісьмо Мар'я пісала не адна, з памочнікамі. У ім было і пра тое, які некалі добры чалавек быў Кулеш, і пра тое, як ён глядзеў дзяцей, жонку, пакуль гэтая — тут Мар'я абзывала суперніцу ўсякімі словамі — звяла чалавека. А цяпер жонка вымушана жыць не ў сваёй хаце, больш у дачкі ў горадзе. Камуніст дакаціўся да таго, што ўжо пры людзях, на вуліцы, ледзь не забіў яе насмерць. Таму партыя павінна разабрацца і паставіць яго на сваё месца. Да заявы прыкладалася медыцынская даведка.

У верхнім вугалку хуткім і акуратным почыркам сакратара райкома была напісана рэзалюцыя. «Тэрмінова разабрацца, строга пакараць і паведаміць». І подпіс: «Ігнатава».

Мяцельскі адкінуў ад сябе паперы:

— Знайшоў мне чэпэ! Я думаў, на таку што ці ў полі. Каб большага чэпэ ў нас не было.

— Я думаю, што створым камісію,— пачаў Радзюк, і Мяцельскі ўзарваўся:

— Якую яшчэ камісію! Уборка: жніво ідзе! А тут мужык жонку адлупіў. Яе, на добры лад, даўно трэба было правучыць. Ты гэтага не знаеш, я знаю, усе знаюць. А з чым разабрацца? У Куляша, можа, ужо, таго, і моцы няма штонебудзь бабе зрабіць.

— Як?

— А гэтак, як на старасць бывае.

— Дык што нам, яго на камісію адпраўляць?

— Адпраў.

— Няма ж такіх камісій...

— Затое спяцоў пісаць рэзалюцыі і выконваць хапае! Ладна, збірай партыйнае бюро. І без усякіх мне там расследаванняў і камісій. Другім пытаннем стаў гэтае, асабістае. А першае — аб ходзе жніва.

— Зразумела, Васіль Сямёнавіч,— Радзюк упарта паглядзеў на Мяцельскага, і ягонае «зразумела» мела свой сэнс. Але Мяцельскі прытварыўся, што не адчуў гэтага, апусціў вочы ў паперы і не падняў галавы, пакуль парторг не выйшаў з кабінета.

Пасля абеду і на мехдвары, і ў канторы ўжо вісела аб'ява пра паседжанне партыйнага бюро. Першым стаяла пытанне аб ходзе ўборкі. Другім — асабістая справа камуніста Куляша І. І. На падрыхтоўку дадзена было толькі два дні. Радзюк умеў выконваць загады.

Партбюро праходзіла тут жа, у агітпакоі на мехдвары. Радзюк сядзеў за сталом, выкладваў і роўнымі стосікамі раскладваў перад сабой прынесеныя паперы. Мяцельскага ён таксама запрасіў садзіцца побач, але старшыня адмовіўся. Ён сеў на прывычнае месца ў кутку. Адсюль добра відаць былі і сакратар, і ўсе члены бюро.

— Тады, Марына, сядай ты да стала. Думаю, таварышы, ніхто не будзе супраць, каб сёння сакратаром папрацавала Марына? — Радзюк гаварыў прывычнае і не адрываўся ад папер.

Амаль усе пратаколы пісала настаўніца, якая прадстаўляла ў партыйным бюро мясцовую інтэлігенцыю. Пісаць пратакол — яе асноўная функцыя ў партбюро. Почырк настаўніцкі, акуратны і разборлівы, запісанае ёй лёгка перадрукоўваць машыністцы.

Сюды ж за стол сеў і Кіршчэня, які запазніўся. Увогуле, ён амаль заўсёды прыходзіў на некалькі хвілін пазней, і для яго заставалася месца толькі за сталом, у прэзідыуме.

— Якія будуць прапановы? Пачнём паседжанне. Амаль усе члены партыйнага бюро ў зборы, двух няма па прычынах уважлівых.— Радзюк глядзеў у паперку: нібы і гэтыя словы вычытваў адтуль.

— Тройка за сталом. Можна,— кінуў жарт інжынер.

Радзюк жарту не пачуў.

— На павестцы дня ў нас два пытанні. Акрамя гэтага ў мяне ёсць яшчэ невялікая інфармацыя для членаў бюро. Каб не трымаць нашых спецыялістаў, думаю, дадзім адразу ім словы для інфармацыі, абмяняемся думкамі. А тады пяройдзем да другога пытання толькі складам партбюро. Згода? Згода.

Мяцельскі дастаў з кішэні стары, зацёрты і пакамечаны блакноцік, па прывычцы крэсліў у ім ручкай. Тое, што гаварылася на партыйным бюро, ён ведаў на памяць. І лічбы памятаў амаль усе. Цяпер нібы правяраў сваю памяць.

Гэтак жа няўважліва слухалі выступоўцаў астатнія члены партыйнага бюро, не вытрымлівалі, пачыналі перагаворвацца паміж сабой. Калі дудзенне набірала моц, Радзюк стукаў алоўкам па стале, каб усталяваць цішыню і парадак. Урэшце адзін такі недахоп знайшлі — страву са сталоўкі давозілі на поле халодную. З-за гэтага было выказана дружнае абурэнне і знойдзена прычына. Аказалася, што пацёк тэрмас, і замест таго каб запаяць яго, нічога лепшага не прыдумалі, як вазіць ежу ў звычайным бітоне з-пад малака. Аднак пытанне абмяркоўвалі сур'ёзна, у гэтым убачылі непавагу да тых, хто цэлы дзень жне.

Мяцельскі прыжмураным вокам аглядаў членаў партбюро, пакуль не сустрэўся позіркам з Куляшом, які ў чыстай клятчатай рубашцы сядзеў у другім кутку і ледзь прыкметна ўсміхаўся. Мяцельскі кіўнуў Куляшу галавой і не вытрымаў:

— У мяне ёсць прапановы авансам — у пакаранне даручыць Куляшу запаяць гэты тэрмас.

Члены партбюро засмяяліся. І Радзюк, які разумеў ці адчуваў, што адбываецца нейкі розыгрыш, рашыў яго спыніць.

— Таварышы, не будзем ператвараць наша паседжанне ў вячоркі. Калі няма пытанняў па першым пытанні, то будзем закрываць яго.

— Пытанні-то ёсць,— азваўся каваль Фёдар.— Але ад таго, што тут языком часаць будзем, іх не паменшае. Ночы летам кароткія, а заўтра ў нас ва ўсіх работа.

— Значыць, канчаем з першым пытаннем. Думаю, што ў пратаколе запішам: лічыць абавязкам кожнага камуніста на сённяшні дзень як мага дапамагаць жніву, удзельнічаць у ім. Мы з Марынай тут сфармуліруем. Згода? Тады таварышы, не члены бюро, можаце быць свабодны.

Радзюк пачакаў, пакуль выйшлі людзі, адкашляўся, акінуў усіх позіркам:

— Гм, другое пытанне, скажу прама, непрыемнае. Яно адрывае нас ад асноўнай работы, але прайсці міма мы не можам. І нам не дазволяць.

Радзюк цяпер адчуваў сябе намнога ўпэўненей, чым тады, калі гаворка ішла пра ўборку. Ён узяў у рукі паперу, зірнуў на членаў бюро.

— Мы атрымалі перасланую да нас з райкома скаргу аб недастойных паводзінах нашага таварыша Куляша Івана Іванавіча. З вашага дазволу, я вам яе зачытаю.

Радзюк адкашляўся, гатовы чытаць:

— А пра што? З-за таго, што Мар'ю адлізгаў? — запытаўся зноў каваль Фёдар.— Дык мы і так усё ведаем.

— Я ўжо сказаў, гаворка ідзе аб амаральных паводзінах камуніста,— пачаў Радзюк.— Рэзалюцыя сакратара райкома дакладная і адназначная — разабрацца і строга пакараць.

— Разбірацца-то мы будзем,— не здаваўся каваль.— Але нашто нам усю тую брыдоту, што там напісана, слухаць?

— Пётр Пятровіч, лепш, мне здаецца, перакажыце членам бюро сутнасць заявы. Урэшце, каму цікава, пасля бюро можа астацца і пачытаць. А так час ідзе,— падтрымаў каваля Мяцельскі.

Ён бачыў, як сцяўся у сваім куце Кулеш, як варухнуліся ў яго на сківіцах жаўлакі.

— Я магу і так. Сутнасць пісьма жонкі Куляша на імя першага сакратара райкома ў тым... Гм... Ну, тут пра тое, як ён сапсаваў ёй жыццё, тут пра грошы... быццам грошай не дае... гм... Ага, вось тут яна піша, што таварыш Кулеш завязаў любоў з Русакевіч Галінай Іванаўнай, якая пераехала да нас нядаўна і працуе ў дзіцячым садзіку...

— Го, Ян, дык ты маладзец, калі яшчэ гэтак можаш! — каваль Фёдар весела рагатнуў.— Яго паашчрыць за гэта трэба!

— Не перабівайце мяне, калі ласка, таварыш Сыцька. Значыць, такія паводзіны, такое сужыцельства разбэшчвае моладзь, наогул людзей і не адпавядае нашай маралі...

— Ты глядзі, як Мар'я ў горадзе падкавалася!

— Таварышы! Не паважаеце сябе, паважайце мяне! Радзюк пакрыўдзіўся.

— Не адпавядае нашай маралі. А цяпер пра тое, да чаго дайшло... гм... сярод бела дня, на вуліцы, біў люта, каб забіць. Гм, і засталася жывая толькі таму, што людзі ўратавалі. І зноў пра прыклад камуніста. І да ўсяго — даведка медыцынская аб пабоях. Вось так, а вы спрабуеце перавесці ўсё на жарты. Хто хоча выказацца?

Усе прыціхлі. Нікому першаму гаварыць не хацелася, і тады цішыню перапыніла Марына:

— Дык, можа, паслухаем самога Івана Іванавіча. Тут чулі, што пра яго гаварылася, цяпер паслухаем, што скажа ён сам. Праўда гэта ці няпраўда?

Кулеш паволі ўстаў.

— Скажыце, Іван Іванавіч, можа, тут што не так? Можа, гэта няпраўда? — прыйшоў яму на дапамогу Радзюк,

як прыходзіць вучню на дапамогу настаўнік, які зараней упэўнены, што той не ведае ўрок.

— Мне гаварыць быццам і няма пра што. Набіў жонку, пры людзях. І моцна набіў. А астатняе? Больш нічога не было. Ды што павінна быць? Дапамог чалавеку, які вярнуўся дадому? Век адзін аднаму дапамагалі. І ўдовам таксама.

— Не трэба блытаць, Ян. Дачцэ ворага народа дапамог,— сурова перапыніў Куляша з-за стала Кіршчэня.

— Яна ворагам не была. Я дзіцем яе маленькім помню. А бацьку яе, Антон Аляксандравіч, рэабілітавалі. Можа, добра, што ён не вярнуўся...

— А ты не зарывайся, Ян, не зарывайся! Мы яшчэ рашаць з табой будзем! — прыкрыкнуў на яго Кіршчэня.

— Я не зарываюся. Адно скажу, што ні ў чым не каюся. І вінаваты за адно, што на канец жыцця да ўсяго гэтага дажыўся. За гэта я вінаваты. Толькі тут я сам сабе суддзя...

— Пакуль ты камуніст, партыя табе суддзя,— зноў паправіў Куляша Кіршчэня.

— Таварышы, давайце дадзім дагаварыць Івану Іванавічу,— умяшаўся Радзюк.— Як я зразумеў, вы не каецеся за тое, што білі жонку. Каецеся толькі, што пры людзях магэта рабілі. Гэта не адпавядае, Іван Іванавіч, ні нашай маралі, ні кодэксу будаўніка камунізму. А ў астатнім вы ад усяго адмаўляецеся? Правільна я вас зразумеў?

— А вы што ж і праўда думаеце, што мы гэтакую любоў вытваралі, як у тэлевізары цяпер паказваюць ці ў кіно? — Кулеш павёў вачыма па членах партыйнага бюро.— Бог нас ад гэтага мілаваў. А вы думайце што хочаце, і разбірайце як хочаце! Усё!

Кулеш сеў. Мяцельскі бачыў, як ён пабялеў з твару. Гэтая бледнасць абмаладзіла яго стары твар. І ў сваёй рашучасці, у зазлаванасці ён напомніў таго, маладзенькага Куляша, які забег да іх у шпітальны шалаш.

Мяцельскі тады пайшоў ужо на папраўку. Ён нават спрабаваў уставаць і ступіць некалькі крокаў з кастылём. Кастыль яму выразалі з дубка, цяжкі, але і моцны. Адзін сук зручна было ўзяць пад паху, за другі трымацца рукой.

Зранку далятала да шпіталя духавая музыка. Іграў партызанскі духавы аркестр. Некаму з начальства прыйшла гэтакая думка ў галаў. Тэрмінова з усіх атрадаў сабралі музыкантаў, знайшлі ў насельніцтва трубы, і сёння аркестр

іграў савецкія песні і маршы. У лесе на паляне, на ўзгорку была падрыхтавана драўляная трыбуна. Яе абклалі дзёрнам, аздобілі дзеразой. Адсюль меліся выступаць прамоўцы, пасля прайсці ля яе парадам партызаны. Усё гэта рыхтавалася ў гонар свята Кастрычніка.

Мяцельскі запомніў гэта добра таму, што ім, тым, хто ляжаў у шпітальных шалашах, хацелася ўдзельнічаць у святкаванні, бачыць яго. Такое больш наўрад ці будзе.

А дзень пачынаўся чысты, звонкі, па-асенняму ўжо і халаднаваты, але сонечны, і таму ласкавы.

Трывога адчулася пасля таго, як паўз шпіталь з кухні рушылі ўзброеныя партызаны. Адтуль, з кухні, зранку павявала будучым святочным абедам. Цяпер адтуль прашалясцела трывожнае кароткае слова «немцы!».

І быццам у доказ гэтага, ударылі першыя гарматныя стрэлы, потым мінамётныя. Стралялі густа, не шкадавалі ні снарадаў, ні мін. І выбухі чуліся не ў глыбіні лесу, а недзе на яго далёкіх узлесках. Пасля артабстрэлу даляцела вінтовачна-кулямётная страляніна. Завязваўся цяжкі, памятны многім партызанам бой.

Па буданах прайшоўся начальнік шпіталя, кульгавы, стары доктар, з маленькай, сівенькай бародкай. Ён строга даваў каманды медсёстрам праверыць і зрабіць занава перавязкі ўсім цяжкапараненым. Тым, хто мог трымаць зброю, загадвалася быць напагатове і па камандзе заняць абарону.

Праз некалькі гадзін зноў загрымелі артылерыйскія стрэлы, потым пачуўся кулямётны агонь, а праз яго прарваўся і страшны гул танкавых матораў.

У шпіталь прывезлі першых трох параненых. Адзін быў моцна скалечаны выбухам міны, увесь забінтаваны, і скрозь бінты чуліся толькі глухія, слабыя стогны, другому адарвала руку, і ён ляжаў без прытомнасці ад вялікай страты крыві. Трэцяму куля трапіла ў нагу вышэй калена, але костка ўцалела. Ён расказваў, што немцы атакуюць з двух напрамкаў, хочуць адрэзаць дарогу ў глыб лесу. Абодва атрады трымаюць абарону на ўзлеску. Танкавы дэсант не ўдаўся — падбілі цяжкі танк і адзін лёгкі, таксама два бранявікі.

— Люта ідуць. Пяхоты не шкадуюць. Атака за атакай,— незнаёмы Мяцельскаму чорны, як цыган, партызан з суседняга атрада моршчыўся ад болю і ніяк не мог зручна пакласці сваю параненую нагу.— Мы ўжо сем атак адбілі. Раз у контратаку падымаліся. Яшчэ доўгі бой будзе. Рэгулярныя часці кінулі з эшалона.

Пасля абеду абознікі пачалі запрагаць коней і вымошчваць сенам вазы.

Вось тады Мяцельскі і ўбачыў Куляша. Той прыляцеў у шпіталь конна, узрушаны, разагрэты боем, перадаў начальніку шпіталя загад камбрыга.

Ён ужо завярнуў каня, каб ляцець далей сваёй дарогай, калі Мяцельскі паклікаў яго.

— А, ты тут, Васіль? — запытаўся ён.— Я і забыўся!

— Як там?

— Пруць! Атака за атакай. П'яныя!

— Нашы як?

— Даём прыкурыць! — нахіліўся з каня і паведаміў: — Камандзіра з Варашылава забілі — у контратаку хадзілі.

— Дадзержымся да цямна?

— Дадзержымся! — Ян быў малады і ўпэўнены ў тым, што пачуў ад старэйшых людзей. Але трывога, якая пачулася ў голасе Мяцельскага, затрымала яго.

— Ты не бойся, Васіль. Усё нармальна будзе. Я сюды яшчэ заскочу.

Недзе ў чатыры гадзіны, пасля таго як пакармілі недавараным святочным мясам, параненых пасадзілі на падводы і рушылі ў глыб лесу. На ўзлеску яшчэ чуўся бой.

Партызаны адышлі з пазіцый, як сцямнела, бо трымаць больш бой з рэгулярным войскам не было чым — кончыліся боепрыпасы. Кулеш дагнаў тады шпітальны абоз, знайшоў Васіля. Мяцельскі тады зразумеў, што ён знарок шукаў яго ў тым абозе, і ад гэтага спакайней рабілася на душы. Невядома яшчэ было, чым і якім болем стрэне іх наступны дзень.

Але назаўтра той жа радасны Кулеш прынёс у шпіталь і другую навіну: раніцаю фашысты рушылі да чыгуначнай станцыі.

У гэты дзень партызаны хавалі тых, хто загінуў...

— Не, забі мяне, не бачу, за што тут вымовы пісаць,— не здаваўся каваль Фёдар.— За тое, што Янава жонка патрывожыла сваім пісьмом райкомаўскае начальства?

— Таварышы, яшчэ раз тлумачу. Справа ідзе аб маральным аблічча камуніста. Напомню вам, што сказаў у сваім нядаўнім выступленні Леанід Ільіч пра чысціню нашых радоў. Калі справа трапіць у раённую камісію, там дабавяць. Але тады ўжо і нас будуць разбіраць,— гнуў сваю лінію Радзюк.

— І правільна зробяць, калі дабавяць! Калі дабавяць яму і нам. Мы не павінны быць беспрынцыпнымі і бяззубымі! Калі не хочам, каб з нас хіхікалі, то трэба, каб нас баяліся. Каб адчувалі строгасць. Сёння камуніст бегае памагаць былой наццэмаўцы, заўтра ён публічна жонку б'е... Да чаго ж мы даедзем! Строгая вымова з занясеннем — і за гэтакую літасць няхай Кулеш нам падзякуе. Гэта я вам гавару, стары камуніст,— Кіршчэня ўстаў і гаварыў стоячы, побач з Радзюком.

Засяроджана пасопвала носам, пісала пратакол Марына. Маўчалі і астатнія члены бюро. Яны прывыклі галасаваць гэтак, як галасуе начальства, а таму чакалі, пакуль вырашыцца пытанне. Пакуль не скажуць, як галасаваць. Мяцельскі заўважыў нават, што яшчэ адзін прадстаўнік, ужо ад механізатарскага корпуса, шафёр Пратасеня, настойліва змагаўся са сном. Вейкі ў яго пачыналі зліпацца, але ён расплюшчваў вочы, хоць галава ўпарта хілілася набок. І Мяцельскі падумаў, што Пратасеню заўтра на работу, на работу і даяркам, і свінаркам, а яны зараз таксама тут і таксама змагаюцца са сном.

Кулеш сядзеў моўчкі, ужо нібы і спакойны, раўнадушны. І толькі па тым, як сурова ягоныя вочы глядзелі ў адно месца, Мяцельскі зразумеў, што думае Кулеш пра іншае і што ён можа не вытрываць болей ад гэтае гаварыльні, узарвецца, тады сапраўды трэба будзе заводзіць персанальную справу.

— Вось што я скажу вам, таварышы. Калі спусцілі нам зверху пісьмо, то спагоняць і адказ. На мой бы розум, дастаткова было б нам абмежавацца абмеркаваннем паводзін Куляша на партыйным бюро. Нашто забягаць наперад, караць, каб застрахавацца. Нам трэба закрыць пытанне. І мы яго закрываем. Вось мая прапанова. І ніякіх строгіх, ніякіх з запісам.

— Партызанская дружба, Васіль, не для таго, каб займацца пакрывацельствам адзін аднаго. Партыйная прынцыповасць павінна быць вышэй. А таму я настойваю на строгай вымове з занясеннем ва ўліковую картку. І за фармуліроўку — за амаральныя паводзіны, якія ганьбяць імя камуніста,— не даў дагаварыць Мяцельскаму Кіршчэня.

— Гэтак мы зноў адзін аднаго раскулачваць пачнём,— абазваўся напаўголаса каваль Фёдар, але Кіршчэня недачуў, што той сказаў.

— Таварыш Сыцька, думайце, пра што гаворыце і дзе гаворыце! — перапыніў яго Радзюк.— Таварышы, думкі

членаў бюро разышліся. Адна прапанова самая крутая, другая — абмежавацца ў пакаранне толькі нашым сённяшнім абмеркаваннем. Давайце не будзем траціць свой час і прымем трэцюю прапанову — аб'явіць проста вымову з фармуліроўкай «за паводзіны ў сям'і, якія не адпавядаюць статусу камуніста». Мы ўжо і так нагаварыліся. Хто за маю, за апошнюю прапанову, прашу падняць рукі.

Радзюк першы падняў руку, і тады, як па камандзе, паднялі рукі і астатнія члены партбюро. Канчаткова прачнуўся ад дрымоты Пратасеня і ўслед за адной рукой ледзь не падняў і другую.

Мяцельскі не падымаў руку. Кіршчэня быў гатовы прагаласаваць супраць, але Радзюк рашыў падвесці рысу:

— Пераважная большасць. Галасаваць болей няма сэнсу.

— А я супраць,— заявіў Кіршчэня.

— Прашу прабачэння, Марына, запішы, што адзін супраць. Ці яшчэ ёсць хто супраць? Няма. Тады рашэнне прымаецца. Дзякуй вам, таварышы. На гэтым паседжанне партыйнага бюро аб'яўляецца зачыненым.

Мяцельскі не заўважыў, як знік з памяшкання Кулеш. Выйшаў на двор, але і там яго нідзе не было. Не было і на дарозе.

Кулеш пастараўся выйсці першы, бо ведаў з таго часу, калі і сам некалі быў членам партбюро, што тут, за дзвярыма, тыя, што абмяркоўвалі, пачнуць выказваць спачуванні. І тады акажацца, што ўсе добрыя, ніхто не хацеў ніякага пакарання, наадварот. Думаў, як добра, што Галя хоць не партыйная і не стаяла на ўліку, а то і яе вось гэтаксама б разбіралі. Кулеш не любіў гэтага слова, бо ведаў з дзяцінства, што разбіраюць толькі кармляка, гэтак гаварылі бацькі. І яшчэ Куляшу падумалася, што, мабыць, доля яго такая,— усё быццам між іншым у жыцці, нібы ты і не маеш значэння для таго, што сам робіш. Вось гэтак партызанка забрала маладосць, мімаходзь замёў у свой вір фронт, а потым круціла, як тую салому ў малатарні, усё жыццё калгасная работа. Аднаўляліся, узбуйняліся, дзяцей у людзі выпіхалі, чаго толькі не рабілі, нават камунізм будавалі,— а ўсё для некага іншага, лепшага, толькі не для цябе самога. Цяпер, калі падараваў лёс тое, чаму душа зарадавалася, узялі і «разабралі». Разбор пакінулі замест усяго, каб ведаў сваё месца і не сунуўся куды не след. А заўтра ідзі і жні з цямна да цямна, бо тыя, хто разбіраюць, самі жаць не будуць. Яны не ўмеюць, не хочуць, а таму цябе з работы не выпусцяць...

Можа, ад гэтых думак глухой здавалася летняя ноч, нібы прапалі з яе гукі і пахі. Пра гэта Кулеш яшчэ думаў, калі засынаў на сене, і яблык з яблыні, быццам назнарок, гопнуўся на шыферны дах і заскакаў долу.

### *16*

Пасля бюро не спяшаліся раз'язджацца. Мужчыны закурвалі, гаварылі. Кіршчэня любіў таксама пастаяць з імі, пагаварыць і сказаць тое, што не сказаў. Але сёння не было гэтага жадання. Стараючыся быць непрыкметным, ён узяў свой маторны веласіпед і не заводзіў яго, каб не трашчаў маторчык, павёў у руках па дарозе дадому.

Зорная, ціхая ноч. Пахла жытам, валошкаю. Чуваць было, як ля канторы ляпалі дзверцы машын — ад'язджалі дадому галоўныя спецыялісты. Кіршчэня прыпыніўся, пастаяў, пакуль праляцелі машыны, абдаўшы яго пылам.

Кіршчэня радаваўся цемры. Калі б не ноч, то, здавалася б, усе бачылі яго сённяшнюю ганьбу — тое, што яго слухаюць і баяцца. Аказваецца, не. Ужо перасталі баяцца, калі Мацельскі адважыўся напомніць пра той куратнік, і сёння на яго не зважаюць. Маўчаў, пакуль Кіршчэня быў пры ўладзе ў раёне, маўчаў, бо ведаў, што да яго, а не да каго другога заязджаў і начальнік міліцыі, а то і не адзін, ■ з упаўнаважаным камітэта, якога ўсе баяліся. Ніхто гэтага ўпаўнаважанага не называў па прозвішчы, але ўсе ведалі, адкуль ён. Калі прыязджалі з начальнікам міліцыі ўдвух, то начальнік за рулём, ■ ўпаўнаважаны ў калясцы. Тады начальнік міліцыі пісаў запіску да Жыгара, і Кіршчэня браў аброчную торбу, ішоў, як сувязны. Жыгар разгортваў запіску і з торбай знікаў з хаты. Вяртаўся і падаваў яе Кіршчэню напакаванай. У торбе кожны раз была пяцілітровая бутля з самагонкай. Яшчэ кавалак сала, а то нават і каўбаса. Кіршчэня аднойчы не вытрываў, разгарнуў паперку і прачытаў запіску. Алоўкам там было напісана: «Жыгар, выдай довольствие в установленном порядке» — і подпіс. Потым, колькі Кіршчэня ні зазіраў у запіскі, усё паўтаралася слова ў слова. Пасля таго як Жыгар сустрэў немцаў хлебам-соллю, не даваць ён не мог. Даваў партызанам, вытаргаваў у іх даведку, што з'яўляўся сувязным, але ўсё роўна органаў баяўся. Тады не асмельваўся абзывацца: «І я гэтакі ж партызан, як і вы». Гэта цяпер, калі павыдавалі партызанскія пасведчанні, і Жыгару таксама выдалі, калі паўручалі юбілейныя медалі, і ён пачаў абзывацца.

А ў той час сядзеў, падціснуўшы хвост, і баяўся, каб па яго не прыехалі.

І Мяцельскі тады шаўковы быў, не цапаўся, наадварот, частаваў і Кіршчэню разам з упаўнаважанымі.

Кіршчэня не заўважыў, што ад шпаркай хады і ад пікання свайго маторнага «козліка» ўпацеў. Спыніўся, дастаў з кішэні штаноў спецыяльна пакладзеную туды сёння чыстую насоўку, выцер лоб і патыліцу, аддыхаўся.

Свяціліся вокны ў катэджах у новым калгасным пасёлку, на цэнтральнай сядзібе, не гэтак ярка з засені прысад высвечваліся вокны вёскі. Спакой панаваў у прыродзе. Кіршчэня ніколі не быў ні паляўнічым, ні рыбаком. Ён і кароў не любіў пасвіць, а таму глядзець на тое, што навокал, у яго ніколі не ўзнікала патрэбы. Дзень быў для таго, каб рабіць сваю дзённую работу, ноч для таго, каб адпачываць, дрэвы раслі таму, што яны дрэвы, трава — таму, што яе трэба было касіць і нарабіць з яе сена, збожжа — каб намалаціць з яго хлеба... Цяпер толькі, у старасці, ён часам нібы спатыкаўся, пачынаў заўважаць, якое нечакана густое і зорнае неба бывае ў жніво і як часта падаюць з неба зоркі, пакідаючы за сабой імклівыя росчыркі. Ці дзівіўся туману, які зранку густа наплываў, затапліваў усё навокал, а пад сонцам нечакана хутка распаўзаўся кудлатымі лахманамі. І не разумеў, навошта заўважае і навошта трэба яму гэтае заўважанне. І зараз ён не доўга любаваўся ноччу, разагнаў веласіпед, і той роўна і напорыста затрашчаў маторчыкам.

Аднак крыўда не дала Кіршчэню спаць спакойна ноч. Перажылі б Мяцельскія з яго, ведалі б тое, што ведае ён, не хапіла б у іх гэтакай смеласці. Дарма, што не прыязджаюць упаўнаважаныя цяпер, як прыязджалі раней.

Кіршчэня і ў ложку доўга варочаўся з боку на бок, урэшце вымушаны быў устаць сесці за свой пісьмовы стол, раскрыць канторскую кнігу і пачаць пісаць. Пяро пісала адно, а ў галаве паўставалі тыя малюнкі, пра якія ён усё ж не адважваўся да канца ні напісаць, ні нават расказаць. У душы нешта стыла, і пераступіць цераз невядома кім, але навек пазначанае «нельга», ён не мог і зараз, праз многа гадоў, калі, мабыць, тых упаўнаважаных, што памятаў ён, і на свеце няма. І час іншы. Але не верыў стары Кіршчэня, што не можа быць таго, каб пільнае вока не глядзела і не прыкмячала ўсяго, што робіцца навокал. Ёсць нагляд за ўсімі, без гэтага проста нельга.

І чамусьці нагляд гэты паўставаў у вобразе Беразоўскага.

Нічога адметнага і страшнага ў тым Беразоўскім не было. Крыху вышэй сярэдняга росту, вочы блакітныя і валасы светлыя, кучаравыя, нейкія нават жаночыя. І скуранка на ім звычайная, крыху вынашаная, планшэтка заўсёды з сабою. І наган у кабуры. І ўсміхаўся гэты Беразоўскі, што аж ямачкі на шчоках абазначаліся. Але раптам нешта магло змяніцца ў яго абліччы. Блакітныя вочы страчвалі свой лёгкі колер, рабіліся вадзяністымі і страшэнна бяздоннымі. Мароз па скуры праходзіў ад гэтага позірку. Кіршчэня на сабе адчуваў. Смерць раптам выглядвала з тых вачэй.

Упершыню гэты смяротны холад Кіршчэня адчуў, калі толькі пазнаёміўся з Беразоўскім. Да вайны яшчэ. Пасля адной з нарад сакратар райкома неяк сказаў Кіршчэню:

— Ты зайдзі пасля да мяне. З табою адзін чалавек пагаварыць хоча.

Кіршчэню падалося, што і ў словах сакратара райкома прамільгнула нешта далёкае ад уладнасці і ўпэўненасці.

Вось тады ў кабінет да сакратара і ўвайшоў прыгожы, кучаравы малады мужчына з ямачкамі на шчоках, калі ўсміхаўся, падаў Кіршчэню руку, пацісну і сказаў:

— А я чуў, чуў пра вас, таварыш Кіршчэня.

І тое, што ён чуў, абазначала ўжо пахвалу. Хаця што ён чуў, бог ведае.

Беразоўскі зірнуў на сакратара райкома, і той паслухмяна ўстаў са свайго месца.

— Ну, вы тут пагаварыце, у мяне справа ёсць,— сказаў ён і выйшаў з кабінета.

Беразоўскі прысеў насупраць Кіршчэні, глядзеў на яго, усміхаўся.

— Думаю, што мы з вамі будзем няблага працаваць, таварыш Кіршчэня. Вы чалавек мясцовы, людзей ведаеце. У нашай рабоце апора на такіх людзей абавязковая. Інакш мы будзем як без рук. Вы ведаеце, у які час жывём, калі ўнутраны вораг, як гад, паказвае сваё джала з кожнае шчыліны. А за ім стаіць усясветная буржуазія, якая хоча знішчыць нас. Яе агенты нябачна распаўзліся па ўсёй краіне. І мы з вамі, таварыш Кіршчэня, адсячом гэтыя шчупальцы!

Беразоўскі рубануў рукой паветра. Шчокі яго заружавеліся, а за блакітнай фіраначкай вачэй адкрылася страшная, бяздонная смяротная пустата.

— Вядома,— згадзіўся Кіршчэня.— Але сярод нашых людзей такіх яўных...

— Яўныя нам не страшныя! Страшны замаскаваныя! Страшны эмісары...

— У нас быццам бы...

— Вы не спяшайце, таварыш Кіршчэня. Вы падумайце. Мы павінны кожнага бачыць. І таго, хто прытаіўся.

— Я разумею,— Кіршчэня не мог здагадацца, што мае на ўвазе Беразоўскі.

— А як у вас працуе Пратасевіч Зінаіда? — раптам спытаўся ён.

— Добра працуе. Звеннявая, стаханаўка.

— Да, таварыш Кіршчэня. А тады, як вырашылі выслаць іх як кулакоў, вы прысутнічалі? Вы галасавалі?

— Аднагалосна вырашылі.

Кіршчэня памятаў тое паседжанне. Тады ўпаўнаважаным было сказана, што не менш чатырох сямей трэба раскулачыць. Кіршчэня не памятаў, хто назваў першы і мнагадзетную сям'ю Пратасевіча. Хіба за тое толькі, што ён быў майстар на ўсе рукі, і каваў, і сталярыў, і плотнічаў, і печы клаў. Зарабляў, гаспадарку таксама трымаў. Але ж і астатнія не багацейшыя былі за Пратасевіча.

— А калі падумаць, таварыш Кіршчэня, якое дзела выходзіць? Сям'ю Пратасевіча вярнулі з Сібіры. Значыць, несправядлівасць была зроблена. Значыць, некаму трэба было, каб у людзей узнікла крыўда на савецкую ўладу. Вось што гэта ўсё значыць!

Беразоўскі глядзеў на Кіршчэню, і на шчоках у яго былі ўсмешлівыя ямачкі. Яго, мабыць, задаволіла, што напалохаў Кіршчэню. Ён не дэманстраваў свае ўсясільнасці, але цешыўся ёй.

Гэта Кіршчэня потым ужо зразумеў, калі часта сустракаўся з Беразоўскім. З кожным ён пачынаў гаворку гэтак, каб чалавек спалохаўся. І калі атрымліваў задавальненне, Беразоўскі адыходзіў, рабіўся вясёлым і кампанейскім. І мабыць, дрэнна было таму, хто адважваўся не спалохацца. Таго Беразоўскі запамінаў і спуску не даваў.

— Гэта здаецца, што быццам нічога і не здарылася, а на самай справе адбылося ўрадзіцельства.

— Ну, сям'ю ж вярнулі, а самога Пратасевіча не. Там астаўся.

— Гэта другое пытанне, таварыш Кіршчэня. Вышэйшых кампетэнцый. Яны разбяруцца. А мы з вамі павінны на сваім месцы... Я на днях заеду да вас, паталкуем,— пабяцаў Беразоўскі, раптоўна ўстаў, падаў на развітанне руку і рашучым крокам выйшаў з кабінета.

Нейкі час Кіршчэня сядзеў і не ведаў, што гэта ўсё абазначае. Ачнуўся толькі, калі зайшоў у кабінет сак-

ратар райкома. Ён уважліва паглядзеў на яго і запытаўся:

— Пра мяне распытваўся?

— Не, што вы!

Сакратар райкома ўважліва і недаверліва паглядзеў на Кіршчэню, паківаў галавой.

— Не пра вас, я праўду гавару. Толкам і не разабраўся, што ён ад мяне хацеў.

— Што хацеў, тое возьме, не сумнявайся. Дык гаворыш, не пра мяне рэч была?

— Не.

Сакратар яшчэ раз пільна паглядзеў на Кіршчэню, і тады яму здалося, што ўздыхнуў сакратар з палёгкай. Нязвыкла клапатліва правёў да дзвярэй, паціснуў на развітанне руку.

Гэтую цень павагі ад раённага кіраўніцтва Кіршчэня адчуваў і потым, увесь час. Сам той толькі факт, што Беразоўскі лічыў яго за свайго чалавека, падымаў Кіршчэню, надаваў яму сілу і значнасць, якое не мелі іншыя.

Сакратар райкома недарэмна турбаваўся, таму што недзе праз паўгода яго раптам не стала, куды і што — невядома, паведамілі толькі, што вораг народа.

Беразоўскі любіў наязджаць нечакана і чамусьці адвячоркам. І заўсёды калі Кіршчэня прысутнічаў дома. Вітаўся ўсмешліва і прыязна. Кіршчэнева разгубленасць ад нечаканага з'яўлення таксама прыносіла Беразоўскаму задавальненне, маўляў, мне кожны крок кожнага чалавека вядомы. У гасцях Беразоўскі размяшчаўся грунтоўна, не спяшаўся. Першае, ён пачынаў з гутаркі, з патрабаванняў ацаніць абстаноўку на канкрэтны дзень у вёсцы. Слухаў і дэманстраваў свой недавер да сказанага. Потым працягваў гаворку у час вячэры. За вячэраю, пасля чаркі Беразоўскі дабрэў, ружавеў і многае гатовы быў дараваць. Есці ён любіў, здавалася, куды тая страва ў яго ўмяшчаецца. Потым ужо Кіршчэня зразумеў, што страху няма, калі Беразоўскі альбо папракае, альбо падазравае. Страшней, калі прамільгне ў яго гаворцы чалавек быццам і мімаходзь.

Вось гэтак мімаходзь успомніў ён у гаворцы з Кіршчэнем Русакевіча, які прыехаў тады настаўнічаць да іх у вёску:

— Гаворыш, таварыш Кіршчэня, нічога за ім падазронага?

— Не. І слова лішняга не пачуеш, і актыўны...

— Гэта добра. Значыць, перавыхаваўся.

— А чаго яму перавыхоўвацца?
— Там у сталіцы контррэвалюцыя голаў падняла. Гаворыш, тут ён ніжэй травы, цішэй вады?
— Нідзе не чуцён і не відзен.
— Гэта, калі трэба, і пацвердзіш.
На тым гаворка і кончылася пра Русакевіча. А потым ноччу яго не стала. Як і звычайна «варанок» прыехаў. Надвячоркам. Сама за стол сям'я села. Зайшлі тры чалавекі ў скуранках. Загадалі, каб збіраўся. Больш нічога не тлумачылі. Збольшага вобшук зрабілі. І ў Кіршчэні ніхто ніякага пацверджання пра паводзіны настаўніка не пытаўся. І Беразоўскі не ўспомніў пра Русакевіча. Нібы і не адбылося нічога, і ён, Беразоўскі, пра гэта нічога не ведае, ніякага дачынення не мае.
Вось гэтак жа мімаходзь вярнуўся Беразоўскі і да сям'і Пратасевічаў, да Зіны. Баба жылы рвала, трэба было чатырох хлопцаў гадаваць адной. Дачка памерла, калі Зіна вярталася дадому з Сібіры. У вагоне памерла, і яна прывезла дачку мёртвую, на сваіх могілках пахавала.
Дык вось, Беразоўскі зноў неяк мімаходзь пацікавіўся жыццём сям'і Пратасевіча.
— Гэта добра, што яна стаханаўкай стала. Але не забывай, таварыш Кіршчэня, што гэта яна тады напісала скаргу, што яе мужа несправядліва раскулачылі. Знала, куды напісаць, куды адпраўляць. Выходзіць, тут рашэнне было няправільна прынятае... Пад сумненне пастаўлена. Гэта добра, што яна стаханаўка, добра, што дзяцей падгадавала.
І неўзабаве не стала Зіны Пратасевічавай. Ноччу прыехалі па яе, каб ніхто не бачыў, ноччу павезлі, і больш ніякага гуку.
Часам, прачнуўшыся ноччу і слухаючы, як смачна спіць, пахропвае Беразоўскі, ■ пасля выпіўкі ён пахропваў, Кіршчэня думаў, што вось гэтак аднойчы ноччу і па яго прыйдзе машына, забярэ, і ніхто не будзе ведаць, куды забралі. А гэты Беразоўскі будзе вячэраць у таго ж Жыгара ці каго іншага, піць самагонку, пасопваць ноччу на ўсю хату.
Беразоўскі не знік і не прапаў нават за вайну. Ён ішоў за Кіршчэнем, як прыстаўлены да яго. Кіршчэня аж утрупеў, калі ўпершыню ўгледзеў яго ўжо пасля вайны, калі ўсё тое даваеннае, здавалася, асталося недзе далёка-далёка ззаду. І нічога адтуль вярнуцца не можа.
Вечарэла. Сама ранняя вясна, першая зеляніна толькі праклюнулася. І прыпар пайшоў ад зямлі. Чысціня і ў паветры, і на зямлі. У гэты надвячорак і спыніўся ля Кіршчэневых

варот трафейны матацыкл з каляскай. Начальніку міліцыі Кіршчэня не здзівіўся. Але першы на двор зайшоў не начальнік, а Беразоўскі. Вайна, здалося, нічуць не змяніла яго: гэтакія ж кучаравыя русыя валасы, толькі ўжо потым, у хаце прыгледзеўся Кіршчэня, што пасівелі яны. І маршчын больш на твары стала. Але гэта толькі заблізку. А на дварэ ён здаўся гэтакім жа самым, бо і тая ж сумачка-планшэтачка, і наган на баку. Толькі ямачак на шчоках не стала, калі ўсміхнуўся, падаючы руку Кіршчэню:

— Добры вечар, таварыш Кіршчэня. Вы думалі, што нашы дарогі з вамі разышліся?

Беразоўскі ўсміхаўся, а Кіршчэня чамусьці падумаў: «Браць прыехалі».

— Ну, што стаіш, я не з таго свету. Я жывы, таварыш Кіршчэня. Працаваць будзем разам. Запрашай у хату.

І Беразоўскі пачаў зноў заязджаць да Кіршчэні, калі быў «па справах» на раёне. Ён таксама партызаніў, узначальваў асобы аддзел. Цяпер працягвае ранейшую работу. За вайну ён навучыўся піць. І толькі калі напіваўся, у вачах з'яўлялася тая самая шкляная пустата і холад, тая смяротная прорва. Кіршчэня не ўтрываў, пахваліўся, што ў партызанах ён таксама быў пры асобым аддзеле, а потым пакінуты ў Заходняй Беларусі для барацьбы з бандытамі.

На гэта Беразоўскі спакойна сказаў:

— Ведаю, таварыш Кіршчэня, чым вы займаліся ў вайну. І пасля.

І ён паляпаў па сваёй сумачцы-планшэце, якая вісела на баку.

Усё было ў Беразоўскім тое ж самае, але нешта і не тое, чым далей, тым усё больш і больш адчуваў Кіршчэня, што знікае ў яго страх да Беразоўскага.

І аднойчы ён пераступіў цераз тую мяжу, цераз якую б раней пераступіць не адважыўся. Той вечар Беразоўскі піў больш, чым звычайна, і гаварыў таксама намнога болей.

— Я табе скажу, таварыш Кіршчэня. Я пры асобым аддзеле не проста быў. Я ўсё гэтую свалату фільтраваў. Усіх падонкаў, паліцаяў. І тых, хто ім прыслужваў. У мяне ўся агентура была. Я ўсіх іх бачыў. Камандзір мне давяраў. Я правая рука ў яго быў. Мы прымалі з ім рашэнне. З гэтым так, а з гэтым так. І таму выжылі, што літасці не знаді. Цвёрдасць была. Камандзір, ён таксама толк ведаў. Мы на востраве базіраваліся. І штаб брыгады там. Дарога да нас па кладках у балоце ішла. Дык вось, прыйдзе сувязны, мы яго сустрэнем. Усё як належыць. А на кладкі я звычайна пра-

водзіў. Нікому не даручалі. Адзін стрэл у патыліцу. Шпок — і дзядзька пайшоў у багну. І сто працэнтаў гарантыі, што ніхто не выдасць. Сто працэнтаў! Раніцаю, у тумане, шпок, і ўсё. Ты мяне разумееш, таварыш Кіршчэня?

— Чаму ж не разумець, разумею. Але ў нас такога не было.

— Адкуль табе ведаць, прастата! Той, каму трэба ведаць, той і ведаў. Такая наша работа. Сёння ты шпокнуў, і ніхто не ведае, заўтра цябе шпокнуць. І таксама ніхто не будзе ведаць. Нічога ты не знаеш, таварыш Кіршчэня!

Беразоўскі махнуў рукой, паволі зняў папругу з наганам, потым сцягнуў з пляча планшэтку:

— Закрый на ноч у сейф. І галавой мне адказваеш!

Ён ужо зусім ап'янеў, глядзеў асалавелымі вачыма, як паклаў зброю і планшэтку Кіршчэня ў шафу, замкнуў ключыкам, адабральна кіўнуў галавой.

А ноччу, калі ўпаўнаважаны спаў, Кіршчэня адчыніў шафу, дастаў планшэтку. Ужо з планшэткаю ў руках пракраўся ў сенцы, там вобмацкам знайшоў ліхтар, запаліў святло. Таму, што ўбачыў, нельга было нават паверыць. Спачатку ён не мог зразумець, што абазначаюць прозвішчы, акуратна напісаныя папарна, злучаныя паміж сабою стрэлачкаю. Спачатку прозвішча старшыні сельсавета, потым старшыні калгаса, дырэктара школы і далей, далей. Прозвішча ахвяр і тых, хто павінен быў на іх данесці. Ён, Кіршчэня, павінен быў данесці на старшыню калгаса, а потым Жыгар на яго, на Кіршчэню. Ён тады ўглядаўся ў спіс, стараўся запомніць прозвішчы, хто першы, хто на каго. І гэтаму страшнаму ланцугу прозвішчаў не было канца.

Як гадзюку, нёс Кіршчэня назад у шафу планшэтку са школьным сшыткам у касую лінейку. Але паіў і карміў ён Беразоўскага да таго часу, пакуль той раптоўна не знік, як праваліўся скрозь зямлю. Перастаў прыязджаць, не стала ў раёне.

Кіршчэня глядзеў на роўна пісаныя радкі ў сваёй канцылярскай кнізе. Не, не адважвалася рука пакідаць на старонках паперы тое, што ведаў пра арышт Русакевіча, пра Зіну Пратасевічаву, не адважвалася рука запісаць і пра тое, як ноччу глядзеў ён планшэт Беразоўскага, якія там бачыў прозвішчы. Дарэмна асмялеў Мяцельскі, не паказвалі яму яшчэ абсмажаную варону. Беразоўскія памяняліся, а тыя вучнёўскія сшыткі не прапалі. Падай сігнал, і ўсё стане на

свае месцы. Вернуцца назад альбо знойдуцца другія беразоўскія. Улада не любіць, калі з ёй пачынаюць занадта братацца.

Яшчэ Кіршчэня думаў, што дарэмна Беразоўскі пахваляўся, быццам ведае ўсё пра яго. Не ведаў ён, як удалося Кіршчэню вярнуцца цэлым з Заходняй Беларусі, не быць застрэленым бандаю. Выпрасіў там ён дазвол даведацца, што і як з сям'ёй. А як прыехаў дадому, больш туды не вярнуўся, адсюль знаёмае начальства дало туды паведамленне, што ён пакінуты тут на партыйнай рабоце. Ды і нікому не любіў пахваляцца пра гэта Кіршчэня,толькі тая ябеда ведае пра тое, як ён ратаваў сваю шкуру і як адкупляўся спіртам і салам. Спірт браў на суседнім спіртзаводзіку. І амаль кожны раз, як ехаў у раён, вёз. І яго гадоў колькі даілі, не выпускалі з вёскі, трымалі брыгадзірам. Быццам бы каб не трапіўся непатрэбнаму чалавеку на вока.

Але гэта ведаў толькі ён, Кіршчэня, больш ніхто не ведаў, нават папера, перад якой ён рашыў спавядацца перад смерцю. Споведзі не атрымлівалася. Ды нічога, ён прымусіць яшчэ лічыцца з сабой. Ён возьмецца і праверыць, як паказваюць у калгасе ўраджайнасць. Яны яшчэ не ведаюць старога Кіршчэню. З ім лепш не звязвацца, пірагі ён умее аднесці.

Гэтак думаў Антон Аляксандравіч у начной цішыні, пачынаючы засынаць над летапісам свайго жыцця, актыўнага з самай маладосці і да глыбокай старасці.

— Ну, сава старая, чаго свет бесталку паліш ноччу? Вото скінешся на падлогу! Ідзі ўжо спаць укладайся, Леў Талстой!

Старая, мабыць, ужо выспалася і таму не змоўчала, назіраючы, як Кіршчэня змагаецца са сном.

Кіршчэня аж сцепануўся, хуценька загарнуў сваю канцылярскую кнігу, мацюкнуўся на старую і пайшоў класціся спаць. Ён быў гатовы раскруціць рэйд праверкі якасці правядзення ўборачнай работы ў калгасе.

## *17*

Кулеш прачнуўся досвіта, як і звычайна. Толькі засвятлелася шэранню шчыліна ў хлеўчуку, дзе ён спаў летам на сене. Уставаць не хацелася, няўтульная гэтая шэрая часіна. Яшчэ не прачнуліся ні дрэвы, ні трава, не адчулі ранішняга абуджэння. Усё жывое чакала першага сонечнага праменьчыка, самога сонца з-за небакраю. У гэтую пару

прырода глядзіць на ранняга чалавека хмура і незадаволена, яна, як і растрыханая пасля сну жанчына, не любіць каб яе бачылі гэтакую.

Кулеш ляжаў і чакаў, пакуль абзавуцца ў садзе птушкі, пакуль пачне пасвістваць, як у трубачку, вялікая жоўтая і заўсёды нябачная птушка івалга.

Знаёмым, глухім болем балела галава. Як і тады, калі яго паклалі ў шпіталь, пасля чаго далі інваліднасць і датэрмінова адпусцілі на пенсію. І ныла параненае сцягно. Боль у ім жыў пастаянна, толькі не прачынаўся, не замінаў. І калі пачынала балець ад тае даўняе кантузіі галава, ажываў, выплываў і боль у сцягне. Гэта падарунак на ўсё жыццё ад нямецкіх мінамётчыкаў, якія білі густым загародным агнём па невялічкай вышыні, парослай на вяршыні кустамі барбарысу, шыпшыны. Ніжэй на схілах бялеўся рэдзенькі, патаптаны, перааараны выбухамі ячмень, які мясцінамі гарэў слабенькім нізенькім полымем.

Калі пачынаўся боль, да Куляша назойліва вяртаўся адзін і той жа сон-успамін. У ім пераплялося і тое, што было, і тое, што мроілася. За партызаншчыну ён наглядзеўся і намнога страшнейшага. Бачыў і людзей жыўцом спаленых, і дзяцей, якіх парвалі нямецкія аўчаркі. Сабакі рвалі дзяцей на вачах у бацькоў, а калі тыя не вытрывалі і пайшлі на карнікаў, яны пастралялі ўсіх. Адну роту тых карнікаў з аўчаркамі яны адагналі. І ні потым у партызанах, ні на фронце ён не бачыў такога лютага бою. Два партызанскія атрады з бакоў пайшлі на карнікаў, не стралялі. Білі ўрукапашную, усіх да адзінага. Дасюль Кулеш не забыўся тую жудасную і страшную асалоду, калі бег з нажом у руцэ.

А не пакідаў у спакоі Куляша, здавалася б, будзённы эпізод ужо з франтавога, кароткага жыцця. Чамусці іх падпялі атакаваць удзень, пасля абеду. Атакавалі яны з узлеску невялікага бярозавага гаю.

Немцы толькі зачапіліся на вышыні, паспелі збольшага ўсяго акапацца. Можа, і трэба было атакаваць з-за нейкае вялікае тактыкі. А можа, быў просты разлік на авось, спадзеючыся, што немцы не паспелі замацавацца як след.

З вышыні ўлупілі густа — і з кулямётаў, і з мінамётаў. У гэтым шалёным трэску Кулеш бег і не чуў ніякай каманды, пакуль не апынуўся ў чорнай і смярдзючай ад выбуху варонцы. У галаве тоненька гудзела, яна была цяжкая. І страляніна сціхла. Толькі час ад часу свісталі міны, нібыта накручвалі на верацяно і выцягвалі з цябе жылы. Выбухі чуліся там, дзе была пазіцыя іхняга батальёна.

Кулеш асцярожна выглянуў з варонкі. Вакол поле, голае поле, перакапанае выбухамі, з целамі мёртвых салдат, якія толькі што гэтак жа, як і Кулеш, беглі ў атаку. Ім было ўжо ўсё аднолькава, а ён жывы. Што, калі немцы возьмуць і пойдуць у атаку? І першае жаданне — падхапіцца і дабегчы да сваіх. Але за час партызанкі Кулеш прывык, перш чым куды вылазіць, лішні раз паглядзець. Ён гатовы быў падхапіцца, каб бегчы, і ўбачыў, як воддаль з варонкі выскачыў салдат, пабег прыгнуўшыся. І спатыкнуўся праз некалькі крокаў, зрэзаны кулямётнай чаргой. Падаў ён, павярнуўшыся бокам да немцаў. А з вышыні кулямёт радасна сек яго, шкуматаў кулямі ўжо ляжачага. Ад разрыўных куль на зямлі ўскоквалі маленькія кусцікі выбухаў.

Дарогі з гэтае варонкі Куляшу не было. Дакладней, была адна — на той свет.

А сонца нібы застыла, вісела над зямлёй навек на адным месцы. У сне здавалася, што сонца высвечвае ўсё дашчэнту на гэтым полі, высвечвае забітых, высвечвае яго ў варонцы і немцам ён відзён, яны пазнаюць, што жывы, калі хоць паспрабуе паварушыцца.

Ніколі гэтакага доўгага і гнятлівага дня не было ў яго жыцці, ніколі яму гэтак не хацелася, каб хутчэй сцямнела.

Дзіўна было, але і праз многа гадоў гэты пакутлівы сон-трызненне цягнуўся па часе гэтулькі, колькі і астатак таго дня. Сон не адступаўся, мучыў цэлыя ночы напралёт. І прачынаўся Кулеш у роспачным адчаі, бо калі сцямнела, калі можна было бегчы да сваіх, ён выпаўз да краю варонкі, прыпадняўся на руках, каб бегчы, і з жахам адчуў, што падае, правальваецца ў чарнату — у яго не валодала левая нага.

Гэтак канчаўся сон. А тады ён дачакаўся цемры, дабраўся да сваіх. Нагу яму разбіла ў другім баі.

Кулеш павярнуўся на бок, успомнілася паседжанне партыйнага бюро. Усе адзін за адным прайшлі перад вачыма. Не спагнанне турбавала, а тое, як і што гаварыў кожны. Кулеш ведаў, што калі скарга напісана ў райком, то спагнанне павінна быць. І вымова есці не просіць. На павышэнне яму ісці не трэба, як гавораць у арміі, менш за ўзвод не дадуць, далей за Кушку не пашлюць. Хаця цяпер могуць паслаць і далей, адкуль і галаў на плячах не прынясеш. Яму ўжо гэта не пагражала. Пенсію ў яго ніхто не адбярэ. І дарэмна ён траціць здароўе на камбайне. На добры лад, трэба было не паказваць моду. Але ж хацелася і зарабіць. Хаця што толку з таго, што пайшоў на трактарыста, што зарабляў увесь век? Аказваецца, шчасце не заробіш. Шчасце быц-

цам ад бога, альбо ўдаецца яно, альбо не. Гэта як каму ўжо пашанцуе. Кожны нешчаслівы сам па сабе, Кіршчэня таксама няшчасны, што не слухаюць яго і што цяпер ніхто ніякіх мер ні да кога не прымае.

Устаў Кулеш пазней, чым звычайна, і калі ішоў на работу, у задуменнасці не пачуў, як дагнаў яго старшынёўскі «козлік». Толькі калі машына на ціхім ходу пакацілася амаль побач, заўважыў яе.

Мяцельскі адчыніў дзверцы, павітаўся:

— Садзіся, падвязу.

Кулеш сеў у машыну. Было такое ўражанне, што старшыня знарок падпільнаваў яго.

— Як Жолуд у цябе? — запытаўся ён пра Куляшовага памочніка.

— Як і заўсёды. Калі не дабудзе нічога выпіць, то робіць. Нудна толькі яму тады.

— Ну і што, заперці мне яго ў элтэпэ? — запытаўся Мяцельскі. І сам адказаў: — Заперці не праблема. Рука не падымаецца.

— Хоць бы так палячыць.

— Не ідзе так лячыцца. Я з ім гаварыў не раз. Абяцае і не ідзе.

— А хто захоча, каб запісалі цябе алкаголікам? Так усё жыццё ім хадзіць і будзе.

Кулеш адчуваў, што са старшынёй яны пералiваюць з пустога ў парожняе. Пра бяду Жолуда было ўсё вядома і аднаму, і другому.

Памаўчалі. Машына пад'ехала да канторы. Мяцельскі вылез, пачакаў, пакуль выйдзе Кулеш, і тады сказаў шафёру:

— Пачакай мяне тут. На двор я пяшком прайдуся.

Кулеш зразумеў, што Мяцельскі хоча пагаварыць з ім адзін на адзін. Спачатку ішлі моўчкі, потым Мяцельскі не абарочваючыся сказаў:

— Я быў проціў гэтага разбору. Не да яго. Жніво пакуль...

— Раней, можа, і лепш. Плёткі сціхнуць,— адказаў Кулеш.— А разбіраць усё роўна б разбіралі. Калі прыслалі, то вам адчытацца трэба.

— А на добры лад, што разбіраць? Чаму мы цябе павінны разбіраць? Я сядзеў і думаў. Мяне колькі разбіралі — таксама таму, што трэба было разбіраць, што трэба было даваць адказ. А што ў цябе разбіраць? Жыццё пражыта,

дзеці дарослыя. І што ты зрабіў? Вось што ты зрабіў? Фармуліровачкі знайшлі: за недастойныя паводзіны камуніста ў сям'і. Чортведама што падумаць можна! І хто цябе павінен разбіраць? Цябе, які жыццё ўгробіў за ўсё тое, што сёння ёсць. З хлапчукоўства ў партызанах, фронт, раненне, і ўсё жыццё, як конь у баразне,— даваў, даваў, выконваў, выконваў! І ніхто дзякуй не сказаў і не скажа!

Кулеш прыадстаў на крок, але Мяцельскі гэтага не заўважаў, узмахваў рукой у такт крокам і гаварыў далей:

— Я цябе за што разбіраць буду? Я б цябе разабраў, калі на добры лад, за тое, што распусціў жонку, не павучыў яе за тое, што цябе не глядзела. Але і гэта тваё дзела. Ні адно партбюро яшчэ шчасця ў сям'ю не вярнула. А мы разбіраем! Ох, як мы разбіраем? А хто разбірае? Якое права мае разбіраць цябе Радзюк? Ён хоць з дзесятую долю твайго зрабіў? Сваю прынцыповасць Кіршчэня паказвае? А ён усё жыццё толькі паказваў і вучыў. Усіх вучыў. І раскулачваў. Устаноўка была, і раскулачваў. Адчытацца трэба было. Ён і тады вучыў падпарадкавацца, калі з-за кукурузы канюшыну аралі. І тады паўтараў, што такая ўстаноўка ёсць!.. Ён цяпер патрабуе табе строгай вымовы! Куращчуп стары. Няхай бы ўстаў і расказаў, як пры мне, ад бабы ўцякаючы, у куратнік праваліўся.

— І ты ж, Сямёнавіч, галасаваў,— насмешліва абазваўся Кулеш.

— Я рукі не падымаў. Трэба было глядзець лепш. І не бяры ты ўсяго гэтага да сэрца, вось што я табе сказаць хачу! Плюнь і разатры, як гаворыцца!

— А я плюнуў. Чаго ты гэтак гарачышся?

— Не знаю. Надаела.

— Асунуўся нешта ты апошнім часам,— сказаў Кулеш. Ён толькі цяпер заўважыў, як пастарэў за апошні час Мяцельскі.

— Ведаеш, усё яно ідзе як і заведзена. Чалавек да ўсяго прывыкае. Але ж чалавек і спадзяецца. Верыцца яму, што некалі ж кончыцца ўся гэта непатрэбшчына. Кончыцца, і ты як чалавек будзеш. Я, старшыня, буду як старшыня рабіць, бо ведаю, што раблю. Калі не буду ведаць, у цябе, у другога папытаюся, у тых каму веру. І не трэба мне ні гэтыя Кіршчэні, ні гэтыя Радзюкі! У мяне ж таксама білет у кішэні, і не горшы, а лепшы за іхнія. А падобна на тое, што не дачакаюся. Заварушыўся мой асколак. Абазваўся, даў званок.

— Паехаць трэба падлячыцца.

— Адажнёмся, тады паеду, паляжу ў шпіталі. Хаця

ніякі шпіталь чалавеку ўжо не верне здароўя. А ты, Ян, не бяры да галавы, чэсна табе гавару.

— Я не вымову бяру, Васіль. Ты зараз пра сябе гаварыў. І пра мяне тое ж можна сказаць. Як нарадзіўся, адно і знаў, што рабіць. Гэта і шчасце, і радасць, і ўсё, больш нічога ў нас не было. Ведаеш, і робім. І сем'і ж не горшыя, усё як у людзей быццам было. А потым, як троху абжыліся, глядзі, як пакруцілася ўсё. Дзяцей пры нас няма. Самі ж іх у людзі вывелі. І мой навучыўся, каб хораша і весела жыць, і твае. І нават Мар'я ўспомніла пад старасць, што гэта я ёй жыццё сапсаваў. Бачыш ты, каб не я, то і яна б некалі разам з дзяўчатамі Мінск адбудоўваць паехала б і цяпер бы жыла як людзі, а то ўгробіла жыццё. Едзе, глядзіць, як другія жывуць. Пакуль за механізатарства грошы ішлі, не ўспамінала, цяпер успомніла, што я не той. Мы з ёю, як ажаніліся, у тое вяселле, пад раніцу спаць пайшлі. Маладажоны, у каморцы нам паслалі на ложку. Умасціліся мы. А як прыгрэлася яна, задам да мяне адвярнулася і засапла. Не разумеў я, што гэта знак на ўсё жыццё наша. Можа б, так яно ўсё і сышло, каб не гэтая Галя. І не думаў бы я ні пра што, і з тым бы і жыў, што маю. А вось на старасць адкрылася, што ў жыцці яшчэ радасць бывае, і шчасце не выдумалі людзі... І тады, калі позна. Дык і за гэтае празарэнне згнюсілі.

— Можа, яно і лепш, Ян, што кончылася... А што далей было б?

— Нічога не было б. Што ўжо можа быць?

— Да, не ажэнішся другі раз пры жывой жонцы, пры дарослых дзецях, у адной вёсцы.

— Яно ў нас так і выходзіць, што куды ні кінь, то вечны клін. А Галі як? Ехала дадому, адкуль яе і бацьку жыўцом вырвалі і выкінулі. Расказвала яна мне, як ён і на старасць аж плакаў, гэтак хацеў, каб хоць адным вокам на сваю зямлю зірнуць. Прыехала, а ёй тут па мордзе. Вось і ўся любоў, і ўся радасць на той зямлі.

— Мужыка век за яго зямлю па мордзе, за тое, што яе любіў. Таўклі, пакуль ён ад яе не адвярнуўся, а яго ўсё роўна яшчэ таўкуць, па прывычцы,— абазваўся Мяцельскі.— Вот так мы і паспавядаліся адзін перад адным. А то я гляджу, ты нейкі як учарнелы. Думаў, на мяне крыўду маеш. Плюнь, не бяры да душы.

— Галава зноў балець пачынае,— прызнаўся Кулеш.

— Дык, можа, пару дзён перадыхні? Гэты п'яніца вытрывае, пажне.

— Ды не, Васіль, буду жаць. Кончым жніво, разам лячыцца паедзем.

— Угу, паедзем, якраз тыя ездакі,— усміхнуўся Мяцельскі, падаў руку.— Не бяры ўсяго да галавы.

Кулеш кіўнуў на развітанне, пастаяў яшчэ, пакуль Мяцельскі па-старэчаму цяжка ішоў па дарозе назад да канторы. І нечаму ўспомніўся той ваенны надвячорак, тыя партызаны на конях, лёгкі, малады сярод іх Васіль. І тое вечаровае сонца, і свежы пах з аселіцы, і песня. І здалося, што гэта зусім нядаўна, зусім побач, зусім блізка.

— Ну, хопіць стаяць на дарозе, пайшлі,— вярнуў да рэальнасці Куляша голас Бранаўца.— Сёння пагодка будзе, жыманём за дзень!

— Жыманём,— згадзіўся Кулеш. Бранавец ішоў на першае месца ў жніве па калгасу.

Боль крыху адступіў, не адчуваўся, пакуль рыхтаваў камбайн. І зусім лягчэй стала, калі выехаў за вароты двара, пацiху паплыла цяжкая машына, пагойдваючы жаткаю над дарогай. Час у запасе быў, і ехаў Кулеш не спяшаючыся. З кабіны добра відаць навокал. Пшанічны палетак стаяў некрануты, а цяпер у ранішнім няяркім сонцы ён здаваўся падрумяненым у вялікай печы. Поле чыстае, не ўрослае зеллем, і таму не набірала за ноч вільготнасці.

Камбайн з роўнаю, напорыстаю натугаю прыняў у сябе збожжавую масу, загуў натруджана, цяжка і пайшоў, пайшоў. Сыпанула з-пад шнэка ў бункер першае зерне.

І здалося Куляшу, што гэта не зараз адбываецца, а ўспамінае толькі ён. І тое, як ехаў на камбайне па дарозе, і як зайшоў у палетак, і як пачаў жаць. Ён пазнаваў нават і калассе, і нават тыя невялічкія камяні, якія ён заўважаў на полі і паспяваў прыўзнімаць жатку,— усё пазнавалася, усё ўспаміналася. Затым ва ўспаміне ўсё нібы пачало змазвацца, неяк распаўзаліся, растварыліся сцяблiны, каласы, і поле пакрысе ператварылася ў суцэльную мяккую карычневую імглу, якая пашарэла, закруцілася, нахлынула на Куляша. І апошняе, што толькі ён здзіўлена падумаў: «Адкуль раптам гэтакі густы туман наплыў на поле?» І не паспеў нічога зрабіць.

Камбайн няўпэўнена пайшоў па полі, не спыняўся, нібы выбіраў дарогу. Астатнія камбайнеры, якія яшчэ толькі ехалі па дарозе, здзіўлена глядзелі, што Кулеш жне наўскасяк поля. Але як убачылі, што камбайн выйшаў з пшаніцы, ва-

люхнуўся ў невялікай канаўцы і ўпёрся жаткаю ў падсыпаную, высакаватую дарогу, здагадаліся, што здарылася бяда.

Калі Ельніцкі першы дабег, ускочыў у кабіну, то угледзеў, што Кулеш ляжыць грудзьмі на рулі і што ў яго мёртвы твар.

З кабіны Куляша дасталі асцярожна, паклалі ў цяні на зямлю і не ведалі, што рабіць. На худой старэчай шыі ледзь прыкметна торгалася жылка, супакойвала, што чалавек пакуль яшчэ жывы.

Яшчэ доўга стаяў, удавіўшыся зямлёй, камбайн, ляжаў пад ім Кулеш. Камбайнеры не адважыліся варушыць яго, машыну адправілі, каб выклікалі на поле «хуткую дапамогу» і прывезлі фельчара.

Фельчарка таксама нічога не магла вызначыць і нічога не стала рабіць, толькі паслухала пульс, сэрца. Пакуль прыехала «хуткая дапамога», у полі ўжо былі і інжынер, і аграномка, і Мяцельскі. Доктар з «хуткай» паглядзеў Куляша, развёў рукамі і загадаў асцярожна пакласці ў машыну.

Толькі тады Мяцельскі падышоў да яго, крануў за рукаў белага халат:

— Скажы ў бальніцы, што ў яго кантузія. Яшчэ з вайны. Апошнім часам галава ў яго пабольвала. Таму няхай не спяшаюць, не мітусяцца. Яму, можа, адпачыць трэба, каб адпусціла.

«Хуткая» асцярожна паплыла па дарозе, пачалі раз'язджацца машыны, і камбайны заступілі ў постаць.

Апошнім з поля паехаў Мяцельскі, нібы хацеў пераканацца, што жніво не спынілася, ідзе сваім ходам. Ужо ў машыне сказаў шафёру:

— Вот Кулеш і аджыў сваё,— і нібы апраўдваючыся дадаў: — Сёння сказаў мне, што галава пабольвае. Адпачыць не захацеў.

— Жывы чалавек пра жывое думае,— абазваўся Іван.— Усё ж утаптала яго Мар'я, хоць і цягавіты ён чалавек.

— На кожнага, Іван, ёсць свая Мар'я. А ўтаптала жыццё, яно ўсіх нас утопча. Толькі крыху раней ці пазней. Адвязі ты мяне, Іван, дадому, прылегчы мне нешта хочацца,— папрасіў Мяцельскі шафёра і ўжо маўчаў усю дарогу, толькі думаў пра сваё і ківаў галавой.

## 18

Той белы туман, які раптоўна абрынуўся на Яна на полі, не разганяўся ветрам, не расплываўся. Ян ляжаў нібы на дне, а туман, як вада, плыў над ім, па ягоным твары. Ян нічога не мог угледзець скрозь ягоную густую плынь. Першым жаданнем было ўсхапіцца на ногі, каб падняцца над гэтым туманам, каб вырвацца з гэтай белай імглы. Але Яна асцярожна прытрымалі за плечы жаночыя рукі, не далі ўстаць.

— Ляжыце, ляжыце, вам пакуль што рана ўставаць.

Голас зусім незнаёмы. І пахі таксама. Не полем пахне.

— Дзе я?

— У бальніцы.

— Што са мною?

— Мабыць, у вас забалела галава.

— Сястра! Я нічога не бачу. У мяне ў вачах толькі белы туман!

Ян зразумеў, што гэты туман над ім назаўсёды. Ён аслеп.

— Я аслеп! — паўтарыў ён у роспачы сваю здагадку.

— Не, не бойцеся. Гэта пройдзе. Доктар гаворыць, што гэта пройдзе!

Сястра гаварыла завучаныя словы, а Кулеш зноў раптоўна адчуў, як усяму яму стала горача, як апускаецца ён некуды ўніз, ніжэй за туман. Слых яго ўлавіў, як затупалі абцасіці медсястры, як яна некага ўстрывожана клікала... А потым ён убачыў сонечны дзень.

Гэткія дні бываюць у канцы жніўня і на пачатку верасня. Ужо пуста ў палях, і нечым не летнім, нейкім журботным восеньскім напамінкам ляжаць прыбраныя палі. Але яшчэ многа залёнага лісця, сонца, цяпла, і яно такое шчодрае, што верыцца ў працяг лета.

Павел усё ж прымусіў, угаварыў яго пайсці на паляванне на качак. І ён згадзіўся, выбраў вераснёўскі пагодны адвячорак, дастаў старую аднаствольную куркоўку, знайшоў чатыры патроны да яе і павёў сына да рэчкі, на старыцы.

Павел ідзе побач, худы, да грудзей толькі бацьку. І вочы яго косяцца на стрэльбу. Яму хочацца панесці яе, і Кулеш здымае з пляча, перадае сыну стрэльбу. Яна ледзь не дастае прыкладам да зямлі, але Павел рады.

Канчаецца палявая дарога, ад нізіны, з поплаву павявае пахам травы, нагрэтых на сонцы лазовых кустоў, аеру.

Сын прыадстаў крыху, ідзе справа збоку. Кулеш адчувае, што пачынае хвалявацца, што і яго самога міжволі забірае паляўнічы азарт, хоць ён і ведае, што качкі павінны ўжо зляцець з тых мясцін, дзе выведіся, на вялікую ваду, на азёры. І тым не меней ён аж скаланаецца ўвесь, калі з крыкам падхопліваецца на крыло, імклівым зігзагам узвіваецца ўгору з куп'я бакас. Стрэліць, вядома, не ўспявае і чуе, як сын шэпча: «Страляй! Страляй!»

Акрамя бакаса, больш ні на што ім не пашанцавала, і сын засмучаны, хаця Кулеш даў яму два разы стрэліць. Цяпер у Паўла пабольвае ад прыклада плячук, гудзе ў вушах. Ён радасны, што не прамазаў, трапіў у лапуховы ліст, і ад таго асталіся толькі дробныя кавалачкі. Усё ж не хапае сапраўднае дзікае качкі, па якой бы яны стралялі.

І ў гэты час ад алешніку роўна, не хаваючыся, ляцяць дзве птушкі. Ляцяць крыху далекавата, упэўнена і спакойна. Кулеш ускідае стрэльбу, страляе і бачыць, як адна з птушак камячком падае ў траву.

Сын не спускае позірку з таго месца, куды ўпала птушка, бяжыць, абганяе Куляша.

Дзікі голуб, горлінка, нават не ўцякае ад іх, сядзіць, прыпаўшы на перабітае крыло, і круглае яго вока здзіўлена і балюча глядзіць на людзей.

— Горлінка,— гаворыць Кулеш і адчувае, як прыкра самому, што не стрымаўся, што страляў. Навошта ім гэтая прыгожая лясная птушка. Галубы гэтыя любяць сядзець на вяршынях дрэў на ўсходзе і на захадзе сонца. Стройныя, быццам вытачаныя, нерухомыя.

Кулеш нагінаецца, бярэ ў рукі птушку. Крыло само цэлае, але шрацінка папала ў цела пад ім, і таму крылом птушка не можа варухнуць. На зямлі яна прападзе.

— А мы забяром яе дадому! Хай жыве ў нас!

Павел па-дзіцячаму рады, што ў яго будзе жывая цацка, свой дзікі голуб.

Дадому ён бяжыць амаль што подбегам перад бацькам, задаволены і шчаслівы, што ёсць здабыча.

Кулеш скіроўвае на агароды, каб зайсці на двор непрыкметна для людзей.

Чамусьці гэты выпадак, гэты паход з сынам успомніўся Куляшу зараз. Можа, і не было ў іх больш магчымасці пабыць вось так разам. Пахадзіць па траве на аселіцы, адпачываць пад лазовым кустом. Увесь час Кулеш быў на рабоце. МТС брала сваё, жыць даводзілася не дома, і Павел вырас сам па сабе, вывучыўся, стаў вялікім чалавекам, цяпер зрэд-

ку яго ў госці прывозіць шафёр. Цяпер у сына з бацькам ужо няма часу. Прыедзе на ноч, пераначуе, па чарцы вып'юць, а назаўтра назад у горад.

Кулеш здагадаўся, што ўспамін той пра падраненага дзікага галубка выплыў у памяці ад жадання пабачыць, пачуць побач сына.

Ён зноў вярнуўся да свядомасці. На гэты раз белая імгла ў вачах ужо спалохала не гэтак. Ён ляжаў і прыслухоўваўся да пахаў, да гукаў. І прывыкаў глядзець у белы туман.

Маці Люба сварылася тады на яго з-за падстрэленага галубка:

— Дзіця магло пацешыцца. А ты, стары чалавек, узяў падстрэліў птушку. Куды ж цяпер яе?

Ян маўчаў, гаварыць не было чаго.

Пасяліўся дзікі голуб жыць на двары пад перавернутай скрынкай. Баба Люба ставіла пад скрынку ваду, сыпала зерне. Першыя дні голуб сіратліва сядзеў у кутку скрынкі, пазіраў сваім кругленькім, тужлівым і, здавалася, збалелым вокам.

Аднойчы Кулеш пачуў, як ён спалохана трапечацца і б'ецца ў сваёй схованцы. Ян выглянуў з хлява на двор. На скрынцы сядзела кошка, прасоўвала лапу ў шчыліну і спрабавала загрэбці голуба кіпцюрамі. Давялося яму пазабіваць шчыліны, каб кот не мог прасунуць лапу і каб не палохаў птушку.

Пакрысе голуб ажыў, пачаў кляваць зерне, піць ваду. І калі аднойчы Паўлік прыпадняў скрынку, ён выбег з-пад яе і ўзляцеў на яблыню.

— Дальбог, узляцеў! — зарадавалася старая Люба.

— А як мы яго назад зловім? — Паўліку не хацелася разлучацца з птушкай.

— Назад ты яго не зловіш. Паляціць ён сваіх шукаць. Пара ім у чароды збірацца і адлятаць.

Але не адляцеў дзікі голуб, якому давялося пабыць пры чалавеку. Назаўтра Кулеш заўважыў, што прыгожая, нібы вытачаная, птушка сядзіць на каньку іхняе хаты пры коміне. Потым зляцела ўніз і пачала кляваць зерне, якое асталося на тым месцы, дзе зусім нядаўна была яе няволя, дзе ляжала перавернутая цяжкая скрынка.

— Што ж ён сабе думае? Калі не адляціць, прападзе ж зімой,— бедавала старая Люба.

А Паўлік падсыпаў круп, і голуб прылятаў карміцца, зля-

таў з даху на плот, з плота на зямлю і па-гаспадарску разгульваў па двары.

— Што значыць жывое пры чалавеку! Прыгрэлі, пакармілі, ён і прывык, і жыць ужо тут гатовы,— гаварыла старая Люба.

Скончылася ўсё звычайна і нечакана проста. Мабыць, як і павінна было скончыцца рана ці позна. Кошка ўсё ж прыцікавала новага гаспадара, калі той разгульваў па двары, схапіла і знікла з ім за кустамі агрэсту ў садзе.

Кулеш заўсёды, калі пачынаў думаць пра сына, успамінаў таго голуба. Успамінаў цяпер. Яму хацелася, каб сын прыехаў, пасядзеў побач, пагаварыў з ім. Ён ведаў, што сын прыедзе не хутка, пасля таго як скончыцца камандзіроўка. Але яму хацелася, каб прыехаў сын. Гэтак жа як і калісьці сыну пайсці з ім на паляванне.

Кулеш пакрысе прывык да белага туману ў сваіх вачах, ён не гэтак палохаў, як на першым часе. Ды і дактары суцяшалі, што пакрысе зрок павінен вярнуцца. Ён ім верыў і не верыў, але чалавек заўсёды спадзяецца на лепшае. І гэтае спадзяванне цешыла душу.

Потым Куляша накіравалі ў абласную бальніцу, і амаль праз месяц ён заўважыў, што з белага туману пачынаюць пакрысе выступаць абрысы пакоя, мэблі. Людзі спачатку ўзнікалі аднекуль здалёку, нібы ў маскхалаты апранутыя. У бальніцы Куляша адведвала Вера. Мар'я паехала і жыла ў вёсцы. Трымаць гаспадарку адна старая маці не спраўлялася, Вера і прывезла Куляша дадому пасля выпіскі.

## *19*

Надзіва залатая і пагодная, як падарунак людзям, стаяла восень. Прайшло крыху дажджоў, але не зацяжных, кароткіх і спорных, нават з громам і маланкамі, далёкімі, быццам сполахі. Не верылася, што канец верасня. Трымалі лісце дрэвы, толькі сям-там зажаўцелася яно, ды загарэліся рабінавыя гронкі, незаўважна абляцеў ліст, і рабіны красаваліся, як раскошныя чырвоныя вогнішчы.

Людзі спяшаліся рабіць работу, пакуль суха, пакуль надвор'е. Скончылася, адшумела жніво, пасеялі азімыя, канчалі выбіраць бульбу.

Пад канец жніва ноччу, седзячы над сваёй канторскай кнігай, раптоўна памёр стары Антон Кіршчэня. Кіршчэніха

пачула, як грукнуў ён, упаў з крэсла, пакуль уключыла святло, падбегла, ужо і душа адышла. Перад гэтым Кіршчэня цэлыя дні не ссядаў са свайго маторнага веласіпеда, траш-чаў і на полі ля машын, і на цэнтральнай ля вагаў. Пагаварвалі, што пераможна са сваімі запіскамі ён хадзіў у кабінет да Мяцельскага, і ў бухгалтэрыі было чуваць, што гаворка там адбылася цяжкая, бо стары вылецеў з кабінета азіраючыся на дзверы, а Мяцельскі пажаліўся галоўбуху, што Кіршчэня некалі людзей раскулачваў, а цяпер за калгас узяўся. Кіршчэня хадзіў жаліцца на старшыню да Радзюка. Парторгу ён паказаў лічбы, з якіх вынікала, што ўраджайнасць знарок зніжаецца. Радзюк ведаў дзеля чаго — каб вывесці канчатковы вынік пасля, калі з калгасаў павытрэсваюць усе дадатковыя планы пастаўкі. Радзюк уважліва выслухаў Кіршчэню і здагадаўся, што гэта, мабыць, не без яго ласкі мінулы год у калгас прыехала камісія, «знайшла» два лішнія капцы буракоў і тры з бульбаю. Мяцельскага разбіралі на бюро, а «лішняе» забралі ў лік дадатковага плана нарыхтовак, які быў спушчаны на раён.

Хавалі Кіршчэню як аднаго са старэйшых камуністаў урачыста. З раёна прывезлі палкавую духавую музыку. Развітальнае слова гаварыў нядаўна прызначаны новы сакратар райкома. А ў сувязі з тым, што прыехаў сам першы сакратар, разам з ім прысутнічаў і цэлы цуг машын і людзей. Таму жалобны стол рабілі за кошт калгаса, сталы сталі ў хаце, у сенцах і нават на двары. Слоў гаварылі многа, спачатку прадстаўнікі раёна, потым калгаса, потым сельсавета. Адгаварылі яны недзе надвячоркам і ўслед за машынай сакратара райкома пачалі раз'язджацца. Свае, сябры і суседзі, ці як гаворыцца, сябры па працы, сядзелі доўга і ўрэшце заспявалі песню.

Пасля таго як адсеяліся ўслед за жнівом, лёг у шпіталь для ветэранаў вайны Мяцельскі. Яго замяніў парторг Радзюк. Ён адчуваў сябе паўнапраўным пераемнікам, прынамсі, хацеў, каб усе гэта адчулі і зразумелі.

Галя Русакевіч, якая пасля дзікае сцэны, якую ёй наладзіла Мар'я, з'ехала ў раённую гасцініцу, пажыла там, пакуль афарміла продаж хаты калгасу, наняла машыну і кантэйнеры, у адзін дзень пагрузіла ўсё, зайшла развітацца да старое Любы і да Каці і Волькі ў дзіцячым садзіку. Вярталася яна да дачкі і шкадавала, што прыязджала сюды, бо зноў незразумелым болем разбалелася сэрца, і лекі не дапамагалі.

Пра ўсё гэта расказвала Куляшу маці, калі ён вярнуўся

з бальніцы. У яго было ўжо шмат вольнага часу, і ён падоўгу сядзеў з маці на лаўцы альбо, як мог, дапамагаў ёй па гаспадарцы.

Да Куляша, пакуль ляжаў у абласной бальніцы, праз дзень прыходзіла дачка з мужам і малой Леначкай. Мар'я таксама адведвала яго, і нават было чуваць, як першы раз плакала і шморгала носам.

Зусім зрок у Куляша не аднавіўся. Бачыць-то ён пачаў бачыць, але дрэнна, як скрозь слюду, якую некалі замест шкла ставілі ў кабінах трактараў. І нібы адразу ўсяго паменшала навокал разам са святлом. Міжволі ён навучыўся не спяшаць. Спяшаць яму дактары забаранілі, забаранілі і любую, акрамя самай лёгкай, работу.

Жывы чалавек да ўсяго прывыкае, і Ян таксама прывык. Гэта ўсё ж лепш, чым зусім аслепнуць. Жонка крыху пабыла ў вёсцы і зноў зачасціла ў горад да дачкі. Дадому вярталася наездамі, каб памыць, прыбраць крыху і пасядзець з жанчынамі. Перад імі яна нават хвалілася: «А што ж я дурная, каб век зжыўшы з чалавекам, чорту лысаму ў зубы аддаваць яго? Як ні кажы, гэта ж не адной жыць».

Але ва ўсёй размеранасці новага жыцця прыходзіла незразумела чаго раптам вострае, пякучае адчуванне тугі і адзіноты. І тады хацелася некуды ісці, далёка, у свет. І Кулеш пачынаў думаць пра сына. У яго ўсё ж быў сын, быў нейкі працяг у тую далечыню, куды ён не можа дайсці сам.

Кулеш паціху выходзіў у сад, ішоў разоркаю між град за пляцы, туды, дзе на мяжы прысядзібных участкаў і калгаснага поля раслі дзве старыя яліны. Адну з іх разбіла маланка, а другая высілася і здалёк, адкуль ні едзеш, была відаць. Цёмная, кашлатая, яна як дзіўная вежа ўзвышалася над наваколлем. Ад яліны пахла сухою ігліцаю, смалою і нейкаю прахалодаю нават у гэтую восеньскую цяплынь.

Кулеш садзіўся на ўрослы, сцягнуты з поля пад елку камень і гадзінамі праседжваў на ім. Поле зааралі на зіму, і яно, сухое, роўнае, шарэла ўваччу. Тады Кулеш заплюшчваў вочы — і паўставала зелень аселіцы, кусцістая, прыхопленая марозікам рунь, залацісты, бліскучы колер саломы!.. Расплюшчваў вочы — шэрань уставала перад вачыма. Заплюшчваў вочы — і пахамі, кветкамі, галасамі адзывалася дзяцінства, за ім усё жыццё з яго гэтакімі простымі і гэтакімі цяжкімі клопатамі скрозь войны і ліхалецце, са сваімі невялікімі і скупымі радасцямі. Абкрадзенае, абдзеленае, але яго жывое жыццё. А чаму сталася гэтак, што замест святла пад канец жыцця — пустая шэрань перааранага по-

ля? І яго спакутаванай і вечнай маці — аслеплы сын, якога трэба даглядаць. Кулеш думаў, што, калі б ажаніўся з такой, як Галя, яна б даглядала яго. І чамусьці верылася, што не было б гэтай шэрані і слепаты. Навошта пракляў бог і маці, і яго любіць гэтую зямлю, усё аддаць ёй, каб атрымаць толькі шэрань, якая бясконцая, ад якой не ўратавацца тым, што заплюшчыш вочы?

Успаміны, і гэтыя нязвыклыя, невядомыя дасюль думкі бянтэжылі душу, цягнулі Куляша да яліны, да ўрослага ў зямлю каменя. Без гэтага ён не мог. І кожнага дня намагаўся, глядзеў туды, дзе над шэранню ворыва абазначалася рэдзенькімі маладымі прысадамі дарога ад цэнтральнай сядзібы да вёскі. І калі асабліва пільна ўглядаўся, то бачыў на дарозе чалавека, мужчыну па хадзе. І тады Кулеш пазнаваў, што гэта Павел, сын, прыехаў на аўтобусе, ідзе дадому. Калі змахваў слязу, якая набягала на вочы, зноў бачыў толькі шэрае, нібы таяваўчыная аблога, што гнала яго, маладога, пустое асенняе ворыва, якому няма канца-краю.

## *Летнія прыгоды ў сучасным духу*

Анюта прачнулася ад сонечнага промня, які лёг на вочы, прытушаны жоўтай штапельнай фіранкай. Здалося, што нехта ходзіць пад вокнамі, ■ яна спіць раскрыўшыся. Баковачку, у якой спала Анюта, адгарадзілі некалі маці. Яна хварэла, у яе моцна і часта балела галава. Бацька сам з негабляваных дошак зрабіў перагародку. Анюта тады доўга прасіла ў яго грошай на шпалеры — абклеіць з сярэдзіны, каб не глядзець маці на голыя дошкі. Цяпер, калі прыязджае дадому, Анюта жыве ў гэтай баковачцы. Бацька не раскідаў перагародку: у яго спыняюцца на кватэру выкладчыкі ці кіраўнікі, калі прыязджаюць на работу ў калгас студэнты ці рабочыя. Анюце гэтая баковачка — адзіны дарагі куток у роднай хаце, куды яна не любіла прыязджаць і не прыехала б і сёлета, каб не прыхварэла не ў пару — калі сама раз'язджаліся студэнцкія атрады. Тры апошнія леты яна ездзіла з будаўнічымі атрадамі, а таму грошай мела і на адзежу, і на тое, каб жыць прыстойна. Анюта пацягнулася, прыслухалася, як тупала басанож на кухні цётка. Незамужняя, яна дажывала свой век пры маладзейшым браце.

Спяшаць не было куды, наперадзе доўгі і вольны дзень. Цяпер тыя, хто прыязджае летам дадому, на работу ў калгас не бегае. Ды і сам бацька і цётка пасля таго, як атрымалі пенсію, на калгасную работу не ходзяць.

Анюта памкнулася ўстаць, але пачула, як у хату ўвайшоў бацька.

— Сядзь мо, блінец памаж,— паклікала цётка.

— Чорцяга, і так забавіўся... Ты прайдзі, збі на пустках палын, каб было дзе траву раскідаць, як прывязу.

— Хто яе ў тым балотцы схопіць?

— Ніхто не схопіць, але людзям вока рэзаць будзе. Чужое дабро век вочы коле,— бацька гаварыў глушэй, мабыць,

сеў есці. Пастаронняму чалавеку здалося б, што старыя сварацца, але Анюта ведала, што гэта звычайная размова.

— Вот Анюту бяры на работу, а то цэлы дзень вылежваецца і толькі кніжкі чытае, як малая...

— У яе галава на плячах. Інсцітут канчае...

— На гэта інсцітута не трэба... Кожны вечар ўсё некуды выбіраецца.

Цётка яшчэ нешта злосна бубніла і пасля таго, як бацька пайшоў з хаты. Анюта пасміхалася з гэтых цётчыных мерак. Яна сучасная маладая жанчына і разбярэцца сама. Адно праўда было ў цётчыных словах — бунтуецца, не дае спакою кроў.

На двары было ўжо душнавата, толькі ў садзе спадыспаду травы шкляніста паблісквалі зярняткі расы і ад самога саду павявала яшчэ вільгаццю і халадком. І ціха было. Пачыналася летняя жнівеньская спякота, калі ў вёсцы нікога не відно і не чутно, нават куры лянуюцца паквохтваць і шыюцца ў цень, пад зараснік бэзу, угрэбаюцца ў сухую, як попел, зямлю і сядзяць з адкрытымі дзюбамі.

Вада ў рукамыйніку яшчэ не нагрэлася, прыемна халадзіла твар.

Цётка выйшла з-за хлява з касою на плячы. Яна была ў старой Анюцінай, некалі карычневай, а цяпер вылінялай да белага на плячах, сукенцы з кароткімі рукавамі, якая вісела на ёй, як на калу. І твар, і парэпаныя вялікія рукі былі аж чорныя ад загару.

— Ты, Анюта, сама паснедай, прыбяры ў хаце троха... Цэлы месяц нічога не робіш, і есці табе ніхто не шкадуе, а ніяк не папаўнела. Няўжо гэта вучоба гэтак усушвае чалавека?

Анюта ўсміхнулася — няхай сабе будзе і так, як думае старая.

— А я пайду палын саб'ю, пакуль ён травы прывязе...

Анюта ў купальніку, з махровым ручніком на плячах глядзела ўслед цётцы, якая неяк бокам, у старых брызентавых тапачках ішла з двара. Анюта паспрабавала ўявіць сябе такою, міжволі сцепанула плячыма. Не верылася, што і яна вось так магла пражыць жыццё і нічога болей не ведаць — толькі работу.

Работа дачасна даканала і маці, а бацька і цётка ўсё ідуць тым жа сваім бясконцым кругам. І ёй пасаг збіраюць. Анюта горка ўсміхнулася.

Свой шлях у жыцці яна ўжо вызначыла: як толькі Віктар абароніць кандыдацкую, яны жэняцца. На першым часе бу-

дуць мець пакойчык у сямейным інтэрнаце, а потым... Потым усё пойдзе і далей нармальна — Анюта ў сабе не сумнявалася, у сваіх магчымасцях — таксама. Вяселле яна запланавала на восень, каб потым спакойна пісаць дыпломную, рыхтавацца да абароны.

Паўдня Анюта чытала і загарала, потым узялася і памыла ўсе фіранкі, якія толькі былі ў хаце. Пад вечар адзелася просценька: у шэрыя з прастрочанымі канцікамі штаны, белую кофтачку з кароткім рукавом.

Ціха і спакойна клалася ноч. Было чутно, як ля клуба скончылася пласцінка і хлапечы голас крыкнуў: «Хто там, давай! Заснуў, ці што?» Анюта не магла ісці туды, дзе збіраліся большасцю школьнікі, танцавалі і ціскалі дзяўчатак, якія ахвотна папісквалі. Кампаніі ёй там ужо не было і жадання да такіх танцаў — таксама.

Анюта завярнула ў канец вёскі. За апошняю хатаю прыпынілася. Ад сажалкі цягнула цеплаватаю вільгаццю, пахам угрэтае вады, а з поля цякло моцнае, як з напаленае печы, цяпло збажыны. Мяккі пыл казытаў у пальцы.

З палёгкаю ўздыхнула, калі ўбачыла на палявой дарозе матацыкл. Віктар чакаў яе. З ім Анюта пазнаёмілася ўчора, калі вярталася са Слуцка,— Віктар падвёз яе з напакаванай сумкай ад аўтобуснага прыпынку да хаты. Віктар у калгасе «забяспечваў» работу шабашнікаў, якія будавалі цялятнік. Сам ён ужо два гады як скончыў вучобу, працуе інжынерам у канструктарскім бюро. Шабашнічаць пачаў яшчэ з першага курса, а цяпер сам арганізатар «шабашкі». У яго жонка, сын, пабудаваў кааператыўную кватэру. Зарабляе грошы на машыну. Да горада сорак кіламетраў, на матацыкле заехаць не праблема. Матацыкл на час работы выпрасіў у калгасе — каб у час дастаўляць матэрыялы. Цялятнік калгасу пазарэз патрэбен да восені.

Віктар павітаўся, пажартаваў:

— А я думаў, ты ўжо на танцы завярнула.

— Давай разам.

— Можна, калі табе хочацца.

— Не. Там ужо не мая кампанія.

— І тым болей не мая,— Віктар па-свойску ўсміхнуўся.

— Давай я лепш правязу цябе на матацыкле,— прапанавала Анюта.

— Умееш?

— Паглядзіш.

Яна страсянула адной нагой, потым другой — вытрасла пыл з басаножак, узялася за руль, села, пару разоў газану-

ла, быццам прывыкала да матора, страсянула галавой:

— Садзіся!

Матацыкл асеў пад Віктарам. Ён памкнуўся абняць яе. Анюта коратка азірнулася цераз плячо:

— Ну!

Віктар прыняў рукі. Яна з месца ўзяла рыўком, унацяжку пераключылася з хуткасці на хуткасць. Пакуль набірала разгон, разоў колькі абмацала тармазны рычаг, каб прывучыць да яго нагу. Адчула, што матор набраў магутнасць. Колы пухка разбівалі дарожны пыл, падкручвалі пад сябе белую стужку палявой дарогі. Анюта з усмешкаю думала пра тое, што Віктару, як і кожнаму, хто прывык ездзіць за рулём, няўтульна ехаць ззаду, памкнулася азірнуцца, пачула, што Віктар нешта крыкнуў, і адчула, як ірванула з рук руль, лёгка кінула наперад. Яна не магла яшчэ зразумець, што адбылося, адчувала пясок у роце, у носе, пыл на твары.

Яна ўбачыла, як Віктар, накульгваючы, падбег да яе, правёў рукамі па плячах, па руках, па спіне.

— Ну як? — толькі і здагадалася спытаць Анюта.

— Лепш не бывае. Газанула! — ён выплюнуў пясок, выцер губы, з палёгкай уздыхнуў і засмяяўся. Тады засмяялася і яна, спачатку нервова, а потым, як убачыла, як Віктар матляе галавой, каб вытрасці з валасоў пясок, смяялася шчыра, да знямогі.

— А ты і рот разявіў!

Віктар падаў Анюце руку, дапамог устаць, падняў, завёў матацыкл. Анюта села на задняе сядзенне.

— Памыцца трэба было б...

— Паехалі купацца,— прапанавала Анюта.

— Давай.

Віктар праехаў па дарозе, потым скіраваў на палявую мяжу, з аднаго боку якое цягнулася ячменнае поле, а з другога — бульбянае. Калі скончыўся бульбоўнік, матацыкл пабег па аселіцы. Віктар ехаў па адной з тых сцяжынак, якія застаюцца на паплавах ад каровіных ног. Па гэтай сцежцы яны нырнулі ў вузкую белую палоску туману. Віктар прыбавіў газу, і матацыкл выскачыў на вышэйшае, зноў павеяла душнаватай летняю цеплынёй. Неўзабаве матацыкл спыніўся на невысокім пясчаным беразе ля рачной завоінкі.

У начным небе недзе высока жыло яшчэ святло, і пад ім роўна і спакойна паблісквала вада, а на тым беразе, дзе пачынаўся сенакос, ціха стаялі лазовыя купчастыя кусты. Адтуль абзываўся адзінокі паплаўнічы драч, здалёк па вадзе

данoccілacя ціxae кaчынae пaкpaквaннe. Засцілаўся туманам луг за лазовымі кустамі ўдалечыні, роўна цякла вада, вечна і загадкава стаяла над зямлёй начная светласць і цішыня, якая поўніць душу неразгаданаю прыгажосцю, па якой вечна смуткуе жывая чалавечая душа.

Анюта раздзелася хутка, азірнулася на Віктара:

— А ты чаго стаіш? Перадумаў?

Знарок спытала моцна, каб парушыць цішыню, ведала, што ён любуецца ёй, паволі пайшла ў ваду, памацала яе нагой. У ваду ўвайшла ціха, прыемна адчувала пад нагамі хрумсткі мылец на дне. Паволі легла на ваду і нячутна паплыла.

Чула, як шумна плюхнуў у ваду Віктар, дагнаў яе, пафырквае, пырскаўся вадой. Далей паплылі разам. Ён на баку, гледзячы на Анюту, яна роўна, быццам нікога і побач няма.

Анюта першая выйшла на бераг, пакуль плаваў Віктар, выкруціла за алешнікам купальнік. Калі ён вылез з вады, Анюта расчэсвала валасы. У начным святле паблісквала яе мокрае загарэлае цела. Яна адчула Віктараў позірк, крыху павярнулася, зірнула на яго з-пад рукі.

Віктар прыпыніўся, страсянуў галавой — усё ішло сваім парадкам. Ён падышоў да Анюты і моцна абняў яе. Анюта адчула, які ён увесь мускулісты і гарачы, хоць толькі што з вады. І сама адчула, як стала горача ў грудзях, як цела міжволі туліцца да яго. Віктар знайшоў яе губы сваімі, сухімі і гарачымі.

Яна адапхнула яго рэзка, з усёй сілы, і ён ад неспадзяванасці ледзь астояўся на нагах.

— Адвярніся, ну! — загадала яна.

Віктар крута адвярнуўся, па-салдацку хутка адзеўся. У кожным ягоным руху адчувалася крыўда і злосць.

— Паехалі, мне холадна,— Анюта папрасіла як мага безабаронней.

Віктар завёў матацыкл, знарок глядзеў у другі бок, чакаў, пакуль сядзе яна. І здрыгануўся ад нечаканасці, калі яна абняла і ўся прытулілася да яго. Асцярожна крануўся з месца і ехаў паволі.

Анюта ўсміхалася і з самой сябе, з таго, як прыліпла да гэтага маладога мужчыны. Не хацелася адрывацца ад яго, і рука міжволі пагладзіла яго грудзі, спынілася там, дзе было сэрца, і яно застукала мацней.

Ля дому Віктар адважыўся прытрымаць яе за руку. Анюта сама абняла яго, пацалавала доўга і з такою прагай, што аж у самое закружылася ў галаве, адхілілася:

— Не трэба. Дай мне прывыкнуць да цябе. Да заўтра.

— Да заўтра,— рэхам адказаў ён.

Пасля таго як Віктар паехаў, Анюта яшчэ стаяла на двары. У хату ісці не хацелася, не хацелася і спаць. Горача і душна было ў гэту летнюю ноч.

Назаўтра яна перанесла сваю пасцель з хаты ў садовы дашчаны домік — усё з-за гарачыні. А вечарам чакала за вёскай Віктара.

Надвячоркам збіраўся на вахту, як любіў сам гаварыць, і дзед Ляксей, а там мяняў парадпае адзенне на рабочае: замест галіфэ надзеў старыя ватныя штаны, замест сандаляў — старыя шытыя валёнкі з галёшамі, выкачаны і палямчаны ўсё на гэтых жа «баявых вахтах» кажушок. І замест фуражкі належала надзець старую аблавушку.

— Ну, дзе ты там ужэ, жаніх? Два часы ўбіраешся! Саўсім умеркне. Выкураць цябе, качарга старая, з гэтае варты!

— Хто мяне выпра? Які ім дурань за гэтыя грошы гэтулькі цехнікі вартаваць адважыцца?

— А ты ўвартуеш! Для прыклёпу там цябе дзяржаць, можа, каб якія пажарнікі не чапляліся ці начальства...

— Для прыклёпу, для прыклёпу! Сама ты прыклёп бесталковы! Падавай валёнак!

Дзед Ляксей злосна вышморгваў з жончыных рук валёнак, і яна брала напагатове другі.

— А то ж бо не? Які ж бы гэта дурань плаціў табе за тое, што пераспіш ноч у апілках...

— Тваю маць!.. Дурань нейкі ляпнуў, а і ты паўтараеш!

Дзед замахнуўся валёнкам, але Мар'я загадзя адступілася.

— Ну, не спіш, не спіш, хто цябе ведае... Толькі чаго гэта з кажушка апілкі, як тыя блохі, сыплюцца?

— У цябе самое з галавы труха сыплецца!..

— Добра, добра, убраўся ўжэ? Давай, хіба, і бараду ножанкамі падрэжу, а то ночы яшчэ каго напужаеш, падумаюць, што чорт вылез...

— Вото! У парыкмахерскую схаджу, пастрыгуся і бараду папраўлю.

— А стрыгчы што будзеш, пушок гэты, што, як у куры пад хвастом, у цябе на галаве астаўся?

Мар'я яшчэ далей адступілася ад дзеда.

— Ты ў мяне некалі дакудахтаешся,— дзед рашуча ўстаў з лаўкі і шыбануў за хлеў.

— Скарэй, а то не ўспееш! — падражніла ўслед Мар'я.

Дзед Ляксей не агрызнуўся — не было калі.

Пачынала змяркацца, калі дзед Ляксей сцежкай пад вішняком выйшаў да дарогі. Да вайны тут была вузкакалейка да ваеннага гарадка. Цяпер яе разаралі, не асталося і следу. Толькі з зямлі яшчэ не-не ды і вылезе ржавы касталь. Дзед Ляксей паглядзеў у той бок, дзе быў ваенны гарадок. Ад яго засталася толькі канюшня з чырвонае цэглы і пахіленая, падарваная ў вайну партызанамі вадакачка. Цяпер яе не ўгледзіш з-за сасонніку, які там узрос.

Далей у палях прысядалі да зямлі цёмныя астраўкі вёсак. Пахла пылам угрэтае дарогі, травою ад аселіцы і збажыной з поля. І яшчэ сапраўды свежа і смаліста ад кажушка — апілкамі, але гэтага паху дзед не вылучаў.

У такія часіны дзеду Ляксею здавалася, што гэта ён, маленькі, у лапціках, глядзіць аднекуль на сябе цяперашняга і на ўсё навокал. Адтуль аднекуль, з аселіцы, дзе ў вясновых лужынах жоўта цвіла лотаць. І ў цяперашняга яго, старога, аж заходзіцца душа ад таго, што гэтулькі ўсяго таму хлопчыку з бярэмцам жоўтай лотаці нагатавана наперадзе. І работы, і вайны, і смерці, што душа чалавечая і вытрымаць не зможа. Але вытрымае, не разарвецца сэрца, не адсохнуць рукі і ногі, не выцекуць слязой вочы... А мо гэта і не ён на сябе малога, а ягоны бацька ці дзед глядзіць на яго цяперашняга з кіёчкам, аднаго ў цёмным свеце, з нейкае свае далёкае вышыні?

Дзед Ляксей прыпыняецца, уражаны процьмай часу і прасторы, якая раптам адкрываецца перад ім, якую ён не можа спасцігнуць ні вокам, ні розумам.

Дзед уздыхае з палёгкай, азіраецца навокал, каб яшчэ раз пераканацца, што пад нагамі знаёмая дарога, калі і паваліцся, то ніжэй зямлі не ўпадзеш. На ўсякі выпадак дзед яшчэ азіраецца наўкруга — ці ніхто не бачыў, як ён немаведама чаго стаяў пасярод дарогі. Потым дастае з кішэні кажушка бутэльку віна, якую ён хаваў сёння ад старое ў кастры дроў за хлявом, таму і была ў яго перад дзяжурствам пільная патрэба зазірнуць туды.

Далей дзед ідзе цвярдзей і весялей.

Пра дзеда Ляксея калгасныя механізатары могуць расказваць бясконца: пачынаючы з яго ўспамінаў пра маладосць, калі дзяўчаты не давалі маладому Ляксею праходу, і апошнім наведваннем дзеда да парторга з заявай аб уступ-

ленні ў партыю. Дзед катэгарычна растлумачыў, што цяпер ён не можа не быць у партыі — пакуль хопіць здароўя, будзе дапамагаць Гарбачову перабудоўваць. Адна няўвязка атрымоўвалася ў дзеда — як сумясціць свой новы статус з любоўю да віна. Парторг растлумачыў, што дзед па ўсіх стацціях падыходзіць, але «праклятая» — перашкода сур'ёзная, і таму ён дае тэрмін дзеду падумаць і «выправіцца»...

Але гэта быў дзед Ляксей — сава ўдзяняшняя, той, пра якога Мар'я, божкаючы, гаварыла: «Што ж вы хочаце, немцы ў тым карцеры ўсё ў яго ўнутры, акрамя душы, адбілі». Галоўнымі ў дзеда Ляксеевым жыцці даўно ўжо засталіся толькі ночы. Начамі вяртаўся ён да свайго сапраўднага жыцця, да самага дарагога і балючага, самага свайго, прычым быў бы і ён дзедам, і прадзедам, і спаў бы ў сваёй хаце, і не смяшыў бы людзей, думаў дзед пра дзяцей сваіх, якіх на вачах у яго немцы забітых кідалі ў запаленую хату. Як душу яго там палілі. Старэйшыя загінулі потым, адзін у партызанах, другі на фронце. Але тыя два, меншыя...

Даставаў дзед з кішэні бутэльку, адпіваў крыху, каб супакоіцца. Потым яму пачынала здавацца, што бачыць сябе малога, што ідзе ён з Вужанскага палетка, паўз лужкі, парослыя асакой і лазовымі кустамі, да сваёй вёскі, якая кучаравіцца ліпамі. Дарога палявая, падарожнік студзіць ногі. Вечарам у вёсцы збіраліся на ігрышча, іграў на цымбалах яго аднагодак Змітрок, панскі парабак. Не асталося ўжо нікога з яго аднагодкаў — Амерыка, рэвалюцыя, войны, калектывізацыя пазабіралі іх. І першую жонку сцерла жыццё, Мар'я гэта другая, рабацяшчая, але не здатная ні на танцы, ні на песню, глухая яна да ўсяго гэтага. Сам жа ён памятае тыя танцы, душа яго мучыцца без тых песень. Дарэмна ён прыслухоўваецца да радыё, прыглядаецца да тэлевізара — і песні быццам даўнейшыя, але ўжо нейкія як і несапраўдныя, як і не яго...

А потым людзі ўспаміналіся, галасы іхнія, асабліва тых, з кім сядзеў у СД... І не боль і жах катаванняў вяртаўся, а страшны ўспамін, як гарыць хата, як дзяцей забітых у агонь кідаюць...

Адкуль пра ўсё гэта было ведаць Віктару, які ноччу вяртаўся ад Анюты? Работу яго брыгада канчала, амаль па дзве тысячы выходзіла чыстымі на рукі ў месяц. З Анютай абмяняліся тэлефонамі, праўда, знарок ён адну лічбу ў нумары назваў няправільна. У яго жонка, дзіця, сям'ёй ён дара-

жыць умее. Віктар, вядома ж, не ведаў, што і ў Анюты свае планы былі на будучае і што яна замест інтэрнацкага тэлефоннага нумара, якога і не памятала, назвала першыя лічбы, якія прыйшлі ў галаў. Адным словам — бывай, маё лета, бывай, мая радасць!

Настрой у Віктара быў цудоўны, і ён не мог не пажартаваць, калі ўгледзеў пры плоце чорны кажушок вядомага ўсім на цэнтральнай сядзібе дзеда Ляксея, здагадаўся, што дрэмле стары, пусціў матацыкл накатам, і калі пад'ехаў блізка, асляпіў старога святлом, раўнуў маторам, краем вока ўгледзеў, як ускінуўся той, як нема закрычаў,— і знік у начной цемры. Не бачыў ён, што гэтак і пралежаў дзед пры плоце да раніцы. І недапітае чырвонае віно пад ім засохла на прыдарожным пыле. І ніхто ў тую ноч не ведаў, што, калі зноў бачыў дзед, як паляць дзяцей яго, белае вока фары, тае, з нямецкае машыны, якая свяціла тады, апякло лютым агнём вочы, зверам скочыла на яго.

Падабранага раніцай дзеда завезлі ў бальніцу на старшынёўскай «Волзе», там ён скардзіўся толькі, што пячэ ў грудзях, прасіў, каб прывезлі Мар'ю развітацца, але не дачакаўся яе, ціха, незаўважна нават для суседзяў па палаце, сканаў.

# *Каценька-Кацюша*

## *I*

У той год я толькі скончыў школу і жыў яшчэ на нашай ціхай, зусім вясковай, парослай травою і ахінутай густымі вішанькамі, якія дружна налягаюць на платы, ускраіннай вулачцы Слуцка. І там, надвячоркам, я ўпершыню ўбачыў гэтага чалавека.

Высокі, касцісты — у свой час меў сілу! — ён хістаючыся ішоў пасярод вуліцы. Сіні, ужо добра вынашаны і палінялы плашч, які вісеў на ім, нібы на калу, быў расшпілены, і полы даставалі амаль да зямлі — здавалася, ён восьвось наступіць на адну з іх і паваліцца; шэры фетравы капялюш з'ехаў на адно вуха, і мужчына быў падобны на клоуна, які ідзе па арэне, высока падымаючы ногі. У дадатак да ўсяго мужчына заплюшчваў вочы і зацягваў жалобнадзікавата, з падвывам:

Каценьк-а-а — Кацю-юша-а,
Купе-е-ческа до-оч...

Услед яму глядзелі здзіўлена, усміхаліся — было ва ўсім гэтым нешта недарэчна-смешнае і разам з тым горкае.

Назаўтра жанчыны ведалі ўжо, што гэта новы кватарант старое Антосіхі, што працуе ён слесарам на аўтарамонтным заводзе, што жыве бабылём...

А потым увайшлі ў звычку яго вячэрнія вяртанні дадому з нязменнаю «Каценькай-Кацюшаю», і калі малыя спрабавалі бегчы за мужчынам з крыкам: «Каценька-Кацюша, Каценька-Кацюша! У цябе нос, як груша!» — дарослыя прыкрыквалі на іх, разганялі, але хутка і самі пачалі зваць мужчыну Каценька-Кацюша.

*II*

У суботу прыехаў у госці мой брат, і я зайшоў надвячоркам у магазін.

Там, акрамя Каценькі-Кацюшы і прадаўца, кульгавага інваліда вайны, нікога не было. Прадавец стаяў абапёршыся на прылавак, Каценька-Кацюша сядзеў насупраць на парожняй скрынцы з-пад пячэння. Паміж імі на прылаўку стаяла напалову выпітая бутэлька, дзве шклянкі, ляжалі цукеркі.

Каценька-Кацюша не заўважыў мяне, ён расказваў. Прадавец кінуў мне кароткі позірк, але не крануўся з месца, нібы прасіў пачакаць.

Я закурыў. Мне таксама хацелася паслухаць, пра што расказвае гэты дзівакаваты Каценька-Кацюша.

...Не, ён нядрэнна жыў, былы сын батрака. У яго была жонка, якая працавала медсястрою ў бальніцы, быў сын, і сам ён рабіў заўгасам у той жа бальніцы. У іх была свая хата ў мястэчку...

Было гэта да вайны. А потым... Ён быў сумленным і смелым хлопцам, і такія хлопцы патрэбны былі ў варожым тыле. Яму сказалі пра гэта прама. Ён згадзіўся, бо ведаў, што застаецца не толькі ён.

Першыя дні яны не ведалі, за што брацца. Потым пачалі падбіраць параненых чырвонаармейцаў з навакольных вёсак, лячылі, даставалі дакументы, перапраўлялі праз сваіх людзей у лясныя схованкі медыкаменты, і гэтага здавалася мала. Захацелі знішчыць раённага каменданта. Невядома, ці данёс хто, ці самі немцы здагадаліся.

Бралі іх сярод белага дня, нібы мокрых курэй, ды і былі

з іх яшчэ не падпольшчыкі, а куры мокрыя. І ўсё роўна наперадзе было слуцкае гестапа, а адтуль адна дарога — за горад, у старыя гліпішчы...

Ім пашанцавала, што слуцкія хлопцы чулі пра іх і падмянілі дакументы. У глінішчы паехаў, мажліва, той, хто нават і не чуў пра падполле, а яны паехалі ў Германію.

Пад Баранавічамі чатыры чалавекі на ходу выскачылі з эшалона. Гэта былі смелыя хлопцы, і паміж Радзімаю і чужынай яны выбралі толькі адно — Радзіму.

Неяк так атрымалася, што ён камандаваў трыма гэтымі чалавекамі, можа, што быў старэйшы за іх, і яму аднаму не пашанцавала: калі скакаў з поезда, трапіў якраз на прыдарожны слуп, разбіў сківіцу і зламаў ключыцу. Хлопцы знайшлі яго ў цемнаце, залітага крывёю і непрытомнага.

Два тыдні яны хаваліся на хутары, і нізенькая, бялявая і зморана на выгляд беларуска паіла яго малаком, якога не хапала нават яе траім дзяўчынкам, не тое што каб заставалася яму. Ён не мог ісці, нават гаварыць, і жыў толькі малаком, і разумеў, што п'е малако дзяцей. Потым хлопцам удалося звязацца з партызанамі. Жадаючых уступіць у партызаны на той час ужо хапала, было каго выбіраць і з мясцовых, хапала маладых і дужых. І яго, хворага, не хацелі браць і ўзялі толькі, калі хлопцы заявілі, што без яго не пойдуць.

А потым былі допыты, і яго дапытвалі больш, чым астатніх,— ён быў старэйшым з гэтай маленькай кучкі людзей. Ён не мог гаварыць, пісаў адказы на лістах пажоўклай разлінеенай канцылярскай кнігі і не разумеў, навошта гэта ўсё. Ён не мог ведаць, што за месяц да гэтага правакатар навёў на атрад паліцыю, і дванаццаць хлопцаў засталіся ляжаць ля бетоннага моста.

Той раз, калі канваір прыпыніўся ля зямлянкі, каб дакурыць самакрутку, і калі ён пачуў рэзкі голас камандзіра: «Калі ўпэўнены, што вораг — страляй! Я даю табе права!» — яму стала страшна, страшна першы раз, што расстраляюць, нібы сабаку, свае.

Іх не расстралялі, адправілі ў шостую роту, і яны не маглі галавы прыкласці, што гэта за «шостая рота», калі ва ўсім атрадзе, на ваенны манер яшчэ, са штабам, ардынарцамі, пісарамі, сувязнымі, з цяжкасцю можна было наскрэбці роту байцоў.

Вялі іх два канваіры і начальнік штаба. Была восень, шэрае нізкае неба, нудная дробная імжа і пануры малады хвойнік абапал дарогі...

І ўсё ж шчасце хадзіла за імі, а так хіба сустрэлі б яны другі атрад, камандзір якога пазнаў таго самага мужчыну, што прывёз яго, савецкага лейтэнанта, з вёскі ў бальніцу і невядома як апынуўся тут, за дзве сотні кіламетраў з забінтаванаю галавою. І, як толькі заікнуўся начштаба пра «шостую роту», пабялеў і нервова перасмыкнуўся твар лейтэнанта:

— Што?!. У шостую? А там за шосты куст?..

— У мяне загад...

— Я та-бе па-ка-жу загад, гніда?

У лейтэнанта «здалі» нервы яшчэ летам сорак першага, калі нямецкі танк на яго вачах «папрасаваў» братаў акоп, і цяпер лейтэнантаў буланы ўзвіўся на дыбы, плётка са свістам разанула па галаве начштаба, па яго кані...

Шчасце хадзіла з імі...

А жанчыну, што іх хавала — даведаліся потым,— немцы спалілі ў хаце разам з дзецьмі.

Ужо ў сорак чацвёртым, калі пачало брацца на вясну, падрыўная група замініравала палатно, і ён, камандзір, загадаў адпаўзаць з высечанае паласы ля дарогі. Адпаўзці не паспелі: патруль ублытаўся ў шнур — і рванула.

Ракеты...

Потым прастрэлка трасіруючымі з дзотаў і шэсць чалавек ляжала на снезе, прыкрыўшыся ад куль аднымі маскхалатамі. Двух хлопцаў не стала. Яго параніла навылёт у грудзі.

Пасля шпіталя яго не ўзялі на фронт. І ён інструктарам райкома матляўся па раёне — трэба было аднаўляць калгасы. У яго не было дому, нічога не было, акрамя выцертага шыняля і трафейнага «вальтэра»...

Быў, праўда, брат. За вайну ён выбудаваўся і ў той вечар падліваў гарэлку, расказваў, як хаваў ад партызан двух кабаноў, і прасіў падмахнуць даведачку, бо вяскоўцы не даюць жыць...

І вымардаваны, аброслы рыжым шчаціннем чалавек з гарачымі вачыма, у адным шынялі, замест таго каб дапамагчы брату, ледзь не выпусціў у яго ўсю абойму і больш ні разу не зайшоў у хату.

А потым яны, арыштаваныя немцамі ў сорак другім, аказаліся «агентамі гестапа». З імі доўга не цырымоніліся. Хто быў на фронце, той трапіў у штрафбат, а астатнія — у Сібір.

### III

Каценька-Кацюша змоўк. Твар яго, па-старэчаму маршчыністы, зямліста-шэры ад кароткага сівога шчаціння, нібы запылены пакамечаны бот, не змяніўся, быццам механічна перагортвалася дзесяткі разоў прачытаная кніга, якая ўжо нічым не можа крануць яго і ў якой ён усё не можа нешта зразумець; выцвіла-блакітныя вочы, здавалася, пасыпаныя попелам, глядзелі безуважна і невідушча.

Было непрыемна ціха, і было адчуванне, што гэтая цішыня вось-вось лопне.

— Пасля ж аднавілі... рэабілітавалі...— няўпэўнена прамовіў я, каб толькі больш не маўчаць.

Ён падняў на мяне вочы.

— Аднавілі. Аддалі медалі, паперы напісалі. Пра тое, што было, параілі не надта... Каценьку-Кацюшу аддалі, як вы гаворыце, а ўзнагароджвалі камандзіра падрыўнікоў Паўла Грабца!.. А-а! — раптам неяк хрыпла, як застагнаў, ускрыкнуў ён, махнуў рукою, глытнуў яшчэ паўшклянкі і, адварочваючыся ад нас, ірвануўся за дзверы...

— Кацю, жонку яго, у гэты дзень немцы расстралялі, семнаццатага... І сына. Казалі, прыгожая была, і доўга з яе глуміліся,— нібы між іншым заўважыў прадавец, падаючы мне пакупку.

Я выйшаў на двор. Ноч пачыналася цёплая, бяздонна зорная, з касымі росчыркамі знічак у мяккай жнівеньскай чарнаце неба, якое яшчэ чуць святлелася ў тым баку, дзе зайшло сонца. І першы раз пасля прыезду Каценькі-Кацюшы не было чуваць яго песні, чамусьці пра купецкую дачку, пра белы і блакітны ветразі.

### IV

Потым памяняўся ўчастковы. Маладзенькі лейтэнанцік з мякенькімі пшанічнымі вусікамі і тоненькай планшэткай у руцэ ўзяўся наводзіць парадак напаказ. Ён тройчы пры людзях папярэдзіў Каценьку-Кацюшу за «парушэнне парадку ў грамадскім месцы», а на чацвёрты раз завёз у аддзяленне. Як і абяцаў. Нечага было Каценьку-Кацюшу паблажліва ўсміхацца.

Больш на нашай вуліцы я Каценьку-Кацюшу не бачыў. Гаварылі, ён перайшоў жыць у іншае месца. Не сустракаў яго я і ў горадзе. Але запомніліся і раптам ні з таго ні з сяго

ўспамінаюцца радкі з яго наіўнай, простай песенькі, у якой гэтак ласкава паўтараецца жаночае імя:

Один парус белый, другой — голубой
Катенька-Катюша, поедем со мной...

## *Пагарэльцы*

Час ідзе, бярэ сваё жыццё. Сцішана глядзіць вёска з-пад засені векавых прысад на новыя пасёлкі, цэнтральныя сядзібы. І жыве, упэўненая ў сваёй патрэбнасці, сваёй праваце, зносіць ціха і цярпліва, па-сялянску, добрае і дрэннае, успамінае старое жыццё і дзівіцца праявам новага.

Хаця здзівіць яе ўжо і цяжка — такога нагледзелася. Летам толькі ажывае галасамі сваіх гарадскіх унукаў, якіх наязджае болей, чым саміх жыхароў асталося. Слухае і ведае таямніцы бацькоў іхніх, якіх яна нарадзіла, а разам з імі і многа такога, што яшчэ гадоў дваццаць таму ёй і сасніцца не магло. Напрыклад, легкавічкі, якія сёння пыляць па вуліцы, а на ноч хаваюцца ў гаражы, што павыстаўлялі з платоў на вуліцу тлуста пафарбаваныя чырвоныя, сінія, срабрыстыя жалезныя вароты.

Першы даў форсу Віцічак: невялічкі, шчуплы мужчына ў дыяганалевым салдацкім фрэнчы, галіфэ і ботах. Твар у яго заўсёды зарослы рэдзенькай рыжаватай шчэццю. Нават на святы, калі галіўся, усё роўна здавалася, што маленькі твар яго зарослы. А на самім Віцічку не касцюм, а дыяганалевы фрэнч.

Вёска ведала, што Віцічак прагны на работу і на дабро. Як толькі крыху аслухалася, абжылася вёска пасля вайны, Віцічак улёг збіраць грошы: свіней трымаў, бычкоў гадаваў, гусей, качак... Акрамя калгаснай работы зранку і вечарам цягаў мяшкі з зеллем усё лета. Потым падрасла старэйшая Таня, пайшла ўслед за бацькамі ў работу.

У той час Віцічак быў схадзіў нават і ў начальства — пабыў брыгадзірам. Нядоўга, праўда. Дапамаглі зайздрасць і звяглівасць. Выгледзеў у жніво, што нехта схаваў пад саломай у полі кучу збожжа. Не вытрывала душа, сам паехаў дармовае забраць. На тым і папаўся.

Пасля Віцічак гаварыў канцавому Косціку:

— Нацёрта яно мне было тое брыгадзірства! Толькі

з людзьмі настыраешся, а наробку каліва. Цяпер цялят пасу, у месяц больш за самога старшыню зарабляю!

Але гэта ўжо пасля строгай партыйнай вымовы і таварыскага суда.

— Дык цялят можна і не камуністам будучы пасвіць. А то ж плаціць узносы трэба,— пад'ялдыкваў Косцік.

— У арміі ж нас, лепшых, прымалі, хто ж яго думаў...

Віцічак спахопліваўся і замаўкаў, на ўсякі выпадак азіраўся, ці няма нікога паблізу, акрамя Косціка.

Віцічак ганарыўся, што здагадаўся і не пасылаў сваіх дзяцей у горад у вялікую навуку, як модна было на першым часе. Праўда, і самі іхнія атэстаты падказвалі, што гэтакі блат будзе дарага стоіць ды і невядома, што з яго выйдзе. Сваёй мудрасцю Віцічак потым і пахваляўся.

— А сто цяпер там навука дае? Нуль цэлых, нуль дзесятых. Мая ў сталоўцы робіць, галава не баліць, усяго хапае!..

Рабацяшчая і змысная, яго Таня ў сталоўцы знайшла сваю залатую жылу. Прыязджала дагледжаная, разадзетая.

— Цэлую сумку навезла яды. Сьто толькі хочаш! — хваліўся Віцічак.

— То і мяне б пачаставаў,— абзываўся Косцік.

— Пайшлі! Яна да мяне без бутэлькі горкай і не ідзе!

Віцічак ведаў, што цяпер яго Вера нікуды не дзенецца, выдасць прывезенае дачкой.

Потым Тані і вяселле справіў. Без вялікага размаху, але і не беднае. Маладыя ў сельсавет распісвацца на легкавых машынах ездзілі — зяць працаваў на рамзаводзе, і Тані з «торгу» «Волгу» выдзелілі.

— Сьто ты хоцясь! У яго рукі залатыя. Усе да яго — выручы!..

Зяць умеў рабіць грошы. Хутка Таня прыязджала на ўласнай «Волзе». Зяць не без дапамогі Віцічка купіў старую машыну, а перарабіў у новую. Потым на вуліцы насупраць Віцічкавай хаты выраслі штабялі лесу, з якіх потым на ўчастку ў горадзе, які маладыя купілі разам з «урамянкай», устаў звонкі, з вялікімі вокнамі дом.

— Усё сваё. Сад. Агарод. Як і не ў горадзе, а на дачы. Толькі кватаранты за ўрамянку шэсцьдзесят рублёў плоцяць у месяц!..— не мог нацешыцца Віцічак.

Таня Віцічкава тым часам сама злілася ў мажную, моцную, як злепак, маладзіцу. І зяць пакруглеў з твару, заблішчаў, а вусы распушыліся і натапырыліся. Пад домам ягоны гараж ператварыўся ў майстэрню. Аднаго, чаго не хапала

Віцічку — унукаў. Калі спачатку ён мудра пасміхаўся: «Абзыцца трэба, а дзяцей нарабіць навука невялікая»,— то цяпер памоўчваў, не прызнаваўся, што Таня і па дактарах ходзіць, і на курорты ездзіць. Каб насаліць Віцічку, суседка Шура, з якой мяжу на пляцы Віцічак не можа навесці і да сённяшняга дня, гаварыла ўсім:

— Дзе ж тое дзіця будзе? Каб даставаць, усім падстаўлялася. Лякарствы піла, каб дзяцей не было. А цяпер ялаўкай і зжыве!

— Ну што ты ад дурной Сулкі хоцяс? — разводзіў рукамі Віцічак.

Але і без Шуркі ведала вёска, што неаднойчы зяць, пасля таго як добра «закідаў» з цесцем, ганяў ноччу жонку з пастронкам у руках па садзе, называў адным толькі словам. Тая скуголіла, а Віцічак з Верай пераймалі зяця і ўпрошвалі:

— Колечка, людзі ж пачуюць! Брыдка будзе...

Тым часам рос і Віцічкаў Вова. Гусей ён яшчэ пасвіў паслухмяна, а далей пайшоў сучаснай дарогай. І як ні крывіўся Віцічак, [redacted] купіць сыну матацыкл у восьмым класе давялося.

— Ськола цяперасьняя дзяцей распусціла. Цьорт ведае дзе ўсю ноч на матацыклах лётаюць! Я б то свайму не купіў, але Таня... Гросьай хапае, падарыла.

Гэтак гаварыў Віцічак, але вёска ведала, што даў грошы сам Віцічак пасля таго, як Вовік раніцай закрыў шклом комін, калі маці толькі запаліла ў печы, а дзверы калом падпёр. Давялося Віцічку праз акно вылазіць. Хоць летам гэта і лёгка, але ж не хацелася, каб суседзі бачылі, як дым праз вокны валіць. Вовік прыгразіў, што калі не купяць матацыкл, то не такое яшчэ ўчыніць.

Год пасля школы Вовік гойсаў на матацыкле на ўсе гулянкі ў наваколлі, пакуль не забралі ў армію.

— Армія сьтука добрая, мухі выганяе! Таня яго на мясакамбінат прыстроіла. На кааперацыў на чаргу стаў. А дзеўку яму я сам добрую прыгледзеў, Мішы з Замосця. Дарма што маладая, але Міша дваццаць тысяч на каравай даў ёй!..

— А ты, багатыр, нябось зажаўся. Рады, што свата багатага знайшоў,— паддзеў Віцічка Косцік.

— Чаму? Я на ўсю абстаноўку, як палучаць кватэру, даў.

— Пакуль таго кааператыву дачакаешся...

— А ім за каршэнь не капае. У Тані жывуць, ва ўрамянцы. Гэта толькі сказаць, што ўрамянка, а так нармальная хата. Цякай, колькі табе хочацца! Усе разам, як адна

сям'я,— завяршыў гаворку шчаслівы Віцічак, і Косцік уздыхнуў:

— Што тыя дваццаць тысяч. І я б іх даў, каб хто толькі маю браў.

Ішло жыццё. Зліквідоўваліся, а потым зноў пачалі называцца перспектыўнымі вёскі. Але перасталі ў магазінчыкі, якія былі ў кожнай вёсачцы, штомесяц прывозіць па цэлай машыне «чарніла». А як перасталі прывозіць, то магазінчыкі тыя зачынілі, пару разоў на месяц аўталаўку прысылаць сталі. І ўсё зноў рабілася з клопатам пра чалавечы фактар, а той гэтага не разумеў. І мацюкаўся. Гэтак жа, як і на пажарнікаў, якія пачалі лазіць па будынках, чамусьці разам з участковымі і больш нюхаць па кутках, чым аглядаць гарышчы і коміны печаў. Але ж гэта толькі забаўкі ў параўнанні з тым, што перажыла вёска пад сваімі векавымі ліпамі і вязамі, што з ёю выраблялі, малюючы сонечныя перспектывы, пакуль людзей па свеце не разагналі. Меншае і меншае яна, як шагрэневая скура, а таму кожны чалавек у яе на віду.

Некалькі дзён не паказваўся на людзі Віцічак, і пачалі перапытваць у вёсцы, ці не заўварэў? Але не ехала ў адведкі на «Волзе» Таня, і Вовік са сваёй не паказваўся.

Усё адкрылася, калі да Віцічка зайшоў у адведкі канцавы Косцік, які апошні месяц праз дзень ездзіў у горад у гарэлачны аддзел гастранома і гараваў у кампаніі з бутэлькай сваё гора: ягоная дачка пайшла доктарам у армію, у Афганістан.

— Ну, яна ж доктар, а не салдат. І вайна гэта, кажуць, к канцу ідзе. Мо і з мужам адтуль вернецца. Сьто табе, Косцік, гараваць вельмі! А ў мяне горш, чым у вайну карацель прайшоў! Вось зяцёк вырабіў дак вырабіў! З Вовікавай Ларыскай злёгся! На развод падалі, палавіну ўсяго адсудзілі, селі на «Волгу» і паехалі! Там, кажуць, радзіяцыі няма. Куды ж цяпер мая Таня? А Вовік гуляе, грошы прапівае! От вырабіў! Горсь, чым немец прайшоў! Сю жызню падчыстую! Пагарэльцы мы з Верай! Усю жызню будаваліся, а цяпер на галавешках сядзім. Пагарэльцы.

Віцічак плакаў горкімі слязамі, Косцік ківаў галавой, глядзеў у акно, за якім стаяў душны жнівеньскі дзень. Млелі на сонцы векавыя прысады. З акна відаць было, як па гравійцы пыліла калгасная агітмашына з чырвоным лозунгам на будцы «Усе сілы на...»— развозіла механізатарам абед у тэрмасах. За ёй уставала густая сцяна пылу бязлітасна спякотнага паслячарнобыльскага лета і асядала на траву, на лісце, на даспелую збажыну.

# *Вецер*

Захаладала за ноч. Раніцаю вуліца пакрылася шэранькаю ледзяною скарынкай. Халодны і шчыльны, як вада, вецер збіваў з ног. Ён, быццам рачная плынь, пёр па вуліцы ў берагах устылых сцен.

Чалавек спыніў мяне і запытаўся, як прайсці да гастранома, таго, што ля трамвайнага прыпынку «Вуліца Берсана». Спачатку мне здалося, што ён п'янаваты: неяк шырока расставіў ногі, абапёрся на старэнькую чорную крывульку з гумавым наканечнікам, купленую ў аптэцы. У левай руцэ матлялася на ветры карычневая сумка, старая, але акуратная. І адзенне на ім было старое і старамоднае. Мне здалося, што ён пачне прасіць капеек: тады і да Мінска дайшла мода ў алкаголікаў збіраць капейкі ў незнаёмых людзей на вуліцах.

— Я з Бараўлян, са шпіталя. Да сястры зайсці хачу. Мішку цукерак купіць трэба.

Мужчына нечакана ўсміхнуўся, пацяплеў ад усмешкі яго бледны, густа, навек ссечаны сінімі крапінкамі твар.

Я сказаў яму, што лепш перайсці на другі бок вуліцы і ісці да гастранома, дзе раней, пакуль хадзіў трамвай, і сапраўды быў прыпынак «Вуліца Берсана».

— Даўно не быў у Мінску,— вінавата сказаў мужчына.

Вецер трапаў полы расшпіленага пінжачка, пад якім была толькі шэранькая картовая рубашка, зашпіленая на верхні гузік. Відаць, калі ад'язджаў чалавек на лячэнне, не падумаў пра раннія асеннія халады. Матлялася на ветры сумка, і самога мужчыну хістаў вецер.

Нейкі час я стаяў, глядзеў, як чалавек асцярожна перайшоў цераз вуліцу. На адкрытым месцы яго неспадзявана маханула парывам ветру — упала на тратуар сумка, высока ўскінулася ўгору палка. Здалося, што чалавек упадзе, але ён астояўся.

Апранутая ў чырвоную куртку з белай аблямовачкай на капюшоне, у джынсавых штанах, жанчына абышла чалавека, скоса і падазрона зірнула на сумку на тратуары і болей не азіралася.

Мужчына паволі сагнуўся, падняў сумку і асцярожна і нязграбна пайшоў далей па вуліцы.

Ужо ў аўтобусе я не мог у думках адкаснуцца ад яго. Успаміналіся закасцянелыя, нейкія нязвыклыя наскі яго чаравікаў, і толькі тады я здагадаўся, што быў ён на пра-

тэзах і ісці яму было цяжка нават тую невялікую дарогу, якую я паказаў.

Ад сустрэчы, мабыць, запала ў душу незразумелая макавінка нейкай маёй вінаватасці за вецер і холад на вуліцы, за маладую, як напаказ, прыгожую жанчыну, якая абмінула інваліда, бо ўсё гэта, здавалася, забытае, паўстала ў памяці праз многа год зусім нечакана.

Дзень раскашаваў пяшчотны, цёплы. Гэтакімі днямі прырода нібы хоча сагрэць і суцешыць усё жывое перад доўгімі халоднымі дажджамі, сіберным ветрам і, здаецца, такімі далёкімі і жаданымі маразамі, чыстым снегам. Ля ўвахода ў магазін прадавалі грушы і вінаград. У самім жа магазіне «Дары прыроды» — мне чамусьці здаецца, што назву гэту прыдумаў нейкі цынічны жартаўнік — прадавалі развясны прывазны мёд, і па яго стаяла чарга на ўвесь магазін.

— Мёду больш няма, толькі што асталося ў бітоне,— не першы раз папярэджвала прадаўшчыца чаргу.

У гэтай цеснаце паўз чаргу праціснулася да прылаўка высокая дзяўчына з сумачкай на плячы і густымі, нечакана залацістымі валасамі, якія лажыліся на плечы. З-за іх усе, мабыць, і звярнулі на яе ўвагу.

— Ты куды без чаргі? Я маю права і то!.. Назад!

Мужчына ў шэрым касцюме, дасюль нічым не адметны ў чарзе, ціхі пенсіянер, хапіў жанчыну за руку вышэй локця. І гэтае нечаканае «назад!» прагучала аднекуль не з цяперашняга часу. Адтуль быў і рэзкі паварот тулава, нібы ў руках у мужчыны апынуўся аўтамат і ён гатовы зрэзаць любога, хто асмеліцца ступіць уперад. І лютасць у вачах, сапраўдная, белая, як і шкло трохлітровага слоіка ў руцэ мужчыны.

Скаланулася ад нечаканасці прадаўшчыца, замерла на імгненне чарга, спалохана прагучаў голас дзяўчыны:

— Мне не мёд... Я арэхаў хацела глянуць сыну.

— Я не хачу арэхаў, мама, пайшлі! — хлопчык, дасюль не заўважаны нікім, цягнуў сваю маладую маму за палец і насцярожана глядзеў на людзей. Жанчына з палёгкай паслухмяна пайшла за сынам.

Толькі тады ўздыхнула, заварушылася чарга.

— А рукі нечага распускаць,— быццам ні да кога і да ўсіх сказаў шчупленькі мужчына ў спартыўнай куртцы і вынашаных джынсах.— Не той час.

Мужчына з трохлітровым слоікам азірнуўся, змераў яго позіркам зверху ўніз.

— Асмялелі, перастройшчыкі!..

Ён больш нічога не сказаў, толькі шумна ўцягнуў праз ноздры паветра і завярнуўся да прылаўка. Праз два чалавекі падыходзіла чарга, мёду яму хапала, на ўвесь слоік.

Я выйшаў на вуліцу. Свяціўся пагодны вераснёўскі дзень. Але і на гэтым цяпле холадам павявала ад нядаўняга. І ўспомніўся той асенні дзень, інвалід на сцюдзёным ветры, мытыя не раз, вылінялыя стужачкі ўзнагарод на калодцы. І сённяшні дагледжаны твар, тлуста бліскучая пад слюдой калодка ўзнагарод, амаль цалкам юбілейных, і, самае галоўнае, непрытворная ўладная лютасць, якая раптам прарвалася на людзей аднекуль з таго часу, калі ў пашане быў другі парадак, які спадзяецца на сваё вяртанне. І тады можна будзе аднесці пірагі ўсім і за ўсё.

Над прылаўкам з залацістым вінаградам сыта кружыліся восы, і прадаўшчыца лена адмахвалася ад іх рукой.

## *Самагубца*

Пракінуўся ад сну ён імгненна: блізка плакала Таня. Плакала, як плачуць ад самага страшнага гора: хаваючыся, сцяўшыся душой. Ён разгублена азірнуўся: побач спала жонка. У водсвеце ад ліхтара, які запальваўся на ноч на сцяне суседняга дома, заспаны яе твар быў незадаволены.

А жанчына плакала за сцяной, у кватэры суседняга пад'езда. Потым яна нібы адчула, што яе чуюць, некалькі разоў усхліпнула і заціхла.

Глуха шапацеў дождж, роўны і спорны, які абрынуўся на лета і ліў ужо некалькі сутак. Ён моўчкі ляжаў і не мог заснуць. Нейкая нябачная і магутная сіла прабіла ўсе сцены і апякла яго. Цяжка хвалявалася сэрца. Ён успомніў, што Таня плакала пры ім толькі аднойчы, у апошні вечар. А яму тады хацелася хутчэй пайсці. Усё вырашылася надзіва ўдала, і нечага было плакаць. Ледзь не сказаў: «Перастань, нашто прытварацца? Гэта банальна». Не сказаў, бо пабаяўся, што яна яшчэ больш расплачацца. Яна наогул дарэмна хвалявалася і баялася сказаць яму, што выходзіць замуж. Ён разумеў, што ёй пашанцавала: выйсці замуж

пасля трыццаці за саракагадовага мужчыну, саліднага, пры пасадзе, не разведзенага.

Ён лічыў, што любіў Таню і хацеў ёй шчасця, а таму адразу ж сышоў з дарогі, каб не пашкодзіць. Ён не астаўся тады начаваць у Тані, хаця яна цалавала, нібы хацела нацалавацца на ўсё жыццё, а рукі не адпускалі яго... Ён ведаў, што гэта жаночыя сентыменты, і па-мужчынску цвёрда пераступіў цераз іх.

Неўзабаве пасля замужжа Таня звольнілася з інстытута, муж уладкаваў яе на работу недзе поруч з сабой. Потым жанчыны, якія заўсёды і ўсё ведаюць, насіліся з навіной — у Тані нарадзіўся сын. Тады ён пазваніў Тані, павіншаваў. Здзіўлена пачуў, што захвалявалася яна, потым крыху супакоілася, пакуль расказваў, як «выбіваў» дачцэ з зяцем кааператыўную кватэру. Яна ўмела слухаць яго расказы пра сямейныя клопаты. Пра сябе сказала нечакана стрымана — усё добра, збіраюцца пераязджаць на новую кватэру, удаўся абмен, і зусім нечакана і нясмела папрасіла, як малое, якому хочацца таго, што не дазволена:

— Я даўно не бачыла цябе. Цікава, які ты...

— Як і быў. На рабоце запарка, матаюся ў вёску...

Ён гатовы быў расказваць пра тое, што канчаткова вырашыў пытанне з мясцовым начальствам і бацькоўская хата застаецца яму на дачу, але яна нейкім чужым, незнаёмым яму голасам перапыніла:

— Здаецца, малы плача, прабач...

— Ну што ты, што ты! Няхай здаровы гадуецца! Шчасця табе...— заспяшаўся гаварыць ён.

І тады Таня не то ўсхліпнула, не то ўскрыкнула:

— Перастань! Якое шчасце?! Не будзе мне шчасця, як і табе! Ты ці дурны, ці... Ты!.. Ты!.. Ты гэтакі ж глухі, як і твая Мар'я! Ведаеш, хто ты? Ты!..— Яна ці то не знайшла слова, ці сумелася яго сказаць.— І не звані мне больш!

Ён не тое што пакрыўдзіўся, але і званіць болей не адважыўся. А разам з новай кватэрай памяняўся ў Тані і тэлефон.

Але сказанае ёю, выходзіць, запала ў душу. Цяпер ён паспрабаваў палічыць, колькі гадоў звязвала яго з Таняй. Аказалася, многа.

Прыйшла яна ў яго жыццё неяк сама сабой, някідкая з выгляду, звычайная, нават занадта засяроджаная, пакорлівая і шчырая. Тады ён яшчэ бунтаваў супраць сваёй

Мар'і Пятроўны, для якой пасля жаніцьбы розныя там сентыментальнасці адышлі ў нябыт. Праўда, слабасць пацалаваць мужа праяўлялася, калі ён прыносіў прэмію ці даставаў нешта дэфіцытнае. Тады ён яшчэ ўзнагароджваўся і тытулам «папачка». А таксама калі не трывалася болей і муж павінен быў выканаць свой мужчынскі шлюбны абавязак...

Пасля знаёмства з Таняй, на радасць Мар'і Пятроўне, ягоныя бунты спыніліся. Да Тані ён прыходзіў, калі пачынаў адчуваць спустошанасць, адзіноту, гэтакую, што здавалася, канец свету. Яна і сама быццам адчувала гэта, нібы незнарок аказвалася побач. І ціха, пакорліва адпускала да наступнага разу. Пры ёй ён гаварыў рознае глупства, як на нармальны розум: пра тое, які пераварот зробіць у інстытуце, якую адчайную тэму возьме для доктарскай... І яна верыла яму. Хаця на самай справе з'яўляліся новыя абставіны, для доктарскай выбіралася прахадная на ўсе сто пяцьдзесят працэнтаў тэма, а кіраўнічыя захады пацвярджалі думку акадэмічнага начальства, што ён свой, надзейны ў любых выпадках «кадр». Таму многія пытанні жыцця надзённага і хлеба чорнага, а таксама прысмакаў да яго вырашаліся проста і лёгка.

А з Таняй ён мог гаварыць і нават сам пачынаў верыць у свае словы...

Ён устаў, кінуў вокам на жонку, якая заварушылася, легла на бок на краі ложка, на якім яны амаль тры дзесяткі год праспалі, адвярнуўшыся адно ад аднаго, як дзве ўдзірванелыя мяжы абапал вялікага поля. Намацаў на падаконніку спартыўны касцюм, адзеўся, выйшаў вобмацкам у залу. Там было цямней, чым у спальні, і толькі за шклом бара бялеўся на палічках крышталь. Пастаяў, азірнуўся і не мог ніяк зразумець, што не дало яму сёння спаць.

Хацелася нешта зрабіць наперакор невядома каму. З гэтым адчуваннем дастаў з бара бутэльку каньяку, наліў у фужэр і піў на злосць усім сваім гастрытам, гіпертаніям і разумнай жончынай логіцы — хіба ж можна марна пераводзіць гэтакі дарагі напітак, які стаіць спецыяльна падрыхтаваны для патрэбных гасцей.

Потым сядзеў на канапе. Мулялася закурыць, але ведаў, што цыгарэт у хаце няма. І чым больш хмялеў, хацелася жывой душы, перакінуцца словам. Немагчымасць трываць больш адзіноту, якая даўно абкладвала яго, падняла сярод ночы.

Думаў пра Таню, якая гэтак востра і раптоўна ўспомнілася, нібы і заплакала тая жанчына за сцяной, і ён прачнуўся дзеля таго, каб толькі цяпер прызнацца самому сабе, што ведаў: непатрэбна было Тані тое шчасце, дзеля якога ён гэтак лёгка адрокся ад яе. А цяпер выветрылася з душы пакінутая ёю цеплыня, пяшчота і любоў, адзіная і апошняя ў гэтым жыцці. І смяротным халадком дабрала яго ў гэтак званай сямейнай і хатняй утульнасці адзінота і разуменне марнасці і дробязнасці свайго існавання на зямлі.

Ён устаў, выйшаў на калідор, прачыніў дзверы ў спальню: жонка спала роўна і глуха. Ён нават сумеўся — што скажа ёй, калі раптам прачнецца? Хутка і асцярожна зачыніў дзверы. Таніната тэлефона няма, і ёй цяпер не пазвоніш, каб і быў. Хіба Зуеву?

З Зуевым яны некалі жылі па суседству ў студэнцкім інтэрнаце. Зуеў тады ўжо скончыў аспірантуру, абараніў кандыдацкую, але не мог ніяк выбіцца на кватэру. У той час Зуеў уцякаў да яго ў пакойчык ад сваёй першай жонкі Ванды, рослай, раздабрэлай пасля таго, як нарадзіла дзіця. Яе дзяржаўны голас ведалі студэнты і аспіранты не толькі на трэцім, але і на другім і чацвёртым паверсе.

— Дзе гэты мой байструк ужо? Во сцягіч, увесь у бацьку! Толік!

Найбольш пацяшала Ванда інтэрнацкае жыхарства, калі сам Зуеў вяртаўся пазнавата з сяброўскай вячэры і, вядома ж, падчарнілены. Тады Ванда выдавала варыяцыі на вольныя тэмы! Пачыналіся яны традыцыйным уступам:

— Во, глядзіце, аб'явіўся ўжо, сука марцовая!

Затым пачыналіся самі «варыяцыі», якія студэнты цытавалі потым некалькі дзён, а Зуеў стараўся некалькі дзён нікому не трапляцца на вочы ў калідоры.

Вось з тым самым Зуевым, які знаходзіў схованку ў ягоным аспіранцкім пакоі, лёс звёў зноў ужо ў акадэмічным інстытуце. Прыйшоў туды Зуеў з пасады сакратара універсітэцкага парткома.

З выгляду Зуеў не перамяніўся: невысокага росту, тыя ж залысіны, круглы твар, востры носік, вочы хуткія, блакітныя, насмешлівыя. Але ўсё гэта цяпер асвятлялася святлом упэўненасці ў самім сабе, адчуваннем значнасці свае асобы, а за насмешлівасцю праглядвалася сіла, якую ён мае. Усё гэта Зуеў не выстаўляў напаказ, наадварот, нібыта хаваў, але ягоная маштабнасць выглядвала сама гэтак, што не заў-

важыць яе было нельга. І небяспечна, як потым ён даведаўся,— праціўніку Зуеў ніколі не даравяў. У Зуева цяпер была другая жонка. З Вандай ён развёўся. Але і Аксана Пятроўна, рослая, у целе жанчына нечым нагадвала Ванду, хаця на Зуева не крычала, а клікала паважна «Васілій» альбо і проста «мой Васечка», найчасцей гэтак — пры гасцях. Здавалася, ёй даводзіцца стрымліваць свой голас, каб выходзіла гэтае пранікліваe «Васечка». І тады ён заўважыў: у Зуева часам драпежна ўздрыгвалі ноздры востранькага носіка, як і ў той час, калі яго даводзіла Ванда...

Злыя языкі пагаворвалі, што сваёй службовай і навуковай кар'ерай Зуеў абавязаны Аксанінаму бацьку, чалавеку пры саліднай пасадзе..

Зуеў яго не толькі пазнаў, але амаль адразу і прызнаў, і аб'явіў сваім сябрам са студэнцкіх гадоў. Як ён потым зразумеў, гэта многае значыла ў яго лёсе.

Цяпер ён разумее, чаму гэта адбылося,— Зуеў быў адзінокі, і яму хацелася чалавека, пры якім бы можна было гаварыць пра ўсё без аглядкі, хоць крыху пабыць самім сабой. Зуеў часта запрашаў яго проста так, пасядзець вечарам, пагаварыць пра калег, пра жыццё, пра справы. І папіць пакрысе каньячку. Яго Зуеў не саромеўся, гаварыў, як трэба ісці па жыцці, глядзеў сваімі блакітнымі вачыма і быццам між іншым па-сяброўску прасіў «пагартаць» работу дыпломніцы. Іх ён выбіраў з ліку маладзенькіх і паkладзістых. Гэтага свайго «хобі» Зуеў таксама не ўтойваў ад яго. Раіў і яму не адмаўляцца, пакуль не састарэў. Далікатна, ненастырна. Гэтак жа непрыкметна стаў Зуеў і членкорам, і віцэ-прэзідэнтам. Але і на гэтых вяршынях Зуеў не забываўся пра «студэнцкага сябра», працягваў запрашаць і на каву, і на свежую рыбку.

Гэтая рыбка была аднойчы моцна збянтэжыла яго. Па дарозе на дачу ён заехаў на ўскраіне ў гастраном купіць кефір і батон. І сумеўся, вачам сваім не паверыў, калі ўбачыў Аксану Пятроўну, вясёлую і напамаджаную, побач з гэтакім жа, як і яна, рослым мужчынам, кудлатым, з грубаватым абветраным тварам, у карычневым паношаным, нібы запыленым касцюме і з гэтакім жа гальштукам. Ён прытрымліваў Аксану Пятроўну за локаць, быццам падпіхаў перад сабой. І глядзеў на яе прыжмуранымі ўпэўненымі вачыма. У другой руцэ ён трымаў цэлафанавы мяшок з цудоўнымі ляшчамі, якія часта бывалі ў Зуевых...

Відаць, у разгубленасці ён занадта ўтаропіўся на каларытную пару, і Аксана Пятроўна адчула ягоны позірк,

азірнулася, пачырванела ўся, нават дробненькімі маршчынкамі на шыі, і зялёныя блудлівыя агеньчыкі засвяціліся ў яе вачах. Яна падышла, павіталася, старалася, каб выйшла какетліва.

— Вы ж толькі майму дурню нічога не скажыце,— папрасіла і нявінна кранула за руку вышэй локця.

— Ну, што вы! Што вы! — ён спрабаваў па-свойску ўсміхнуцца.

Мужчына ўпэўнена чакаў Аксану Пятроўну. Яны выйшлі з гастранома. Ён адчыніў дзверцы старэнькага сіненькага «Максвіча», пасадзіў Аксану Пятроўну, сеў сам, і машына цяжка асела пад імі, як стары пралежаны матрац.

Праз некалькі дзён Зуеў запрасіў яго «выпіць кавы». Гэтага вечара Зуеў піў крыху больш, чым звычайна, гаварыў больш. На стале стаяла цудоўна прыгатаваная ў смятанным соусе рыба. Ён не браў яе і ўспомніў, што сам Зуеў і раней ніколі рыбы не еў.

— А дзе Аксана Пятроўна? — вырвалася пытанне.

Зуеў коратка і востра зірнуў на яго, быццам здагадаўся, чаму ён пытаецца пра жонку. Выпіў каньяку, доўга, уважліва паглядзеў у вочы.

— Ты што, і праўда нічога не знаеш? Падсцілка! У піянерлагеры яшчэ к хлопчыкам у палатку лазіла! І цяпер, усе гады! Ну, завяла б сабе палюбоўніка, ёсць жа прыгожыя мужчыны! Не, ёй трэба доўбалу найсці з якога-небудзь бурводканала! І рыбу яшчэ дадому насіць! Рыбачка! — Зуеў доўга і чорна вылаяўся. Ноздры яго трымцелі.— Пачакай, праз годзік-другі я выстаўлю цябе, калі ніхто падбіраць не захоча. Дам табе волю!

Ён зразумеў, што Зуеў люта адпомсціць Аксане, што яго бясконцыя сувязі з маладзенькімі жанчынамі гэта яшчэ не помста. Відаць, чакае, пакуль пойдзе на пенсію цесць.

Устаў, зноў наліў у фужэр, нібы хацеў выпаласкаць рот пасля нечага нясмачнага, вярнуўся да спальні. Падумаў пра тое, што і сам не ведае, ці любіць жонку. І яшчэ пра тое, што, можа, каб не ён, у яе быў бы мужчына, якога б яна любіла і чула б душой, як чула яго Таня. Зуеў разменяў усё ў сваім жыцці цынічна і свядома, ведаў, што і ў імя чаго робіць. А ён сам? Будзённа, прымітыўна, а таму яшчэ і больш цынічна — толькі з-за таго, каб смачна есці і спакойна спаць, каб лёгка жыць і слыць. І каб пристойна ўсё,

аўтарытэтна, каб на паперы нават прафесарскім званнем замацавана было.

Вярнуўся ў залу, тупаў па мяккім дыване, піў, усё больш і больш адчуваў, як ціснe з усіх бакоў, душыць яго адзінота. Яе ён адчуваў, як нешта фізічна адчувальнае, што не хоча выпускаць з глухіх абдымкаў і можа задушыць.

Прытуліўся лбом да халоднага аконнага шкла, за якім сцяной стаяў дождж. Раптам захацелася ўвайсці ў гэты дождж і знікнуць за ягонай сцяной, каб і следу не асталося. Выйшаў у прыхожую, вобмацкам адзеўся, адамкнуў усе замкі і з палёгкай ўздыхнуў, толькі калі паплыў уніз у ліфце.

З пад'езда не было куды ісці. Мокра горбіліся ў святле ад ліхтароў спіны легкавічкоў, барабаніў, цурчаў дождж, і не было нідзе, бадай, і на ўсім белым свеце ніводнай жывой душы. Узрадаваўся, калі рука абмацала ў кішэні шапатлівы звязачак ключоў, уцягнуў галаву ў каўнер, дабег да сваёй машыны, адамкнуў дзверцы, кінуўся на сядзенне, рады нечаканаму прытулку і таму, што схаваўся ад усіх. Пакруціў круглячок выключальніка. Слабым святлом высвецілася шкала прыёмніка, наплыла музыка, баламутная, эстрадная, але ціхая. Уставіў ключ у замок запальвання, павярнуў яго. Матор завёўся роўна і спакойна. Выйшаў, паставіў шчоткі, уключыў асвятленне і ціха крануўся з месца з палёгкай, быццам абмацаў нейкае выйсце. Насустрач у святле фар адкрылася чорная і бліскучая, як палітая свежай смалой, прорва і рушыла насупроць. Гэтая сустрэчная чарната ўцягвала ў сябе, нібы бясконцы тунель. Чарната сустракала і абдымала, чарната заставалася ззаду. І плёскат, і шоргат бляшаным холадам запаўнялі слых. Вочы выхоплівалі з цемры нечакана яркія плямы прыдарожных знакаў, цёмныя абрысы дамоў і хат, якія таксама аставаліся ззаду. І ніводнай жывой душы не мільгнула ні збоч, ні наперадзе, ніводнай постаці не абазначылася на ягоным шляху.

Разам з гукамі ў машыну прарываліся пахі, заглушаныя, размытыя дажджом. Ён пазнаваў пах травы, недалёкай вады, хваёвы пах прамоклага бору. Але пахі нічога не абуджалі ў душы, яна быццам таксама ператварылася ў бляшаную. Адзін пах устурбаваў яго — пах жыта, якое пачынае красаваць. І тады на імгненне адступіла чарната, стала сонечна і светла ў вачах. Ён угледзеў поле, запалавелае ўжо, з рамонкамі абапал палявой дарогі і сіняй, нібыта прывялай ад спякоты, але на самай справе халаднавата-пяшчотнай валошкі. Цёплы, як мука з-пад жорнавых камянёў, сагрэў ногі дарожны пыл. Недзе блізка, ён адчуваў

яе, была і маці. Але ўгледзець яе не мог, толькі адчуваў, што яна побач, блізка-блізка.

Ён толькі лёгенька ўздрыгнуў, калі заўважыў, што машына пайшла на абочыну, выраўняў яе. Жытнёвы водар знік, зноў холадам ашынула чарната, і толькі ад ветру праз шчылінку ў апушчаным шкле здалося: па шчацэ пяшчотна пагладзілі халаднаватыя валошкавыя пялёсткі. І зноў насустрач чорна і нізка паплыў тунель.

Часу ён не адчуваў, не думаў, куды едзе. Толькі калі патухла святло фар, якія высвецілі глухі здзічэлы куст руж з першымі адзінокімі, набраклымі чырванню кветкамі, адчуў, што здзервянеў увесь. Заглушыў матор, і зноў запанавала чарната і цішыня.

Вылез з машыны, вобмацкам зайшоў на двор, у шчыліне на вугле ўзяў ключ, адамкнуў дзверы. Пустая хата сустрэла вільготным халадком. Вобмацкам паставіў на газавую пліту чайнік з вадой, скамячыў і кінуў у яго галінку мяты, увайшоў у хату, апусціўся на табурэтку, якая стаяла ў кутку ля печкі, выцягнуў ногі.

Скрозь прыплюшчаныя павекі глядзеў на зеленаваты агеньчык і не адчуваў ні стомленасці, ні палёгкі. Сядзеў, пакуль не закіпела вада, устаў, наліў кіпню ў кубак, узяў з цвічка ручнік, захутаў ім кубак, ізноў вярнуўся на табурэтку, утуліўся плячыма ў кут.

За акном цякла і не магла выцечы дажджом глухая цішыня і чарната. Пачаў пакрысе адхлёбваць мятны чай і не адчуваў яго смаку і цеплыні, якая павінна ўліцца ў цела.

...Дзяўчынка з ружовым банцікам, вялікім і пышным, як кветка півоні, якія цвілі некалі ў гародчыку, ехала ў кароценькай сукеначцы на веласіпедзе насустрач яму. Кволенькія, тонкія ножкі круцілі педалі. І не верылася, што дзяўчынка можа ўтрымаць веласіпед. Ён спалохаўся, што яна ўпадзе, кінуўся насустрач. Яе вочы, сінія і чыстыя, свяціліся яму. Яна спынілася, паклала на зямлю цяжкі і нязграбны веласіпед, пабегла насустрач, уткнулася тварам у далоні. І ён адчуў яе пяшчотную цеплыню, якая дайшла аж да самага сэрца...

Прахапіўся ад забыцця. Вада разлілася на рукі.

Шумела дажджом ноч. Здалося, што хата разам з ім паплыла ў цемру па хвалях дажджу. Адчувалася, як пагойдваецца яна і закалыхвае. І ўсё, што было з ім, усе, каго ведаў, увесь шумны і стракаты, вясёлы і высокі свет, у якім ён жыў, закарагодзіў вакол яго, закружыўся, як асветлены агнямі цыркавы купал. Ён пазнаваў усіх, і нават тых, хто

не любіў яго. І ім ён усміхаўся шчодра і весела, поўны жыцця і ўпэўненасці, бо далечыня наперадзе пачынала святлецца. Потым святло пачало атухаць, усё менш і менш сустракалася знаёмых...

...А потым ён доўга ішоў лесам. Адзін. І ўзрадаваўся, што глухая і зарослая лесавая дарога скончылася, адкрыўся прагал. Выйшаў на яго, прысеў на камень пры клёне, паставіў побач стрэльбу, якая змучыла да болю за доўгую дарогу плячо. Сядзеў з заплюшчанымі вачыма зняможаны. Потым пачаў прыглядацца і пазнаваць здзічэлыя за многа гадоў кусты бэзу, суседні разбіты маланкай клён. А наводдаль зарослы маладым бярэзнічкам гурбанок. І здагадаўся — сядзіць на былым сваім котлішчы, пад клёнам, які памятае яго яшчэ маленькага. Гурбанок бітай цэглы і камення, які задзірванеў і парос бярэзнікам,— вось і ўсё, што асталося ад бабулі, ад маці, ад бацькі, ад сястры! Ад яго дому. І адчуў, як роўны, упэўнены холад стрэльбы ласкава пагладзіў яму руку. Ён паволі нахіліў стрэльбу да сябе, пакуль у вочы не зірнулі дзве бяздонныя чорныя адтуліны і не пацягнулі ў сябе, як у чорны калодзеж. Рука папаўзла ўніз, да маўклівых падатлівых і ласкавых пад пальцамі куркоў. Ён з палёгкай падаўся насустрач, уткнуў жорсткую сталь пад грудзі, туды, дзе цёпла і роўна ўздрыгвала насустрач гэтай чарнаце сэрца. З палёгкай успеў пачуць глухі гром, які падкінуў яго высока-высока, аж пад самы рознакаляровы, расквечаны, як луг дзяцінства, купал...

Ён дзіка глядзеў у акно, па якім цёк усё той жа глухі дажджавы пошум. Цемра адышла, шэрань запаўняла хату. Раптоўна яна ўспыхнула сінім лютым святлом і раскалолася кароткім блізкім громам, ад якога, здалося, аж прысела хата, на руінах якой ён толькі што пасядзеў.

Ён ачнуўся канчаткова, з горла хрыпла прарваўся доўгі і ціхі стогн, як ад глыбокага і пакутнага болю, а на вачах нагарнуліся дзве слязы, цяжкія, як шраціны. Ён пачуў, што не адважылася сказаць Таня,— самагубца. І зразумеў, што плакала тады яна не толькі па сабе, але і па ім.

З горыччу яшчэ падумаў, што ў яго ніколі не было зброі. І пра тое, што пасля гэтай дажджлівай ночы са світальнай навальніцай устане сонечная раніца з высокім сінім небам над зямлёй. Пакуль што ён не здагадваўся: для ўсіх — толькі не для яго самога пасля ўсяго, што ён пра сябе цяпер ведаў. І яму не хацелася, каб узыходзіла сонца.

# *Эцюды вяртання*

## *«Сонца за хмаркамі ўранні...»*

Дробаў абапёрся рукамі на падаконнік і прытуліўся лбом да шыбіны.

Вечарэла. Густа барвавела неба на захадзе, за акном, у вершалінах клёнаў, мучыўся вецер, несупынна раўлі побач у аэрапорце самалёты, бясконца і адчайна кружылася долу мёртвае лісце. Дробаў па звычцы не зважаў на самалётны роў, але затое, калі ён на некалькі хвілін сціхаў, выразна чуў, як густа і лёгенька цокаюць па асфальтавых сцяжынках скверыка сухія пакручаныя лісцікі,— і гэты цокат зліваўся ў лёгенькі пошум, здавалася, ішоў буйны, ласкавы вясновы дождж, і з бляшанага даху бясконца цурчэла вада. І гучала працяжная мелодыя скрыпкі. Іграў сусед, які жыў паверхам вышэй, скрыпач з аркестра опернага тэатра, стары, маленькі і сухенькі дзядок. Ліда чамусьці не магла трываць скрыпку, і стары быццам нейкім чуццём чуў, калі яна вярталася з работы, і пераставаў іграць.

І яму неўспадзеўкі ўспомнілася невялічкая рачулка між пароспага густымі кустамі алешніку, лёгенькі прывідны туман, нізкі чырвоны месяц, свежая вільготнасць травы і ціхенькі плюскат кропель з альховага лісця ў рэчку — надвячоркам прайшоў па-летняму цёплы і спакойны дождж-шапатун.

Ліда сядзіць на камені, які чуць бялееццa над травою. У блакітнай мужчынскай кашулі, у адпрасаваных штанінах, з рассыпанымі на плячах густымі валасамі яна падобна не то на русалку, не то на Алёнушку. І глядзіць яна некуды на захад, дзе яшчэ тлеецца рэдзенькім блакітам вузенькая палоска неба.

Потым яна ціхенька запявае пра сонца, што схавалася ўранні за хмаркі, пра параненае сэрца, і ў песні такі шчымлівы боль, такая дабрата шчырай і чыстай душы.

Дробаў сядзіць побач на траве, прыхіліўся галавою да яе каленяў і абхапіў рукамі яе халаднаватыя ногі вышэй туфелек. Яму ніколі так не падабалася гэтая песня і, здавалася, ніколі не было так добра.

Потым яны ішлі вузенькаю, нібы канава, вулачкаю, зацененай кашлатымі клёнамі. Ліда паказвала яму сваю хату і хлеў, дзе яна спіць на сене, а потым павяла ў канец

вуліцы на схаваную ў бэзавых кустах лавачку. І калі ён жартам спытаў, ад каго яна хаваецца, яна ўсё гэтак жа сарамліва паглядваючы з-пад валасоў, што ападалі на твар збоку, сказала:

— Ай, дураны! Кожны вечар праходу не дае.

Дробаў слухаў, і яму было смешна і шкада гэтага шафёра, што кожны вечар наведваецца да яе і ад якога яна ўцякае.

І сапраўды пасля прагулу па вёсцы машына і спынілася ля яе хаты.

Але што Дробаву было да гэтае машыны, да шафёра!

А потым яны ішлі ўзмежкамі, агародамі, каб незаўважна падысці да хаты. Быў чысты белы месяц, халаднаваты, самотна-пакамечаны бульбоўнік, арэшнікавы ўзлесак, золкая, да сівізны буйная раса...

Гэта былі першыя дні, калі пачыналася іхняе з Лідай шчасце, і ён гаварыў ёй пра гэта, і яна верыла яму, глядзела ў вочы шчыра і аддана...

— Ужэ зноў да акна прыліп, Кулібін няшчасны!

Дробаў не пачуў, калі ўвайшла ў хату жонка, азірнуўся: яна стаяла ў дзвярах у балонневай прамоклай куртцы; з вялікай поўнай торбай з прадуктамі, і таму адно плячо было апушчана.

— Ліда, помніш той вечар на беразе рэчкі? Як мы з табой пазнаёміліся?

Яна здзіўлена і насцярожана паглядзела на яго — ці не насміхаецца. І не разабралася.

— Во пакараў бог! Нічога я не помню! — Ліда амаль крыкнула. І ў голасе была не толькі злосць, але і пагарда, яна ўспыхнула ў вачах, і Дробаў улавіў гэтае імгненнае свячэнне.— Я пасля работы як лошадзь яму яду валаку, а ён выдурняецца. У людзей мужчыны як мужчыны... Пайшоў бы хоць малую з садзіка забраў. І гэты ўсё ката за хвост цягае,— Ліда ўскінула галаў угору, паказала на суседа зверху.

— Забяру,— паспешна згадзіўся Дробаў.

Але галоўнае было, што толькі сёння ён нутром адчуў, што не памятае Ліда нічога таго і памятаць не хоча. І ўжо неяк па-іншаму паўсталі перад ім яе штодзённыя, пастаянныя папрокі за тое, што не хапае грошай, што не выберуцца са старое маленькае «хрушчоўкі», што ў «другіх мужчыны як мужчыны», бо ўмеюць зарабляць грошы...

І самому сабе Дробаў раптам здаўся малюсенькім, нікчэмным, як жабрак з меткаю ІТР, не інжынер, а гэты «ітээр», зняважлівей за якое і быць не можа звання... Але не гэтае галоўнае, а тое, што ўбачыў у Лідзіных вачах.

Дробаў прачыніў акно — голас скрыпкі, пранiклівы і шчымлівы, быццам дакрануўся да душы, на нейкі час перамог усе гукі навокал, усе адчуванні. Адзін толькі ён жаліўся, прасіў, вымольваў нечага, спадзяваўся і потым адчайна, наўзрыд усхліпваў...

Прывычны рык самалёта на ўзлёце заглушыў усе гукі, і Дробаў сцепануў плячыма, зачыніў акно, апрануўся, выйшаў на двор і пайшоў па шапаткім лісці ў глыб скверыка, бяздумна, як адзінокі падарожны ў восеньскім тумане.

*Сон*

Ён мякка і бясконца падаў некуды ўніз, наўскасяк, ад гэтага падзення, здаецца, раствараўся, знікаў. Потым пачынаў выплываць аднекуль знізу, з бясконцай чорнай глыбіні, і яна, як вада, адчувальная, шчыльная, расступалася і выпускала яго наверх. І тады ён бачыў ноч у пакоі, падсветленую вулічнымі ліхтарамі, чуў глухі шум дажджу. Дажджом пахла і ў пакоі — фортачка была прачынена. І ён удыхаў гэты пах, як чалавек, які вынырнуў з-пад вады і ўдыхае паветра. Адчуваў, які ўвесь мокры і саслаблы ў вільготных ад поту прасцінах. Яго ўжо не калаціла, і дзве коўдры і асенняе паліто, ускінутае наверх, цяпер былі непатрэбныя, ціснулі. Але ў яго не ставала ні сілы, ні жадання нават паварухнуць рукой. Ён прыслухоўваўся да болю, які неадступна, няўмольна выціскаў з сэрца жыццё. Не засталося сілы ўстаць з ложка па лякарства, нават узяць з падлогі шклянку з вадою. Тлелася млявае спадзяванне, што вось гэтак усё і скончыцца, і хацелася, каб скончылася. Яшчэ магла з суседняга пакоя зайсці жанчына, падаць яму ваду, лякарства. Але ён ведаў, што жанчына спіць, і яна ніколі не прачнецца ні ад прадчування бяды з ім, ні ад таго, што яго няма побач. Ён гэта ведаў. Але чаму ўсё ж сэрца не магло зміырыцца з гэтым веданнем і адгукалася болем? І ён зноў правальваўся, нібы паміраў, і потым зноў вяртаўся назад. І ноч цягнулася бясконца. І яму здалося, што калі раніцай яна зазірне да яго і са святой шчырасцю запытаецца пра здароўе, ён скажа, што ведае ўсё, што больш прытварацца не трэба... І непрыкметна сасніў раніцу, чуў, як яна бегала ў прыхожай, нават нешта

наспеўвала, а потым, апранутая, радасная зазірнула і спыталася толькі дзеля таго каб спытацца: «Ты жывы хоць?» Ён ірвануўся, выкрыкнуў: «Перастань прытварацца!» Але голас прагучаў бездапаможна, жаласліва, як просьба міласціны. І яна не пачула яго, пстрыкнула выключальнікам, стала цёмна ў прыхожай, весела грукнулі зачыненыя кватэрныя дзверы. Яго проста не існавала на гэтым свеце!..

Уражаны адкрыццём, ён не выплыў з забыцця, а прахапіўся са сну: у прыхожай і сапраўды гарэла святло, весела тупала жанчына, было чуваць, як яна апранаецца, як пайшла да дзвярэй, як яны грукнулі, зачыніліся. І ў прыхожай, і ў ягоным пакоі запанавала прыцемень. Цяпер ў яго было не толькі разуменне, але і адчуванне кожнаю сваёй знясіленай клетачкай, што ён чужы, і што яна пайшла. З палёгкаю падумаў: добра, што загаварыў да яе ў сне, а не сапраўды...

І заснуў спакойны здаровым сном. Прачнуўся ўдзень у халаднаватым і выветраным пакоі. Цела, цяжкае, змучанае, было надзіва лёгкае, ясная, чыстая галава. Увесь ён здаваўся самому сабе чыстым, маладым і здаровым. Ён памыўся пад душам, потым піў чай, і здавалася, што пахмуры дзень за акном святлейшы за ўчарашні.

Пасля тае ночы прайшло шмат гадоў, цэлае жыццё. І калі ён успамінае пеўражытае і тую першую жанчыну, якую ён любіў і якая пайшла ад яго, найперш успамінае сон і свой жабрачы непачуты голас. Цяпер ён ведае, што, калі жанчына пакідае, яна не азіраецца. І з гадамі яму пачынае здавацца, што і тая пакутная ноч, і ўсё, што адбылося з ім тады,— гэта і не сапраўды было, а саснілася, і гэты адзіны сон толькі і запомніўся яму з усіх сноў у доўгім чалавечым жыцці, і гэты сон і ёсць ягонае жыццё, а ўсё астатняе — няпраўда.

## *«Еду я і плачу...»*

**Ад хмар, якія густа захінулі неба, за нейкі дзень усё навокал зашарэла і засумавала, дыхнула восенню, яе пустэчаю і адзінотаю, яе вільготным халадком. А пад вечар густа запытляваўся дожджык. Аўтобусы і легкавічкі з жоўтым святлом у салонах, якія праляталі па шашы,**

весела заблішчалі, здаваліся святочнымі, цёплымі і ўтульнымі. Пад дожджык па-восеньску хутка і звечарэла. Акуліч, які ўжо некалькі гадзін «галасаваў» спадарожным машынам, затурбаваўся, што можа і заначаваць на восеньскай дарозе. А язды дадому было ўсяго дзве гадзіны.

Ён ужо шкадаваў, што адмовіўся ад машыны, якую яму прапаноўвалі. Акуліч нарадзіўся у гэтай мясцовасці, у свой час — са студэнцкіх гадоў — папаездзіў па гэтай дарозе на спадарожных, а таму дарога ўяўлялася яму лёгкаю і простаю. Ды і адчуваць ён мог сябе незалежна: Акуліч прыязджаў з праверкаю, а не ў госці...

Грузавік заміргаў падфарнікам, з'ехаў на абочыну і спыніўся ля самага Акуліча, быццам прыехаў спецыяльна па яго. Адчыніліся дзверцы, і з кабінкі нязграбна вылезла жанчына ў тоўстай кофце, выцягнула ўслед за сабою пакаўную сумку, на якой паверх замка між ручак ляжаў вялікі букет астраў.

— Дзякуй, Пятрок, дзякуй! — падзякавала жанчына шафёру, і калі машына ад'ехала, пераключылася на Акуліча.— Як вы, дзядзька, даўно ўжэ стаіце?

— Даўнавата.

— Вой, і ніхто не бярэ? Каб хто падумаў, што гэтак на дождж перакруціцца. Мой жа мяне і так ледзьве выпусціў. Заўтра і дадому вярнуцца трэба. Гэта ж у мяне ўнучак нарадзіўся, а тут, за работаю, каб яна спрахла, і вырвацца няма калі, каб адведаць.

Цётка гаварыла і па-піянерску бадзёра выстаўляла руку кожнай машыне, аж памахвала ёю. Дождж пагусцеў, асядаў на твар тоненькаю мокраю плеўкаю.

— Давядзецца, цётка, браць мяне на начлег,— пажартаваў Акуліч.

— Можа, даедзем як... Некалі і машын гэтулькі не было, а на дарогу выйдзеш і даедзеш. Усе бралі, абы месца было, а цяпер не...

Акуліч сутуліўся, павёў плячыма. У паношаным касцюме, са старым «дыпламацікам», на абочыне дарогі ён нічога агульнага не меў ужо з тым адказным міністэрскім работнікам, які яшчэ некалькі гадзін таму назад правяраў работу меліяратараў, якога вазілі на машыне і паслужліва прапаноўвалі яе да самае сталіцы. Цяпер на дарозе стаяў звычайны спадарожны, якому толькі і спадзявацца было на літасць якога-небудзь шафёра. Акуліч ужо і рукі не паднімаў: цётка галасавала ўсім падрад, міжгароднім аўтобусам таксама, пакуль адзін з легкавічкоў не спыніўся. Цётка

як падмеценая падхапіла сумку і пабегла да яго, паспрабавала адчыніць дзверцы, але не змагла, азірнулася на Акуліча. Ён адчыніў дзверцы, папытаўся:

— Падвезяце?

— Да Мінска? Садзецеся.

Мужчына за рулём коратка азірнуўся на Акуліча. Цётка адразу ж папхала перад сабою сумку, потым улезла сама.

— Вот дзякуй вам, а то хоць што хочаш рабі! — варушылася яна, умошчвалася на сядзенні.

Мужчына за рулём не абазваўся, засяроджана выехаў на асфальт, і цётка заціхла.

У машыне было цёпла, зеленавата свяціўся прыборны шчыток, асветлены фарамі асфальт, здавалася, сам плыў пад машыну, якую, нібы на хвалях, злёгку пагойдвала.

Акуліч прыплюшчыў вочы: гэтая ўтульнасць была ўзнагародаю за доўгае чаканне.

Мужчына на пярэднім сядзенні побач з шафёрам маўчаў, пакуль ішла пасадка. Здавалася, што ён думаў. Але як толькі машына набрала хуткасць, ён заварушыўся і працягваў перапыненую гаворку:

— Памаеш, еду я і плачу... Успамінаю бацьку і плачу...

Голас расказчыка п'янавата асекся. Акулічу было відаць, як у мужчыны за рулём насмешліва таргануліся губы.

— За рулём пад мухай доўга не наездзіш,— нібы так сабе, без намёку, сказаў ён. Яго субяседнік, як нічога і не было, вёў сваю лінію.

— Памаш, Віця, успомню бацю і плачу. Помніш, як мы з табою разам з ім рыбу лавілі?

— Помню.

Той, каго мужчына назваў Віцем, зноў усміхнуўся аднымі губамі. У зеленаватым святле ад прыборнага шчытка твар яго здаваўся нейкім гіпсавым. Сур'ёзна-насмешлівая інтанацыя здалася Акулічу знаёмаю. Ды і ў субяседніку Віктара было нешта даўняе і знаёмае.

— А помніш Аньку, якая прыязджала са Слуцка?

Мужчына забыўся пра жаль да бацькі, пра бацькаву машыну, якую маці прадала за бясцэнак.

Віктар нічога не адказаў яму, усё гэтак жа сур'ёзным і насмешлівым голасам паўтарыў сваё:

— Каб на машыне ездзіць, Коля, і не толькі на машыне, чарнільца па баку трэба!..

Коля не заўважыў яго інтанацыі. Не заўважыў, што Віцька не хоча ўспаміну і пра тую Аньку, якая некалі прыязджала са Слуцка. Коля быў шчаслівы, што сустрэўся

з Віцем. Ён быў пад чаркаю, яму здавалася, што яны ўсё тыя ж — маладыя, вясёлыя, шчырыя.

Машына прыбавіла хуткасці і пайшла на абгон. Пранеслася збоч высокае святло аўтобусных вокнаў...

Акуліч ярка ўспомніў тую дзяўчыну, пра якую загаварыў мужчына.

...Ноч была не чорная, а прасветленая тугою і халоднаю веснавою сінечаю. Блізка і буйна глядзелі зоркі. Падталы за дзень сакавіцкі снег шурпата працяла на ноч марозам, і пры месячным святле здавалася, што ён набрыняў сінечаю начнога неба. Пад нагамі востра пахрумствала, як можа пахрумстваць толькі вясною. Жаўтлява свяціліся вокны хат. І зусім блізка Акуліч бачыў бледны твар з глыбокімі, усё роўна як шчаслівa здзіўленымі вачыма, пасмачку валасоў, усмешлівыя вусны, белую аблямовачку капюшона... Усё гэта было незвычайнае, загадкавае, трывожлівае адчуванне нейкага недасяжнага, пакуль што незразумелага шчасця!..

Потым ён бачыў, як рука яе сама брала пад руку Віцю, ён чуў, як ціхенька і шчасліва смяецца дзяўчына. Потым ён бачыў, як яны цалаваліся, як яна пакорліва адкідала галаў, уся прытулялася да яго...

Акулічу тады здавалася, што ў яго ад болю, трывогі і незразумела якога гора разарвецца сэрца, што не зможа ён болей жыць са сваім балючым сэрцам!

Акуліч быў яшчэ хлапчук, і яна, вядома, не зважала на яго. Ён быў яшчэ не кавалер, ён нават чырванеў, калі яго так называлі. Яны ж — старэйшыя за яго і не саромеліся ўжо танцаваць, праводзіцца і нават цалавацца. Яна была незвычайная таму, што гарадская і не падобная на вясковых дзяўчатак. Віця таксама стаў ужо гарадскім, прыязджаў у кароценькім паліто, у вузенькіх штанах і ў вастраносых чаравіках, нават у мароз хадзіў без шапкі. Разам з ім прыязджаў Коля. Яны разам паступілі ў вучылішча, як браты жылі то ў Віцевае маці, старое настаўніцы, то ў Колевых бацькоў. З Колевым бацькам яны хадзілі на паляванне, прыносілі ў вёску рыжых, з блакітнымі падпалінамі арэхавокіх забітых русакоў... І само гэта — стрэльбы, паляванне было вялікаю зайздрасцю ім, хлапчукам. Без Віці і Колі, здаецца, не абыходзілася ў вёсцы ніводная вечарынка ні зімою, ні летам.

Ад усяго таго ў Акуліча засталася толькі памяць. Памяць пра першую закаханасць, бо падыходзіла пара, што

трэба было здзівіцца жаночай прыгажосці, трэба было, каб ад яе здрыганулася сэрца, каб засталося ў ім да самае смерці абяцанне і спадзяванне на нейкае незямное, несусветнае шчасце, на якое пашанцуе не кожнаму чалавеку...

Вобраз гэты, як і тая акварэль вясновае ночы ў памяці, астаўся сам сабою, асобна ад тае дзяўчыны, якая прыязджала гасціць у вёску. Ён потым сустракаў раздабрэлую, спакойную жанчыну, дамавітую маму. Нічога не абяцалі тыя вочы, не было асаблівае прывабнасці ў стомленым і залішне круглаватым твары. Ды і сам Акуліч стаў даўно не тым. У яго ўжо не было бацькоў, зарасла для яго назаўсёды дарога ў тую вёску, адкуль усё пачыналася, і той пачатак нават часам здаваўся таксама ўспамінам пра тое, чаго і не было ў ягоным даўно гарадскім жыцці...

Цётка прыгрэлася і добрасумленна клявала носам, час ад часу спалохана прахоплівалася, глядзела спрасонку няўцямнымі вачыма і зноў драмала.

На нейкі час задрамаў і Коля на пярэднім сядзенні, звесіўшы на грудзі галаў. Віця пазіраў на яго і цяпер ужо не хаваўся: глядзеў звысока, як багаты сваяк на беднага.

Гэтае адчуванне годнасці і ўпэўненасці нават было ў тым, як ён кіраваў машынаю — у нейкай паказной нетаропкасці ў кожным руху, нібы запрашаў палюбавацца сабою.

Акуліч злавіў сябе на наіўным дзіцячым жаданні назвацца, напомніць і гаспадару машыны, і яго быламу сябру пра сябе, сказаць, што яны сабраліся вось усе аднавяскоўцы. Цяпер тыя чатыры ці пяць гадоў розніцы ва ўзросце не мелі ніякага значэння. Але гэтая думка здалася крамольнаю тут, у машыне. Гэта было б усё роўна як зрабіць нешта непрыстойнае. Акуліч адчуваў гэта і толькі праз прыплюшчаныя павекі разглядаў Віктара.

Цяпер ужо ад Колі добра было чутно вінным перагарам. Віктар прыадчыніў ветравічок. У машыну ўварваўся востры свежы ветрык і шум колаў.

Нечакана Віктар коратка націснуў на тормаз. Колю кінула ўперад, на папругу, ён замармытаў і закруціў галавою. Віктар сядзеў за рулём, як нічога не было.

Цётка таксама прахапілася, лыпала адным вокам — другое скарэлася і не расплюшчвалася.

— Ну, а грошы за машыну маці табе аддала ці сабе забрала? — Віктар працягваў распытваць, але пытаўся ён так, нібы загадзя ведаў адказ.

— Мамаша на кніжку паклала. Пасля мяне, кажа, як пахаваеш, табе ўсе цэлыя будуць...

Віктар з разуменнем паківаў галавою.

— Памаш, гэта і правільна. Яна ўсё палічыла, і каб на памятнік пасля асталося,— Коля гаварыў сур'ёзна, нібы сам пераконваў сябе ў тым, што гаворыць.

Акуліч падумаў, што маці Колева, мабыць, ужо зусім старэнькая — яна старэйшая была за ягоных бацькоў. Уявіў яе адну, якая і сыну не давярае грошай на тое, каб пахавалі яе.

Віктар не мог не ведаць гэтага. Але ён пытаўся далей:

— А робіш цяпер дзе?

— Там жа, на аўта... Слясару. А ты? Чуў, за граніцу ездзіў. Адтуль прывёз? — Коля паляпаў рукою па панелі машыны.

— Адтуль, адтуль...

— На старой рабоце? — дабіваўся свайго Коля з п'янаю шчыраю добразычлівасцю.

— Не, я цяпер у снабе.

— Во! Там лахва! Што каму раскідаеш. Цяпер гэта во работка!

— А ты адкуль знаеш? — Віктар дабрадушна засмяяўся, але сказанае спадабалася яму.

— Канешне! Гэта не ў нас. Укалвай цэлы дзень, и расцэнкі пазрэзвалі. Мне за месяц гразнымі тры кускі набягала... А цяпер дзвесце з хвосцікам... Гразнымі! Парадак, парадак! Прыйшоў-пайшоў мінута ў мінуту. А там стой паўдня! Парадак! Парадак папарадку наводзіць трэба! Прыйшоў я на работу — давай яе мне! А то парадак, за плотам угледзяць і пайшлі пісаць!..

Коля ўжо сварыўся са сваім начальствам на поўным сур'ёзе.

— Што, прышчамілі хвост чарнільшчыкам? Так яно даўно трэба было, гегемон! — упэўнена перабіў яго Віктар.

Але Коля неяк абмяк, глядзеў на дарогу, быццам нешта не мог успомніць.

Акуліч заўважыў, што ён п'янее ў машыне, яго разбірае ад цяпла і сядзець яму цяжка.

— Слухай, а праўда, што маці твая памерла? Мне мамаша гаварыла, што чакала цябе, чакала... Сабралася і пайшла на аўтобус. Мароз, мяцеліца была... Помніш, як мы ў вас начавалі? Яна нас кажухом ночы накрывала, каб не змерзлі. Помніш? — Коля ўжо заплакаў п'янымі слязьмі, яны не давалі яму гаварыць.— Памаеш, прыеду, схаджу на мо-

гілкі... Яна мне як другая маці была, Віця... Памаеш?..

— Памаю! — коратка абарваў яго Віктар. На твары ў яго нішто не здрыганулася. Ён нахіліўся, уключыў прыёмнік. Цішыню пракалола вострая мелодыя пазыўных «Маяка». Потым дыктар чытаў паведамленні, а пасля спявалі модныя песні.

Коля спрабаваў яшчэ нешта гаварыць, але за музыкаю яго дрэнна было чуваць. Віктар ківаў яму галавою, глядзеў на дарогу, і твар яго быў халодны. Пакрысе Коля звяў, галава павісла на грудзі, і толькі тады Віктар паменшыў гук прыёмніка.

Акуліч заплюшчыў вочы. Яму падумалася, што невядома калі ён яшчэ пападзе ў сваю старану, што ён бы і не паехаў сюды, каб не камандзіроўка. Магілы ягоных бацькоў у горадзе, дзе яны дажывалі век у яго на кватэры, а іхняя хата, ашаляваная сіняю вагонкаю, дача на яго садовым участку за горадам, куды ўсяго дваццаць хвілін язды на электрычцы... Потым яму мроілася нейкая старая ў пустой і выстуджанай хаце, а потым і незнаёмы дзядок на завейнай дарозе, які ніяк не можа дайсці да аўтобуснага прыпынку, баіцца, што аўтобус пройдзе. Дзядок гэты — быў ён сам, Акуліч... Скрозь сон ён разумеў, што вярзецца спрасонку недарэчнасць, урэшце ачнуўся і ўсю астатнюю дарогу глядзеў у цемру за аконнае шкло, дзе нябачна праляталі аголеныя ўжо ветрам прысады...

Цётка раскатурхалася, папраўіла хустку ля самага горада, нават зазірнула ў люстэрка, якое дастала з сумкі. Коля прачнуўся ў самім горадзе, пасля таго як машына пачала спыняцца перад светафорамі на перакрыжаваннях.

— А ты кудэ паедзеш? — папытаўся ён у Віктара.

— Куды табе трэба? Цераз вакзал. Хочаш, каб к жонцы на цёплыя ногі завёз? — пажартаваў Віктар.

— На... яна мне нужна! Я рашыў — падам заяву, і няхай коціць.— Коля рашуча і п'яна махнуў рукою.

— А можа, ты ёй не патрэбны, гегемон? Піць менш табе трэба.

Коля злосна сцепануў плячыма. Горад ляжаў пустынны, халодны ад скразнякоў, якія гулялі па тратуарах, закручвалі лісцем і пылам. Віктар заехаў на прывакзальную плошчу і спыніўся.

Цётка, рассыпаючы як гарох сваё «дзякуй», сунула грошы і выпхалася з машыны, ледзь не подбегам пашыбавала да прыпынку таксі.

Акуліч глядзеў, як Коля выцягнуў з-пад пярэдняга ся-

дзення сваю абшарпаную, амаль парожнюю сумку, пашукаў у кішэні і падаў Віктару рубель.

— Ты што?

— Як што? На бензін... Што, я не панімаю?

— Перастань!

— Ну а як жа! Бяры.

Віктар узяў грошы, асцярожна, двумя пальцамі, нібы паперка была мокрая, і сунуў у кішэню скуранное куртачкі. Куртка прыгожа сядзела на ім.

— А ты на старой кватэры? — усё не мог развітацца з ім Коля. Віктар зачыніў сам за ім дзверы.

— На старой, на старой...

Акуліч здагадаўся, што ён абманвае.

— Перадай прывет Таісе.

— Перадам, гегемон.

Віктар сеў у машыну, і яна адразу скранулася з месца. Коля падняў з асфальту сумку. На ім была гэтакая ж абшарпаная і расшпіленая балонневая куртка, пакамечаныя і выцягнутыя на каленях штаны, чаравікі з наўскос збітымі абцасамі. Цераз плошчу ён пакіраваў да аўтобуснага прыпынку.

Акуліч усё стаяў. Да яго толькі цяпер дайшло, што яны так і не загаварылі адно да аднаго — усе ўтрох, і не загавораць ужо. Успомнілася ўся дарога ў цёплай машыннай утульнасці і два пальцы, якія апускалі грошы ў кішэню. У Акуліча ўзнікла адчуванне, што перад ім і з ім адбылося нешта такое, чаго не магло быць у жыцці, і, мабыць, ад гэтага яму стала холадна ў плечы між лапатак...

Холад гэты не прайшоў і ў цёплым аўтобусе, у які ўскочыў Акуліч. Усё роўна як на нешта спадзеючыся, ён яшчэ азірнуўся — ззаду аставалася выстуджаная гарадская вакзальная плошча.

## *Чужая песня*

— А чаго гэта ты ўстаў не ў пару?

Ён сцепануўся ад нечаканасці, разгублена агледзеўся: Настася стаяла ля ложка басанож і надзявала спадніцу.

— Што гэта цябе зранку да акна прыляпіла? — зноў запыталася сястра, спраўна закруціла вакол стану спадніцу і, збочыўшыся, пачала зашпільваць аплікі.

— Выспаўся. Перад смерцю і сну няма.

Сястра нічога не адказала: зусім слабым і нядужым здаваўся ён тут, у вёсцы,— па-старэчаму сухенькі і чысценькі самаўпэўнены гарадскі дзядок. Дзе ўжо ў яго пытацца здароўя! І як гэта ён надумаўся ў такую слату ехаць у гэту глуш? І пісем жа не пісаў — маці толькі некалі, бывае, успомніць, што недзе Паўлік яе «вялікім» чалавекам стаў, жыве з панамі. Настася ўжо і не думала, што жыў ён яшчэ недзе, гэты невядомы яе брат, а ўчора ўвечар, у дождж, заявіўся. Брата пытаўся, а пра яе не ведаў!..

Павел зноў завярнуўся да акна. Ля пачарнелага ад вільгаці плота стаяла рабінка, і на яе чырвоных ягадах віслі цяжкія кроплі.

Было чуваць, як Настася мылася ў мыцельніку, потым пачала падпальваць у печы, выйшла на двор, мабыць, выпусціла з хлеўчука курэй, бо раптам на варотах з'явіўся залацісты вялікі певень, залопаў крыламі, коратка кукарэкнуў і нечага спужаўся, саскочыў на зямлю, азірнуўся, выцягваючы шыю.

...Вялікі чырвона-залацісты певень са скрываўленым і звіслым набок грэбнем кінуўся біць яго, і ён закрычаў спуду. На крык з хаты выбегла маці з хвартухом у руцэ і пачала адганяць пеўня, лупцуючы пасkамі, а той не хацеў здавацца, і толькі калі маці добра-такі даняла яго, закудахтаў ад болю і кінуўся ўцякаць. Маці выцірала яму слезы, і па руцэ яе з ранкі буйна кацілася крывінка...

Як гэта было даўно! І маці тады была ўдвая маладзей, чым ён цяпер.

— Ты б малака хоць пакуль выпіў,— паклікала Паўла з кухні сястра.

Яна змахнула хвартухом табурэтку, але ён не сеў, стоячы выпіў паўлітровы эмаліраваны кубак сырадою.

— Дзякуй, Насця,— падзякаваў ён, сумеўся гэтай сваёй далікатнасці і выйшаў у чысты пакой, у задуменні абышоў вакол круглага стала, зазірнуў у люстэрка, што стаяла на ім, паправіў гальштук, які з'ехаў набок.

Позірк яго ўпаў на рамкі з фотакарткамі, якія віселі над вокнамі. Ён падышоў бліжэй, пачаў углядацца. То хлопцы недзе на танцах, ля плота на вясковай вуліцы,— у шырачэзных штанах і кашулях з закасанымі рукавамі... Лупатае немаўля на дыванчыку старанна кусае палец наназе... Насцярожана застыў на фатаграфіі юнак у новым касцюме, з гальштукам-лапаткаю на грудзях. Ах, як няёмка і нязвычна яму ў гэтым убранні!

А вось пажоўклы здымак: мужчына ў дабротным галіфэ, у доўгай, чуць не да калень, гімнасцёрцы, перахопленай камсастаўскаю папругай, стаіць, паклаўшы руку на спіну крэсла. Аж свецяцца наглянцаваныя боты!.. Два дзядзькі ў кажушках, пры зброі,— аўтамат у аднаго на каленях, у другога — за плячыма вінтоўка,— кураць самакруткі і, мабыць, не здагадваюцца, што іх здымаюць.

Здымкі ў большасці старыя, цьмяныя. І рамкі абклеены палоскамі белай паперы ў зубчыкі. Папера пажаўцела і пасохла.

І нешта адно няўлоўнае ў рысах твару і гэтых дзядзькоў, і юнака: неяк аднолькава глядзяць іх вочы, аднолькава акрэслены падбародкі...

«Няўжо гэта Настасін такі? — падумаў ён пра юнака.— А то мо браты?»

— Уключы радзіва, Павел! — папрасіла з кухні Настася.

Ён уключыў невялічкую пляскатую радыёлу, ад якой паўз бэльку вілася расцягнутая залацістая спружынка антэны. Ігралі скрыпкі, і мелодыя была лёгкая і балючая, як даўні, прыглушаны часам успамін.

Павел падышоў да ложка, выцягнуў з-пад яго свой чорны лакіраваны чамадан з жоўтым замком-«маланкаю», паклаў яго на ложак, расчыніў. Усміхнуўся — падарунак вёз толькі аднаму брату, адрэз на касцюм...

...Братава калыска вісела ля печы, над палком, насланым з дошак. На адной з вяровак быў раскудлачаны вузел. Ён, калі хацеў паглядзець на брата, станавіўся на палок і чапляўся рукою за гэты вузел, цягнуў да сябе калыску. Калі толькі маці бачыла гэта, хапалася за хвартух, хлёсткія паскі якога ён добра ведаў.

— Куды пабраўся? А каб табе кроўная доля! Дзіця выкінеш!..

Стала горача ад думкі, што Настасі нічога не ўзяў. Ніколі б і не падумаў, што ў яго ёсць яшчэ і сястра, і другі брат яшчэ быў. І ў самога яго прозвішча другое, не бацькава,— Ляткоўскі.

А ўчора ішоў ад шашы ў дождж, па гразкай восеньскай дарозе, і яшчэ неяк радаваўся, што адважыўся паехаць у гэту глуш, але добры настрой праходзіў: было цёмна, гразка, мокра ў ногі і неспакойна ад думкі, што яшчэ — не дай бог! — захварэе. Ды ён нікому не сказаў, куды і чаго едзе. Ці мала што падумаюць, калі хопяцца яго. І ён раскайваўся, што паддаўся таму незразумеламу, раптоўнаму

жаданню — паехаць... Ён, стары, спрактыкаваны, захацеў нейкіх прыгод, як хлапчук, хоць павяло на гэта нешта другое, нейкая незразумелая прыцягальная сіла, пра якую ён нічога не ведаў, не здагадваўся нават, хоць за век свой і багата пабачыў свету... Можа б, ён і завярнуў назад, каб мог здагадацца, што няма ні тае хаты, ні брата, што вясковы хлапчук прывядзе яго, мокрага і збянтэжанага, да незнаёмай жанчыны, якая і акажацца яго сястрою!

Настася затупала да стала. Прынесла на талерцы горку блінцоў, яечню і печанае сала, гуркоў, бульбы, якая густа парыла, потым пачала насіць кілбасу, сырое сала, нібы збіралася на добрыя госці.

Павел глядзеў на яе, і зноў пачала быццам прыходзіць заспакоенасць і лагоднасць — і добрым быў шэры восеньскі дзень за акном, рабінка, далёкі лес...

— Нашто гэтулькі? — здзівіўся ён.

— А то ж шкадаваць буду! У мяне ж есці няма каму. Хіба Шура з сям'ёю ў госці наедзе,— адказала яна і паставіла на стол гранёныя стограмоўкі.

Ён паглядзеў на яе, мажную, поўную, са спакойным круглым тварам, нібы не было за плячыма больш шасцідзесяці год, на яе вялікія рукі...

— То садземся, паснедаем.

Яна скінула хустку, павесіла на біла ложка. Яе густыя пасівелыя валасы былі роўна зачэсаны і закручаны на патыліцы.

— Ну давай, брацік, за ўсё, што перажылося і каб яшчэ жылося! — падняла яна чарку.

Ён глядзеў, як яна спраўна выпіла гарэлку, і падумаў, што, калі вып'е, то ап'янее. Адпіў ён некалькі глыткоў.

— А я Антосю на касцюм прывёз,— пачаў ён.

— Дзе яму той касцюм! Мо і касцей ужэ німа. Яны ж са Сцяпанам разам і леглі.

— Пра цябе і Сцяпана я не ведаў... А дзе іх пахавалі?

— Хто яго ведае. Іх, казалі, ранілі, як на дарогу хадзілі, немцы жывымі пабралі. Замучылі недзе. За гэту вайну тут уся зямля магілаю стала. Столькі палажылі!

Сястра гаварыла проста, спакойна, як пра будзённае.

— Мне ўжэ после іх картачку людзі перадалі, пасля вайны.

Настася паглядзела на рамку з фатаграфіямі:

— А гэта мой стаіць. Яшчэ як прадсядацелем сельсавецкім буў. Год толькі і пабыў, адале і злёг. Збіты быў, зранены...

— А сем'і братоў?

— Спалілі. Тады ж тут усіх палілі. Акружылі і запалілі. Гэта ўсё пасля вайны адбудавалі. А ты што робіш там? — запыталася сястра.

— Спяваў... некалі. А цяпер нічога.

— З нашага роду ўсе галасістыя. А грошы як зарабляў?

— Спяваў...

— А-а! Дык гэта як арціст?

— Так. А пра цябе, прабач, нічога не ведаў. Адрэз хоць хлопцу свайму вазьмі.

— Нашто ён яму! Ён і сам інжынер, хватае ўсяго.

— Не павязу ж я назад! Пакладзі хоць...

— Да ўжэ ж... Ну, то дзякуй, Павел!

Паўлу не хацелася больш есці. Ад выпітага забалела галава.

— Астаўся б ты ў мяне. Пагуляў бы, патаптаўся ля дому, пад'еў усмак, паспаў, а то — што цень, як ветрам не паваліць,— зноў загаварыла сястра, і ў голасе яе была спагада. Хацеў адказаць, што нельга яму, але падумаў, што смешна гаварыць ёй пра нейкія там візы. І што ён рабіў бы тут сярод гэтага лесу, гразі? Увесь век пражыў у горадзе, пры грашах усё-такі, прывык да раскошы. А для Настасі і праўда ён жаласлівы ў сваім шчыгульным убранні, пагарадскому выкаханы і кволы.

— Няма як, Настася,— адказаў ён і ўстаў з-за стала. Нечаму зрабілася так балюча і маркотна, што ўваччу навярнуліся слёзы, і каб не заўважыла сястра, ён нахіліўся над чамаданам, пачаў вымаць пакупкі.

— Якія гэта ў цябе пласцінкі?

— А гэта мае арыі,— адказаў ён.

— А я думала: вальцы. Вольчыны пабілі маю пласцінку. «На сопках Манжура». Вот я ж любіла яе слухаць! Казалі, адкупяць, да ўсё не збяруцца.

Павел прамаўчаў і сунуў пакунак назад у чамадан. Гэта былі яго любімыя арыі, і запісаны яны ў даўні час, калі ён «грымеў» і не ўспамінаў пра далёкую лясную вёсачку, з якое забраў яго пан Ляткоўскі, даў сваё прозвішча і вывучыў за спевака ў светлай Італіі. Яго і цяпер памятаюць у розных краінах...

— Мо пайду, запрагу каня? Куды ты з чамаданам пойдзеш!

— Не трэба! Правядзеш мяне лепш,— запярэчыў ён. Яму не хацелася заставацца аднаму ў пустой хаце, захацелася хутчэй пайсці.

Па вуліцы ішлі побач. Настася ў новай ватоўцы, у гумавых ботах, ступала збоку паўз сцежку на рэдзенькай гразі.

Павел уцягваў галаву ў каўнер плашча і шкадаваў, што не ўзяў шалік, тупаў ён па старых слядах на сцежцы — было сушэй. Чаравікі, якія Настася была паставіла ноччу на печ, ссохліся і ціснулі ногі. Капялюш Павел нацягнуў на лоб,— каб не сагнаў вецер, думаў, што трэба пра нешта загаварыць да сястры, але не ведаў пра што і толькі яшчэ больш уцягваў галаву ў каўнер паліто.

За вёскаю, цярэспаля, да самае шашы вілася бліскучая ад вільгаці, выбітая нагамі сцяжына, па якой дзеці бегалі ў школу.

Настася спынілася, паставіла на вытаптаную прыдарожную траву чамадан.

А Павел усё думаў, што б сказаць, адчуваў, што нешта яшчэ забыўся — і не мог успомніць. Ён не заўважыў, калі спынілася сястра, і ўсё ступаў, панура ступаў наперад.

— Павел! — абазвалася Настася.

Ён разгубіўся і вінавата падышоў да яе. Твар сястры быў спакойны, як і тады, калі яна падавала на стол, калі пакавала яму ў чамадан і кілбасу, і яблыкі,— навошта яны яму, калі хапае і грошай? Але ён не адмаўляўся: баяўся пакрыўдзіць.

— Ну, то хай цябе бог сцеражэ! — спакойна сказала Настася, паклала рукі яму на плечы і тройчы пацалавала. Шчокі і вусны ў яе былі халодныя.

— Настася, а Настася! — паклікаў ён.

Яна павянулася на яго.

— Маці дзе, Настася? Я думаў, ты мяне зводзіш...

— Парцізан на могілках акружылі былі. Танкамі ўсё зраўнялі...

Яна яшчэ нешта гаварыла сваім сумным, спакойным голасам, але ён не чуў, ішоў чужы па сцяжынцы, якая мякка гойдалася ўваччу, ішоў туды, дзе засталіся для яго на зямлі толькі беленькі двухпавярховы катэдж у зялёных прысадах і любімы чорны бульдог Джэра.

## *Каліна ў жыце*

Ужо два тыдні Баравец жыў у лесніčоўцы старога Язэпа. Цэлыя дні ён блукаў у асеннім спустошана светлым лесе, а доўгія асеннія вечары і ночы праседжваў над рукапісамі. Баравец прывык да парыпвання шашаля ў сенцах, да настольнай газавай лямпы з адбітым і закопчаным зверху шклом, прывык да глухое асенняе цішыні і быў рады, што вырваўся з горада.

У гэты вечар работа не ладзілася, і Баравец пачаў злавацць і нервавацца. Ён скамячыў і шпурнуў пад ногі пакрэслены лісток, якім заўтра Язэп падпаліць у печы, закурыў і ўключыў транзістар, неяк безуважна слухаў, як той па-змяінаму шыпеў — награвацца. Потым аднекуль здаля, скрозь шум і патрэскванне, пачаў набліжацца чысты жаночы голас:

Стоит, пригорюнясь, калина во ржи,
Калина, где юность, где цвет твой, скажи...

І голас, з ледзь улоўным трымценнем, напоўненым такім горкім чалавечым болем, перамог пашлаватае транзістарнае шыпенне, запоўніў пакой.

Баравец адчуў, што ў грудзях стала горача і цесна,— ён успомніў дзе і як упершыню пачуў гэтую песню.

...Яны тады крыху спазніліся з Бераю, але вечар яшчэ не пачаўся. На сцэне за апушчанай заслонай паспешліва грукалі, расстаўляючы сталы і крэслы, на праходах у зале мітусіліся піянеры,— яны,як павялося, павінны былі дарыць гасцям кветкі.

Потым выступалі і самі госці, былыя выпускнікі інстытута: дарэктары школ, інжынеры, вучоныя — усе яны расказвалі адно і тое ж самае: як цяжка было вучыцца пасля вайны, як яны аднаўлялі корпус і гэтую самую актавую залу,— здавалася, што ўвесь час за нешта папракаюць тых, што сядзяць перад імі...

Апладзіравалі ўсім ім роўна, і ўсім піянеры ўручалі кветкі.

Канцэрт быў звычайны, студэнцкі, наспех падрыхтаваны і за гэту паспешлівасць павінен быў «адыгрывацца» нядаўна створаны эстрадны аркестр.

Баравец, які наогул недалюбліваў джаз за яго залішнюю крыклівасць, цярпліва слухаў завыванне саксафона і трэск

ударніка,— калі б не было Веры, ён выйшаў бы пакурыць і на калідоры перачакаў бы, пакуль скончыцца канцэрт.

Песні былі толькі модныя, чымсьці падобныя адна на адну.

І калі на сцэну выбегла невысокая, кволая дзяўчынка ў белай, нібы выпускніца, сукенцы, Бараўцу стала шкада яе, чысценькай, светлай, відавочна, першакурсніцы, і балюча ад думкі, што і яна зараз пачне па-эстраднаму выгінацца, прытупваць нагою ў такт якой-небудзь зацяганай мелодыі «ай-я-яй, тебе люблю я!..».

Але дзяўчына нечакана і для настроенай на эстраду залы, і тым больш для Бараўца неяк ціха, глыбокім і чыстым голасам, здавалася, немагчымым для яе, такое маленькае, спявала:

Свистели, хлестали стальные пески,
Калина, скажи, где твои лепестки...

У яго сціснулася і да знямогі салодка зашчымела сэрца. І было не толькі жытнёвае поле і адзінокае хісткае дрэўца, не толькі далёкія і недасягальныя за сіняю смугою горы. Не, была маладосць, якая выпала на пару ліхалецця і якой не было калі красаваць... А потым вырасла другая моладзь, і чалавек агледзеўся, што яго вясна прайшла, і зрабілася балюча за раннюю сталасць, за адзіноту перад старасцю:

Нежданно-незванно ударит мороз,
И сердце калины сожмется до слез.
Мороз не остудит ■ том сердце тепла:
Ведь сердце вам, люди, она отдала.

І так хочацца, каб маладосць паўтарылася, каб хоць жыла кволая надзея на гэта:

Весеннею ночью и ей не до сна,
Весеннею ночью калина одна...

А голас, чуць дрыготкі ад пачуцця і болю, і сароміцца падманваць марнаю надзеяй, і суцяшае:

Спят крутые горные отроги,
Не грусти, калина, у дороги,
Не грусти, калина, у дороги,
не грусти.

І плыве недзе туды, за сінія горы — і растае...

Баравец не чуў ні апладысментаў, ні крыкаў «біс». Ён бачыў толькі спявачку, якая знямогла рванулася за заслону, і быў упэўнены, што яна плача...

Пасля ў агромністым, бітком набітым вестыбюлі былі танцы.

Баравец чамусьці не мог штурхацца ў разагрэтым цесным натоўпе, не мог глядзець на маладых хлопцаў з напушчанымі на лоб і на каўнер валасамі, на тое, як яны з блазнаватымі, бліскучымі ад поту тварамі па-жывёльнаму неяк, бяздарна «адломлівалі» твіст, трэплючы расшыранымі калошынамі штаноў, якія толькі ўваходзілі ў моду і яшчэ падпярэзваліся шырокімі папругамі — пад каўбоеў. І віною былі не толькі тыя дванаццаць гадоў, на якія ён быў старэйшы за гэтых, што сабраліся на танцы, не толькі тое, што ён вымесіў нагамі не адно беларускае балота разам з сябрамі-партызанамі, што застаўся без бацькоў і сясцёр, якіх карнікі спалілі, калі даведаліся, што ён з партызанамі, і што, пакуль канчаў універсітэт, а потым выдаваў першыя свае кнігі, не заўважыў, як стаў старым халасцяком,— не, недзе ў глыбіні душы Бараўца дрыжаў плакучы голас, і трапятала ў сэрцы тоненькая абарваная струна — і калолася, і крывавіла.

Усё-такі ён быў адзін, прывык па-мужчынску затоена насіць у сабе і радасць, і горыч, і спадзяванні і ўжо каторы год, як партызан у далёкім пераходзе, жыве натомлены, асцярожны і рашучы, спадзяецца толькі на сябе. А гады бяруць сваё, і ён стаміўся адзін і адчуваў, як бы гэта добра было: сям'я, дзеці, жанчына, якая разумее і шануе яго, яе ласка.

Баравец сказаў Веры, што хоча курыць, і павёў яе за сабою.

У пустой, цёмнай і халоднай аўдыторыі яна цярпліва чакала, пакуль ён дакурыць цыгарэту, хоць ведала, што ён хацеў проста пабыць з ёю. Баравец таксама разумеў, што ёй з ім сумна, што ёй хочацца чым найхутчэй у залу, дзе пашлавата іграюць на матыў танга «Цёмную ноч». І ён правёў Веру да сяброўак, а сам зноў хадзіў па сіратліва-гулкім калідоры, пасвечваў у цемнаце палахлівым чырвоным агеньчыкам цыгарэты, безуважна думаў, што знаёмы з Вераю больш як тры гады і што яна ўжо больш чым паўгода сустракаецца з незнаёмым яму хлопцам, які прыязджае на спатканні на «Яве», а ён, Баравец, чамусьці маўчыць, нібы нічога не ведае.

Пазнаёміўся ён з Вераю, калі прыходзіў у інстытут браць інтэрв'ю у першакурснікаў. Ён тады працаваў на

радыё. Сярод нясмелых дзяўчынак Веру вылучала нейкая самавітасць, спакойная жаночая ўпэўненасць у сабе. І ён падышоў да яе. Якраз скончыліся заняткі, і яны пайшлі ў двор, у скверык, закіданы свежым кляновым лісцем. Ён не ведаў, як пачаць гаворку, разгубіўся: неяк не так было, як звычайна, калі браў інтэрв'ю,— афіцыйна, дзелавіта. А тут асплялъна велічна ляжала ля ног восень, сядзела побач дзяўчына. Ён сказаў, што восень надзіва цёплая, і падумаў, што смешна гаварыць дзяўчыне пра надвор'е, але яна ахвотна загаварыла: як прыгожа ў лесе гэтаю парою, колькі грыбоў, расказвала пра сваю лясную вёсачку, і яму ўспаміналася даўно забытае, што было ў дзяцінстве, вёску, якое больш няма, бо і людзей, якія там жылі, няма...

І пасля, як правёў Веру дадому, думаў, што вось яна, немаладая ўжо дзяўчына, якая папрацавала і даяркаю ў калгасе, і піянерважатаю, зможа зразумець яго, і з ёю будзе спакойна і добра яму, і будзе жыць ён, як усе людзі.

Вось і жыве, як апелянаты туманам прывіднага шчасця, і яму падабаецца гэтая прывіднасць і гэтая душэўная інертнасць. І жыць проста і лёгка, як сыходзіць з узгорка. Але ёсць жа ў жыцці нейкая вечная трывожлівасць, чыстая і нязвыклая! І нашто марна мітусіцца вакол сваёй асобы! Можна зрабіць на зямлі столькі добрага, толькі трэба забыцца пра сябе, аддаць людзям усё шчодра і светла, як гэтая дзяўчынка сваю песню!

Заставацца на вечары Баравец больш не мог.

Ля гардэроба ён сумеўся ад нечаканасці: у гурце студэнтак, дзяжурных па гардэробе, смяялася спявачка. Чамусьці менавіта яна, смеючыся яшчэ, падбегла да яго, узяла нумарок. І ўжо калі прынесла куртку, ён разгледзеў яе чысты прыгожы тварык, сінія наіўна шчаслівыя вочы з ледзь прыкметнаю наміткаю суму...

Невядома чаму дзяўчына разгубілася пад яго позіркам, апусціла вочы і, забыўшыся, гладзіла яго пыжыкавую шапку, неяк пакорліва і вінавата зірнула на яго з-пад ілба, апамятаўшыся, успыхнула чырванню, хуценька падала шапку і кінулася да сяброўак...

Песня скончылася, і якісьці модны сталічны джаз аглушыў Бараўца. Ён паспешліва выключыў транзістар, здзіўлена агледзеўся і адчуў, як невыносна душна і накурана ў леснічоўцы, і, не апранаючыся, у адным світэры выйшаў на двор, прытуліўся спіною да сцяны, закурыў.

Недзе ў вышыні, над яго зацішкам, шалёна мучыўся ў вершалінах вецер, нібы хацеў расшматкаваць гэтую глухую чарнату і непрагляднасць ночы,— і захліпаўся ад бяссілля...

Баравец успомніў, як у самотным блакіце вулічных ліхтароў асуджана роўна калыхаўся густы рахманы снегапад, як у белым мроіве няўмольна прападалі барвовыя зрэнкі стоп-сігналаў таксі, і як, ужо дома, ён варочаўся з боку на бок, невядома чаму мучыўся незразумелаю трывогаю, злаваўся на самога сябе.

Прайшло нямала год, ён рабіў сваю работу на поўную выкладку і ўжо заспакоіўся, бо быў упэўнены, што пражыў па-сапраўднаму чэсна і правільна.

І вось цяпер ён, Баравец, пра якога гаварылі больш чым з павагаю, славе і жыццю якога зайздросцілі, гэты самы Баравец з такою выразнаю адчайнасцю зразумеў, што ў нечым ён памыліўся, што не заўважыў нечага такога ў жыцці і назаўсёды прайшоў міма. І Баравец не мог ніяк сабрацца з думкамі, разабрацца, і ў галаве недарэчна круціўся даўні ўспамін: стомлены мужчына даверліва драмаў на плячы жонкі, і яна ўсміхалася, і лёгка шумеў коламі па асфальце аўтобус...

І як светлы сон быў гэты ўспамін тут, у лясной адзічэлай глушэчы, у бясконцай, як восеньскія ночы, адзіноце, ад якое пачынае надоўга балець сэрца.

## *Зялёны дождж*

Дождж ішоў роўна і лагодна. Ад яго ў пакоі стаяў ціхі шэпт. Было крышку пахмурна і туманліва ў далечыні за гайком, які зелянеўся лёгка і чыста. На яго фоне дождж здаваўся зялёным. «Зялёны дождж»,— падумаў Антонаў, і яшчэ пра тое, што праляцелі гусі, што экспедыцыі выехалі «ў поле»...

У сталоўцы, дзе кожную раніцу снедаў Антонаў, нікога не было, і маладая касірка смачна пазяхала і пацірала вочы. Есці не хацелася. Антонаў пакляваў відэльцам мяккі шэры шніцэль, выпіў шклянку кампоту і пайшоў да дзвярэй.

Дождж ішоў усё гэтак жа роўна, блішчалі асфальтавыя тратуары. На ўскраіннай вулачцы было звыкла ціха

і пустынна. Антонаў пастаяў, паглядзеў на зарослы бэзавымі кустамі гародчык перад вокнамі, на стары пахілены плоцік. У кватэры яго чакала зноў адзінота. Ён не думаў, што за некалькі гадоў гэтакім чужым стане горад яго студэнцтва. На рабоце новых знаёмых няма, і былых аднакурснікаў таксама не можа знайсці, ды не надта і шукаў...

Антонаў завярнуўся і пайшоў да трамвайнага кальца. У горад ехаў проста так. Па твары сцякалі цёплыя дажджавыя кроплі. Вільготны пах дажджу нагадваў пах прамоклага і пачарнелага брызенту палатак... І роўнае пахістванне трамвая закалыхвала, пачынала ўспамінацца мінулае...

У горадзе было гэтак жа пуста, барабаніла ў сцёкавых трубах вада. Антонаў завярнуў да кінатэатра — агромністае аляпаватае будыніны, на сценах якое віселі вялізныя палотны рэкламы, фарбы на якіх расплыліся ад дажджу.

Ля касы стаялі тры дзяўчынкі, відаць, школьніцы-старшакласніцы ці студэнткі, якія збеглі з заняткаў. Антонаў узяў білет, выйшаў у двор кінатэатра, у буфеце пад брызентавым дзіравым дахам купіў пачак цыгарэт.

Фільм быў зніткаваны сумнаю музыкай. На экране праплывалі апошнія дні вайны, там разлучаліся, каб ніколі больш не сустрэцца, людзі. А чалавек, які вярнуўся дадому і ўбачыў накрыты на дваіх стол, зноў пайшоў на вакзал. Ён не ведаў, што жанчына чакала яго, што цэлы тыдзень накрывала на стол на дваіх.

Антонава ўразілі вочы жанчыны, вялікія, на ўвесь экран, поўныя адчаю і гора, пакорліва-вінаватыя, цяжкія ад слёз. Гэтыя вочы глядзелі на Антонава, калі ён вярнуўся дадому. І звінеў на падлозе, круціўся асколачак чаркі, якую салдат ненарокам скінуў са стала.

Антонаў не заўважыў, як выйшаў да рэчкі, схамянуўся, калі ўбачыў дзве парэпаныя і пакручаныя вербы над вадой. Ён міжволі ішоў да таго ціхага доміка, дзе жыла Галя. Антонаў усміхнуўся сам з сябе, завярнуўся і пайшоў назад.

Жанчына, якая спяшала насустрач, зачапіла Антонава плячом, і накінуты на яе дажджавік шамотка ўпаў долу. Жанчына нагнулася, падхапіла яго.

— Галя? — не стрымаўся, запытаў Антонаў, хаця і пазнаў яе.

— Ты? — Галя шчыра здзівілася.

Ён стаяў збянтэжаны, быццам яго заспелі за нечым непрыгожым.

— Ахініся, прамокнеш...

Галя ахінулася, вочы яе засвяціліся радасцю.

— Пайшлі да нас. Паглядзіш, як я жыву,— запрасіла яна і ўзяла за локаць.

Антонаў пайшоў побач, хаця думаў, што трэба знайсці прычыну і адмовіцца.

У калідоры ён доўга і старанна выціраў ногі аб саматканы дыванчык.

Галя цярпліва чакала яго.

— Праходзь,— яна адчыніла дзверы.— Вася, ідзі сюды!

З суседняга пакоя выйшаў невысокі хлопец з чорнымі валасамі і смяшлівымі вачыма.

— Пазнаёмцеся. Гэта Сярожа. Я табе расказвала пра яго. Правядзі ў тую хату, [illegible] я пагляджу чаго-небудзь.

У «той хаце», чыстым прасторным пакоі з тэлевізарам у кутку і сталом пасярэдзіне, было цеснавата.

— Ты дзе робіш? — запытаўся Вася неяк весела і па-свойску.

— Геолаг.

— Нафту шукаеш?

— Не, так... А ты дзе?

— На нашым, на аўта, токар.

Гаворка не выходзіла. Чуваць было, як цмокаў спрасонку ў сваёй калясцы малы, грукала на кухні талеркамі Галя.

— Пайду, памагу Галі...

Гаспадар выйшаў з пакоя.

Праз хвілін колькі ён з'явіўся з бутэлькай, за ім з талеркамі Галя. Селі да стала. Пасля чаркі засяроджана і доўга елі, потым Галя запыталася:

— А ты не паехаў у поле?

— Не, я цяпер тут, ва ўпраўленні.

— Правільна. Трэба абжывацца,— заўважыла Галя. Антонаў коратка і пільна паглядзеў на яе — яна не прытваралася, гаварыла шчыра. Хаця ён некалі расказваў ёй і яна адна, лічыў Антонаў, ведае, што значыць для яго сапраўдная работа, «у полі».

— Ты еш, Сяргей,— запрасіла яна.

— Дзякуй, але мне трэба ісці. Не хацеў гаварыць табе гэта адразу...

— Рабочы ж дзень... Ты заходзь яшчэ.

На двары ўсё ішоў дождж. Галя выйшла правесці Антонава.

— Чаму ты так скора? Пасядзелі, пагаварылі б яшчэ...— сказала яна.

— Другім разам,— адказаў Антонаў, хаця абое яны ведалі, што другога разу не будзе.

Антонаў падумаў пра тыя, з кіно, вочы, пачуў, як аднекуль здаля зазвінеў, закруціўся на падлозе зіхатлівы, як шчасце, асколачак шкла.

Галя стаяла побач, спакойная, дамашняя, і па дажджавіку яе гучна лопаў дождж. Ён падаў руку і пайшоў прэч.

Гаспадыня яшчэ не вярнулася з работы. Як і раней за акном ішоў дождж, за якім цяпер ужо невыразна віднеўся той самы бярозавы гай. А здалося, што задрамаў толькі на хвілінку. На сцяне цьмяна паблісквала стрэльба. Яна зноў нагадала Антонаву пра экспедыцыі, пра тое, што ён цяпер калека, хворы чалавек, што воля ягоная кончылася, што да смерці яму перапісваць паперы за сталамі ў кантарах і быць папяровым геолагам.

Антонаў падышоў да сцяны, зняў новенькія акуляры матацыкліста, выйшаў на двор, доўга круціў ключом у заіржавелым замку, пакуль адамкнуў хляўчук. «Ява» драпежна паблісквала ў прыцемку нікелем выхлапных труб.

Матацыкл, запраўлены і падрыхтаваны да першага выезду, завёўся адразу. Антонаў слухаў, як роўна і плаўна працуе матор, насунуў на вочы акуляры, адчуў, як яны мяккім капронавым халадком прыляглі да твару, уключыў перадачу...

Насустрач пругка ўдарыў вецер, закалолі ў твар дажджавыя кроплі...

З Галяй яны падружыліся на экскурсіі ў Маскве. Тады таксама ішлі дажджы. І сябравалі два гады. Потым ён скончыў інстытут, паехаў на работу. Калі вярнуўся, даведаўся, што Галя некалькі разоў хадзіла ў кіно з хлопцам-аднакурснікам. Яна не таілася ад яго. Антонаў тады сказаў, што між імі ўсё скончана, хаця сам верыў, што Галя будзе абавязкова чакаць, пакуль ён вернецца... Потым ён даведаўся, што Галя выйшла замуж і зусім не за таго хлопца...

Антонаў успомніў яе сённяшнюю, добрую і спакойную, усміхнуўся з сябе самога за ўсе тыя выдумкі, за сваю наіўнасць. І адчуў палёгку, нібыта пад дрыгвою адчуў цвёрдае, тупкае дно. З задавальненнем прыбавіў хуткасці, прыслухаўся, як пяе матор і ўсяго яго малодзіць, радуе гэтая хуткасць.

Чалавек на мокрай і пустой загараднай шашы з зай-

здрасцю заўважыў белы шлем, які мільгнуў у вачах, пачуў пах бензіну, спыніўся і глядзеў услед беламу святлу фары, якое неслася ў вечаровую цемру, туды, дзе павароты і пагоркі, дзе незнаёмая вясновая далечыня.

Чалавек пастаяў, уздыхнуў, ямчэй нацягнуў на галаву капюшон дажджавіка і рушыў далей.

Ні ён і ніхто болей не ведаў, што ў той дзень ішоў на зямлі зялёны дождж.

## *Вечар*

У яго не было славы. Быў час, калі ён многа пісаў і часта друкаваўся. Тады толькі яшчэ ішлі ў літаратуру маладыя хлопцы. Яны пачыналі пісаць і лічылі яго мэтрам, бо ён выдаў ужо некалькі кніжак, працаваў у рэдакцыі тоўстага часопіса. Ён запрашаў пачынаючых да сябе на кватэру, у цесны і халодны пакойчык, які меў асобны ўваход; гаспадыня ж была тугаватая на слых, і іхнія спрэчкі не перашкаджалі ёй. А спрачаліся яны многа, амаль кожны да ранку, часам сварыліся нават. Ён любіў гэтыя спрэчкі, любіў выступаць і сам, як настаўнік і аўтарытэт, любіў паслухаць, як часам марылі хлопцы, што напішуць. А напісаць усім хацелася нешта такое...

Цяпер ён не памятае і аблíччаў хлопцаў, і пра што тады спрачаліся. І яму шкада, што не запомніў іх, што глядзеў звысака на іх са сваёй «мэтраўскай» велічнасці,— хлопцы амаль усе не дажыдалі да ягоных год, хоць былі і маладзей за яго. Адны з іх загінулі яшчэ да вайны, другія на вайне і пасля вайны, а яго абмінулі ў партызанскіх лясах кулі, абмінулі паклёпы, за якія так жорстка расплаціліся хлопцы...

Пасля вайны ён пісаў яшчэ нейкі час. Потым у літаратуру прыйшла цэлая кагорта маладых. Яны паважалі яго, але не лічылі «мэтрам». Яны пісалі добрыя рэчы, і ён, калі чытаў іх, бачыў, што яму далёка да гэтых хлопцаў. І было крыўдна, што вось пражыў ён цэлае жыццё і амаль цэлае жыццё пісаў, а прыйшлі нейкія малакасосы і пішуць лепш. Хацелася напісаць нешта такое, каб адразу паказаць, што значыць старая гвардыя...

Ён пакінуў работу ў часопісе, затаіўся дома, але так нічога і не напісаў «такога», а апошнія чатыры гады і зусім

нічога не пісаў, толькі яшчэ ў нейкай зласлівасці на маладых сабраў і выдаў том выбранага. Кніжку ён рыхтаваў доўга, адбіраў для яе самае лепшае, самае дарагое і думаў, што дасць перцу, калі паспрабуюць правіць яму, «рэзаць» ягоныя рэчы. Думаў зласліва і ўяўляў, як будзе прабіраць гэтых маладых інтэлігентных пісьменнікаў!.. Ён нават хацеў, каб яны пачалі пярэчыць яму, хацеў паспрачацца, даказаць... Ён не ведаў, што хацеў даказаць.

Але ніхто яму нічога не пярэчыў. Наадварот, клапатліва прыносілі на дом карэктуру і без яго дазволу не выкінулі ніводнай коскі. Яму тады здалося, што цацкаюцца з ім, як з музейным экспанатам. Ды і ўсе гэтыя чатыры гады ён адчуваў сябе як за шклом вітрыны. Толькі аднойчы схадзіў у школу на сустрэчу з вучнямі. Каб не сусед настаўнік, ніхто не падумаў бы запрасіць яго. Ды і вучні ведалі яго толькі па зборнічку для школ, дзе было надрукавана яго даўняе апавяданне, пра якое ён і сам ужо забыўся...

Што ні дзень усё мацней і мацней націскаў мароз, і дрэвы ў скверыках не пахлі ўжо мокраю вільгаццю пачарнелых галін, не было туману, і неба было чыста сінім і далёкім. І што ні дзень ён адчуваў, як усё мацней і мацней пачынаюць балець грудзі, як нешта сціскае іх, не хапае паветра дыхаць.

Пачалося гэта ўсё з адной ночы, калі прысніўся яму вялікі рыжы кот. Той самы кот, што жыў у яго да вайны і з якім любіў гуляць яго сын. Ціхенька гэцнуў кот з падлогі на пасцель і пайшоў, памаленьку ступаючы па нагах, узлез на грудзі, палажыў халаднаватыя лапы, выпусціў кіпці і ўсадзіў у скуру і ўсё мурлыкаў, мурлыкаў, а кіпці балюча нізалі грудзі глыбей і глыбей, вочы ў ката загарэліся, вушы прылеглі, і ён дзіка мяўкнуў і ашчэрыў вялізны, з жоўтымі зубамі рот...

Ён закрычаў ад жаху і прачнуўся. Махнуў нават рукою, каб прагнаць ката. У пакоі было цёмна і глуха. І ля ложка на круглым аксамітным дыванчыку, аб які ён выціраў ногі перад тым як класціся ў пасцель, сядзеў, скурчыўшыся, рыжы кот. Ён з ліхаманкаваю паспешнасцю запаліў настольную лямпу: побач з дыванчыкам стаялі ягоныя шлёпанцы.

— Чорт ведае што! — вылаяўся ён.

Але заснуць больш не мог. Балелі грудзі. Ён ахіліўся піжамаю, сунуў ногі ў халодныя шлёпанцы, запаліў люстру,

у кішэні знайшоў пачак цыгарэт з фільтрам, закурыў.

Было чуваць, як далёка ўнізе, на вуліцы, бразгалі на стрэлках сваімі жалезнымі павадамі тралейбусы, у кухні з незакручанага да адказу крана нудна плюскалі кроплі.

Ён зацягнуўся прагна, некалькі разоў запар, але лягчэй не стала, не перасталі балець грудзі. Ён пастаяў, прыслухаўся да сябе і раптам адчуў, што скончылася яго жыццё і амаль нічога не засталося яму ўжо, толькі хіба ўспаміны, доўгія і невясёлыя. І пахаваюць яго, і некралог у газеце надрукуюць, і вянкі пакладуць ад устаноў, купленыя на мясцкомаўскія грошы. І нічога ад яго не застанецца, і будуць ісці гады, вякі, і ніхто не будзе ведаць, што вось жыў ён! У яго на вачах аж навярнуліся слёзы ад гэтага адчування сваёй мізэрнасці, нікчэмнасці — і захацелася крычаць, біць рукамі і нагамі ад гэтай несправядлівасці, ад жаласлівасці да сябе!.. І быць вечна, назаўсёды на гэтай зямлі!

Назаўтра ноччу яму зноў сніўся рыжы кот, які ўсё лавіў на кухні, бразгаў талеркамі, тупаў па падлозе, чамусьці гулка, як вожык, і сын Алёшка ў адной кашульцы басанож пабег туды лавіць ката. І адтуль з кухні пачуўся крык, і завыў воўк, хрыпла і доўга...

Ён зноў не спаў цэлую ноч. Усё ўспамінаўся Алёшка, як ён прасіў яго, каб прынёс салдацкую зорачку... Успомнілася Лена, маленькая, худая, як яна ўсё захіляла шыю каўнерыкам сукенкі, нібыта ёй было холадна, і як яму тады стала сорамна, што крыўдзіў і не любіў яе. Ён павярнуўся і пайшоў, а калі азірнуўся, убачыў, як ішла яна, усё гэтак жа захіляючы шыю каўнерыкам, а Алёшка цягнуў за сабою за хвост свайго неразлучнага рыжага ката, які расстаўляў лапы і не мог учапіцца кіпцюрамі за асфальт. Алёшка, мабыць, быў упэўнены, што бацька прынясе яму праз тыдзень сапраўдную салдацкую зорачку...

І боль у грудзях, і адзінота, і ўспаміны сталі невыноснымі.

І ён, калі атрымаў запрашэнне на вечар, узрадаваўся, што пойдзе з кватэры, што не будзе адзін. Звычайна запрашэнні ён толькі чытаў і выкідаў, а цяпер яно радавала яго, аддрукаванае на добрай паперы, пахучае друкарскай фарбай.

Чырвоны з холаду, у сваім светлым двухбортным пін-

жаку, ён лёгка ўзышоў на другі паверх. У залу яшчэ не заходзілі. Пісьменнікі курылі ў калідоры, жартавалі, нібы і прыйшлі сюды толькі дзеля таго каб пажартаваць, пасмяяцца, пакурыць і пагаварыць весела і бесталкова.

Ён маладцавата вітаўся за руку, спрабаваў жартаваць. Але яго жарты, мабыць, былі не смешныя ці не модныя, на іх толькі скупа ўсміхаліся і, як бы дамовіўшыся, усе пыталіся пра здароўе. Яму здалося, што ад яго ў гэтым маладым здаровым гурце пахне нафталінам, як ад старамоднай футры, што вынялі паглядзець, ці не рассыпалася яшчэ ад молі... каб зноў пакласці назад у шафу. І яму захацелася пайсці назад, дадому. Потым нехта прапанаваў яму выступіць з успамінамі. Ён разгубіўся ад нечаканасці, пачаў адмаўляцца, што не рыхтаваўся, а сам думаў, як узыдзе на сцэну, пачне гаварыць, і яго будуць слухаць!.. І яму ўжо было шкада, што адмовіўся.

Пасля званка ён зайшоў у залу і прымасціўся ў кутку, на самым апошнім радзе. Крэсла было высокае, ногі не даставалі да зямлі і цяжка звісалі, нібы чаравікі важылі па пяць кіло.

Ён слухаў прамоўцу, намагаўся ўспомніць таго, пра каго гаварылася, і не мог. Толькі пад канец доўгай прамовы ўрэшце ўспомніў худога і бледнага юнака з русымі раскошнымі валасамі, і, як яны нават аднойчы ішлі разам па вуліцы, бадай, добра выпіўшыя, бо юнак абнімаўся і ўсё гаварыў:

— Мы з табою напішам, братка! Мы, братка, такое напішам! — і цiснуў рукамі за плечы.

Ён і сапраўды многа напісаў за свой кароткі і няшчасны век.

Потым выступаў з успамінамі лысы, чырвоны і прэнткі дзядок. Ён гаварыў паволі і ўсё больш аб сабе. Ён быў некалі паэтам, гэты дзядок, і празаікам, і крытыкам, а цяпер вось піша ўспаміны. Смяюцца, што ў яго ўжо і на жывых напісаны ўспаміны, чакаюць. Дзядка амаль ніхто не слухаў. У зале перагаворваліся. А дзядок гаманіў, гаманіў, нібы яму і справы не было да гэтага нецярплівага патрэсквання крэслаў.

У заключэнне быў канцэрт. У яго зацяклі ногі. Хацелася ўстаць, пайсці. І ён амаль не глядзеў на сцэну. Запомнілася толькі, што ў беленькае маладзенькае балерыны адно вуха было чырвонае, нібы перад выхадам на сцэну яго накруцілі.

Ён так і не вытрываў, не дагледзеў да канца, ціхенька

выбраўся з залы, апрануўся, выйшаў у вестыбюль, закурыў. Цяпер ён ужо радаваўся, што не згадзіўся выступаць з успамінамі. Стала аж горача ад думкі, што і ён, як дзядок, плёў бы свае ўспаміны, а ў зале пазяхалі б або пасмейваліся і чакалі, калі ён, нарэшце, кончыць.

Калі зашумелі, загаманілі на лесвіцы, ён хуценька выйшаў на двор: не хацелася, каб бачылі яго. Ён прысланіўся плячамі да сцяны і курыў, непрыкметны ў сваім доўгім чорным паліто з шэрым каракулевым каўняром, слухаў, як разыходзіліся па дамах маладыя, здаровыя людзі, якім нават і ў галаву не прыходзяць думкі аб смерці і якім ніякай справы няма да таго, што ён адзін, што яму цяжка, што ў яго баляць грудзі і што яму ўжо цяжка дыхаць.

Ужо прайшлі першыя снегапады, нясмелыя і пяшчотныя. А боль у грудзях усё мучыў, усё не даваў спакою. І з кожным днём станавіўся мацней.

Была нядзеля. Зранку ішоў снег. Буйна і густа. І ад гэтага стаяла нейкая прыцемкавая сцішанасць, нібы і дрэвы, і дамы слухалі, як ідзе снег.

Ён напіўся чаю, прайшоўся ўздоўж шафы, паціраючы далонню грудзі. Праз шкло глядзяць на яго пераплёты кніг, якія ён купляў пакрысе ўсё жыццё. На ніжняй паліцы, у куце, ляжалі клапатліва перавязаныя цюкі. Гэты былі ягоныя рукапісы, чарнавікі, пісьмы і чарнавікі ягоных пісьмаў. Падумалася, што вось памрэ ён, а нехта будзе перабіраць гэтыя паперы, будзе друкаваць у часопісах яго апавяданні ці незакончаныя аповесці ў раздзеле спадчыны. А можа, і яго пісьмы. Стала неяк не па сабе, што нехта будзе перачытваць яго пісьмы, перакопваць усё яго жыццё...

Ён пачаў выкідваць на падлогу цюк за цюкам, разразаў шпагат і, седзячы на падлозе ў піжаме, пачаў перабіраць паперы, адкідаць у кут чарнавікі, пісьмы...

Было па абедзе, калі ён скончыў сваю работу. Пасля «рэвізіі» ён сабраў і перавязаў шпагатам толькі невялічкі пакунак. У ім былі партызанскія дзённікі і пісьмы ад сяброў. Потым ён доўга корпаўся ў шафе, пакуль не знайшоў стары чахол на коўдру, сапхаў у яго паперы.

Пасля абеду ён занёс іх у падвал, у качагарку.

І калі ішоў назад, на лесвічнай пляцоўцы, перад самымі дзвярыма, грудзі працяў востры боль. Ён ледзь не крыкнуў

ад нечаканасці, але стрымаўся і толькі застагнаў скрозь зубы, адчыніў дзверы і не распранаючыся прайшоў у пакой і знясілена адкінуўся на крэсла.

Сядзеў доўга і нерухома. З чаравікаў на падлогу сцякала чорная вада, а на рукавах паліто на валасінках блішчэлі кроплі ад расталых сняжынак. Ён глядзеў на пустую паліцу, дзе нядаўна яшчэ ляжалі яго паперы, слухаў свой боль і думаў, што ўсё скончана. Думаў неяк спакойна, нібы пагаджаўся з тым, што нікому не будзе ніякай справы да ягонай смерці, што і без яго будзе ісці снег, будуць стыць сінія марозы, будуць дыхаць белым парам у палях разагрэтыя коні з аб'інелымі ласкавымі пысамі, а потым на сонцы будуць выгіnaста блішчаць сляды ад палазоў!.. Ён не памятаў, дзе і калі ён бачыў гэтыя заінелыя конскія пысы і бліскучы след палазоў. Ці гэта запомнілася яшчэ з дзяцінства, ці гэта ўспамін партызанскіх дзён. Яму здавалася, што ў пакоі запахла марозам, канём, настылаю на холадзе адзежаю. І ён, чалавек, які лічыў, што досыць пажыў, досыць пабачыў, якому ўжо можна і паміраць, усёю сваёю істотаю адчуў, як не хочацца пакідаць гэтую зямлю, над якою ідзе снег, кружацца вішнёвыя пялёсткі, ідуць «сляпыя», як шчасце, дажджы, і потым за ўсю сваё зялёную радасць разлічваюцца восенню золатам лясы!

Яму думалася, што вось калі паедзе ў вёску, будзе выходзіць кожны дзень у лес, дыхаць чыстым паветрам, боль у грудзях пройдзе, ён будзе жыць яшчэ доўга-доўга.

І ён суцяшаўся гэтым, забыўшы, што яго вёскі ўжо няма на свеце і ехаць яму некуды.

## *Бярозы над зямлёй*

Трэба дома бываць часцей,
Трэба дома бываць не госцем,
Каб душою не ачарсцвець,
Каб не страціць святое штосьці.

Р. Барадулін

*I*

Раніцою ў хаце было холадна, і ён доўга не хацеў вылазіць з-пад коўдры, ступаць па фарбаванай, настыла-сцюдзяной падлозе. І трэба было ехаць назад, у горад.

У хату ўвайшоў бацька — у зашмальцаваным, латаным

белымі суровымі ніткамі кажушку, у чорных бітых валёнках, на якія былі нацягнуты чырвоныя гумы,— паставіў на пачарнелы і слізкі ад вільгаці ўслончык вёдры з вадою.

— Можа, уставай ужэ, Павел. Я заходзіў к Антосю. Ён запрагаць пайшоў. Падвязе да Грэзка.

Бацька затаптаўся на месцы, нацягнуў няўклюдна пашытыя з абрэзкаў аўчыны рукавіцы і зноў пайшоў на двор.

Павел доўга мыў твар халоднаю вадою, расціраў яго ручніком, каб выглядаў не такім адутлаватым. Есці не хацелася, і ён толькі выпіў кубак халоднага ўчарашняга ўзвару, які стаяў у чыгунку пад услонам.

Павел прайшоўся па хаце, сеў да стала, закурыў. Перадавалі апошнія паведамленні, і дынамік, які ніколі не выключаўся, глуха пахрыпваў на покуці пад іконамі.

Бацька ўвайшоў у хату, распрануўся, затупаў ля печы.

— Ты б мо з'еў чаго? Я сала распёк,— запытаўся ён.

Павел адмоўна паківаў галавою. Ён з усмешкай глядзеў, як бацька выцягнуў на прыпечак чыгун з бульбаю, спрытна перахапіў яго зверху анучаю, сцадзіў у вядро чорную ваду, высыпаў затуманеную парай бульбу ў рашку, паставіў чыгун на падлогу, падышоў да стала і сеў насупраць Паўла, паклаў на стол рукі — парэпаныя і выпацканыя ў сажу.

— Мацеру дачакаюся? — запытаўся Павел.

— Мабыць, не. Яна цяпер і сваіх і Надзіных свіней дагледае. Пакуль управіцца...— уздыхнуў бацька.— Ты грошай нам не шлі... Мы цяпер не менш за цябе зарабляем. І сябе больш глядзі. Пастарэў ты неяк... З твару асунуўся,— гаварыў ён і глядзеў на свае рукі.

Павел адчуваў, што бацьку няёмка вось так наказваць, што ён, дабрадушны і ціхмяны, сядзеў бы і толькі ўздыхаў, каб не маці загадала «награзіць троха на хлапца».

— Ну, то мо я пайду да Антося,— Павел устаў, апрануў паліто, пацягнуў пыжыкавую шапку, узяў з-пад лавы чамадан.

Бацька выйшаў за ім на парог. Павел затрымаў яго руку ў сваёй:

— Ну, калі заеду,— напішу. Глядзеце тут адно аднаго, а калі што якое, не шкадуйце на тэлеграму.

У веснічках ён агляну́ўся: бацька яшчэ стаяў на парозе, і вецер варушыў яго рэдкія сівыя валасы.

## II

Антось падвёз Паўла да самага аўтобуснага прыпынку — нізенькае, аселае хаты, палавіну якой займала цырульня, а другую — аўтобусная каса і пакойчык чакання з нізенькімі лаўкамі паўз сцяны. Павел занёс чамадан у пусты пакойчык чакання, паставіў пад лаўку. Да аўтобуса заставалася больш дзвюх гадзін, і трэба было недзе прабавіць час. Павел спачатку зайшоў у сельмаг, дзе за прылаўкамі неахвотна перакідаліся словамі нязграбныя, як кулі, прадаўшчыцы ў чорных халатах паверх паліто, потым у новую невялічкую кнігарню і доўга бяздумна перабіраў на паліцах кнігі, пакуль не натрапіў на знаёмае імя — Эрнест Хемінгуэй. За апошнія два гады ён прачытаў толькі адну кніжку. У ёй расказвалася пра старога чалавека, аслабелага і галоднага, пра вялікае бязлітаснае мора, якое адабрала ў старога ягоную вялікую рыбіну. Павел чамусьці верыў, што пісьменнік расказваў пра сябе, і запомніў яго імя.

Павел купіў кніжку, выйшаў з кнігарні. Больш ісці не было куды. Ён спыніўся, закурыў.

— Павел! Павел! Гэта ты? Няўжо?

Ён агледзеўся на голас, на смяшлівую жанчыну ў чырвонай шапачцы, якая працягнула яму руку ў ружовай рукавічцы, і не мог успомніць, хто гэта.

— Няўжо не пазнаў? Эх ты, Атос,— усё смяялася жанчына.

— Таня?.. Я не сасніў? — разгубіўся ён і ў разгубленасці доўга і моцна ціснуў яе руку, цёплую нават скрозь рукавічку.

— І не пазнаў,— дакарала жанчына.

— Не дзіва. Цябе пазнаць... Ты куды едзеш?

— Не, да мацеры прыехала. Гасцюю. А ты куды?

— Да Слуцка, а адтуль на Мінск, а пакуль будзе аўтобус, перада мною Грэзак з усімі яго славутасцямі,— пажартаваў ён.

— Пайшлі ў сталоўку, там можна пасядзець, пагаварыць.

— Пайшлі. Ты, здаецца, некалі рабіла ў гэтай сталоўцы? — запытаўся Павел.

— А было,— коратка кінула яна, і Павел зразумеў, што больш пра работу ў сталовай не трэба ўспамінаць.

Яны змоўклі.

Паўлу ўспомнілася, як ён, яшчэ школьнік-старшакласнік, трапіў у Грэзак, дзе кожную суботу вечарам у парку

былі танцы. Ён тады пазнаёміўся з нізкаю смуглявую дзяўчынаю, з рэзкімі мужчынскімі сківіцамі і чорным пушком на верхняй губе. Ён праводзіў яе некуды на ўскраіну, у ціхую вулачку. Яны ішлі аселіцаю, праз агароды ў сад. Дзяўчына спынілася пад яблыняю, і ён доўга цалаваў яе. Яна адкідала назад галаву, адхілялася, і ён адчуваў яе пругкае цела...

Пад раніцу ён прачнуўся ў тым жа садзе, у будане, прапахлым старою запыленаю саломаю. Побач спала яна. Ружовая байкавая коўдра спаўзла набок і агаліла невялічкія, белыя на загарэлым целе грудзі, на якія падаў праз шчыліну вузкі пыльны праменьчык.

Пасля таго ён больш не ехаў у Грэзак, пакуль аднаго разу выпадкова не сустрэў яе ў суседняй вёсцы на вяселлі. Яна ўсміхалася яму, пыталася, чаму больш не прыязджае, падморгвала і трымала пад руку высокага рыжага хлопца, якога ўжо пачынала разгойдваць выпітая за дзень гарэлка...

— Пра што задумаўся? — запытала Таня. Яму здалося, што яна здагадалася, пра што ён думаў.

— А так... Думаю, што падрос парк і старых ліп многа выразалі,— сказаў ён.

— Больш табе думаць няма аб чым,— усміхнулася яна.

У сталовай толькі за адным столікам сядзелі мужчыны і цягнулі піва. Гаварылі яны гучна пра каленвалы і падшыпнікі, на кухні смяяліся афіцыянткі.

Павел з усмешкаю глядзеў, як буфетчыца паўбакала напампоўвала з бочкі звычайнай аўтамабільнай помпай і далівала бакал з чайніка, які стаяў на ўключанай электраплітцы.

Яны селі за столікам у кутку, пад фікусам.

— Павел, гавораць, ты пакінуў інстытут? Ты ж хацеў стаць гісторыкам. Помніш?

— Помню. Крыху не разлічыў. Думаў ад жыцця пад саламяную страху схавацца, за комін на бацькавай печы,— неахвотна адказаў ён. Падумаў, што Таня сустрэнецца дзе-небудзь з аднакласніцамі і будзе шчабятаць, чаму ён з тропу збіўся.— Скажы лепш, як ты сама жывеш. Я ж нічога не ведаю. Ты хацела стаць настаўніцаю, пасяліцца ў вёсачцы... А цяпер, чуў, ткачыха, жывеш у Баранавічах.

Яна ўсміхнулася проста і шчыра, і ён падумаў, што яна за гэтыя гады неяк папрыгажэла і памаладзела.

— Не прайшла па конкурсу. Усе раз'ехаліся, а я афіцыянткаю ў гэтым Грэзку... З адчаю кінулася на тэкстыльшчыцу. Там з Віцем пазнаёмілася. Цяпер кватэра свая...

Ён у нас майстрам і «мы на фабрику вдвоем утром рядышком идем». У тэхнікум паступіла...

— Педагагічны?

— Ну што ты! У тэкстыльны,— па-дзіцячаму наіўна здзівілася яна.

Павел успомніў, як яны з Таняю на ўроках перакідваліся запіскамі. Яна называла яго «гісторыкам», а ён яе «мамкаю». Ён тады быў нават закаханы ў яе, і яны разам рыхтавалі да маскараду касцюмы мушкецёраў.

## III

І ўжо едучы ў аўтобусе, глядзеў Павел на аснежаныя палі ў нізкай зімовай шэрані і не думаў пра сустрэчу, стараўся не думаць. І было шкада сябе. Вось Таня смяецца, шчаслівая, хоць і не стала настаўніцаю і не жыве ў вёсачцы, як марыла, а працуе ткачыхаю. А ён, выпускнік-медаліст, праз паўгода кінуў інстытут, паспрабаваў застацца ў вёсцы, зноў уцёк у горад, чацвёрты год аціраецца кампрэсаршчыкам, жыве ўсё ў тым жа абшарпаным інтэрнацкім пакоі. І ён нічога не хоча мяняць, нешта ўсё яшчэ не дае яму забыцца, як забылася Таня, нешта мучыць яго, як некалі мучыў сумны позірк маці, калі яна праводзіла яго на экзамены ў інстытут — нібы і цяпер яна глядзіць яму ўслед.

Успомнілася. Іх, чатырох вясковых хлопцаў абітурыентаў, на час экзаменаў пасялілі ў новым інтэрнаце, у трынаццатым пакоі. Адзін з іх паступаў на геаграфічны факультэт. Ён быў нізкі прыгожы хлопчык з сінімі вачыма і зачэсаным набок, як на малюнку ў піянера, роўным бялявым чубком. У яго было прыгожае ласкавае прозвішча — Галубок. Ён з першага дня сядзеў на паласатым матрацы, падкурчыўшы па-турэцку ногі, і чытаў.

Другога яны называлі Мішэлем за тое, што ён вучыў у школе французскую, а яны былі «немцамі». Мішэль насіў даволі элегантны касцюм і надзіва тупаносыя чаравікі з перастрочанымі ўпоперак наскамі. Мішэль ужо два гады працаваў у школе — вёў фізкультуру і спевы; ён быў упэўнены, што ў яго неблагі голас і часта вечарамі спяваў сумныя аднатонныя песні.

Ні Галубок, ні Мішэль не паступілі. Павел даведаўся пра гэта пасля. Сам ён за тры дні атрымаў дзве пяцёркі і як медаліст быў залічаны без конкурсу. Пра няўдачу хлопцаў расказваў Паўлу чацвёрты жыхар іхняга пакоя Віцька

Саўка. Павел ніколі не думаў, што гэты піжанаваты хлопец у вузенькіх штоніках і ў чаравіках на тоўстай, як падшыты біты валёнак, падэшве паступіць у інстытут, не думаў, што дапаможа Віцьку і бацькаў знаёмы журналіст, які разам з Віцькам хадзіў на экзамены,— з першага дня Віцька толькі і ведаў, што прападаць з «кадрамі», як ён называў дзяўчат. Праўда, Віцьку з інстытута ўсё ж выгналі, праз год.

Выклік на вучобу Павел атрымаў за тры дні да пачатку заняткаў. На дзвярах дэканата вісеў куцы спіс першакурснікаў, якім далі інтэрнат. Паўла ў спісе не было, і ён стаў у чаргу на прыём да дэкана. Стаяць давялося нядоўга: падфуфыраныя клапатлівыя мамы выскаквалі з дэканата са слязьмі на вачах, а інтэлігентныя таты з чырвонымі ад злосці тварамі залішне гучна зачынялі за сабою дзверы. Яны забіралі чамаданы і вандзэлкі і разам з дзеткамі шыбавалі па калідоры да дзвярэй.

— А вам што? — злосна запытаўся з-за стала худы і стомлены чалавек з вялікімі сінімі кругамі пад вачыма.— Што я вас дадому ўсіх забяру, у сваёй кватэры інтэрнат зраблю? Няма месц!

Ён, відаць, стрымліваўся, калі гаварыў з паважанымі татамі і мамамі, а на Паўла крычаў. Павел разгубіўся і пачаў адыходзіць ад дзвярэй. А чалавек усё крычаў:

— Ідуць і ідуць, як непісьменныя! Якога чорта...

Павел ужо быў за дзвярыма, а чалавек усё крычаў у кабінеце, і ніхто больш не адважваўся зайсці туды.

Павел завёз чамадан на вакзал, у камеру захавання, і да вечара хадзіў па вулачках з прыватнымі дамамі. Кватэры былі або занятыя ўжо, або наогул не здаваліся. К вечару ў яго пачала балець галава ад непрывычнага гарадскога шуму і ногі быццам сабакі рвалі. Ён забраў чамадан і паехаў да нейкай далёкай сваячкі, якая жыла ў горадзе.

Сваячка была жанчына гадоў пад сорак. Замуж яна выйшла позна, і праз год муж пакінуў яе. У яе нарадзілася дачка, якой было ўжо гадзікаў тры. Яны так і жылі ў маленькім пакойчыку з адным ложкам, шафаю і сталом у куце. Паўлу паслалі на падлозе, нагамі пад стол.

Кватэру ён так і не мог знайсці і жыў у сваячкі больш за месяц, спаў на падлозе на старым матрацы нагамі пад стол. Потым разам са сваячкаю прыйшоў лысы мужчына ў двухбортным пінжаку і маленькімі рыжымі вусікамі пад самым носам. Мужчына быў чыста паголены і пах трайным адэкалонам. З сабою ён прынёс бутэльку віна. Сваячка намякнула Паўлу, што, можа б, ён схадзіў у кіно...

Пасля гэтага вечара яна пачала часцей пытаць, калі Павел знойдзе кватэру. Ён усё разумеў.

Праз тыдзень Павел занёс у дэканат заяву «па асабістым жаданні».

І калі ехаў у аўтобусе дадому, з радасцю думаў, што больш не будзе сядзець на лекцыях з хлопцамі, якіх не ведае, не будзе па гадзіне стаяць у чарзе, каб паабедаць, не будзе балець галава ад шуму, не трэба будзе шарахацца на вуліцы і аглядвацца на машыны. Вось будзе працаваць ён трактарыстам, будзе зімою прападаць на паляванні, праседжваць вечары ў клубе... І нават у галаву не прыходзіла, што яму не павераць, быццам ён пакінуў інстытут, што маці будзе частаваць яго, як госця, што клуб адкрываецца толькі раз у тыдзень, калі прывозяць кіно, што ён праз два тыдні ўцячэ назад у той самы горад, уцячэ з радасцю і палёгкаю...

За акном аўтобуса хістаецца замецены луг, над якім толькі зрэдку чарнеюцца вярхі лазовых кустоў. Павел падумаў, што хутка павінен быць паварот на Слуцкую шашу, і ўсміхнуўся з таго дзівака студэнта, якога спалохаў горад і ад якога ён захацеў схавацца ў вёсцы. І толькі непрыемна крыху стала ад думкі, што знайшоў ён у горадзе.

Аўтобус павярнуў на шашу, і за акном прамільгнула адвечная бяроза з пасівелым, у чорных трэшчынах камлём, з абпаленаю маланкаю галавой, абломленымі ветрам магутнымі рукамі-галінкамі, з якіх цягнуліся ўверх маладыя бярозкі — нібы старая згорбленая маці трымае на руках сваіх дзяцей, якія адарваліся ад зямлі і цягнуцца ў халоднае і невядомае неба.

## *Абочыны*

### *I*

— Здарова, мама! А бацька дзе?

Волька аж сцепанулася, разагнулася надта хутка, і боль востра адазваўся ў паясніцы, пад грудзьмі.

Валерык стаяў у разоры між цяўніку ў джынсах, у рубашцы з закасанымі рукавамі, чарнявы, рослы, як бацька.

— Трэба было апырскаць, а то рукамі,— Валерык плюнуў убок, кіўнуў на слоік з газай, у які Волька збірала каларадскіх жукоў.

— Вы ж скарэй сабе ў горла папырскаць спяшаеце...

Абіраць жукоў і позна было ўжо, адцвіла бульба, але і глядзець на гэту плойму на зялёным не ставала цярпення.

— А ты чаго прыкурэў у рабочы дзень? — папыталася яна ў сына.

— Прыехаў вот...

— На чым прыехаў?

— На сваёй.

— Чаго?

— Ну а што? Шэф пуцёўку падпісаў... Папяроўка яшчэ не асыпалася? Яшчык яму трэба падкінуць.

— Валя з табою?

— У яе субота рабочая. План даваць трэба.

Нявестка гэты план «давала» часта.

— Забраў бы і яе, ягады абарвалі б, закаталі ў банкі...

Волька глядзела на сына: яна не магла ўлавіць, калі ён гаворыць праўду, а калі абманвае. Можа, таму, што часцей за ўсё ў сказаным была і праўда, і няпраўда. Як жыве сын і нявестка, яна толкам не ведала. Дагадвалася, што не надта гладка. Валерык часта наязджаў дадому адзін, цаляў, каб трапіць на якое вяселле ці фэст у сваёй ці суседняй вёсцы. Фэстамі і дасюль называюць у вёсках гулянкі, якія арганізоўвае раз улетку моладзь. Ажаніўся, дзіця гадуе, а мяркуе яшчэ палятаць. Бацькава натура. Са школы навучыўся і чарачку куляць, і ў бойку гатовы, як порах. Дасюль угамону і сталасці няма. Ды і Валя, мабыць, не лепшая.

Волька нікому не гаварыла, але спакайней было, калі дзеці не прыязджалі. Тады пачынала думацца, што ў іх усё добра, бо хлопцы яе не дурныя, не горшыя за другіх. І сэрца менш балела, і ціск не падымаўся. На свайго ўжо, на Баранчыка,— мужа яна прывыкла зваць па мянушцы, ды ён і адзываўся на яе,— увагі не звяртала. Змірыліся нервы, ці што, прывыклі да ягоных выбрыкаў. Ды і ён пастарэў, не тое здароўе — гарэлка свайго не даруе. Цяпер, калі ўспяваў дзе хапянуць, то не надта і шалеў — зваліўся спаць, не лез біцца, і яна не хадзіла ў сіняках.

— Дык дзе бацька?

Валерыку не стаялася на месцы ад таго, што маці гэтак прыглядаецца да яго, быццам нешта западозрыла.

— У крэмль свой схаваўся. Міліцыя сёння ў калгасе лавіла матацыклістаў.

— Ясна,— Валерык зноў рашуча плюнуў.— Кідайце гэту работу, заўтра апырскаем.

— Позна ўжо пырскаць.

Валерык пашамаў на двор, а Волька зноў нагнулася над цяўнікам. На добры лад, то пустая гэта яе работа. Але думалася спакойна, пра сваё. Усё ёсць: і добрая хата, і сад, і агарод, выфарбавана і выраблена. Толькі няма гэтаму радасці і няма здароўя, нават ахвоты рабіць работу няма. І ўся гаспадарка быццам шэрая, запыленая ўся.

І боль у сэрцы, і ціск, дактары гавораць — ад нерваў. Таму і лякарства не дабраць.

Волька ўздыхнула.

Валерык тым часам выняў кіёк, якім былі закладзены дзверы ў веранду — каб ведалі, што ў хаце няма нікога. У хату не пайшоў, з сянец завярнуў у каморку, на лесках узлез да люка на вышкі. Хавацца на вышках прыдумаў некалі ён. Калі ўзлезці туды, уперці калок у крокву і ў люк, то ніхто не дабярэцца. На вышках ён хаваўся, калі не хацелася ісці ў школу альбо ад бацькі, каб не адлупцаваў. Гэта ўспаміналася лёгка. Ды і ў жыцці ў Валерыка ўсё было лёгка: як прасвістаў у школе, потым у арміі, паехаў у горад, ажаніўся, але ў жыцці быццам нічога і не перамянілася.

Цяпер вышкі сталі бацькавай крэпасцю. Хаваўся адсыпацца пасля п'янак. Выбавіць яго адсюль мог толькі голад. На гарышчы стаяла паломаная раскладанка, на ёй падушка і стары кажух.

Волька час ад часу ўчыняла пагром гэтага логава, выкідала і раскладанку, і падушку, і кажух, але неўзабаве ўсё вярталася на свае месцы.

На стук ніхто не адазваўся, і Валерык загрукаў мацней.

— Бацька, канец асадзе! Гэта я,— падаў ён голас, бо зразумеў, што стукам нічога не возьме.— Чуеш, бацька, гэта я, Валерык.

На вышках пачуліся крокі.

— Ты?

— Я, не бойся. Раскідай барыкаду.

Люк адкрыўся. Сам Валовіч злазіць на зямлю грэшную не збіраўся.

Валерык ускочыў на гарышча, дастаў з кішэні цыгарэту.

— Куды гэту суслу! Пажару не хватала! — прыкрыкнуў Валовіч на сына. Ён сам не курыў і не любіў, што курыць сын.

— Здароў, недаступны. Які крумкач табе сюды яду носіць?

Валерык падаў бацьку руку. Абодва падобныя, толькі

адзін малады, чысты, а другі ўсохлы, маршчыністы, нібы пакамечаны ўвесь. Вісела на ім рубашка, штаны віселі. Маладога адзенне аблеплівала, целу быццам і цеснавата было ў джынсах і ў рубашцы.

На гарышчы стаяла духата, хоць на дах і падаў цень ад клёна. Валерык падышоў да шчыта, адчыніў акно.

— Чаго акапаўся? — з выгляду бацька не быў п'яны.

— Лавіць прыехалі. Я машыну кінуў на цэнтральнай і цярэспаля дадому.

— Хто там вас ловіць?

— Міліцыя. Цяпер толькі так. У каго без нумароў, усе матацыклы пазабіралі. Пад'едуць к канцу работы, трубку ў зубы — і будзь гатоў.

— І што з табою зробяць? Хто заўтра малако павязе? Міліцыянер не астанецца малако вазіць.

— А яны штрафу. І самі шастануць, і калгас яшчэ следам. Дарагавата стала паддаваць.

— Не вельмі вас напужаеш. Хватануў жа недзе.

— Што я хватануў? Любецкаму лаўкі з клуба падвёз. У яго вяселле заўтра. Бутэльку чарніла на двух выпілі. А ты чаго прыкурэў у рабочы дзень? Вытварыў нешта?

Валовіч паглядзеў на сына.

— Мая ўчора палезла з рукамі пад нос. Па смаркачах даў троха,— нехаця прызнаўся Валерык. У тым, што дзве ночы не начаваў дома, «прагудзеў» з кампаніяй, прызнавацца не збіраўся. І што аванс прасадзіў — таксама.

— З бабамі рукі не вельмі распускай. Гаварыў табе — не спяшай голаў ушчаміць. Мог найсці і з хатай. А то шэсць чалавек сядзіце на адной кухні. Успеў бы...

Валерык махнуў рукой — пра што гаварыць. Мала ажаніўся, дзіцяці ўжо трэці год, а з кватэрай і не свеціць нічога. Але бывае і горш. І Валя баба адходлівая.

— Ты мо прывёз чаго? — стары Валовіч скоса кінуў вокам на сына. Той час, калі ў яго самога заўсёды была гарэлка, калі рабіў яе сам, прайшоў. Пакуль новыя законы і пакуль міліцыя, Волька разбамбіла ў варыўні ўсю ўстаноўку.

— У машыне.

— Ідзі, пакуль маці на пляцы. А я сяду, перакусіць чаго гляну.

Праз хвілін дзесяць бацька і сын на гарышчы мірна вялі гаворку, абодва задаволеныя і супакоеныя.

Вечарам Валерык ездзіў на возера, пакупаўся. Вячэралі маладой бульбай з халадніком і сваёй каўбасой, якая

дасюль вісела ў каморы. Гледзячы на мужа і на сына, якія хораша сядзелі за сталом і гаварылі, Волька дастала з шафы, якая замыкалася на ключ, і паставіла на стол бутэльку віна. Яна, задаволеная, не заўважыла, як стары Валовіч падміргнуў сыну.

Пасля вады, пасля вячэры, змучаны чадам перажытых дзён, Валерык соладка заснуў пры адчыненым акне адзін на шырокім белым ложку, аж слінку пусціў на падушку.

Прачнуўся адразу ад сонца, якое свяціла ў акно. У галаве было ясна і свежа. Цела дужае, маладое. Лёгка ўстаў на ногі, усцягнуў штаны, выйшаў на двор.

Маці пры плоце на лаўцы перамывала толькі што сарваныя першыя агуркі.

— Ну, выспаўся?

— Выспаўся. А дзе бацька?

— Малако павёз бацька. Ідзі снедай, там у верандзе на стале стаіць. Ужэ і агуркоў табе найшла.

Толькі цяпер Валерык убачыў, што пры верандзе стаіць скрынка яблык і прыгатаваная яму сумка.

— Мне ж у панядзелак на работу, успею...— пачаў Валерык, але маці не дала дагаварыць.

— Не, сынок, у цябе сям'я, дзіця. Едзь і пагуляй з ім. Тут вяселле, нашто мне думаць, дзе ты п'еш, дзе лётаеш, пакуль ушчэмішся? Каб Валя на мяне крыўдавала? На выхадныя прыязджайце ўсе разам, я малога даўно не бачыла...

Валерык павёў вокам туды, куды зірнула маці, убачыў пад лаўкай ля плота парожнюю бутэльку з-пад гарэлкі, якую ён учора выпіў з бацькам, і зразумеў, што так і будзе, як сказала маці.

— Ладна, паедзем,— бесклапотна згадзіўся ён, кіруючы сваёй дарогай за хлеў. Два дні сварыцца з жонкай ён не планаваў. Памірыцца з ходу наўрад ці ўдалося. Але перад маці нельга было падаваць выгляду, і ён па-дзелавому хутка выпіў чаю і вырупіў з двара.

Волька стаяла ў варотцах, глядзела ўслед машыне. І з палёгкай, што паехаў сын, і з сумнай трывогай. Думала, што не надта і заработкі ў горадзе, і жыць няма дзе. Але не магла нават і павярнуцца падумаць, каб аставаўся тут, у вёсцы, не бачыў ні выхаднога ні прахаднога, ні дня ні ночы, каб зжыў так, як яны, бацькі.

Па вуліцы Валерык ехаў паволі, нібы забыўся нешта, паляпаў па кішэнях — цыгарэты асталіся на стале. Спыніўся ля магазіна.

У мураваным з цэглы будынку пасля двара было прыцемна і халаднавата. Прадаўшчыца насыпала з мяшка ў торбу цукар.

— Дзень добры,— павітаўся Валерык.

Прадаўшчыца зноў новая. Мянялася іх на год па тры, а то і па чатыры. Прыязджаюць на работу з горада на аўтобусе.

Азірнуўся і мужчына, які трымаў торбу. Гэта быў бацька аднакласніка Мішкі, з якім Валерык некалі сядзеў на адной парце і разам ездзіў на гулянкі да арміі. Цяпер абодва жылі ў адным горадзе і два гады ўжо як не бачыліся.

— Здароў, Валерык,— дзядзька Федзя паставіў на вагі торбу з цукрам.— На выхадныя? — пытаўся ён, пакуль магазіншчыца важыла цукар.

— Не, падскочыў тут, шэфу яблык трэба было ўзяць.

— Дык ты на машыне? Можа, падкінеш мяне на Дубровы?

Да Дубровы было з кіламетр, калі не меней.

— Пра што тут гаварыць. А дзе цяпер гаручае? — папытаўся ён у прадаўшчыцы, кінуўшы вокам на знаёмую паліцу, цяпер застаўленую слоікамі з варэннем, якое ў вёсцы ніхто не купляў.

Прадаўшчыца з гонарам зірнула на яго, нічога не адказала застукала лічыльнікамі.

— Цяпер толькі ў адным магазіне, у цэнтры калгаса, а так усюды паздымалі. Сур'ёзна ўзяліся. Пахмяліцца хацеў?

— Не, курыва дома забыў.

Праз некалькі хвілін «Масквіч»-пікапчык курэў па палявой дарозе між запыленага бульбоўніку да зялёнай вёсачкі Дуброва.

Назад машына ехала ўжо далёка па абедзе. За гэты час Валерык паабедаў у дзядзькі Федзі, выпіў пару шклянак віна, каб было весялей, схадзіў пакупацца на сажалку, пакуль дзядзька Федзя з жонкай сабралі Мішку і маладое бульбы, і скрынку яблык таксама, і агуркоў, і цыбулі...

Ехалася Валерыку лёгка, не думалася пра жонку, пра тое, што будзе ў горадзе — усё наладзіцца, не першы раз. Нават не шкада было, што не ўдалося астацца пагуляць на вяселлі.

Валерык уключыў стары і разбіты транзістар, перавязаны ізалентай, які вазіў на сядзенні побач. Калі яшчэ на шашы пападзецца харошая спадарожніца, то і зусім нічога.

Але людзі ехалі не з вёскі ў горад, а з горада ў вёску і ні спадарожніка, ні спадарожніцы Валерыку не трапілася на асфальце, затое дарога была амаль без машын, здавалася, лёгкая і свабодная, як і сам ён.

## *II*

На дзвярах ліфта вісела залапаная пальцамі у мазуце шыльдачка «Ліфт на рамонце». Валянціна Пятроўна перавяла дыханне,— душна на дварэ, марачыла, нібы на дождж. І рашыла не злавацца на майстроў, якія бяруцца за рамонт, нібы назнарок, калі ёй ісці дадому. Паволі, каб не задыхацца, пайшла па лесвіцы. Злавацца сёння нявартa, дзень удаўся. Усё, праз два дні самалёт і два тыдні паўднёвага сонца. Яна мае права на гэта. Заслужыла.

Валянціна Пятроўна ўзышла на чацвёрты паверх, спынілася перад дзвярыма кватэры, абабітымі карычневым дэрмацінам і перацягнутымі залацістай стрункай, дастала з сумачкі ключы.

У прыгожай цемнавата і прахалодна. Валянціна Пятроўна разулася, уключыла святло, агледзела сябе ў трумо. У целе жанчына, але не аплыла тлушчам, на твары няма дробненькіх, як павуцінкі, старэчых маршчынак. І адчувала сябе молада, лёгка, здавалася і маладой, і стройнай, хаця пяцьдзесят чацвёрты памер адзення садзіўся ўжо на яе тугавата.

Валянціна Пятроўна скінула кофтачку, марлевую, з лёгкімі веернымі рукавамі, яшчэ раз азірнулася на сябе ў трумо, зайшла на кухню, нацадзіла са слоіка ў кубачак настойкі чайнага грыба, укінула ў яго два кавалачкі лёду, зайшла ў залу і прысела на канапу да тэлефона.

Білеты да Сімферопаля і назад ляжалі ў сумачцы. Аставалася спакаваць чамадан — і Чорнае мора яе. Білеты «зрабіла» знаёмая касірка. Спецыяльна на выхадныя з-за гэтага асталося ў горадзе. Сёння адвезла ёй цукерак.

— Надзя? Гэта я. З білетамі ў мяне праяснілася. Калі ўспею, пад канец дня загляну на работу. Я ж, здаецца, усё табе перадала, нічога не забыла? А калі не ўспею, то пасля водпуску. Што табе прывезці? Ну, спецыі само сабой. Шчаслівa табе.

Валянціна Пятроўна паклала трубку. На работу яна сёння не збіралася, таму ўчора аддала ключы намесніцы.

— Валодзя? Здароў, сын. Што ў цябе?

— Як дагаварыліся, мэм,— з усмешкай адказаў сын.

Яна нібы убачыла яго — рослага, з чорным матыльком на белай рубашцы, спартыўна астрыжанага пры насценным тэлефоне ў стылі рэтра тут жа, ля стойкі ў бары. Сын заўсёды разумеў маці з паўслова яшчэ са школы. Скончыў кааператыўны тэхнікум, хаця цягі да навукі ніколі не меў. Рашыла яна: дыплом есці не просіць.

У бар уладкавала — сядзець упраўленцам пры гандлі маладому мужчыну няма чаго.

— Як у цябе?

— Парадак. Білеты ў два канцы. Сёння спісак прыйшоў з выканкома. Зацвердзілі.

— Значыць, адвячоркам пад'язджаю?

— Прыязджай.

Валянціна Пятроўна ўсміхнулася: Валодзю трэба была кватэра, яна прыкмеціла па мінулых гадах, што паліваць вазоны ён прыязджаў не адзін, і не з жонкай. У гэтым не бачыла бяды — галоўнае, каб прыгоды не мяшалі сямейнаму жыццю. Ажаніўся Валодзя ўдала. Ліда і прыгожая, і разумная. Кончыла бібліятэчны, дачку ўмее гадаваць, гаспадарку весці. І не з тых, што з другім паедзе «кветкі паліваць». Сваты людзі талковыя. Разам маладым трохпакаёвы кааператыў пабудавалі.

— Можна Анатоля Васільевіча?

Праз некалькі секунд пачула сухое:

— Так, слухаю.

— Добры дзень, Толя.

— Дзень добры. Усё ў парадку? — голас у трубцы стаў густы і мяккі. Па гэтым яна павінна была здагадацца пра тое, што ён ведае — усё нармальна. Без яго гэта не абышлося.

— Зацвердзілі. Сёння спіскі прыйшлі. Дзякуй.

— Можа, выедзем на месца, паглядзім?

— Не магу сёння. Давай заўтра, пасля абеду?

— Давай. Там, дзе заўсёды?

— Ага,— Валянціна Пятроўна не стрымалася, і яе «ага» сказалася занадта хутка.

З Анатолем Васільевічам яна пазнаёмілася гадоў шэсць назад, у санаторыі. Хоць і равеснік яе Генадзя, але выглядае намнога маладзей і прыгажэй. Начальнік упраўлення, чорная «Волга» і шафёр... Першыя два гады яны і адпачываць «трапнялі» ў адзін санаторый. Дзеці ў яго дарослыя, кватэра чатырохпакаёвая, у цэнтры горада. Але, як заўважыла Валянціна Пятроўна, у горадзе ён амаль не жыў — зімой і летам на дачы. І па тым парадку, які панаваў там,

Валянціна Пятроўна здагадвалася, што на дачы бывае толькі ён. У яе пра сям'ю не распытваў, пра сваю не расказваў, даў зразумець, што сямейнае жыццё, як гаворыцца, не ўдалося.

Сустракацца працягвалі, хоць і не часта. Цяпер ён памог, каб яе прозвішча асталося ў інстытуцкім спісе на садовы кааператыў, хоць яна, загадчыца стала заказаў, да інстытута — прышый кабыле хвост. Але што ў гэтым свеце не прышываецца? Калі і ёсць што такое — то не з гандлёвай сферы. Гандаль да ўсяго падыходзіць і ўсюды праходзіць — гэта яна ведала цвёрда і іншаму паняццю веры не магла даць. Аставалася пазваніць мужу.

— Генадзь? Усё нармальна. Як, што нармальна, што нармальна? Спісак на ўчастак зацвердзілі, білеты ўзяла. З Валодзем паедзем сёння да Олі... Да якой Олі? Помніш прыязджала да нас? Падругі мае, з якой некалі разам былі ў горадзе. Пра лес хачу дагаварыцца. Заўтра ў абед вернемся. На юг я сама ўсё збяру, глядзі дома... Цалую.

Цяпер у яе быў вольны час, каб памыцца пад душам, паабедаць, сабраць сумку з пачастункамі і падарункамі. Пад летнімі тугімі струменьчыкамі вады ў ванне яна не спяшала. Думала, як добра зрабіла, што не сарвалася тады ўслед за Волькай назад ў вёску. Валянціна Пятроўна аж перасмыкнула плячыма, калі ўспомніла інтэрнат у барачным будынку, работу на рыштаваннях. І немаладыя, і нямодныя, куды да гарадскіх ім было тады. У старых дзеўках так і аставацца, пакуль кватэра, хоць будаўнікам і давалі ў першую чаргу. Волька тады і шарахнулася назад — замуж выйшла, зарабляць пачала на свінарніку, пабудавалася. А потым і муж запіў, і здароўе работа ўзяла. Валянціна Пятроўна не пазнала нават спачатку Вольку, калі зайшла да яе, гэтак састарэла былая сяброўка, скруціла яе, хоць і багатае вясковае жыццё. Нашто яно, калі за работай свету не бачыш? Праўда, і горад не для ўсіх мёдам намазаны. Добра, што яна тады прыгледзелася і прынаравілася: пайшла буфетчыцай у вайсковую часць, а там і Генадзя знайшла. Старшыну, як на цяперашняе, то прапаршчыка, старэйшага на трынаццаць год. Ажаніла старога халасцяка на сабе, піць адвучыла, кватэру атрымалі. Цяпер у Генадзя пенсія добрая і работа дзяжурным на аўтастаянцы. І кожнае лета на поўдзень едуць... Яе інакш як Валянцінай Пятроўнай у інстытуце ніхто і не заве.

Выключыла душ, зняла з галавы гумавую шапачку, прыцерла запацелае люстэрка над туалетнай палічкай, пагля-

дзелася — прыкідвала, як адзявацца, каб ехаць у вёску: фуфырыцца і фарбавацца не выпадала — усё ж прасіць едзе, а не пахваляцца. Яшчэ тады, калі Волька заязджала да іх — накіравалі ў абласную бальніцу на абследаванне,— Валянціна Пятроўна прыкінула, што зруб на дачу можна зрабіць у вёсцы, а потым перавезці. Хаця і без гэтага яна сустрэла б былую сяброўку і дапамагла б усё роўна...

Адвячоркам белыя «Жыгулі», чыстыя, бліскучыя, прамінулі пост ДАІ на кальцавой. Інспектар на сядзенні матацыкла ў цяньку ад вышкі заўважыў і наглянцаваную фарбу, і маладога, чыстага мужчыну за рулём, які ехаў упэўнена, цвёрда. І жанчыну на заднім сядзенні. Інспектар нават пазайздросціў ім, іхняй яздзе — на вольнай ад машын шашы, насустрач цёпламу ветру з палёў і лясному халадку.

Валодзя выйшаў на сваю «крэйсерскую» хуткасць — ад дзевяноста да ста — і ўключыў магнітолу. У салоне машыны быццам заскакалі нябачныя тугія шарыкі: мякка гулялі па абшыўцы і па барабанных перапонках. Патрыётка ўсяго моднага, Валянціна Пятроўна усё ж не магла прывыкнуць да сучаснай музыкі. Любіла больш за ўсё тую, з дзявоцтва «на нём защитна гимнастёрка, она с ума меня сведет», нават заплакаць магла над ёй. Але пра гэта не прызнавалася і на цяперашнюю музыку не нападала, памятала: Анатоль Васільевіч гаварыў, што ўменне прамаўчаць, калі табе што і не падабаецца, прыкмета выхаванасці.

Валянціна Пятроўна ўзяла часопіс з укладышам — там расказвалася, як можна звязаць гетры. Яна вырашыла ўжо, што пасля адпачынку павінна пайсці на аэробіку. А без гетраў якая аэробіка?

Яна не бачыла перад машынай прамой, як страла, асфальтавай дарогі, выгнутай у лагчыну, з насыпанымі свежым пяском высокімі абочынамі. На тым канцы быў відаць цяжкі з прычэпам «КамАЗ», а за ім, як на прывязі сабачка, чырвоны пікапчык.

Валодзя адкінуўся да спінкі сядзення, дабавіў гуку: прыемна было вось так ісці ўніз, а потым угору. Нават спачатку паблажліва ўсміхнуўся з-за таго, што пікапчык паспрабаваў вьткнуцца з-за аўтацягніка на абгон, калі ўсе тры машыны ішлі ўніз, на хуткасці. І ў наступнае імгненне зразумеў, што гэты расхлябаны, разбіты «калгаснік» — гэтак ён аблаяў шафёра — пайшоў на абгон, у лоб яму.

Адным вокам заўважыў, як прыціснуўся да самай абочыны грузавік, сам узяўся ўправа, пакінуў шчыліну пікапчыку, упэўнена, прафесійна. Ён нават пагардліва скрывіўся, калі ўбачыў белы спалоханы твар ліхача, які нібы са сну прахваціўся. І ў гэты ж час пачуў, як віскнулі тармазы пікапчыка...

Ад удару белыя «Жыгулі» лёгка, нібы кардонныя, закуляліся ўніз з адхону, на тонкія белыя бярозы. На другі бок, па ходу, калупнуўшы коламі свежанасыпаную абочыну, паляцеў і сам чырвоны пікапчык. Ад удару дзверцы адчыніліся, машына кулялася і душыла свайго гаспадара, які напалову вываліўся ■ кабіны. На тармазах асеў на грэбень адхону аўтацягнік, аж затрашчаў, завішчаў, разварочваючыся папярок дарогі, і спыніўся. Спалоханы шафёр адчыніў дзверцы, саскочыў на зямлю і шарахнуўся назад: нібы лопнуў вялікі паветраны шар, і адразу ж белая машына ахапілася полымем, якое неяк утробна загудзела, завыла на ўсю лагчыну.

— Куды? Куды вы ляціце? На кусок хлеба зарабіць? Чаго вам не хватае? Маць вашу...

Пажылы чалавек, шафёр грузавіка, усё яшчэ не мог ачомацца, мітусіўся туды-сюды на дарозе, размахваў рукамі адзін пасярод нізіны, у якую з двух бакоў бліскуча, няўмольна урэзвалася шаша з лёгкімі жоўтымі абочынамі.

## *Дома*

Паўлу Канцавому, рэвізору рэспубліканскага КРУ, які раней запланаванага ўправіўся з рэвізіяй у райцэнтры, ні з таго ні з сяго раптам захацелася зазірнуць у родную вёску, дзе ён не быў пасля пахавання маці. На канечным прыпынку ён выйшаў з аўтобуса, ямчэй перахапіў на руку плашч і здзіўлена азірнуўся. Ён не памятаў ні гэтае альтанкі, ні гэтага з сілікатнае цэглы будынка, ні воданапорнае вежы, што высілася крыху воддаль на ўзгорку паміж прысадзістых, пабеленых ужо пацямнелаю ад дажджу вапнаю будынкаў фермы. Ад альтанкі збягала далей уніз, да рэчкі, абсаджаная кволымі тоненькімі ліпкамі новая дарога-сыпанка, а за лагчынаю віднелася вёска.

Павел яшчэ раз агледзеўся на чысценькі фінскі домік крыху воддаль ад белага будынка-гаража. Домік стаяў у ма-

ладым садзе, якога Павел таксама не памятаў. Ён здагадваўся па «казлу», які стаяў ля парога, што фінскі домік — калгасная кантора, і што ўсе гэтыя пабудовы — тое, што цяпер называюць цэнтральнай сядзібаю калгаса.

Павел памятаў гэтае месца толькі з адным драўляным з падпёртымі сценамі будынкам свінарніка. І называлі гэтае месца Курганамі. Тут сапраўды былі курганы, парослыя нізкім кусцістым бярэзнікам, у якім яны, малыя, любілі гуляць «у вайну« і капацца ў вялікім кургане, што высіўся над усёю ваколіцаю,— шукаць залатую карэту, якую закапалі некалі шведы.

Кургана цяпер не было, а на месцы кустоў стаяў гонкі, па-гаспадарску падцярэблены гаёк. Павел Андрэевіч здагадаўся, што пяском з кургана высыпана новая дарога, па якой ён ішоў.

Матацыкл, што з захлёбістым трэскам выхапіўся недзе ад канторы, абдаў яго пылам. Матацыкліст у расхрыстанай, з закасанымі рукавамі гімнасцёрцы, збавіў газ, агляну ўся на Паўла — мабыць, не супраць быў падвезці. Павел адмоўна паківаў галавою, і матацыкл зноў затрашчаў роўна і напорыста.

На месцы Павел спыніўся здзіўлены і разгублены. І хоць яму яшчэ некалі маці пісала, што рэчку «выразалі», што на яе месцы зрабілі канаву, калі асушылі аселіцу, ён не мог усё ж нават уявіць таго, што ўбачыў: замест добрае, пятлястае, затанулае ў халаднаватых аерах і лазняках рачулкі, якая ў паводку разлівалася аж да самых агародаў і пакідала на аселіцы куп'істыя, парослыя асакою лужкі, якія не высыхалі нават у самае спякотнае лета, замест гэтага добрага, ласкавага спадарожніка яго дзяцінства пад бетонным мостам далёка ўнізе, між крутых чорных берагоў, цурчэў жаласлівы празрысты ручаёк — усё, што засталося ад Уюнаўкі. І замест аселіцы з пругкім халаднаватым аксамітам кароценькае густое травы, на якой ён любіў некалі ляжаць, калі вылазіў з рэчкі, стаяў пабялелы палетак буйнага жыта. Напрасткі ад моста на ўзгорак, на тры клёны, якія хіліліся некалі над былым аднаасобніцкім, затым калгасным гумном, якое яшчэ пры яго памяці разабралі на новую канюшню, прападала ў жытах сцяжынка.

Павел ішоў жытамі, і яму ўсё здавалася, што за імі выблісне рэчка, пойдзе цёмна-зялёная аселіца — і гэтае трапяткое, па-дзіцячаму наіўнае спадзяванне, трымцела ў сэрцы трывожным восеньскім лісцікам.

За жытамі былі агароды, і далей сцяжынка бялелася

між завялага і паніклага ад гарачыні бульбоўніку. Па ёй Павел і выйшаў да знаёмае хаты-чытальні пад кашлатымі старымі вязамі.

На дзвярах магазіна, які стаяў праз вуліцу ад хаты-чытальні, вісеў вялізны замок. На вуліцы нікога не было. Стаяла ляная вясковая цішыня, і толькі ластаўкі з рэдкімі ўскрыкамі нізалі паветра,— сонца хілілася да небасхілу, і пачала з'яўляцца машкара.

Павел паволі пайшоў па вуліцы ў канец, успомніў, што сярэдзіну вёскі называлі гарою,— тады ў канцы вёскі вясною і ўвосень стаяла непралазная гразь і чорныя — ад плота да плота — лужыны. Праз колькі хат ад магазіна былі іхняя пачатковая школа пад зялёнаю саламянаю страхою, з густымі бэзавымі кустамі пад вокнамі, як і ва ўсёй вёсцы...

Будынка не было. За роўным шчыкетнікам, між па-гаспадарску дагледжаных град, стаялі тоненькія, прывязаныя за калы прышчэпы, а праз вуліцу весела глядзела на сонца белымі вокнамі новая хата пад шыферам. Павел не мог нават уявіць, хто гэта мог пабудаваць. Ён і не паверыў бы, што на месцы гэтага маладога саду была іхняя школка, каб не адзіны на ўсю вёску каштан, што некалі добра і зычліва высцілаў свой цень на двор у летнюю спякоту, а восенню плакаў цёмна-карычневымі, з лысінкаю-цвіллю каштанамі ў калючых надтрэснутых шкарлупінах. Яны тады хлапчукамі запальвалі вечарам на аселіцы вогнішчы, кідалі ў прысак каштаны і любаваліся, як яны «стралялі», падкідаючы ў цемры іскрыста-чырвоныя грыбкі.

Каштан, як і некалі, стаяў ля плота. Галіны яго былі высока падцярэблены — каб менш было ценю на грады.

Павел надзеў капялюш — ён не памятаў, як зняў яго і чаму,— і пайшоў.

Усё было проста: непатрэбны стары будынак раскідалі на дровы. Павел адчуў, як стала цёпла ў грудзях і гэтая цеплыня даўка перацiснула горла.

Вуліца была бязлюдная. Павел здагадаўся, што людзі паехалі на сенакос, на тое самае Гальскае балота, якое памятаў ён і якое асушылі ў той жа год, калі выразалі і рэчку, і там, мабыць, цяпер парасла густая, у пояс, цімафееўка.

Старэнькая бабулька, што выйшла ў веснічкі, падцягвала пад барадою ражкі белай хусцінкі і бездапаможна ўзіралася ў яго выцвілымі плакучымі вачыма, і ён не мог пазнаць яе.

Далей у канец вуліца была высыпана пяском, і яе бы-

лое «лычоўкі» з самаю большаю лужынаю на ўсёй вёсцы не засталося і следу. Павел ужо не здзівіўся гэтаму, і толькі сэрца застукала часцей, калі за бэзам і вішняком, крыху воддаль ад вуліцы, за ўсё такім жа зазелянелым плотам адкрыўся воку ціхі, акуратна зашаляваны яшчэ свежымі паспля гэбліка дошкамі такі блізкі і знаёмы будынак роднае хаты.

На двары два хлапчукі — меншы гадоў трох-чатырох і большы гадоў васьмі, які, відаць, замяняў малому няньку,— з кансервавых бляшанак і бутэлек ладзілі ракеты — на шырэйшую бляшанку ставілася меншая, [redacted] наверх — бутэлька з наўскос адбітым рыльцам.

Павел спыніўся над хлапчукамі. Большы заўважыў яго і павёў доўгім позіркам ад чаравікаў угару.

— Вы чые, хлопцы? — запытаўся Павел.

— Ліпінскія. Тата і мама паехалі на Гала. Яны вечарам прыедуць,— паважна далажыў хлапчук.

— А вы даўно тут жывяце?

— Мы жылі далёка, у старой хаце,— ткнуў пальцам некуды ўбок хлапчук.— А як купілі новую, сюды пераехалі. Тут жыла бабка, і яна памерла... Дзядзя, [redacted] ў ракету бензін заліваць з бензавозаў? — запытаўся хлапчук.

— З бензавозаў, брат, з бензавозаў,— разгублена пацвердзіў Павел і пайшоў на вуліцу.

Павел успомніў, што сястра пісала яму: хату выкупіў калгас, прапаноўвала грошы.

Ён прысеў пад плотам на лавачку, пацёр ладоняю лоб, нібы хацеў прачнуцца, адкаснуцца ад балючага сну.

Цёплая буйная кропля ўпала на руку Паўла. Над ім нізка хілілася доўгім веццем ніцая вярба. На лісцях яе накручваліся і падалі ў цёплы яшчэ пыл адзінокія кроплі.

А на вяршынях і ствалах бяроз, на шыбінах вокнаў роўна ружовіўся водсветам захад. І на сваім двары маленькія людзі будавалі касмадром. У гэтым была такая няўмольнасць, як і ў аўтобусе, які павязе рэвізора, як і ў экскаватарах, што прайшліся па маленькай рачулцы.

Павел устаў і пайшоў па вуліцы ў канец, на высланую мяккім пылам палявую дарогу, якая вяла назад, да аўтобуса. Ён ішоў паволі, пагойдваўся з боку на бок і сам не заўважаў, што паўтарае бясконца: «Бог ты мой! Бог ты мой!» І ўслед яму свяціла роднае сонца — скупа, наўздагон — і апускалася ніжэй і ніжэй...

# *Наваселле*

## *I*

Вось яна і ехала. І ўсё выйшла прасцей, чым думалася, звычайна неяк. Паштурхалася ў чарзе па білет, выйшла халодным. белым ад кафлі тунелем на платформу. Тоненька пасвістваў на развітанне акуратненькі цеплавозік і пачаў паціху выцягваць вагоны з лабірынту станцыённых стрэлак. Людзей у вагоне было нямнога, і было сцішана, як у прасторнай вясковай хаце, калі не сабралася яшчэ сям'я.

Яна сядзела ля акна, глядзела на стромкія, голыя ў тумане прыдарожныя асіны, на якіх вяла вісела апошняе вільготнае і рэдкае, як сумны ўспамін, лісце. І яна скрозь непрывычны пах вагона, здавалася, чула, як вільготна і густа пахне мокрым галлём і высахлым і цяпер адсырэлым палыном. Яна любіла гэтую пару восені, калі ўжо спустошаны палі, калі наплываюць бясконцыя, нібы роздум, туманы і зрэдку імжаць сівыя рахманыя дажджы. І цяпер здавалася смешным, што яна не хацела ехаць да брата, быццам бы вельмі далёка, быццам бы нездаровы маленькі Паўлік. Проста баялася выбрацца ў дарогу адна і не выбіралася б, каб маці аж не заплакала ад крыўды. Данік атрымаў новую кватэру і адбіў тэлеграму, каб хоць хто з іх прыехаў на ўваходзіны. У тэлеграме ён напісаў і свой адрас. Тэлеграму, хрумсткую, у чатыры складзеную паперку, яна везла з сабою. І ўсё ж баялася, што не знойдзе брата ў горадзе, і дала яму тэлеграму, каб стрэў.

— І вы на нараду? — перапыніў яе роздум вёрткі, нізенькі мужчына ў шэрым касцюме і прысеў насупраць. У яго была буйная лысая галава, раздзеленая напалам вузкім прамым, як росчырк, шрамам ад ілба да макаўкі. Жывыя шэрыя яго вочы чакалі адказу.

— Вы з якое раёнкі? — зноў запытаўся мужчына, не прычакаўшы адказу.

— Я не з раёнкі. Я свінарка,— адказала яна і ўсміхнулася. Мужчына разгублена паглядзеў на яе: на лацкане яе пінжака вісеў юбілейны значок «Звязды», які і звёў яго ў зман. Гэты значок ёй пакінуў Данік, калі быў дома летам.

— Прабачце.

Мужчына яшчэ раз аглянуўся на яе. Вельмі ж не падобна яна была на свінарку, як здавалася яму, у элегант-

ным цёмна-бэзавым касцюме, у чорных лакіраваных шпільках, з «атамным узрывам» на галаве, падфарбаванымі пазногцямі і падведзенымі чорным вачыма.

Яна зноў глядзела праз акно на сумны бярозавы пералесак за рэчкаю, што цямнелася на парыжэлым, як выцертая халява, лузе сярод голых, павіслых над вадою карэннем альховых кустоў. У беразняку бяleліся цынкавымі дахамі нудна стандартныя дачы, цяпер, мабыць, пустыя і непрыветныя.

Захацелася піць. Яна ўстала і пайшла ў буфет, боязна ступаючы на грымучыя і хісткія пераходы з вагона ў вагон.

Ля прылаўка стаяла чарга. Мужчыны тут жа пілі шклянкамі піва, перагаворваючыся і гледзячы за акно.

Маладая жанчына ў спартыўным трыко і блузцы з кароценькімі рукавамі і коратка падстрыжанымі валасамі, якія яна адкідала назад грацыёзным кіўком галавы ці па-мужчынску рукою, расчэсваючы пальцамі, вылучалася сярод іх. Яна была па-дамашняму прыгожая, гэтая жанчына ў тапачках, яна нібы абяцала вось гэтакі ж дамашні зацішак і ўтульнасць і смяялася, белазуба і смела высокаму мужчыну, што стаяў перад ёю:

— Вы ж ап'янееце! Хто вам дазволіў піць віно?

Мужчына нічога не адказаў. Узяў шклянку [redacted] віном, бутэльку з півам і піў тут жа ля прылаўка.

— Яшчэ і піва! Пашкадуйце сябе,— не адставала жанчына.

Мужчына паглядзеў на яе. У яго быў бледны хударлявы твар, перарэзаны складкамі лоб і стомленыя, запалыя вочы з чырвонымі ад бяссоння павекамі. Ён быў не з тых, у каго хапае часу на дарожныя раманы. І жанчына зразумела гэта. Усё яшчэ ўсміхаючыся ўзяла свой напітак і грацыёзна паплыла па калідоры.

Яна ўзяла напітак, шклянку, піла стоячы ля акна, і думала, што, мабыць, і яе Васілю вось гэтак жа недзе ў поездзе навязвалася такая абяцаючая і адкрытая, а ён не змог адмовіцца ці хоць глянуць, як гэты мужчына, каб зразумела. І вось Паўлік без бацькі, яна без мужа. І ёй нічога не трэба, яна больш не падманецца. Пражыве і адна, выгадуе сына... А мужчын яна, слава богу, ведае. І маці праўду кажа, што мужчына, як той воўк, хоць булкамі, не то што хлебам, кармі, глядзіць у лес. Лепш верыць сабе.

## II

Брат не сустрэў яе. Дарэмна яна аж два разы прайшлася па пероне — ніхто не чакаў яе. Змерклася. Фіялетава свяціліся круглыя агеньчыкі на стрэлках. Трывожна нeяк крычалі ў прыцемках паязды. Яна павалі па рыплівых прыступках паднялася на пераходны мосцік, выйшла на плошчу, па якой шустра слізгалі таксі, час ад часу спуджана квакалі сігналамі, цяжка паварочваліся няўклюдныя, як сланы, аўтобусы з утульна асветленымі салонамі. Яна дайшла да будкі даведачнага бюро. На пытанне, як знайсці вуліцу Баўмана, жанчына ў будцы пачала нешта размашыста пісаць на лістку паперы, коратка кінуўшы:

— Дзве капейкі.

Ехала яна трамваем, новенькім, бясшумным, і думала, што вось і трамваі навучыліся рабіць па-людску — плывеш, як у люльцы. Людзей было няшмат. Малая, мабыць, дачка вагонаважатай, паўтарала ўслед за маці назвы прыпынкаў, забаўна блытаючыся, а на адным з прыпынкаў перш за маці пад дружны смех вагона аб'явіла:

— Станцыя Беразай, каму трэба вылязай!

Выйшла з трамвая яна на ўскраіне горада, сярод новых высокіх камяніц. Дзе-нідзе жаўткамі свяціліся над трамвайнымі пуцямі лямпачкі. У цемнаце яна доўга блытала паміж дамоў па перакапанай бульдозерамі і заваленай абломкамі дошак і абрэзкамі труб зямлі, пакуль убачыла патрэбны ёй пяты нумар дома, які быў напісаны на сілікаце нечым чорным. У пад'ездзе яна выцерла папераю выпацканыя ў зямлю туфелькі і стомлена, прытрымліваючыся за поручні, паднялася на чацвёрты паверх, пастаяла крыху, каб аддыхацца і супакоіцца, потым націснула маленькую белую кнопачку званка.

Дзверы адчыніліся адразу. Яны не былі замкнёны, відаць, яе чакалі. У дзвярах стаяў незнаёмы мужчына, апрануты ў касцюм, пры гальштуку.

— Заходзьце. Я чакаў вас,— запрасіў ён і саступіў набок, каб даць ёй прайсці.

Яна прайшла і спынілася ў чыста прыбраным пакойчыку з круглым сталом пасярэдзіне, канапай-ложкам ля сцяны, шафай з кнігамі на ўсю сцяну, тэлевізарам у куце. У другім куце стаяў невялічкі пісьмовы столік, над якім блакітна свяціўся таршэр.

Гаспадар быў яшчэ малады. У яго былі модныя калю-

чыя вусікі, зачэсаныя набок і доўгія, на патыліцу, валасы. Ёй стала не па сабе. Ён спакойна разглядваў яе.

— Я нічога не разумею! Хто вы? — запыталася яна.

— Затое я ўсё разумею. Вы прыехалі да свайго брата. Так? Я атрымаў вашу тэлеграму, але, прабачце, сустрэць не мог: быў на рабоце. І, паміж іншым, я чалавек. Што вас яшчэ цікавіць? — адказаў ён.

— Як да вас папала тэлеграма?

— Не ведаю. Мабыць, памыліліся тэлеграфісткі, калі запісвалі тэлеграму вашага брата. Заўтра мы будзем ведаць усё. Канапу раскладаць умееце? — ён паглядзеў на яе.

— Умею,— разгублена адказала яна.— А што?

— Бялізна і падушка вось тут, у шафе, знізу. Пліту запаліце? — працягваў дапытвацца ён.— Добра. У буфеце каўбаса, яйкі, хлеб. Прыгатуйце, пад'ешце. Можаце ўключыць тэлевізар, на падаконніку магнітафон таксама да вашых паслуг. Спіце спакойна. Дарэчы, дайце я запішу год нараджэння вашага брата. Заўтра я заеду да вас у гадзін дзесяць і скажу, дзе ён жыве,— прадаўжаў распараджацца мужчына і, улавіўшы яе недаверлівы насцярожаны позірк, дадаў: — Я згодзен, што вы сімпатычная жанчына. Калі не давяраеце французскаму, можаце замкнуцца на звычайны, і пакінуць ключ у замку. Спакойнай ночы.

Ён усміхнуўся і знік за дзвярыма. Суха пстрыкнуў замок.

Яна разгублена азірнулася, прысела на крэсла да стала. Вельмі ж нечакана атрымалася ўсё. Неверагодна неяк. Мужчына, кватэра... Устала, уключыла тэлевізар. Ішоў спектакль. На экране круцілі мазурку пышнагрудыя дамы і танканогія ў панталонах кавалеры. Потым яны ўсе гуртам павалілі ў другую залу за прыбраныя сталы. Яна адчула, што хоча есці — так нічога і не ела з раніцы, пакуль дабралася на аўтобусе ў горад, узяла там білет на поезд.

У буфеце яна сапраўды знайшла яйкі, спякла два. Акрамя гэтага знайшлася каўбаса, памідоры.

На ноч не замкнулася на другі замок і заснула адразу.

Прачнулася раніцай, як і прывыкла дома, у пяць гадзін, памкнулася было ўстаць, але ўспомніла, што сёння ёй нікуды не трэба, і заснула зноў. Устала а дзявятай гадзіне, памылася, знайшла шчотку, падмяла пакой. Уключыла магнітафон. На плёнцы былі запісаны трывожныя і ласкавыя песні пад гітару. Ёй спадабалася адна, якую спяваў добры, мяккі мужчынскі тэнарок.

Пад песні яна памыла посуд, нарэзала на талерку гару каўбасы, сваёй дамашняй, сала, налажыла вазачку мёду і злавіла сябе на думцы, што чакае гаспадара, рыхтуецца вось і што ёй прыемна такая работа, рыхтаваць мужчыну снеданне і ў той жа час было неяк няёмка.

Прыйшоў ён, як абяцаў, роўна ў дзесяць, пазваніў і запытаўся, стоячы на парозе:

— Можна?

Нібы прыйшоў у госці, а не дадому. Распрануўся, зайшоў у пакой.

— О, вы тут пагаспадарылі! Навошта ж было,— здзівіўся ён, калі ўбачыў прыбраны стол.

— Трэба. Вы ж не снедалі. Сядайце, сядайце. Ці вы не хочаце выпіць са мною ваш каньяк? — перапыніла яна яго і здзівілася сваёй смеласці.

Яны сядзелі супраць адно аднаго. Ён глядзеў на яе, усё ўсміхаўся, потым запытаў:

— Дзе вы робіце?

— У калгасе. Свінарка. А вы? — пацікавілася яна.

— Токар. На аўтамабільным нашым.

Елі моўчкі. Яна нічога не пыталася пра брата, маўчаў і ён.

— Дзякую вам за сняданне. Каўбаса ў вас выдатная,— устаў ён з-за стала.

— Я ў буфеце пакінула вам яшчэ кружочак,— адказала яна і забразгала талеркамі.

— Брат ваш жыве цяпер на вуліцы Даўмана. Не Баўмана, а Даўмана. Быў такі бальшавік. Пахаваны тут у нас у парку. Нумар дома і кватэра такія ж, як мае. Памыліліся тэлеграфісткі. Сядзеце на дваццаць пяты аўтобус і выйдзеце на прыпынку Даўмана,— супакоіў ён яе.

Правёў ён яе на лесвічную пляцоўку. Яна ўсё дзякавала яму. Ён усміхаўся, няёмка і сарамліва. І ўжо ў аўтобусе яна падумала, што нават і не запыталася, як яго завуць.

Брат сустрэў яе разгублены і шчаслівы. І ўсё распытваў, як яна знайшла яго, і здзіўляўся, і ўсё ўздыхаў, што так нядобра атрымалася. А яна ўспамінала мужчыну і думала, што ўсё не так дрэнна атрымалася, як гэта думаецца брату, што, можа, выйшла вельмі нават добра.

А брат глядзеў, як яна прывычна бярэцца за анучу, каб памыць пасля ўчарашняга заляпаную гразёю падлогу, пакуль прыйдуць пахмяляцца госці, і ўсё ўсміхаецца сама сабе.

# *Хлопчык на краі поля*

— Чым гэту падлу дзяржаць, кабана б лепш выкарміў,—Була замахнуўся нагой на рослага, вастравухага і паджарага сабаку, помесь сібірскай лайкі з дварнягай. Той вінавата апусціў галаў і ступіў убок, за гаспадара.

— Падла! Што ты тут, мол, сваё «я» паказваеш? Ён цябе як пужне! — заступіўся за сабаку гаспадар, сярэдняга росту, круглатвары, як жанчына, Моля. Яго ружовы твар вечна быў паросльі рыжаватай шчэццю. Пад пахай ён трымаў куфайку, а ў другой руцэ — таўставатую палку. Молем яго празвалі пасля арміі з-за прывезенага адтуль «мол, я», якое Моля пад чаркай устаўляў пасля кожнага слова.

Мужчыны сталі пры загарадзе. Даяркі пачыналі даіць кароў, і ў надвячоркавай цішыні першыя струменьчыкі востра пазвоньвалі аб дно даёнак. Адыходзіў яшчэ адзін цёплы, сухі, нават душнаваты жнівеньскі дзень. Але пасля таго як сядзе сонца, свежа, не па-летняму пацягне ветрыкам.

Була быў адзеты ў галіфэ, пінжак і хромавыя боты, на галаве пажоўклы летні капронавы капялюш — усё ж начальства, загадчык аддзялення. Ён лена пацвельваў ад няма чаго рабіць Молю з-за таго, што зайздросціў таму на сабаку.

А наогул яны вымушаны былі чакаць, пакуль даяркі падояць кароў і па малако прыйдзе з цэнтральнай машына, і Моля згадзіўся пайсці пастухом на гэтую ферму толькі пасля таго, як старшыня накінуў яму да зарплаты дваццатку — камандзіровачныя, як гаварыў сам Моля. Була таксама вымушаны быў пайсці сюды загадчыкам аддзялення, бо на цэнтральнай яму, пасля выхаду на пенсію, ніякай «кіруючай» пасады не прадбачылася. Сядзець склаўшы рукі яму, здароваму яшчэ мужчыну, не было як, а ісці ў пастухі Булу не дазволіў гонар,— у калгасе ён увесь век пражыў на кіруючых пасадах, ніжэй фуражыра не апускаўся, на пенсію пайшоў з брыгадзіраў. Ісці ў пастухі і раўняцца з Молем яму ніяк нельга было, хаця пастухоўскі заробак муляўся яму. Моля зарабляў больш за яго разоў у чатыры, калі не ў пяць. Ён не пабаяўся пакінуць трактар, з механізатара зрабіцца пастухом гадоў дзесяць назад. Тады з Молі пасмейваліся — у даяры б ужо ішоў, каб у газетах распісалі і па тэлевізары паказалі. Моля на смешкі не зважаў — ведаю, што раблю, пасмяецца той, хто будзе смяяцца

апошнім. Ён палічыў, колькі на трактары ўдыхае пылу, дыму і іншай мазутнай і саляравай атруты. На пашы ж ён, як на курорце, летам зранку ходзіць босы па расе,— яна не толькі здыме ўсе хваробы, але і здароўе наперад дае. Моля выпісваў цэлы жмут газет, у тым ліку і «Медицинского работника», насіў іх з сабой на пашу і прачытваў за дзень усе ад пачатку да канца. Часу чытаць хапала — на пашы стаялі электрапастухі, ды і Тузік быў навучаны пасвіць гавяду.

— Праўду, Аддзялёны, кажаш.

З-за кароўніка выйшаў, на хаду зашпільваючы штаны, Паваляй, Молеў напарнік. Куфайку ён надзеў ужо, а галава, сівая, коратка астрыжаная, была без шапкі. Паваляй надзяваў лёгкую спартыўную шапачку з доўгім казырком толькі ў самую спякоту, а так з вясны да асенніх дажджоў хадзіў з босай галавой.

Паваляй — равеснік Булы, яны некалі разам вучыліся ў школе, разам прызываліся перад вайной у армію. Паваляй за час вайны выслужыўся да афіцэра, астаўся ў арміі і пасля вайны, пакуль яго ў шасцідзесятыя не спісалі ў запас у званні старшага лейтэнанта. Пасля вяртання дадому ён пахадзіў брыгадзірам, потым загадчыкам фермы, але навык кіравання, які ён набыў у канвойных войсках, у калгасе не надта падыходзіў, таму паступова ён сышоў да пастуха. У гэты час высвецілася яшчэ, што ў час ваеннае неразбярыхі ён умудрыўся — цяпер невядома нашто, хіба каб перад бабамі пакрасавацца? — абмаладзіцца на цэлых пяць гадоў. У свой час, можа, і была нейкая выгада ад гэтага амаладжэння, але цяпер з-за пенсіі даводзілася адрабляць гэтыя пяць маладзёжных год.

— Пужні яго, дык Моля суткі шукаць будзе,— злёгку ў нос прагугнеў Паваляй. Ён быў худы і рослы, на дзве галавы вышэйшы за Булу і за Молю.

— Паспорым, што не пужне,— ружова расплыўся ад усмешкі Моля.

Паваляй ужо спорыў з Молем і купіў дзве бутэлькі віна.

— Спорым,— азваўся Була, хаця яшчэ не вырашыў, што рабіць. Занятку не было, і машыны на дарозе пакуль што не відаць і не чуваць.

— На колькі? На два фаўсты? — Моля сам ступіў да Булы.

Сабака знізу ўгору глянуў на гаспадара, нахіліў набок галаў, быццам хацеў зразумець, што збіраюцца рабіць гас-

падар і мужчына, якога Босы добра ведаў і на якога не меў ніякай сабачай злосці.

— Давай, я перабіваю,— Паваляй стукнуў па руках.

Була моўчкі ўзяў з рук у Паваляя гэтакі ж гладкі і ёмкі, як і ў Молі, кій, ступіў да сабакі і замахнуўся.

— Босы, узяць! — загадаў Моля і Була толькі ўспеў угледзець чорную сабачую пашчу з белымі клыкамі, выпусціў палку, закрыўся рукамі і не ўстояў, на нагах ад мяккага, але цяжкага ўдару ў грудзі.

Калі ён развёў крыху рукі, убачыў над сабой сабачы аскал, пачуў вутробнае гырчанне, як над косткай, і кароткае гарачае дыханне.

— Босы, ка мне! — пачуў ён Молеў голас і адчуў, што сабака саскочыў з яго. Прыпадняўся, ашаломлены і спалоханы, азірнуўся, шукаючы капялюш.

Сабака зноў схаваўся за Молю, які задаволена ўсміхаўся ўсімі сваімі рэдкімі і жоўтымі зубамі.

Паваляй аж сагнуўся ад смеху і толькі і змог папытаць:

— Ну, маць тваю, Аддзялёны... Як? Не адзін я, дурань, паспрабаваў. Уставай!

Усе ўтрох не ўгледзелі, калі пад'ехаў і прытармазіў на дарозе аграномаў «козлік». Дзверцы прачыніліся, і агроном гукнуў:

— Була, ты што, напіўся?

Була падхапіўся. Усе плечы яго былі запудраваны пылам.

— Не, ён з Молевым сабакам падужаўся,— выскаліўся Паваляй.

— Талейку на трактары не бачылі?

— Не,— адказаў Була.

Ляпнулі дзверцы, і машына пакурэла пылам далей праз вёску ў поле.

— Ён ля пашы араў сёння. Пасля Антось Канцавы папрасіў, каб іржышча на пляцы заараў.— Моля ўсё пасміхаўся, цяпер невядома ўжо ці з Аддзялёнага Булы, ці з Талейкі.— Загуў Талейка, не нойдзе яго агроном. Антось гарэлкі не пашкадуе.

Моля з Талейкам разам вучыліся на механізатараў, і цяпер, хоць Моля і лічыў, што лепш за Талейку ўладкаваўся ў жыцці, усё ж зайздросціў, калі пра Талейку пісалі ў раённай газеце, нават друкавалі фотаздымкі. Талейка і на пасяўной, і на жніве хадзіў у пераможцах. Ён умеў дагледзець і трактар, і камбайн, любіў сваю работу. Яшчэ Моля дасюль не мог забыцца, што Талейка з-пад носа ў яго забраў Ядзю. Моля быў упэўнены нават, што Ядзя сама больш хацела за яго, за Молю.

— Хай шукае, гэта не наша дзела,— буркнуў Була, зняў пінжак і страсянуў яго ад пылу.

— Ядзя, чуда, твой Талейка зноў загуў. Аграном ездзіць шукае,— гукнуў задаволена Моля шыракаплечай даярцы ў белай касынцы, завязанай на патыліцы.

— Загуў, то і адгудзе. А ты як зарыеш, то і нос аблупіш,— адрэзала яна і выставіла да дзвярэй бітон з малаком. Пад чаркай Моля быў слабы на ногі, а таму часта хадзіў з аблупленым тварам.

— Давай, Аддзялёны, на пашу заўтра валачы фугасы,— памятаў сваё Паваляй.

Да кароўніка пад'язджала машына — па малако.

Ядзя вярнулася дадому з кароўніка прыцемкамі. Сына не было дома, мужа таксама. Мабыць, Моля гаварыў праўду. Падаіла карову, і толькі тады на двор на матацыкле ўехаў Коля.

— Дзе ты быў?

— Купаўся з хлопцамі на возеры.

— Бацьку не бачыў? Дзе ён сёння?

— Араў ля пашы.

— Мабыць, наараўся ўжэ. Аграном, Моля казаў, ездзіць шукае яго. Праедзь ты паглядзі. Пінжак надзень, холадна ўжо ў адной рубашцы.

Сын быў нечым падобны на бацьку — і паставай, і кудлатымі валасамі. Ён і хадзіў, як бацька, пакалыхваючыся з боку на бок. І рукі нёс, як бацька, цяжка, натомлена. Змалку Валодзя вадзіў за сабой і старэйшага, і маладзейшага. Ён любіў быць з дзецьмі, і яны неміналі яму ніколі, якую б работу ні рабіў. Даваў гайку пакруціць, трактарам пакіраваць. Дзеці і прывучыліся да машын. Ядзя з ахвотай некалі адпраўляла з мужам хлопцаў — пры дзецях ён мог дзяржацца, каб не піць.

Бацьку Коля знайшоў хутка — ля кожнага поля ён ведаў бацькавы схованкі. Трактар стаяў збоч поля пад трыма разложыстымі і вялікімі, як стагі, лазовымі кустамі. Матор ціхенька вуркатаў на халастых абаротах, а гаспадар яго на ладным ахапку сена пад куфайкай смачным храпам перамагаў і матор.

Хлапчук доўга катурхаў бацьку, які адмахваўся ад яго рукамі і мацюкаўся,— спрасонку яму здавалася, што будзіць яго аграном.

— Пайшоў ты, Данілавіч,— адпраўляў ён начальства ту-

ды, куды не ходзяць, але пра субардынацыю не забываўся — называў па бацьку.

— А ты, Пятровіч, яшчэ не вылежаўся? — не адступаўся Коля, пакуль бацька ўсё ж не расшалопаўся.

— Мілы ты мой, знайшоў прапажу,— Талейка памкнуўся абняць сына. Цяпер ён любіў усіх, нават агранома, які найбольш пільнаваў яго.

— Садзіся, паехалі мацеры здавацца. Дзяржыся толькі, каб не згубіўся.

— Я не згублюся. Куды мне з гэтай зямлі згубіцца? Гэта вы ў свет як у капейку пойдзеце і пагубіцеся. А я тут астануся. Шу-умяць вербы...

— Шумне, шумне маці...

— Не баісь, сын, яна ў нас харошая... Шумяць вербы...

Ядзя адчыніла вароты і чакала іх на двары.

— Жонка, мілая мая!..

Талейка падаўся да жонкі, і тая не ўспела адхіліцца, згроб яе ў бярэмя і пачаў цалаваць.

— Мурза ты п'яная! Пусці ж, рэбры паломіш! Дзіця пасаромейся!..

— Мілая ты мая!..

— Пайшлі, пайшлі ўжэ на сена, «мілая». Ці вячэраць хочаш?

— Не, нічога не хачу.

— То пайшлі на сена ляж... Ну не лапайся, госпадзі! Дам па руках!

Ядзя завяла мужа на сена, на пасланыя посцілкі, зняла куфайку, прыкрыла старой коўдрай.

Павячэралі з сынам. Той пайшоў яшчэ пагуляць на вуліцы да хлопцаў. Ядзя зайшла ў хлеў, паглядзела, як спіць муж, папрaвіла галаў на падушцы, выйшла, пастаяла пры дзвярах і зачыніла іх на затычку.

Назаўтра раніцай, пасля таго як вярнулася з кароўніка і зазірнула ў хлеў, убачыла пустую пасцель. Пры шуле стаяла вынятая з-пад дзвярэй падваротня. Цяпер, калі муж дападзе да цэнтральнай сядзібы, то сапраўды «загудзе» на некалькі дзён — хто не паставіць чарку чалавеку, які не сёння-заўтра будзе патрэбны?

Ядзя зайшла ў хату, пабудзіла сына.

— Уставай, схадзі на работу. Брыдка ж, каб трактар стаяў.

— А дзе ж бацька?

— Панёсся, як цялушка ў партызаны. Пад варотамі, зараза міленькая, вылез.

— Ну дае!

Праз паўгадзіны хлапчук у камбінезоне, у кірзавых ботах з нізка абкасанымі халявамі, з берэткай на галаве, каб не запыліць шавялюру, яшчэ больш падобны на бацьку, ехаў на матацыкле ў поле.

Харытонавіч прачынаўся рана, разам з жонкай, якая ўставала даіць карову. Паволі адзяваўся і слухаў радыё. Стала прывычкай чытаць вечарам газеты, а раніцай слухаць радыё. Потым дапамагаў жонцы карміць свіней. На год яны калолі двух кармлякоў. Аднаго калолі на зіму, другога на лета. Некалі на лета, пакуль былі меншыя, прыязджалі ўнукі. Цяпер падраслі, і ў горадзе ў іх былі большыя інтарэсы. Ды і дзеці прыязджалі рэдка, праўда, пасеяць пляц і выкапаць бульбу збіраліся. А летам Харытонавіч адзін касіў сена на карову. Карову дзяржалі, бо без каровы ўжо не жывая гаспадарка.

Пяты год, як Харытонавіч пакінуў работу ў школе і пайшоў на пенсію. Спачатку радаваўся, што будзе час адпачыць і пачытаць кнігі, якія пакрысе купляў усё жыццё. Але адным чытаннем і ляжаннем не можа адбыць стары чалавек. І Харытонавіч узяўся за сад, потым за платы...

Ён крыху пахудзеў, рукі і твар загарэлі да чарнаты, і загар гэты не сыходзіў за зіму. Перастала мучыць адышка, і ў целе з'явілася нейкая ўжо старэчая хлапчукоўская лёгкасць.

Касіў сена Харытонавіч на меліярацыйных канавах. За тое, што накошваў, павінен быў даглядаць русло. Гэту прывілею даў яму старшыня. Хаця каб на добры лад даглядзець асушаныя калектары, то можна было б і калгасу ўзяць сена, і людзям даць гатовага,— як гэта рабілі суседзі.

Харытонавіч бачыў, як прыгналі кароў, падключылі электрапастуха Моля з Паваляем і селі гуляць у карты. Яны цэлыя дні маглі гуляць у «падкіднога». Пасля палучкі, праўда, дзён колькі па чарзе хадзілі ў магазін і тады да вечара спалі. Сон іхні пільна вартаваў сабака, нікога не падпускаў і блізка.

Молю некалі Харытонавіч вучыў у школе. Ставіў «тройкі», бо арыфметыку Моля запомніць ніяк не мог, пісаць не служылі рукі, а чытаць не паварочваўся язык. Аднаго разу ён прачытаў замест «песик, песик, иди сюда», «посік,

посік, ідзі сюды», за што яго і дражнікі Посікам да канца школы, пакуль не прывёз са службы новую мянушку. Затое Молю нельга было пазнаць, калі дападаў да коней, якіх даглядаў яго бацька, аднарукі пасля вайны. Моля не адставаў ад яго, Моля змалку ўмеў усё: і воз накласці, і касіць, і араць. Ён курыў бацькаў самасад, мацюкаўся, як мужчына. Гэта пасля арміі Моля акультурыўся, кінуў курыць і пачаў хадзіць босы па расе і знайшоў сабе пастухоўскую работу.

Часам Моля падыходзіў да Харытонавіча пагаварыць. Апошнім часам ён любіў пагаварыць разумна і нават павучыць.

— Ты не дагадаўся, Харытонавіч... Трэба табе было перад пенсіяй пайсці і кароў папасвіць. І грошы меў бы, і сена, як калгасніку, прывозілі б.

— Што ты, Моля, кажаш? — за панібрацтва Харытонавіч плаціў мянушкай. Але Моля да яе прывык і не звяртаў увагі, нават і на тон, якім яму адказвалі.

— Думаеш, чаго Паваляй даходжвае? Пенсію добрую хоча.

— І ты думаеш да пенсіі дарабіць? Доўга табе яшчэ. Прыдумаюць які аўтамат — і закрылася лавачка.

— Пакуль той аўтамат, я столькі назбіраю, што з мяне на сто год хваціць!

Не пахваліцца Моля таксама не мог.

— Твой жа Толік іх за год распатроніць. Ты ж яму і так ужо плоціш...

Пра маладзейшага Моля не любіў калі гаварылі — і вучыцца не хацеў, і да работы не прыгыркаць. Моля нікому не прызнаваўся, што плаціў сыну пяцёрку, каб адпасвіў чаргу кароў.

— Пойдзе ў армію, абразуміцца, мол, я па сабе ведаю!

Харытонавіч бачыў, як заселі пад кустом пастухі, потым прыехаў Талейкаў хлапчук у камбінезоне і ў ботах. Харытонавіч ведаў ужо, што Талейка запіў. Праз некаторы час пачуўся з кустоў трактарны «пускач», потым выехаў і пайшоў на поле з паднятымі плугамі трактар. Дзіва ў гэтым не было — меншы Талейкаў не першы раз падмяняў на рабоце бацьку.

Заняты кошляй, Харытонавіч не заўважыў, калі да пастухоў прыйшоў Була. Роўна шахала каса, падымалася, прыгравала сонца, пругка, як хвалі вады, наплывалі павевы ветру, лазовае лісце на кусціку над вадой пачынала трымцець, і ў ваду, як лодачкі, падалі першыя пажоўклыя ліст-

кі, шнурочкам сплывалі па плыні. Набліжаўся і аддаляўся роўны гул трактарнага матора, таксама прывычны, нечым у адзінае звязаны з надыходам восені, з першым жоўтым лісцем на пахаладалай вадзе.

Паглядзець на пастухоў Харытонавіча прымусіў здаровы рогат. Першыя шклянкі віна былі выпіты. Рагаталі з Ад дзялёнага Булы — Моля чапляў яму на плечы «пагоны», а той агрэбаўся.

Па полі роўна хадзіў трактар, і за ім аставалася прыгладжаная баронамі свежая стужка асенняга ворыва, па якой услед за трактарам падлятала чарада крыклівых і мітуслівых перададлётных кнігавак.

Дзень набіраў сілу, прыгравала сонца, у жнівеньскай смузе журылася далечыня, а ветрык па-асенняму падхопліваў на дарозе і ўслед за трактарам закручваў, як снегавымі ўзвевамі, пылам...

— Харытонавіч! Ідзі сюды, Харытонавіч!

Моля махаў яму рукой, і Харытонавіч угледзеў, што ля іх стаіць і Талейкаў хлапчук.

Мужчыны весяліліся. Була шморгаў носам — такое ў яго было пакаранне: як толькі выпіваў чарку, пачынаў шморгаць носам.

— Харытонавіч, падапхні ідзі яму трактар! Каб на гусеніцу ўз'ехаў!

І Моля, і Була, і Паваляй смяяліся ад таго, што ім было добра, хацелася пасмяяцца на поўны жывот. І яго пазвалі, каб павесяліўся разам з дзіцячай дурасці.

— Мне чуць гусеніцу падцягнуць, палец выпаў, разуўся трактар,— сур'ёзна, яшчэ і сам вінавата ўсміхаючыся, спрабаваў тлумачыць хлапчук.— Далей я сам...

Ён раптам асекся, зразумеў, што яго не хочуць разумець. Голас скалоўся, вочы расшырыліся ад набеглых слёз простай і горкай дзіцячай крыўды. Хлапчук перавёў позірк на Харытонавіча, на настаўніка, нібы пытаўся ў яго пра нешта простае і незразумелае.

Була смяяўся, прыплюшчыўшы вочы і шморгаючы носам, хіхікаў Моля, як і заўсёды, цверазейшы за астатніх, гыкаў Паваляй.

Хлапчук завярнуўся, неяк быццам ссутуліўся, паменшаў і так невялікі ростам, пайшоў назад да трактара, сагнутай у локці рукой коратка, быццам незнарок, правёў па вачах.

— Була, такую тваю, гаспадар! Як вам не брыдка! Паскуства!

Була першы перастаў смяяцца, расплюшчыў вочы, гля-

нуў імгненна працверазелымі вачыма на старога настаўніка. Перастаў пахіхікваць Моля, гыгыкнуў яшчэ раз колькі Паваляй.

— Плюнь, Коля! Я паеду на абед, вызаву лятучку,— гукнуў услед хлапчуку Була, але той быццам і не пачуў.

Паволі ішоў да трактара, і з-пад ботаў у яго вецер падхопліваў і закручваў пылам. Харытонавічу здалося, што і яму дастала пылам да вачэй.

— Бач, аплік, з гонарам! — мацюкнуўся неяк няўпэўнена Була і загадаў Молю: — Разлівай!

Харытонавіч моўчкі плюнуў, завярнуўся і пайшоў, чуў, як хіхікнуў услед Моля: «Яшчэ адзін ненармальны знайшоўся!»

Харытонавіч бачыў, як заглушыў трактар і паехаў з поля хлапчук, хутка знік ад пастухоў і Була. Пад вечар прыехала «лятучка», за некалькі хвілін мужчыны нацягнулі гусеніцу і пагналі на ноч трактар на цэнтральную сядзібу з недааранага поля.

## *Сляпая сіла*

Ішоў Дабаш да Антона пяшком, цераз новы мікрараён. Ля дамоў нязвыкла стаялі аблатошаныя дзятвою яшчэ з вясны старыя яблыні, што засталіся ад былое вёскі, і на яблынях зрэдку пажаўцела лісце.

Цёпла, нават горача свяціла сонца, і неба было высокае, з белымі кучаравымі воблакамі, зрэдку свежа праходзіўся вецер, і тады на рабінах тоненька трапятала вузенькае лісце і злёгку пагойдваліся светла-чырвоныя гронкі — гэта ўжо ад невясёлай і яркай прыгажосці недалёкіх перадасенніх дзён.

У двары Антонавага дома, ля пад'езда, стаяў аўтобус. Пад бляшаным грыбком на нізенькіх лавачках, зробленых дзецям, сядзелі жанкі. Дабаш не прыглядаўся да іх. Яны здаваліся нечым падобныя адна на адну: засмучана-маўклівыя, пакорлівыя пагляды, прыцішаная гаворка, быццам маглі падслухаць, а гэтага не хацелася...

Дабаш пастаяў, закурыў.

Антона яшчэ не прывезлі.

...Сярэдняга росту, шчупленькі, з круглым, чыстым, як у дзяўчынкі, тварам і блакітнымі вачыма, Антон любіў

насіць спартыўныя куртачкі, чаравікі на тоўстай падэшве, берэцік, а пад восень замест кашнэ — касыначку на шыі. Яму падабалася, калі гаварылі, што ён — як парыжанін... Пасля войска сышліся яны з Дабашам на адной кватэры ў старым прыватным струхлелым доміку на Лодачнай вуліцы, якую пачалі зносіць; абодва шафёры, толькі што звольненыя з войска, як жартаваў Антон, наганялі ўпушчанае за два гады службы... Потым, калі пачаліся познія халады і ў затопленай у рацэ лодцы браўся раніцай тоненькі лядок, шарэў прымаразак на заржавелым ланцугу і замку, які невядома колькі гадоў не адмыкаўся, тады пустэльная была іх вуліца, абмялелая каламутная рака, тады Дабаш каяўся, што не паехаў, як і збіраўся, на Поўнач — зарабіць грошай, каб потым не туляцца па чужых кутках, пабудаваць сабе кватэру і пражыць маладосць як і належыць — весела, забяспечана... Ён марыў паехаць да радні багата і шыкоўна, каб нікому і не ўспаміналася, што ён сын анучніка, які п'яны памёр на возе. Нават у войску і на рабоце адчуваў сябе няёмка, быццам усе ведаюць пра гэта, пасмейваюцца за вочы.

Антон таксама засумаваў, згаджаўся паехаць з Дабашам на Поўнач, хоць абодва ведалі, што да лета няма чаго і думаць пра гэта...

А зімою Антон нечакана ажаніўся, нават распісваўся не ў горадзе, каб не чакаць чаргі, а ў вёсцы, пераехаў жыць да жонкі, а потым жончыны сваякі ўладкавалі яго на работу — на міжгароднія перавозкі.

Дабаш застаўся адзін зімаваць, паўтараў матэматыку, паступіў на завочнае ў політэхнічны, перайшоў жыць у інтэрнат.

З Антонам зноў сышліся пасля, калі Дабаш скончыў вучобу, ажаніўся, атрымаў кватэру. Аказалася, што жонкі іх некалі вучыліся ў адным класе. Зачасцілі сем'ямі адны да адных у госці на выхадныя, з танцамі пад магнітафон, летам з шумнымі выездамі на пляж — усе чацвёра маладыя, здаровыя, задаволеныя.

Антон ужо тады папаўнеў, жонка забараніла яму насіць куртачкі і берэцікі, грошай выстачала і на добры гарнітур, як у людзей, хоць у ім Антон здаваўся яшчэ меншы і непаваротлівы, нібы плюшавы мядзведзік...

Потым пайшлі дзеці, сустракацца пачалі радзей. Антон яшчэ больш раздабрэў, раздаўся і піў многа больш, чым раней. Ірына скардзілася, што зусім адбіўся ад рук, што даўно мае грошы, каб купіць катэр — і не збярэцца, што і яму трэба вучыцца, як Дабашу, каб не круціць цэлы век баранку.

Тады чарнабровы далікатны твар Ірыны рабіўся завостраны, вочы глядзелі на Антона прыжмурана, і яна ненавідзела яго, таўставатага, падпітага. Ён не аскірзаўся, усміхаўся, толькі вочы глядзелі безуважна, пуста і да вугалкоў губ збягаліся горкія складачкі. Але «ўкалваць» Антон працягваў гэтак жа зацята, як і раней, з рэйса ў рэйс, і ўдзень і ўночы. І не ўбярогся, заснуў за рулём.

Дабаш адзінока таптаўся на двары. Людзей было мала, нікога са знаёмых. І ён каяўся ўжо, што прыйшоў, бо можна было і не ісці, і ніхто нічога не сказаў бы, нікому няма да яго ніякае справы, а галоўнае, не было б гэтае непатрэбнае турботы, неспакою на душы. Смерць чалавек тады адчувае, калі яна пройдзецца зусім побач, забярэ каго-небудзь знаёмага, з кім нядаўна вітаўся за руку, гаварыў. Ад ледзянога холаду сціснецца сэрца, і падумаецца, што на яго месцы мог бы ляжаць ты сам, а ён прыйшоў бы адведаць!..

Распараджаўся жалобаю кульгавы рушны мужчына з посным шэрым тварам і зачэсанымі з патыліцы на лысіну валасамі — бывалы мясцкомаўскі старшыня, які ўмее наладжваць усё.

Труна стаяла на засланых чырвоным сталах, абстаўлена навокал вянкамі з чорнымі стужкамі і белымі, халоднымі літарамі, кветкі здаваліся яркімі і непатрэбнымі, моцна пахла свежаю, толькі сарванаю мятаю...

Абапёршыся на край труны, стаяла Іра, і за людзьмі Дабаш бачыў толькі да жаўцізны схудалы яе твар, чорны плюшавы шалік на галаве. Яна не магла ўжо ні крычаць, ні плакаць, толькі цяжка дыхала, і тоненькая фельчарыца ў белым нячутна падыходзіла збоку, працірала руку вышэй локця, калола.

Антон ляжаў у чорным касцюме, моцныя пальцы сашчэплены на грудзях — цяпер сухія, касцістыя, жоўтыя, і твар выцягнуўся, абазначыліся сківіцы, завастрыўся падбародак, тонка падціснуты вусны, і тыя, знаёмыя, складачкі да куточкаў губ. Было нешта балючае і злоснае ў гэтым некалі дабрадушным твары, мабыць, яму моцна балела перад смерцю, і пра гэта ніхто не ведаў.

І пакой пусты, як на смерць прыгатаваны — старую мэблю толькі прадалі, не паспелі завезці новую.

Дабаш скора абышоў вакол труны, у дзвярах пачуў,

як зноў тонка і слаба закрычала Ірына, скора пайшоў уніз, на двор.

Яго перагнаў мясцкомаўскі старшыня, пастаяў ля пад'езда, паглядзеў угору, нават зморшчыў востранькі носік, нібы хацеў нюхам распазнаць, ці пойдзе большы дождж, бо неба неўпрыкмет высока зашарэла і дождж церусіўся дробненька і лагодна.

Дабаш прысеў на лавачку.

Шафёр аўтобуса падняў капот, шырока расставіў на буферы ногі і калупаўся ў маторы.

Дабаш устаў, азірнуўся, з палёгкаю падумаў, што ніхто не бачыць і не ведае пра тое, што ён быў знаёмы Антону, нават блізкі. Пайшоў прэч спачатку нетаропка, потым хутчэй, з палёгкай уздыхнуў.

Неўпрыкмет жыццё ўвайшло ў прывычны лад, зноў па даўняй завядзёнцы Дабаш перад канцом работы абыходзіў гаспадарку, як гаварылі рабочыя — «сам» абход робіць. Высокі, у меру поўны, у вузкаватых, але добра падагнатых штанах, у белай рубашцы з закасанымі рукавамі, з гальштукам, слаба зацягнутым на вузел — верхні гузік заўсёды расшпілены, ён быў такі, як і раней. У меру карэктны, у меру гаспадарлівы, наогул, добры інжынер, якога паважала за работу начальства, якога недалюблівалі, але пабойваліся, часам і паважалі рабочыя і да якога прывыклі за многа год. Толькі незаўважны для староніх клопат пасяліўся ў яго душы: нібы сам ён забыўся пра нешта такое простае, ніяк не можа ўспомніць. Калі заставаўся адзін, часам здавалася, што нехта зрабіў з яго двух чалавек, ажывіў яго цень, і гэты другі невядома чаго пасміхваецца з першага, з яго ўваротнасці рабіць работу і не надта думаць пра яе, з яго адмысловае кватэры, дачы, з яго такога грунтоўнага, упэўненага жыцця.

А таму мулка рабілася часам, калі лавіў сябе на думцы, што ўсё тое, чаго хацеў ён некалі на Лодачнай і на што патрачана маладосць, не зусім тое, быццам у спякотны дзень улез у стаячую ваду, якая зарастае раскаю, заплывае тванню.

У Дабаша хапала цвярозага разумення, каб абарваць такія думкі — гэта проста нервы, трэба толькі заняцца чым-небудзь, разварушыцца, а то зусім адбіўся ад рук, на мыйку машын так і не зайшоў, хоць абяцаў навесці там парадак.

Мыйшчыца сустрэла Дабаша на падыходзе, усміхнулася вінавата і насцярожана, усё азіралася па баках.

— Добры дзень! — прывітаўся Дабаш, усміхнуўся.— Ну, як тут у вас?

— Усё чысценька, Міхаіл Іванавіч, прыбрана.

Жанчына ішла збоку і чуць паперадзе, быццам хацела зазірнуць Дабашу ў вочы. І ён успомніў, як яшчэ вясною заходзіў на мыйку, і яна, стройная, даўганогая, у меру прыкараткай і вузкаватай спадніцы, у бліскучых гумавых боціках, з сінімі «ценямі» пад вачыма, як у дзяўчынкі, усміхалася яму прыветна і какетліва, дастала з сеткі вялікі апельсін, працягнула, і ён засмяяўся ўголас:

— Пакінь, Клава, другому. З мяне жонкі хапае!

Бачыў, як сцялася яна, зялёныя вочы бездапаможна і спалохана паглядзелі навокал — ці не чуў хто? — і рука ніяк не магла патрапіць, каб пакласці назад у сетку апельсін.

Яна не заплакала, толькі прашаптала: «Нашто вы? Бога ў вас няма, Міхаіл Іванавіч!..»

Дабаш недзе пасля ў мужчынскім гурце расказваў пра гэта, смяяліся.

— Вы, Клава, самі не надта... Напішыце мне дакладную, калі хто смецце выкіне на мыйцы. Я яго на дзень здыму з рэйса і прымушу тут прыбіраць. Шафяроў я папярэджу.

Жанчына згоднаківала галавою, і Дабаш ведаў, што ніякай дакладной ні на кога яна не напіша, а чыста на мыйцы будзе.

Настрой зноў сапсаваўся, Дабаш вярнуўся ў кабінет, патаптаўся вакол стала і сабраўся ісці дадому.

Дзверы былі адамкнёны, Дабаш увайшоў у прыхожы пакой і спыніўся: ён пазнаў, што з жонкаю гаворыць Антонава Ірына. І першым жаданнем было — ціхенька выйсці назад, прэч! Ён стрымаўся, зазірнуў у прачыненыя дзверы пакоя: жанкі сядзелі на канапе. Яго Зоя ў стракатай, з вялікімі пышнымі малюнкамі сукенцы і ў жабо здавалася яшчэ таўсцейшай. Ірына была яшчэ бледная з твару, схуднелая, пад лёгенькаю сукенкай азначаўся жывот. Яна роўна як вывучанае, расказвала:

— Антон нас на вакзал праводзіў, пацалаваў малога. А Андрэйка на мяне: «А ты, мама, пацалуй папу». Не, кажу, людзі бачаць. І так не памятаю, калі мы з ім цалаваліся, а то яшчэ на людзях... Заўтра павяду малога ў садзік.

— А з гэтым як? — Зоя кіўнула ў бок сяброўкі, і Дабаш спачатку не зразумеў, пра што яна пытаецца.

— Была ў галоўнага акушэра. Даў дазвол. Заўтра мэблю прывязуць, і пайду ў бальніцу. Нашто другое малое цяпер. Мы ж думалі, што кватэру нам большую дадуць...

Потым Ірына гаварыла, што трэба грошы на мэблю, што катэр, які Антон успеў купіць перад смерцю, цяпер ёй не патрэбен, што яна прадала б яго ім, Дабашам, нават і дзешавей. А шукаць пастаронняга пакупніка яна не хоча. Гаварыла Ірына хутка, быццам нешта жавала. Цяпер толькі да Дабаша дайшло, пра каго трэцяга гаварылі спачатку жанкі. Але галоўнае было — мэбля, катэр. Важней за ўсё на свеце — і за яго, і за Антона!..

Ён інстынктыўна адступіўся назад, да дзвярэй, і толькі на лесвічнай пляцоўцы з палёгкаю падумаў пра тое, што не трэба таргаваць катэр, і навошта ён яму? Сыходзячы па прыступках, ён раптам успомніў, як расказвалі пра смерць Антона, і, здалося, убачыў, як на павароце, з высока паднятае дарогі падала вялікая нагружаная машына, кулялася лёгка і страшна, ламала прысады кволых ніцых вербі там, дзе ўпала — кабіна асобна, прычэп асобна,— дробна і чыста, як душа, рассыпалася бітае шкло. І Дабаш раптам усёю істотаю адчуў тую дзікую, сляпую сілу, якая несла машыну да павароту, і ў яго тоненька, салодка заныла пад сэрцам, быццам і ён ляціць з таго ж адхону, на тым жа павароце!..

Вяртаўся дадому ён прыцемкамі, супакоіўся. Крыху прыкра адчуваў сябе за тое, што распусціў нервы. Жывому жыць, а катэр з гаражом на беразе возера не так гэта проста дастаць зараз... Тут нечага і думаць...

І аформіць гэта трэба да адпачынку. Адпачываць ён сабраўся на поўдні, і ад прадчування гэтага будучага адпачынку Дабаш ужо забываўся на той тоненькі халадок, які так і астаўся пад сэрцам.

## *Антракт*

Яны сустрэліся нечакана праз многа-многа год у тэатры. У час антракту сядзелі насупраць адно аднаго за маленькім чырвоным столікам у буфеце. На століку паміж імі стаяла грувасткая сіняя шкляная ваза, каранава-

ная белымі зубчыкамі папяровых сурвэтак. Яны моўчкі, сілком жавалі бутэрброды з чэрствай каўбасой. Гаворка не выходзіла.

Яму ўспомнілася, як яны ў студэнцкія гады разам прыходзілі ў гэты тэатр і як ён, адразу ж пасля званка на антракт, бег у буфет, браў сітро і два бутэрброды з каўбасою, і яны прагна і весела з'ядалі іх, і смяяліся адно аднаму вачыма. Вазу звычайна адсоўвалі ўбок.

Маўчанне зацягвалася, трэба было нешта гаварыць, пра нешта распытваць.

— Валасы ў цябе парадзелі, пасівелі. Ты ўсё пішаш? — загаварыла першаю яна.

— Старэем, што зробіш. Сям'я, дзеці і несямейныя клопаты, таму і валасы вылазяць,— паспрабаваў пажартаваць ён і адчуў, што жарт не атрымаўся. Ён крадком паглядзеў на яе.

За час, што не бачыліся, яна амаль не змянілася, толькі неяк падабрэла, паспакайнела з выгляду ды пад вачыма і ля куточкаў губ, якія яна фарбавала цяпер густа і ярка, легла тоненькая сетачка маршчынак...

Празвінеў званок. І яна з нейкай радасцю хуценька ўстала.

— Вазьмі, калі хочаш, адрас. Можа, зойдзеш калі?

— Нявартa, і муж яшчэ што-небудзь нядобрае падумае,— засмяяўся ён.

Яна пакорліва схіліла галаву.

— А ты не змяніўся...

Яна павярнулася і пайшла — разгубленая, задумлівая, нават забылася развітацца.

Некалі даўно ў яго, як і ў кожнага чалавека, была свая казка і свой маленькі казачны свет, які потым называюць дзяцінствам. І ў гэтым свеце была яго вёска, за ляском, на ўзгорку,— суседняя і за пяць кіламетраў школа, у якую хадзіў вялікагаловы блакітнавокі хлопчык, пад камандаю якога былі ўсе вясковыя хлапчукі і які быў гаспадаром усіх буданоў, пабудаваных у густым хвайняку, і камандзірам усіх гульняў «у вайну», а пасля выпадкова прачытанае кніжкі пра Дэрсу Узала — нязменным начальнікам таежных экспедыцый. Хіба ж мог такі чалавек прызнаваць дзяўчынак за людзей, вадзіцца з імі, і хіба можна было горш абразіць яго, чым пасадзіць з дзяўчынкаю за адну парту, што зрабілі ў пятым класе? І да ўсяго дзяўчынка, гэтае

белавалосае чарцянё, любіла падурэць і паскубнуць яго. Ён аднойчы ўдарыў яе за гэта, і іх доўга мірыла класная — дабрадушная, тоўстая жанчына.

...Убіралася ў сілу восень. Стаялі густыя непраглядныя туманы, за якімі не было відаць, калі ўзыходзіць сонца, калі заходзіць,— толькі журботная восеньская вільготная шэрань і ў лесе шамаценне ападаючага лісця, і прадчуванне сонечных, аслепленых дагараннем асенняга лісця дзён.

Яны, дзевяцікласнікі, ехалі тады на экскурсію ў далёкі Ленінград. Ехалі на грузавых, крытых брызентам машынах.

Раніцаю ў хісткім сівым паўзмроку машына ўехала ў Падліпаўку. Яе ўжо чакалі, і калі Марыся — у паліто, у завязанай пад бараду хусцінцы — улезла ў кузаў і азіралася, дзе сесці, ён пасунуўся і прытуліў далонь да лаўкі, паказваючы на вольнае месца. Яна прайшла да яго і села побач...

А пасля былі каляіністыя прасёлкі да школы, апошнія наказы дырэктара і шаша, доўгая шаша аж да самага Ленінграда цераз усю Прыбалтыку.

Ён не мог заснуць ноччу ў цёмным кузаве — хлопцы знарок пабілі лямпачку, каб можна было цалавацца з дзяўчатамі,— слухаў, як напружана звоняць колы на асфальце, слухаў сваю адзіноту, прыемную важкасць яе галавы на сваім плячы, пасмачку валасоў, што казытала яму вусны і шчаку, і горш за ўсё баяўся, што засне, не ўтрымае яе галаву, і яна прачнецца, і не мог зразумець, чаму баіцца.

Ён адзін не спаў на світанні, адзін бачыў, як туманная завісь на ўсходзе засвяцілася лёгенькім фіялетавым водсветам, які падаў на вільготны пасля ночы асфальт, і той таксама свяціўся казачным незвычайным святлом.

Ён не спаў ні адной ночы за ўсю дарогу і не хацеў спаць, і толькі адчуваў, як запалі і сталі сухімі і гарачымі яго вочы, і яна сілком прымушала яго класці галаву ёй на плячо і драмаць...

У Ленінград яны прыехалі вечарам. Свяціўся агнямі ілюмінацый Неўскі — якраз надыходзіла свята Кастрычніка, і ён упершыню адважыўся пацалаваць Марысю. Яна пакорліва адхіліла галаву і заплюшчыла вочы... І ў той жа час нехта ўпусціў за борт пустую бутэльку, і яна глуха трэснула аб асфальт, дробна зазвінела асколачкамі. Ён здрыгануўся ад нечаканасці, і Марыся толькі ўсміхнулася яго спалоху і ласкава пагладзіла рукою па шчацэ.

Жылі яны ў невялічкай гасцініцы на Кіраўскім базары, і дабрадушная жанчына-адміністратар дазваляла ім вечарамі глядзець у чырвоным кутку тэлевізар і рабіць танцы. Яна любіла сама прыйсці, стаць у дзвярах, склаўшы рукі на грудзях, глядзець на баяніста і ўслых пагаварыць, што аніяк не можа ўладкаваць сына ў музычную школу.

Ён танцаваў цэлыя вечары з Марысяю. І яму чамусьці тады вельмі прыгожаю здавалася прымітыўная песенька пра тое, як капітан сустрэў дзяўчыну, пра тое, што закаханым ніколі не быць разам, таму што дзяўчына — «гэта місіс з багатай сям'і і англійскага лорда нявеста».

Здаралася, яны з Марысяю ўцякалі з танцаў, замыкаліся ў яе пакоі, елі ў цемнаце вінаград і бясконца цалаваліся... А за акном незвычайна і хараша свяціліся ліхтары.

І ўжо шмат гадоў пасля, калі яму ў рукі трапіла старая фатаграфія — ён і трое сябрукоў на фоне помніка Пятру І,— ён быў незвычайна і прыемна ўражаны: на яго глядзеў хударлявы, высокі і прыгожы ў сваёй юнацкай хударлявасці хлопец. І Ленінград успамінаўся яму лёгенькім поціскам яе тоненькіх пальцаў, ціхай, шчаслівай і крышку трывожнай радасцю, што поўніла яго сваёю вільготнай самотнасцю. Ён так і застаўся для яго, і палюбіўся горадам ціхай і вялікай радасці.

Другі горад, горад іхняга студэнцтва, таксама радаваў, пакуль не надакучылі і тэатры, і кіно. Ён ужо ведаў, што ў нядзелю пойдзе да яе на кватэру, потым яны пойдуць у сталовую, потым у кіно, вечарам, магчыма, сходзяць у кафэ або на танцы, і ён правядзе яе да аўтобуснага прыпынку, і яны разыдуцца прывычна раўнадушныя. А ён адзін будзе ісці па горадзе і ненавідзець сваю жаўтасценную шпакоўню — пакой у інтэрнаце. Ён заўважаў, што і Марысі сумна і што спатканні ператвараюцца ў абавязак.

Ён уладкаваўся працаваць у рэдакцыю, перавёўся на завочнае аддзяленне, наняў утульны прыватны пакойчык і пра гэта пакуль нічога не гаварыў Марысі.

...У пакойчыку, дзе кватаравала Марыся з сяброўкаю, былі яшчэ дзве дзяўчыны з іхняга курса; адна з іх сядзела на табурэтцы, і ёй у чатыры рукі ўзбівалі прычоску. Да яго ўжо прывыклі і не звярнулі ўвагі.

Марыся была ў чорнай бліскучай сукенцы з глыбокім дэкальтэ, з аголенымі па плечы рукамі, падфарбаванымі вачыма, накручанай і зацягнутай у сетачку касою...

Яна разгублена заўсміхалася яму, неяк паспешліва па-

садзіла на ложак, прысела сама, і калі ён сказаў, што жыве на кватэры, што яны пойдуць да яго і яна больш не вернецца ў гэты заціснуты новымі кварталамі завулак, у гэты паўцёмны пакойчык, яна яшчэ больш разгубілася, неяк са шкадаваннем аглянулася на дзяўчат, пачала гаварыць, што ёй няёмка будзе перад імі не пайсці на вечар, ён з жахам адчуў, што яна не зразумела або проста не захацела зразумець, што ён зваў яе назаўсёды, што ён хацеў зрабіць гэты вечар вечарам шчасця.

У галаве плыў нейкі звон, нібы недзе далёка-далёка, за вякамі, званілі ў званы...

Ён правёў дзяўчат да аўтобуснага прыпынку. Марыся трымала яго пад руку, гаварыла, што адчувае сябе вінаватаю за тое, што ідзе на вечар без яго, і яму хацелася сказаць, што добра, што ёсць хоць гэтае адчуванне, і ён баяўся, што атрымаецца балюча, здзекліва і бездапаможна.

І калі яны гуртам дружна рвануліся да аўтобуса, ён разгублена прыпыніўся, потым успомніў, што і яму можна пад'ехаць гэтым аўтобусам колькі прыпынкаў, кінуўся бегчы, спыніўся, махнуў рукою.

Было пуста на вуліцы, паціскаў восеньскі марозік, пачынаў дзьмуць пранізлівы вецер, прапахлы ледзяністым халадком снегу. Суха бялеліся тратуары, і вецер парывіста заграбаў з іх пясчаны пыл, закручваў яго, нібы лютаўская завея дробны сняжок, сек у твар.

Уперадзе пасярод вуліцы ішла адзінокая парачка — ён у капелюшы і модных расклёшаных штанах і яна, стройна перацягнутая паяском, з высокай прычоскай, закручанай у шарф. Рука яго ляжала ў яе на плячы, і ён час ад часу туліў яе да сябе і цалаваў. Яе рука толькі лёгенька гладзіла яго па плячах, і ў святле ліхтароў на пальцы ў яе пабліскваў пярсцёнак.

Успомнілася, як ён чакаў Марысю, каб ехаць разам дадому — у яе сесія канчалася на тры дні пазней. Яны ішлі ў кіно. Ціха і туманліва высцілаўся густы снегапад, і ён жартам сказаў, што яны пойдуць начаваць да яго. Хлопцы ўжо раз'ехаліся на канікулы, і ён заставаўся адзін у пакоі. Яна тады толькі ціхенька прашаптала:

– Не трэба, дурненькі.

І гэтае «не трэба» прагучала ласкава і сарамліва, як згода. Ён не падаў выгляду, што зразумеў яе.

Парачка завярнула ў пад'езд, і ён застаўся адзін на ву-

ліцы. Стала яшчэ больш адзінока і няўтульна на гэтым калючым ветры, ад якога нікуды нельга было схавацца, і ўсё ж не хацелася ісці на кватэру, дзе стаяў прыбраны стол на дваіх. Нейкім болем разанула думка, што гэты вечар, вечар шчасця, прайшоў раней, зімою, закалыханы снегападам. А ён не набраўся смеласці, не здагадаўся па-мужчынску ўзяць сваё шчасце.

Ён ведаў, што яшчэ прыйдзе да Марысі, што яны будуць хадзіць яшчэ ў кіно і што ўсё ўжо скончана, што яна не вернецца да яго...

Праз месяц ён паехаў на Палессе загадчыкам сельгасаддзела ў раёнку.

...У пальцы прыпякло, і ён схамянуўся, што ў буфеце нельга курыць, вінавата агледнуўся: буфетчыца стаяла, абапёршыся на прылавак і падпёршы шчаку, спачувальна глядзела на яго. Яму стала няёмка, быццам гэтая спагадлівая буфетчыца падгледзела ўсё тое маладое, што ўспомнілася яму, старому. Спектакль працягваўся, ішла другая дзея. Ён расціснуў недакурак аб абцас, разгублена сунуў яго ў кішэню і пайшоў да выхаду па мяккім дыване, які глушыў крокі і пад якім, нібы яму было балюча, коратка і суха патрэскваў паркет.

# *Плынь*

## *I*

Барысаў чакаў і нават хацеў, каб нешта здарылася. Але на аўтавакзале аўтобус на пасадку падалі ў час, праз гадзіну ён прыбыў у аэрапорт, і, як толькі пасажыры ўвайшлі ў залу, пачалася рэгістрацыя. У зале прасторна, ні натоўпу, ні штурхання. Падпарадкаваны гэтаму рытму, Барысаў здаў у багаж чамадан, прайшоў перадпасадачны агляд. У гэтак званым накапіцелі пасажыраў таксама доўга не трымалі. Усё роўна як паслухаліся пяцігадовага хлопчыка, які капрызнічаў і патрабаваў у сваіх юных бацькоў: «Хацю ў самалёт!» Аўтобус адвёз да самалёта. Пасажыры размяшчаліся спакойна, прыйшлі пілоты і пачалі праграваць маторы. І месца Барысаву трапілася ля запаснога люка,

таму наперадзе не было сядзення, можна зручна выцягнуць ногі. Насуперак настрою ў душы Барысава праклюнулася лагоднасць. Сам сабе ён не хацеў прызнавацца, але да апошняга па-дзіцячы спадзяваўся, што палёт адменіцца, што адпачынак ён правядзе, як і раней, на дачы, пры доме. Цяпер, калі сама бурліць жыццё, можна будзе вечарам сазваніцца з сябрамі, абмяняцца думкамі, як гаворыцца. Хаця і ў час работы яны даволі часта «абменьваліся», да поўначы, і ад гэтых абменаў назаўтра балела галава.

Побач з Барысавым сядзела пажылая пара. Ад жанчыны ішоў тонкі, амаль няўлоўны прыемны водар духоў. Муж быў з густой сівай шавялюрай, з маршчыністым валявым тварам. Зусім нечакана ён пачаў трумкаць губамі ў лад пуставатай мелодыі, якую ўключылі сцюардэсы. Барысаў здзіўлена паглядзеў на яго. Ужо потым, калі перад пасадкай мужчына зноў затрумкаў пад музыку, Барысаў здагадаўся, што ён хвалюецца перад пасадкай і ўзлётам.

Барысаў аж наструніўся ўвесь, калі пасля ўзлёту адкрыўся яму нечакана яркі, шчодры малюнак жоўтых, чырвоных, барвовых, пахмурна суровых хвояй лясоў. У самай спелай восеньскай красе разгортваліся пад крылом самалёта лясы, асветленыя чыстым, празрыстым святлом ранішняга сонца. Барысаву нават здалося, што ён пачуў пах прыпрэлага лісця, суровай хвоі, верасу, і яшчэ бог ведае чаго, але таго своеасаблівага настою, якім толькі можа пахнуць восеньскі лес. Барысаў не адарваўся ад ілюмінатара, пакуль усё гэта не размыла вышыня і зямля не ператварылася ў геаметрычныя фігуры, расчэрчаныя белымі ніткамі дарог.

Можа, ад хвалявання ў грудзях зноў адчуў боль, на які ўжо колькі месяцаў не мог не зважаць. Потым наплыла неадчэпная, глухая стомленасць душы і цела, якім нагрузіла і не першы ўжо год гняло жыццё. У матэрыяльным свеце нічога за так не даецца, гэта, лічыў Барысаў, была расплата за бяссонныя ночы з маладых гадоў, калі ён не аглядаўся ні на што, працаваў суткамі і месяцамі. «Кто раньше начал, кончит ране...» — любіў Барысаў паўтараць радкі паэта. І сёння ўсё, што адбываецца ў інстытуце, наогул у навуцы, яго непасрэдна датычыць, ад яго залежыць...

Успомнілася, як дачка паглядзела ў санаторную карту, потым на яго і пажартавала:

— Ты хоць у санаторыі жанчынам не паказвай сваё дасье, а то разбягацца будуць... Нашто ты сябе гэтак давёў? Ты ж не стары яшчэ мужчына...

Яна асеклася пад яго позіркам. Пабаялася, што скажа злоснае і крыўднае, як гаварыў маці. Яму даўно прывыклі змоўчваць, стараліся не чапаць. А пасля таго, як дачка выйшла замуж і ў яе нарадзілася маленькая Алёнка, усё жыццё ў сям'і закруцілася вакол яе. Ёй усміхаўся і радаваўся і ён, заўсёды злосны, адчужаны ад сям'і, якая яго не разумела і не цаніла, а толькі карысталася здабытым ім, яго галавой і працай.

Саракашасцігадовы дзед, доктар тэхнічных навук, загадчык сектара акадэмічнага інстытута Барысаў Антон Андрэевіч не любіў, калі яму пярэчылі не толькі дома, але і на рабоце. Проста пярэчанняў ён не прызнаваў, яму трэба было даказваць, а з доказамі ён згаджаўся... Ён не верыў і дактарам, якія запатрабавалі: альбо ў санаторый, альбо ў бальніцу, падазраваў, што іх падгаварыла жонка, і адзіны аргумент — боль у грудзях, аргумент істотны, для яго быў яшчэ не доказ.

*II*

Упершыню ў санаторыі ён быў у гэтым вялікім курортным горадзе. Даўно. Пасля таго як здольны студэнт Барысаў напісаў дыпломную, якую залічылі за кандыдацкую. Усё адбылося раптоўна. Барысаў, цяпер ужо навуковы супрацоўнік, атрымаў адразу двухпакаёвую кватэру. У іх тады з Любай нарадзілася маленькая Валя. З'явіліся і грошы, бо зробленае Барысавым залічвалася як адкрыццё, мела прымяненне ў многіх галінах. Пуцёўку ён узяў таму, што прапанавалі. Люба з маладой і наіўнай шчырасцю выпраўляла яго адпачыць, хаця ён тады не адчуваў ніякай патрэбы ў адпачынку ды і вялікага жадання ехаць на поўдзень не меў. Але ён паехаў. І яго ашаламіла мора, сонца, пальмы, пляжы... Гаспадаром жыцця адчуў ён сябе адразу, калі ў таксі, адзін, ехаў з аэрапорта.

З гадамі зніклі, растварыліся ў часе дэталі, і адпачынак зліўся ў нешта адно марское, зялёнае, да болю ў вачах асветленае белым паўднёвым сонцам. У пакоі, які выходзіў акном на мора, ён жыў з брытагаловым рухавым старым Міхаілам Іванавічам, які і ў свае даволі немаладыя гады бегаў раніцай, купаўся ў моры, паспяваў амаль на ўсе працэдуры, каб «зарадзіцца» на цэлы год. Ён раіў і Барысаву не марнаваць час, але яму хапала толькі мора, сонца і паветра.

Непрыкметна падабралася кампанія: журналіст Валера

з маскоўскага часопіса, які хадзіў у чорным скураным пінжачку, нягледзячы на гарачыню, дзве ягоныя сяброўкі — дактары Марыя і Аня. Марыю, даўганогую, доўгавалосую бландзінку з павольнымі, нібы замаруджанымі рухамі Валера называў «мая дзева Марыя». Незразумела, пры чым тут была «дзева», бо Марыя днявала і начавала ў Валеры. Аня ў адрозненне ад сяброўкі была невысокага росту, чарнявая, скуластая, з па-татарску касаватымі цёмнымі вачыма, у якіх раптам успыхвалі нейкія зялёныя, дзікія агеньчыкі. Калі Валера з Марыяй знікалі, Барысаву даводзілася неадлучна быць пры Ані, слухаць яе бясконцыя расказы пра трохгадовую дачку, пра свайго мужа, былога баксёра, цяпер кандыдата навук, пра тое, як нядаўна, калі на рабоце ў Ані праводзілі крос, ён сустрэў яе і на руках прынёс на фініш. А то раптам ні з таго ні з сяго шчырая сямейніца пачынала фантазіраваць пра тое, як Барысаў аднойчы ў Маскве пазвоніць ёй і прызначыць спатканне на плошчы Маякоўскага. Барысаў тады не разумеў, навошта яму трэба будзе прызначаць тое спатканне... Урэшце Валера з Марыяй аднойчы выйшлі вечарам з пакоя, і Валера механічна замкнуў за сабой дзверы. А потым яны з Марыяй доўга сядзелі ў рэстаране і рашылі не турбаваць Барысава з Аняй, пераначавалі ў Марыіным пакоі. Усё гэта Валера тлумачыў назаўтра Барысаву, збянтэжанаму і зацалаванаму...

На шчасце, тэрмін пуцёвак у масквічоў канчаўся, Барысаў правёў іх да таксі раніцай, з палёгкай парваў лісток з тэлефонам і адрасам. І ўжо да канца адпачынку, навучаны вопытам, не ішоў на блізкае знаёмства ні з кім. Весяліўся ў кампаніях на танцах, у рэстаранах, што ў той час лічыліся мясцовымі знакамітасцямі, якія нельга не наведаць, бо ніхто не паверыць табе, што ты быў на курорце, калі не «гудзеў» у якім-небудзь «Каўказскім ауле»...

Самалёт прызямліўся, і Барысаў спакойна глядзеў праз ілюмінатар на паўднёвы лёгкі аэрапорт, нейкі раённы ў параўнанні з вялікімі аэрапортамі, якіх Барысаў нагледзеўся за апошнія гады. Прывычна чакаў, пакуль выдадуць багаж, выйшаў з будынка, узяў білет на аўтобус, які адпраўляўся да горада праз пятнаццаць хвілін. Ласкава свяціла сонца, не было горача нават і ў касцюме, Барысаў ведаў, што праз гадзіну ён прыедзе ў горад на вакзал, возьме таксі, пад'едзе да прыёмнага пакоя. Там яму выпішуць санаторную кніжку. Ён зойдзе ў свой нумар ці, па-санаторнаму, палату, раскладзе рэчы і ляжа, упадзе ў чыстыя халаднаватыя прасціны і будзе спаць, спаць... Ад гэтай думкі ён і сапраўды

раптам адчуў стомленасць, пра якую нават і ўявіць не мог тады, больш дзесяці гадоў назад. Цяпер Барысаў адчуў усім сваім нутром, усёй сваёй істотай цяжар гэтых апошніх дваццаці гадоў, які налёг на плечы, гнуў і ціснуў да зямлі з такой сілай, што ёй амаль немагчыма было ўжо і праціўіцца, і трэба бегчы, каб не ўпасці і не быць раздушаным. А ён ужо не бег, а толькі змяняў ногі, як заведзены...

## *III*

Певень крычаў па-вясковаму гарласта і знаёма. Барысаў прачнуўся ад ягонага крыку і выйшаў на балкон. Певень крычаў з патанулай у засені дрэў лагчыны збоч санаторнай тэрыторыі, дзе стаялі хаты, у якіх жылі людзі са сваімі простымі клопатамі, трымалі курэй, і певень выконваў свае абавязкі пры гаспадарцы.

Над вяршынямі двух кіпарысаў у лагчыне віднелася мора, роўнае і халоднае на ранішнім сонцы.

Барысаў надзеў трэніровачны касцюм, укінуў у поліэтыленавы мяшочак плаўкі і махровы ручнік, усунуў ногі ў гумавыя шпёпанцы. Хацелася ісці подбегам, лёгка, але тупы боль адразу ж даў знаць пра сябе. Барысаў асцярожна сышоў па прыступках у вестыбюль, выйшаў на двор. Сонца толькі дакранулася да вяршынь дрэў, ад мокрай у расе травы, ад бетонных плітак павявала холадам.

Па прыступках ён спускаўся да мора, успамінаў, як тады, у першы свой прыезд, яны бягом збягалі ўніз, а потым і наверх узбягалі, лічылі прыступкі, і іх аказвалася кожны раз на адну прыступку то болей, то меней. Барысава перагнала пара, ён таўставаты, лысы, і жонка, круглая, але надзіва рухавая. Барысаў міжволі памкнуўся за імі гэтак жа спружыніста і лёгка, паморшчыўся ад болю.

Цень ад дрэў ляжаў на беразе і на моры аж да самых буёў. Тут яшчэ больш, чым на беразе, патыхала каменным холадам.

Па́ра, якая абагнала Барысава, ужо раздзявалася ля вады. Першай у ваду пайшла жанчына, мужчына следам. Па тым, як плыўцы энергічна ўзмахвалі рукамі, Барысаў здагадаўся, што вада халодная. У шлёпанцах ён падышоў амаль да самай вады, і, як толькі ступіў босымі нагамі на гальку, яна апякла ступні холадам, можа, таму спачатку ў вадзе здалося цяплей. Барысаў вярнуўся на бераг, але і тут, на бетоннай набярэжнай, нават у шлёпанцах мерзлі ногі. Барысаў прысеў на дашчаны тапчан і глядзеў на мора.

Па ім плыў, патарахкваючы маторам, адзінокі чорны буксір. Барысаў прыглядаўся да яго, нібы хацеў пазнаць, ці той гэта самы.

...Мора ляжала надзіва роўна, не варухнулася, не калыхнулася, нібыта застыла, аплаўленае ранішняй сонечнай пазалотай. У вадзе было цяплей, чым на беразе. Барысаў няспешна выплыў у мора за буі, ляжаў на спіне, і сонца грэла ў твар. У вады сваё прыемнае цяпло, у сонца — сваё. Ранішнюю цішыню парушаў толькі роўны грукат матора чорнага буксіра з аўтамабільнымі пакрышкамі на бартах. На палубе людзі ў рабочым адзенні нешта крычалі Барысаву і махалі рукамі. Ён таксама прыветна памахаў ім у адказ.

Чаго крычалі, Барысаў зразумеў пазней, калі агледзеўся, што ён не супраць свайго санаторыя, а ўжо насупраць суседняга пляжа. Тады ён пачаў хутка грэбці да берага, але той не спяшаў набліжацца, а плыў міма. Барысаў знямогся. Сонца ўжо паднялося вышэй, і Барысаў бачыў на беразе людзей, якія гэтак жа, як і ён, выйшлі пакупацца. Барысаў цяпер зразумеў, што гэта спакойная вада нясе яго нябачнай магутная плынню. Тады ён пачаў плыць да зямлі пад вуглом, упарта эканомячы сілу. Па дрэвах ён бачыў, што пакрысе набліжаецца.

Знясілены, Барысаў выбраўся на бераг толькі перад самым марскім портам. Калі дабіраўся да санаторыя, на выратавальных станцыях ужо аб'яўлялі, што ў мора заходзіць небяспечна.

Пакуль Барысаў успамінаў, на набярэжнай збіраліся мужчыны і жанчыны, раздзяваліся да пояса, разміналіся. Гэтая размінка толькі дапамагала нагуляць апетыт, і Барысаў пасмейваўся з яе. Потым з'явілася наверсе, на аэрарыі, жанчына з мікрафонам і запатрабавала:

— Прашу ўсіх выйсці з мора. Пачынаем ранішнюю гімнастыку. Пастроіліся, пастроіліся! А вы, малады чалавек, што прыселі, як сірата казанскі на вакзале? Станавіцеся, станавіцеся!

Барысаў спачатку не зразумеў, што малады чалавек — гэта ён і ёсць. На яго пачалі азірацца. Першае жаданне было агрызнуцца, пайсці назад. Але на вачах ва ўсіх уцякаць, як хлапчуку... І ён падняўся, пачаў пераступаць нагамі пад каманду крыклівай жанчыны з мікрафонам. Яму здавалася, што і тады яна крычала гэтак жа на пляжы кожнае раніцы. Потым Барысаў пачаў заўважаць, што

стамляецца, што рухі яго гэтакія ж нязграбныя, як і ў «маладых людзей» побач, нават горш таго. Ён паспрабаваў выконваць практыкаванні спружыніста і лёгка, але адчуў, што не стае дыхання, што рукі і ногі скоўвае боль. Ён датрываў да канца зарадкі, потым доўга праходжваўся па беразе, аддыхваўся, прыслухоўваўся, як калоціцца, нібы авечы хвост, у грудзях сэрца. Назад да санаторыя Барысаў пайшоў не па лесвіцы, а ўкруга, па дарозе, па якой на пляж можна пад'ехаць на машыне.

Над дарогай сыходзіліся вяршаліны парадзелага на восень граба, падала на асфальт і ледзь чутна чокала сухое пакручастае лісце. І пахла тут па-асенняму прыпрэлай вільгаццю. Пах гэты памятны навек з дзяцінства, гэтак жа, як і пах сакавіцкага, прыгрэтага на сонцы снегу, стылы пах мяцеліцы, што растае белым пылам на брывах, сіберны пах бясконцага асенняга дажджу, прапахлага гаркавым водарам размоклай вішнёвай кары ў садзе.

Барысаў прынюхваўся, прыслухоўваўся, прыглядаўся да гэтага суладдзя ў прыродзе, якое нязменна паўтараецца з усёй сваёй велічнасцю і значнасцю. Гэтакай жа, а можа, і большай за тыя высокія сферы і матэрыі, у якіх жыў і прападаў апошнія гады Барысаў. Уся глабальнасць свету ці і не існуе дзеля таго, каб вось гэтак вечна і пастаянна расхіналася з маладой радасцю вясной лісце і потым, ужо ў восень, велічна і мудра асыпалася долу?

Барысаў нагнуўся, каб адчуць яго пах, і потым азірнуўся — ці не бачыць хто? Але мудра маўчалі кіпарысы і піхты наперадзе, абапал алеі, пасярэдзіне якой стаялі пузатыя, як вялізныя матрошкі, бразільскія пальмы.

## *IV*

Прайшоў тыдзень, пачаўся другі. Барысаву не надакучала санаторнае жыццё, і кожны дзень яго дарога пад дрэвамі не паўтаралася. Было ўражанне, што з кожным днём ён ішоў усё далей, далей, і з гэтае цяперашняе далечыні, нібы чужога, бачыў сябе самога і сваё жыццё, цэлае жыццё — два дзесяткі гадоў.

Усё на тым жа маладым узлёце Барысаў напісаў і абараніў доктраскую. Яна далася лёгка, быццам удача сама сабой разумелася. Яго прызначылі загадчыкам сектара. Тады гэтакіх маладых лічаныя адзінкі былі на кіруючых пасадах. Ён пачаў ездзіць і выступаць на сімпозіумах і канферэнцыях, дома і за мяжой, асабіста пазнаёміўся з

многімі карыфеямі. Ён адкрываў цікавыя тэмы. Іх і не закрывалі, яны неяк павісалі ў паветры, не хапала альбо сродкаў, альбо таго, хто б укараніў іх, наплывалі другія, не менш цікавыя. Права пачынальніка належала яму, Барысаву... Праўда, за мяжой некаторым ягоным распрацоўкам далі дарогу, і потым за валюту мы самі закуплялі адтуль ужо гатовае абсталяванне. Усё гэта акружала Барысава не толькі славай удачніка, але і таго, каго «яны» хочуць прыціснуць, «з'есці». «Яны» — гэта кансерватары і ўсясільныя бюракраты ад навукі. Упэўнены ў сваёй праваце, у тым, што не надышоў яшчэ яго час, Барысаў і сам адкладваў работу на потым, ваяваў за стварэнне «належных умоў»: удзельнічаў у бясконцых пасяджэннях і нарадах у розных інстанцыях, у спрэчках з калегамі, на рабоце і пасля работы. Усё больш і больш гаварылі пра тое, хто куды перастаўляецца, высвятлялі, хто каго «піхае», хто каго «трымае»... Закручаны ў чадзе спрэчак, ілюзорнага чакання перамен, ён нават і ў адпачынак далёка не выязджаў, самае большае — на дачу, каб быць на месцы, пад рукой. І працягвалася звыклае — спрэчкі, чаркі, прагнозы, расстаноўкі і перастаноўкі. А для навукі ў лепшым выпадку за год выдаваў артыкульчык у акадэмічным весніку.

У сям'і ўсё павінна было, як і раней, служыць і нават прыслужваць Барысаву. Але з гадамі ў жонкі не стала таго ранейшага захаплення і пакорлівасці. Ён абвінавачваў яе ў тым, што не ведае меры ў сваіх прэтэнзіях, што зусім абмяшчанілася. А ён не з тых, каму кар'ера даражэй за навуку. У яго была ідэя, у імя яе ён і жыве, а астатняе нічога не значыць... Усё астатняе дробязь, цераз усё ён меў права пераступіць, у тым ліку і цераз самога сябе.

Ад успамінаў пра ўсё тое тут, пад вечнасцю дрэў, Барысаву здавалася, што яго доўга, бясконца доўга, везлі па расхлябанай, разбітай каляі ў грымучым, як парожняя бочка, і пастаянна п'яным вагоне. І ён аглух ад гулу доўгіх і аднастайных гаворак, у якіх чалавек куляецца, нібы клоун на пацеху ўсім. Стары, ацяжэлы, прыдурваецца, як малады, і маладыя бачаць і старасць, і недарэчнасць гэтага куляння. Фокусы састарэлі, акцёр абшарпаны, верыць у апладысменты, у якіх невядома чаго больш — насмешак, горычы, спачування? А за акном вагона адплывае ў нябыт жыццё і, як на вар'яцтва, глядзіць на гэты грукатлівы шабаш...

Успомніўся даччын позірк перад ад'ездам, і нешта абрывалася ў грудзях, цёпла, забыта. І калі думаў пра страчаныя

гады, здароўе, хацелася заскрыгітаць зубамі ад злосці і бяссілля што-небудзь перамяніць, вярнуць назад...

А надвор'е цешыла. Стаялі сонечныя дні, нячастыя ў гэтую пару, трымала цяпло мора. На ціхі, прасторны пляж штодня прыходзіў хударлявы, крыху ссутулены дзядзька. Акунаўся ў моры, грэўся на сонцы, рассцілаючы падсцілку проста на цёплы пясок, чытаў газеты, якія заўсёды насіў з сабой у поліэтыленавым мяшку разам з ручніком. Ён адпусціў вусы, і ад гэтага твар здаваўся яшчэ старэйшым і строгім. Вылучаўся ён тым, што любіў быць адзін, але гэта зразумела — вучоны. І яшчэ — амаль штодня мужчына званіў дадому, прасіў да тэлефона ўнучку, і твар яго ажываў, святлеў, як і ўдзень на пляжы, калі чуў магутны гул самалёта, які ўздоўж пабярэжжа набіраў вышыню, знаходзіў яго і доўга праводзіў позіркам.

## *Багамолка*

Усё выйшла да крыўднага проста і будзённа. Міхасёнак зусім не гэтага чакаў, калі думаў пра паездку ў мясціны, дзе некалі партызаніў. Пра паездку ён пачынаў думаць заўсёды, калі яму было цяжка і пачынала мучыць сумненне і роздум. Паездкі гэтае ён чакаў як ачышчэння, як свята. І вось цяпер, пакалыхваючыся на пыльным прасёлку ў аўтобусе, безнадзейна захіляючыся ад пылу ў стары пакамечаны плашч, успамінаў ён усё, што адбылося за гэтыя тры дні, свой ад'езд.

Устаў ён з шасці гадзін, доўга і старанна мыўся ля калодзежа, потым снедаў разам з Янкам. Потым яны ўдвух выйшлі ў канец вёскі, чакалі аўтобуса, які павінен быў ісці недзе а палове восьмай на Мінск і чамусьці спазняўся. Янак, абуты ў гумавыя боты, у куфайцы паверх заношанае майкі, з непабрытым рыжабародым тварам, курыў махорку і неўпрыкмет паглядаў на гадзіннік. Міхасёнак ведаў, што Янаку не церпіцца, калі прыйдзе Антось і Казя. Тады ён зможа развітацца і бегчы збіраць касцоў — ехаць касіць балота на Шубіна, бо яго брыгада і так самая адстаючая.

— Ладна, Іван, давай. Я адзін пачакаю, можа, яны прыйдуць. Не забудзь мой адрас... Дарэчы, што гэта ўчора парываўся сказаць мне Антось? — запытаўся Міхасёнак.

— А... Так,— адмахнуўся Янак.

— Усё-такі,— настойваў на сваім Міхасёнак.

— Я напішу... лепш. Ладна? Усяго добрага! — развітаўся ён і пайшоў па вуліцы, разграбаючы нагамі пясок.

Міхасёнак кінуў плашч на пасівелую ад пылу прыдарожную траву, лёг. Яму адразу ж успомніўся ўчарашні развітальны вечар у Янакавай нізенькай хатцы з пачарнелаю столлю і такім жа пачарнелым ад старасці дзедаўскім сталом.

Казік і Антось прыйшлі адны, без жанок, хоць меліся сабрацца па-сямейнаму, як на госці. Міхасёнак уявіў, як бабы адмахваліся і бубнілі, што няма калі прадыхнуць за работаю, а яму — гэта пра Міхасёнка — госці ды гарэлка.

Закусвалі салам і смажанаю рыбаю, якую Міхасёнак лавіў з Янкам — ад'ехаліся ў пушчу на матацыкле, кінулі зарад у затоку. Міхасёнак боўтаўся ў вадзе, збіраў аглушаную рыбу і з жахам думаў, што будзе, калі накрые ахова. Ён жа ўсё-такі работнік міністэрства.

Мужчыны цэлы дзень былі на сенакосе, і пасля другое шклянкі твары іх зачырванеліся, мужчыны загаманілі. Міхасёнак добра ведаў усё, пра што яны ўспаміналі: ён амаль два гады быў камандзірам іхняй падрыўной групы, сам вучыў іх сапёрнай справе. Памятаў ён і тыя суткі, за якія яны ўмудрыліся спусціць тры эшалоны, і тую ноч, калі іх заўважылі на высечанай паўз дарогу паласе лесу. Яны тады вярнуліся ў атрад, несучы мёртвага Ваську-масквіча і веселуна-гарманіста Мікіту...

— Слухай, камандзір, я табе скажу. Пра Гудка скажу... Ты слухай мяне, камандзір,— паварочваўся да Міхасёнка Антось. У яго ўжо заплятаўся язык, і замест «камандзір» выходзіла «камдзір».

Але сказаць Антосю так і не ўдалося: Міхасёнак таксама захмялеў і не слухаў, да таго ж не маўчалі і Янак з Казем. Пасля Міхасёнак спяваў разам з мужчынамі і не помніў, як трапіў у пасцель...

Аўтобус спазняўся на цэлыя паўгадзіны, і Міхасёнак нервова паглядаў на гадзіннік і думаў, што хацеў сказаць яму Антось пра Гудка, некалі самага маладога і ціхманага, задумлівага, як цень, хлопца. Прыйшоў Гудок у іхнюю пад-

рыўную пасля таго, як немцы застрэлілі яго старую маці. Яна хацела не даць ім падсвінка.

Янак расказаў, што Гудок запіў пасля вайны і ноччу, ідучы дадому, утапіўся ў балоце, дакладней, у восеньскай каляіне на балотнай дарозе.

Антось і Казя так і не прыйшлі праводзіць Міхасёнка, і ён, адзіны пасажыр з усяе вёскі, цяпер сядзеў на заднім сядзенні і ўспамінаў.

Аўтобус затармазіў, патануў у воблаку пылу, зарыпелі ґумаю пярэднія дзверцы. У аўтобус увайшла маладая пара. Жанчына асцярожна трымала на руках спавітае немаўля. Следам увайшла нізенькая старая ў акуратнай чорнай сацінавай спадніцы, у такім жа чорным сачку і чорнай хустачцы.

Уперадзе адна з жанчын, што ехалі ў аўтобусе, паціснулася да акна, пасадзіла побач старую.

— Куды табе ехаць, бабка? — пацікавілася жанчына.

Старая азірнулася кругом, хуценька перахрысцілася некалькі разоў, паказала пальцам некуда за акно.

— Нямая?! Маліцца едзеш у Дзераўное? — услых здзівілася жанчына.— Позна ж ты едзеш, бабка: аўтобус ужо пайшоў на Дзераўное. Гэна каб ты раней села, дык якраз бы на дарогу выехала.

Старая яшчэ некалькі разоў перахрысцілася, паказала рукою за акно.

— Ды ўжэ ж даедзеш, хоць на папутнай,— супакоіла старую жанчына і з уздыхам вымавіла балючае, яшчэ памятнае Міхасёнку з часоў вайны: — От долечка ж мая ты!

Міхасёнку добра была відаць старая. Ёй не сядзелася. Яна неспакойна паглядвала за акно, павярнулася да жанчыны з дзіцем, паказала на малое пальцам, потым на мужчыну, што сядзеў побач з жанчынай.

— Не, не муж. Гэта брат мой,— адказала жанчына.

Старая заківала галавою, махнула ад сябе рукою, неяк ад твару — маўляў, не.

Міхасёнак раптоўна сцяўся ўвесь — ён успомніў...

Дажджы пайшлі дарэчы: брыгаду заціснулі блакадаю, партызаны рыхтаваліся да прарыву. Ноччу камбрыг выклікаў у штаб камандзіра лепшай падрыўной групы. Заданне было адказнае: трэба было адысціся за пяць кіламетраў ад прызначанага месца прарыву і ўзарваць мост, каб немцы не змаглі ўдарыць з флангу танкамі, пакуль брыгада ўвой-

дзе ў другое балота, дзе больш не страшны ні немцы, ні іх танкі.

— Ты зразумеў мяне, камандзір? Заўтра апоўначы мост павінен узляцець. Як бы ні было... Ты мяне зразумеў? Пра час прарыву ведаюць толькі ты і мой камісар. Хлопцам сваім скажы, што гэта проста дыверсія,— скупа гаварыў камбрыг і глядзеў сваімі чырвонымі ад бяссоння вачыма.— Ідзі, камандзір.

Праз гадзіну падрыўнікі выйшлі — пяць маладых хлопцаў, узброеных і нагружаных узрыўчаткаю. Ад іх цяпер залежаў лёс брыгады — змучаных, галодных і знясіленых людзей, з якімі былі абозы, параненыя, жанкі і дзеці з навакольных вёсак, якіх яны павінны былі абараніць, выратаваць. Гэта амаль без боепрыпасаў, без ежы.

Яны ішлі ў ноч, і толькі адзін камандзір ведаў, што, магчыма, ніхто з іх не вернецца назад.

Вёсачка, заціснутая лесам, угадалася па агародах, па качанах капусты, што захрумсцелі пад нагамі.

— Завішняк, давай у крайнюю хату, уведай, дзе тут рэчка, дзе той мост,— загадаў камандзір, і чалавек прапаў у начной цемені, толькі было пачулася, як зашоргалі халявы ботаў па бульбоўніку. Праз колькі хвілін адтуль, дзе знік партызан, коратка трэснуў аўтамат, з сярэдзіны вёскі шухнула ўгару ракета, пры спалоханым смяротным святле якой камандзір заўважыў за метраў сто і рэчку, і мост...

Яны цішком зніклі ў лесе. Аўтаматы яшчэ трашчалі ў вёсцы, потым пачуўся выбух, другі, і ўсё сціхла. Усе ўчатырох зразумелі, што партызан назад не вернецца і нікому нічога не прагаворыцца.

Камандзір загадаў абысці вёску з другога боку, перабрацца цераз рэчку і там пераседзець у лесе дзень, а ноччу выйсці на падрыў, з двух берагоў, дзвюма групамі, калі на мосце будзе ахова.

На днёўку яны затаіліся на ўзгорку ў густым кусцістым арэшніку, за якім чарнелася лясная глухамань, як думалася ім. З узгорка былі добра відаць падыходы з трох бакоў, і, на ўсякі выпадак, было куды адступаць.

Мокрая імгла, якая церусілася ўсю ноч, к абеду перастала, але неба не праяснілася — вісела шэра і нізка.

І камандзір не паверыў вачам, калі ўбачыў пяцёх нямецкіх салдат. Яны ішлі проста на ўзгорак. Аўтаматы ў іх віселі за плячыма, а ў руках у аднаго была адабраная ў вёсцы карзіна. Немцы ішлі ў арэхі. Камандзір загадаў адпаў-

заць да гушчару, і калі сам, апошнім, перамахнуў невялікую палянку перад гушчаром, пачулася кароткае нямецкае:

— Хальт!

Следам ударыла чарга, пачуўся тупат.

...Гушчар кончыўся нечакана. Яны выбеглі на дарогу. У нейкую долю секунды камандзір улавіў і трэск сучча ззаду ў гушчары, і заўважыў жанчыну, што ад нечаканасці ўпусціла на дарогу вязанку ламачча, і направа цераз дарогу гушчар, а налева рэдкія кусты на выжарыне і кінуўся туды. Хлопцы — за ім і ўпалі за першымі ж кустамі, яшчэ не разумеючы, чаму так зрабіў камандзір.

Ім было добра відаць, як выбеглі на дарогу фашысты, як яны загергеталі да жанчыны, як яна махнула ад сябе рукою, ад твару, як нізенькі круглы фашыст тыцнуў жанчыне ў грудзі аўтаматам, і яна ўпала на дарогу, як яны білі яе ботамі...

— Не смець! Чуеш, Гудок? — загадаў камандзір партызану, які паціхеньку падымаў да пляча аўтамат. Яны бачылі з засады, як з-за вязанкі махнулася рука жанчыны і ўпала ў бок гушчару, як фашысты кінуліся туды, як адзін з іх агляну́ўся і секанӯў па жанчыне дзвюма кароткімі чэргамі...

Ноччу падрыўнікі ўзарвалі мост і дагналі брыгаду.

Аўтобус павярнуў на гравійку, спыніўся.

— А можа, бабка, далей пад'едзеш? Там аўтобусы спыняюцца,— гучна запытаўся шафёр.

Старая адмоўна заківала галавою, махнула рукою ад твару — не азірнулася на пасажыраў. Міхасёнак апусціў вочы. І ўжо калі крануўся аўтобус, ён азірнуўся — на дарозе сіратліва варушылася цёмная постаць — усё аддалялася, меншылася...

Недзе праз месяц Міхасёнак атрымаў ліст ад Янака.

«Здраствуй, камандзір! Сабраўся напісаць табе, каб ты ведаў усё. Дык Гудок пасля партызан не піў, як ажаніўся. Добра з жонкаю жыў. Адале прыходзіць раз да мяне, п'яны, заплаканы. «Жыве,— кажа,— Янак, тая баба, што мы тады кінулі». Я ў яго пытаюся, якая там баба. Ажно ён пра тую, што тады немцы білі, як мы ішлі мост узрываць у блакаду. Якая нас не выдала. А Гудок наш зусім спятраў і ссох, і ўсё п'е, як на пусты канец. Сустрэліся неяк мы, цвярозы ён быў. Давай я яго ўгаворваць, каб кінуў піць, а ён мне ні з таго ні з сяго: «А яна пасля таго знямела. Немцы яе білі,

каб гаварыла. Помніш, яна рукой ў другі бок махнула?» — «Кінь,— гавару яму,— інакш нельга нам было».— «Не магу»,— адказвае. І вочы ў самога балючыя такія, і ўсё ў адно месца глядзяць. Страшна мне за яго стала. Цэлую ноч заснуць не мог, усё думаў пра Гудка нашага. І згінуў у тую ж ноч Гудок. І мы цяпер з хлопцамі баімся з гэтаю нямою стрэцца. Трэба было нам тады ўсё роўна падысці да яе...»

У канцы пісьма былі прывітанні ад Антося і Казіка.

Міхасёнак невідушча глядзеў на спісаны алоўкам лісцік з вучнёўскага сшытка ў касую лінейку і бачыў маленькую постаць, якая ўсё аддалялася і знікала за едкім, як памяць, дарожным пылам.

## *Садоўнік*

...Я стал работать над словом и вырастал сад из слов, такой большой, что в нем тысячи гуляют и миллионы пройдут в нем.

М. Прышвін

### *I*

Яго з'яўленне заўважылі амаль усе ў першы ж дзень. Быў ён зусім стары, ссутулены, сагнуты гадамі. Адно плячо трымаў крышку ніжэй, і ад гэтага здавалася, што ходзіць неяк рубам. Чаравікі, мабыць, вялікаватыя, грукалі ўслед старому па бетонных плітах дарожкі. Светлы пінжак і шэрыя адпрасаваныя штаны віселі на старым неяк пакамечана. Ён адзінока прыходзіў у белую, абліцаваную мармуровай пліткай сталоўку, падымаўся на другі паверх па вінтавой лесвіцы, абапіраючыся рукой на парэнчу. Абедаў павольна, сівавалосы, цёмны з твару, быццам адпачываў, і вочы, светлыя, па-старэчаму выцвілыя, глядзелі некуды далёка, куды іншым зазірнуць не дадзена. Потым заходзіў у бібліятэку, ненадоўга з'яўляўся на пляжы, сядзеў пад навесам, чытаў альбо глядзеў у мора ўсё тым жа доўгім і глухім позіркам. Потым знікаў.

Санаторная публіка, якой у гэтую пару сабралася нямнога — прыморскі корпус санаторыя рамантавалі,— гадала, хто ён такі. Адны ўспаміналі, што працаваў ён нібыта ў Саўміне, другія гаварылі пра кіраўніцтва справамі ЦК, трэція залічалі старога па ведамству прафсаюзаў. Суседзі за сталом паспрабавалі запытацца пра былую работу ў самога старога, але Віктар Пятровіч, як ён назваўся, ці то не па-

чуў пытання, задумёна прамаўчаў, ці то прытварыўся. Больш старога не чапалі, а праз некалькі дзён звыкліся з ягонай маленькай постаццю і не звярталі ўвагі. Народ у санаторыі адпачываў у асноўным наменклатурны, ад раённага ўзроўню да рэспубліканскага, а тыя, хто ўжо быў на пенсіі, таксама выйшлі з наменклатуры, і таму было пра што і пра каго пагаварыць.

Разгадка, хто такі стары, прыйшла дзесьці праз два тыдні, пасля здарэння, якое ўскалыхнула спаважны лад санаторнага жыцця, атрымала свой каментарый у наменклатурных і экс-наменклатурных, а найбольш, вядома, у верных спадарожніц тых і другіх.

## *II*

А тым часам стаялі сухія, сонечныя і ласкавыя кастрычніцкія дні, якія бываюць на поўдні ў гэтую пару, хаця і сюды ўжо дабіралася восень. Неўпрыкмет, але парадзелі густыя шаты букавых вершалін, і скрозь галлё свіцілася чыстае, сіняе неба. Пажаўцелі, набрынялі барвай і красаваліся, як паўліны, вастралістыя клёны. Пад лёгенькім ветрам серабрылася лісце таполяў, але і гэтага срэбра пачынала пакрысе ўбываць. У лагчыне ў зацішку нетутэйша, жоўта, як аплыўшыя свечкі, стаялі тры бярозкі. З магнолій на бетонныя дарожкі, грузна, з лубяным стукам падалі жоўтыя бліскучыя лісты.

Стары пачынаў свой абход ад уязное брамы, жалезныя вароты якой віселі пастаянна расчыненыя насцеж, а дарогу перагароджваў кароткі шлагбаум, які падымаў, націскаючы на кнопкі, вахцёр. З гары, паверх даху старога даваеннага корпуса, некалі адкрываўся далягляд на мора, і стары ў свой час любіў адсюль дзівавацца на яго.

Тады на тэрыторыі амаль не было дрэў, а дзе і раслі, то маладзенькія. Да вайны давесці тэрыторыю да ладу не ўспелі. У вайну санаторый займаў шпіталь, у які трапіў і Віктар Пятровіч. Трапіў і астаўся, бо прыглянулася медсястра Каця, з якой ён збіраўся вярнуцца дадому. Не вярнуўся. На пісьмо, якое дайшло ў вёску, адказаў сусед: бацькоў расстралялі немцы за тое, што маладзейшыя браты пайшлі ў партызаны. Браты ў вёску не аб'явіліся, мабыць, загінулі. Далей сусед дзядзька Пятрок пісаў пра тое, што ўся вёска спалена, людзі жывуць у зямлянках, галадаюць, а вясною аралі на сабе. Каця плакала, калі чытаў ён пісьмо, і ўгаварыла астацца тут. Пры санаторыі ў хацінцы ім выдзе-

лілі пакойчык. Спачатку ён працаваў дворнікам, а потым, калі галоўны агледзеў, што ў дворніка за плячыма два курсы сельгасакадэміі, прызначыў садоўнікам.

— Ты для мяне залаты чалавек. Ні ў кога такога няма! Ты малады і здаровы. Вучаны. Ты зробіш тут рай. Тут усюды ружы будуць цвісці! Адны ружы! Ад брамы на ўсіх тэрасах да самага корпуса. А перад корпусам фантан, і ад яго пальмы аж да самага мора. Глядзі, як тут архітэктар нарысаваў! Мяне не будзе, цябе не будзе, а людзі сюды будуць прыходзіць любавацца на ружы. Вечны помнік. Лепшага ніхто не прыдумае і не паставіць ні табе, ні мне!

Невядома, чаму доктару здавалася, што калі многа ружаў, то гэта ўжо рай, але кінутае ім зерне прарасло ў душы Віктара Пятровіча, калі ён пачаў займацца пасадкамі. Тады і ён уявіў казачны рукатворны рай. А на першым часе, пакуль будаўнікі рабілі тэрасы, вымошчвалі бетонам дарожкі, ён хадзіў па санаторыях, закладзеных да вайны, прыглядаўся, запісваў, замалёўваў. І чытаў усё, што мог дастаць у санаторных бібліятэках. У сваіх пошуках ён нарэшце дайшоў да супрацоўніка дэндрарыя Прохара Прохаравіча. Тоўстага, цяжкага, з сівой шчэццю на твары і сівымі тлустымі валасамі.

— Гэ, бацэнька, каб зрабіць парк, аднаго жыцця мала. Гэта нават калі ты проста талент, а не геній. А ён нараджаецца там, дзе патрэбен народу. У людзей, якія ўмеюць глядзець не толькі ў карыта, але і на неба. Вось так, бацэнька! А натоўпу дастаткова рамяства. Натоўп рамесніка любіць і сыта корміць. Я знаю! — Прохар Прохаравіч цяжка аддыхваўся пасля сказанага, як пасля вялікай дарогі, арыстакратычна паводзіў перад сабой рукой у паветры, нібы адхіляў фіранку.— Дзярзай і будзь гатовы да церняў. Садоўніку належыць быць цярплівым, нават калі ён геній. У крайнім выпадку, галадаць ты не будзеш, хіба толькі сап'ешся...

Прохар Прохаравіч сумна ківаў галавой, потым быццам ачынаўся і нібы здаля глядзеў, пазнаваў самога сябе і свайго субяседніка.

Прохар Прохаравіч, аднак, не толькі паіў чаем маладога садоўніка, але і даваў кнігі пра паркі, якія збіраў усё жыццё. Потым ён дапамагаў даставаць насенне, саджанцы. З яго саджанцаў Віктар Пятровіч развёў за маленькай яшчэ самшытавай агароджай першы свой разарый. Потым разарыямі ён запоўніў усе тэрасы, і ружы нібы сыходзілі па схіле да санаторнага будынка, да апошняга адхону з раскошнымі купінамі пампаскай травы, жорсткай і вострай,

як асака. Летам між яе зяляніны буйна цвілі кусты дроку, а ўвосень трава выкідала над сабой белыя нетутэйшыя мяцёлкі. У вялікіх бетонных вазах абапал лесвіц ён пасадзіў маленькія пальмы, якія восенню трымалі над сабой султаны-ліхтары. Ад ветру з мора разарыі закрывалі сабой пасаджаныя на схіле кедры.

З вокан санаторыя цешыў курортнікаў велічэзны дыван, сатканы з ружаў. І ўсе ведалі ўжо яго, садоўніка. І ён прывык, што яго гэтак завуць. І няважна было, што Прохар Прохаравіч паблажліва каменціраваў зробленае.

— Гэта, баценька, самадзейнасць і эклектыка. Праўда, нешта ёсць ад прымітыву... Не, майстар робіць тое, што трэба народу, і з матэрыялу, любімага народам. Словам, фарба, камень, дрэва, трава, кветкі... Які народ, такога і майстра ён заслугоўвае! Богу богава, кесару кесарава! А можна і так, усердзія радзі і прыляжанія...

Прохар Прохаравіч хутка размякаў пасля пачастункаў чаем і «да чаю». З-за гэтага ён хутчэй за ўсё апошнія гады і прыходзіў да садоўніка, каб пасядзець на тэрасе і выгаварыцца. Садоўнік слухаў і не надта звяртаў увагу на мармытанне старога няўдачніка, якому ўжо не пасадзіць ніякага саду. І што толку, што некалі ён мог?..

## *III*

Садоўнік сядзеў на лаўцы. Унізе ляжала ўся тэрыторыя, засаджаная ім. Вяршыні дрэў ужо падняліся мясцінамі вышэй за дах старога корпуса, дзве магутныя секвоі абапал будынка вынесліся высока ў неба. Сям-там над роўнай зелянінай вытыркалі вяршаліны кіпарысаў. А мора закрывала шэрая бетонная будыніна новага корпуса.

Тэрасы, на якіх некалі раскашавалі ягоныя разарыі, зараслі травой, якую акружала густая засень кустоў лігіструму. Толькі на адной тэрасе была ўскапана градка на ружы, тырчалі запушчаныя пенчукі і апошняя жоўтая кветка скінула на зямлю першыя пялёсткі. На бетонных плітках парос зялёны мякенькі лішайнік.

Каторы ўжо раз стары садоўнік сыходзіў па лесвіцы ўніз да корпуса, далей паўз круглую бетонную чашу фантана да пузатых, цяпер вялізных пальмаў. Ён не пазнаваў дрэў, яны набралі сілу, а прысады вакол іх здзічэлі, ператварыліся ў лес. Пальмавая алея ўпіралася ў будаўнічую пляцоўку пастаўленага на рамонт корпуса, і трэба было зварочваць налева, на бакавую алею. Тут высока стаялі яго кіпарысы.

А дрэвы на схіле высеклі. На іх месцы стаяў водалячэбны корпус, за ім сталоўка і клуб. На схіле між будынкамі мужчыны ў спяцоўках садзілі самшыт, а трактар «Беларусь» бліскучымі зубамі экскаватарнага каўша ўскопваў градку.

Садоўнік не першы дзень кружыў па здзічэлай тэрыторыі. І з кожным днём усё вастрэй і вастрэй уставала з памяці жыццё, тое, у сонечным святле, яркае і шчаслівае. Там было многа сонца і руж. Там была Каця, дачка, там былі маладосць, спадзяванне і шчасце. Ён мог шчодра дарыць ружы, і Каця раўнавала яго да прыезджых маладых жанчын, а маленькая Оля радасна ўсміхалася яму блакітнымі вачанятамі. Садоўнік нават спыняўся, заплюшчваў вочы: гэтак блізка была яна, сонца, ружы, шчасце.

Ён не заўважыў, як раслі дрэвы, мяняліся людзі. Оля скончыла медвучылішча. Знайшоў яе марачок у лейтэнанцкіх пагонах. Вясёлы лейтэнант з пшанічнымі вусікамі. На вяселлі сталы патаналі ў самых лепшых ружах. А праз год паехала Оля следам за сваім марачком на край свету, на Далёкі Усход. Адтуль прыходзілі пісьмы, потым фотаздымак унука. Нудзілася па дачцэ Каця, а ён хаваўся ў свой сад і ўсё адкладваў той адпачынак, калі паедуць да дачкі. Так і не даехалі. Захварэла Каця і з бальніцы не выйшла. Оля з маленькім Эдзікам прыехала на пахаванне, пабыла з ім з тыдзень і вярнулася назад, да мужа. На край свету. Не стала к таму часу старэнькага галоўнага доктара, прыйшоў новы, а з ім будаўнікі, бульдозеры, краны. З уводам новага корпуса навалілася плойма людзей. У белы мармур адзявалі старыя лесвіцы, гудзелі па вечарах танцы, санаторны буфет шчодра разліваў каньяк і віно ў шклянкі. Не да ружаў было і не да садоўніка. І ён пакрысе запіў, як і ўсе...

*IV*

Потым прыехаў брат Аляксей. Ён усё ж ацалеў у вайну, стаў вялікім начальнікам. Пісьмо, некалі пасланае садоўнікам, збярог стары Пятрок і перадаў Аляксею, калі той заязджаў на былое роднае котлішча.

Садоўнік памятаў першы прыезд брата пасля вайны. Ён даглядаў ружы ў разарыі, калі спынілася чорная «Волга», з яе выйшаў лысы, худы, але дагледжаны чалавек, спыніўся і глядзеў на яго, садоўнікаву работу. Садоўнік не павярнуўся, нібы і не заўважыў, што за ім назіраюць: ён ужо прывыкаў, што яго паказваюць.

— Віцька, яці тваю! Глядзі, як забурэў! На брата і то глядзець не хочаш! — гукнуў чалавек і ступіў да разарыя.

Па голасе садоўнік пазнаў Аляксея і кінуўся да яго, абдзіраючыся аб калючыя кусты руж.

Больш адпачываць сюды ў санаторый брат не прыязджаў. Мабыць, было ў яго сваё, лепшае месца, але віншаванні з Новым годам садоўнік атрымліваў рэгулярна. І зрэдку ў гэтых пісьмах прамільгвала ненастойлівае запрашэнне вярнуцца на радзіму. Аляксей абяцаў брату знайсці і добрую работу, і жыллё дапамагчы атрымаць. Садоўнік адказваў брату кароткімі пісьмамі, дзякаваў, але ехаць нікуды не выбіраўся. Гэта пакуль ладам і парадам ішло жыццё.

Другі раз брат з'явіўся, відаць, па выкліку галоўнага доктара санаторыя: проста выгнаць садоўніка за п'янку ён не мог, брата пабойваўся.

Аляксей прыехаў зноў з машынай, на тыдзень пасяліўся ў люксе. Ён змяніўся: пастарэў, растаўсцеў і пры хадзьбе ўжо цяжка дыхаў з сябе.

За сустрэчу з братам выпіў крыху з кілішка каньяку. І глядзеў на садоўніка стомленымі і строгімі начальніцкімі вачыма, пад якімі абазначыліся цёмныя пухіры. Ён загадаў садоўніку напісаць заяву, а небагатую мэблю, нажытую з Кацяй, садоўнік завёз у камісійны магазін.

— Мы з табою, брат, два толькі з роду асталіся. Гады не тыя, разам трэба быць. І дурату выкінь з галавы! Гарэлка ніколі яшчэ нікога не нагрэла.

На першым часе садоўнік жыў у брата, займаў пакой у прасторнай пяціпакаёвай кватэры. Аляксей падшукаў работу ў абслузе загарадных дач, даглядаць кусты і кветкі. У распараджэнні Віктара Пятровіча была невялікая брыгада рабочых, жанчын у асноўным. Не без удзелу брата пазнаёміўся садоўнік з Марыяй, якая працавала там жа, на дачах, буфетчыцай. Пасля смерці мужа яна жыла адна.

Непрыкметна пачалося ў садоўніка новае жыццё, новыя клопаты. У Марыі былі грошы, каб купіць машыну. І машыну купілі. Яна мела дачу, дзе яны жылі ўсё лета і дзе яму можна было паказаць сябе, трымаць першынство сярод суседзяў. Марыя прывыкла раней хадзіць у кіно, на канцэрты, у тэатры, павячэраць у рэстаране. І садоўніку ўсё гэта здавалася новым і цікавым. Пакрысе прыйшло адчуванне ўпэўненасці і задаволенасці жыццём, утульнасці, якой, здавалася, няма канца.

Гэтак ішло да таго часу, пакуль не памёр Аляксей. Ён ужо таксама жыў спакойным дачным пенсійным жыццём. Устаў раніцай, пагуляў па лесе, вярнуўся з прагулкі, прылёг паляжаць і не падняўся.

Пасля братавай смерці нібыта іншым позіркам зірнуў на сябе Віктар Пятровіч і ўбачыў, што стары ён таксама, старая яго Марыя. Прыйшла разам з гэтым разуменнем і незнаёмая туга. І хваробы, маленькія і вялікія, і боль у сэрцы. І ўсё часцей успаміналася маладосць, успаміналася яго работа ў санаторыі — тады, калі ён быў малады, калі ў яго была Каця, маленькая Оля, калі былі ягоныя ружы і сам ён быў самы шчаслівы чалавек на зямлі. Потым яму пачалі сніцца каляровыя сны, сніліся ружы, розных, дзіўных колераў, з ранішнімі, чыстымі, як дзіцячая сляза, кропелькамі расы. І сам ён цяпер, здаля, пачынаў верыць у той дзіўны казачны сад, які стварыў і пакінуў людзям, расказваў пра яго Марыі, і яна цярпліва слухала: расказы былі пра адно і тое ж. Яна не запярэчыла, калі садоўнік сабраўся ехаць і дабіўся пуцёўкі ў «свой» санаторый. Ён ажывіўся, зарадаваўся і нават не заўважаў, што Марыя, калі збірала ў дарогу яму рэчы, змахвала крадком слязу. Яна баялася, што ён можа не вытрымаць гэтай паездкі, але ні пярэчыць, ні адгаворваць не пасмела. Ёй хацелася паехаць з ім, але такое раскошы, аж дзве пуцёўкі, на іх не выдалі. Урэшце, хто яны такія, гэтыя двое старых, якія працавалі няхай сабе і ў сістэме, але ўсё ж у абслузе.

## *V*

Праз некалькі дзён стары садоўнік адчуў сябе як у тумане, калі навокал усё быццам і знаёмае, але разам з тым і такое аднолькавае, што пачынаеш траціць адчуванне рэальнасці, не ведаеш, ці гэта і сапраўды адбываецца з табой, ці саснілася альбо прымроілася. Цяпер і самому яму здавалася, што дарэмна вяртаўся сюды. Але нешта трымала, адчуванне нейкае, што не ўсё ўспомніў, пра нешта забыўся.

Гэта турбавала думкі на пляжы пад паласатым ценем аэрарыя, у сталоўцы, у пакойчыку перад уключаным тэлевізарам.

Здагадка прыйшла нечакана, калі, седзячы ў шэзлонгу на балконе, пачуў, як моцна крычала малое і жаночы голас гразіў-дапытваўся: «Будзеш больш так рабіць ці не? Гавары, будзеш ці не?» Дзіця не здавалася — не адказвала, толькі спрабавала крычаць яшчэ мацней.

Стары садоўнік успомніў: Мішка, рабы маленькі Мішка! Недакормлены, бледнатвары, у штанах, перашытых з салдацкага матэрыялу, са шлейкай наўскасяк на голай худой грудзіне, загарэлай да чарнаты.

Гадавала Мішку санітарка Варварка, дачасна састарэлая, маршчыністая тварам, заўсёды «пад мухай» старая жанчына. Інакш як байструком унука яна не звала і заўсёды меркавала, каб ударыць па галаве.

— Бач, падкінула мне свайго байструка, а сама паехала перад афіцэрамі прыполам круціць! У-у! — гразіла яна на сваю бяспутную дачку, замахвалася на Мішку, які побач з ёй ішоў дадому, бо ведаў, што ў анучцы старая нясе з кухні яму пад'есці. Мішка адхіляўся, і яны ішлі побач далей: п'янаватая старая і малы, гатовы ў любое імгненне да ўдару.

Старая зноў лаяла дачку, якая пакінула ёй Мішку, прыжытага ад ваенных у шпіталі, следам за якімі з'ехала і сама, замахвалася на малога.

Мішка цёрся пры садоўніку цэлыя дні. І садоўнік расказваў пра ўсё, што рабіў. Каб сумна не было самаму. Ды і шкадаваў дзіця. Яму ён браў з сабой перакусіць. Потым, калі Мішка падрос, а ягоная Варварка зусім знемагла ад старасці і ад гарэлкі, садоўнік папрасіў галоўнага аформіць Мішку дворнікам, а на самай справе — сабе памочнікам. Такім чынам Мішка меў хоць нейкую капейчыну, каб жыць, вучыцца ў школе і карміць сваю старую прапашчую бабку.

Калі садоўнік выехаў з санаторыя, Мішка служыў у арміі. Пасля ён павінен быў вярнуцца сюды, вярнуцца да тае работы, пры якой ён вырас.

Усё павінна было быць проста і правільна, як і належыць у жыцці.

Роспыты стары пачаў тут жа, на пляжы, у дзяжурнага на санаторным прычале, немаладога ўжо веку мужчыны.

— А, рабы Мішка? Хто яго не знае! На прычале ў «Запаляр'і» калыміць. Цяпер яго не будзе, у моры сядзіць, катрана бярэ...

Прыпільнаваў Мішку стары толькі на трэці дзень, калі той вярнуўся на катэры з мора. Рослы, плячысты мардаты мужчына ў шапачцы з доўгім казырком, які, здаецца, ніякіх адносін не мог мець да таго худога пасляваеннага хлопчыка, абмываў струменем вады падняты на лябёдцы катэр на падводных крылах, смачна мацюкаўся і расказваў пра рыбалку, якая, па-ягонаму, не ўдалася, хаця курортнікі, якіх ён вазіў на рыбалку, нашморгалі на самадур стаўрыды, і нават крыху і сельдзі перапала ім.

— Не ішоў сягоння, сцярвец... Нічога, заўтра я яго вазьму! Асцярожна, дзед, а то абалью,— крыкнуў ён садоўніку, калі той пакнуўся падысці бліжэй.

— Мішка! — стары не пазнаў свайго раптам саслабелага голасу.

— Баця! Ё-маё! Жывы яшчэ! Як цябе скруціла і сагнула! Маладзец, жывы яшчэ!

Мішка абхапіў старога прыпадняў нават ад зямлі, але асцярожна, як малое дзіця. Стары адчуў, што нешта зашчыпала ўваччу.

— Жывы, Мішка. Прыехаў перад смерцю паглядзець...

— Маладцом, баця! Лёнька, дамый тачку. Мы з бацем да мяне ў госці пойдзем! Паглядзіш, баця, як я жыву!

Жыў Мішка недалёка, у доме на два паверхі, на ўзгорку. Дагледжаны сад, агарод, і другі ўваход на адну палавіну дома.

— Я, баця, не ганюся, каб многа курортнікаў пускаць. У мяне не куратнік. Звычайна людзі сямейныя, з поўначы. У іх там грошай куры не клююць, а санаторыяў на ўсіх не хапае. А Тамара мая касір білетны. Праблемы з ад'ездам няма. Так што поўны сервіс. Яшчэ з зімы пісьмы прыходзяць і задатак па пошце! Сервіс, баця, рэч вялікая.

Мішка радаваўся сустрэчы, насіў і ставіў на стол на тэрасе страву і не пераставаў гаварыць.

— Старэйшая мая ўжо ў дзевятым класе, меншая ў пятым. Іграць любіць, піяніна мы купілі ёй. Баця, жыць цяпер, ё-маё! Хто ўмее толькі — жыві і радуйся! Глянула б мая Варварка, як байструк яе жыве! Адмучылася, небарака. Помнік я ёй як след паставіў. Не дала мне прапасці, выгадавала, як ні кажы... Давай, баця, за сустрэчу!

Мішка наліў у чаркі, і яны запацелі — гарэлка стаяла ў халадзільніку. Стары толькі крыху адпіў, глядзеў, як смачна кульнуў чарку Мішка, узяўся закусваць.

— А я думаў, ты на маім месцы, у садзе...

— Баця, каму цяпер той сад! Гэта некалі букецік руж — і давольна. Цяпер што тыя цвяточкі? Цяпер трэба накарміць, напаіць, як кажуць, і каб нос у табацы. Ты не памятаеш, Пятровіч, як я некалі глядзеў, як ты анучку разгортваеш, ежу кладзеш? А раз, помню, і чакушку адкрыў, у стаканчык наліў і выпіў. Як цяпер помню: глядзеў на цябе і думаў, што гэта ў казцы толькі можа быць, каб і я вось гэтак — з'еў, колькі чаго захочацца. І чарку! А цяпер сам бачыш...

— А што, на прычале заработна надта?

— Цяпер у каго галава на плячах, таму на любым месцы заработна. Час у мяне ад дзяжурства вольны. Сад, агарод глядзець трэба? Трэба. Цяпер пячонка аднаго катрана — дваццаць пяць, сама мала. Ад раку памагае. З рукамі адрываюць. Калі каму трэба, я табе, баця...

— Не, не, дзякуй...

Мішка зноў узяўся за бутэльку. І расказваў пра тое, як ловіць катрана, потым вадзіў па садзе, па агародзе, паказваў дом і, калі стары запрасіўся дадому, насыпаў поўны цэлафанавы мяшок хурмы, давёў старога да санаторыя, паабяцаў, што зойдзе, яшчэ раз забярэ ў госці, каб паказаць жонку, дзяўчат сваіх.

## *VI*

Вечарам стары сядзеў на балконе і глядзеў, як заходзіла над морам сонца. Успамінаў жывы, шчаслівы Мішкаў рыжы твар, думаў пра тое, што бачыў малы тады не ружы, а ежу, якое яму не хапала, і што з-за ежы ён тады і хадзіў услед за ім. Гэта было жыццё. І сам ён кожны раз браў ежу, каб пакарміць Мішку.

Стары глядзеў на свой здзічэлы, зляселы сад і думаў пра тое, што і сапраўды тым людзям, якія хвалілі яго, патрэбен быў не яго, сатканы з розных дрэў і кветак, цудоўны і вечны сад, а трэба былі букеты, якіх ён не шкадаваў і шчодра раздаваў. Стары садоўнік намагаўся ўспомніць тое, што некалі гаварыў Прохар Прохаравіч пра майстэрства і рамесніцтва, пра людзей, якія не ўмеюць глядзець на зоркі. Цяпер ён, здавалася, пачынаў пра нешта здагадвацца, але ўжо позна было здагадвацца — і не ўспомніць да канца тых слоў.

Назаўтра стары амаль увесь дзень праседзеў на балконе. У парку нанятая брыгада дзяўчатак-студэнтак збольшага падстрыгала кусты, выграбала з-пад дрэў сухія галіны. З секвой ад ветру густа сыпалася насенне, і белыя бетонныя пліткі перад санаторыем былі засеяны ім, як калісьці рабаціннем Мішкаў твар. У старога яшчэ звечара пачало балець сэрца. Ён не здагадваўся, што канчаткова пайшло на змену надвор'е, што пачынаецца пара бясконцых дажджоў і ў гэты час сардэчнікам і старым людзям нельга лішне хвалявацца.

Ноччу старога забрала «хуткая дапамога». Вось тады і высветлілася, хто ён такі. Загаварылі былі спачатку, што ён памёр, але аказалася, што гэта няпраўда, і ўсе з палёгкаю

супакоіліся. А праз тры тыдні, калі вечарам медсястра падносіла чамадан і праводзіла на вакзал старога чалавека, ужо новыя курортнікі не звярнулі на яго асаблівай увагі.

Ішоў дождж, пакорліва моклі па-восеньску яркія, вастралістыя клёны, а пад дрэвамі вылузалася на свет першая сямейка лапушыстых пахучых грыбной радасцю апенек.

## *Красатуля*

Калі Віктар Ельніцкі вярнуўся з арміі, яго не пазнала нават родная маці. Старая Матрэна, падслепаватая ад старасці, з хусткаю, завязанаю нізка на вочы, каб не сляпіла сонца, палола бульбу на пляцы. Яна доўга прыглядалася да чалавека, які ішоў разоркаю з аселіцы. Чалавек быў у галіфэ, у адной руцэ нёс фуражку, у другой чамаданчык. На першы погляд — старшыня, бо і ў галіфэ, і з фуражкаю. Праўда, старшыня разбрыняў ад гарэлкі і ад закускі, намнога таўсцейшы з выгляду. Ды і пяшком ён не хадзіў. Нават і верхам ездзіць перастаў. Усё больш у вазку.

Незнаёмы падышоў бліжэй, заспяшаў да старое, і ў яе міжволі вырвалася:

— А хто ж гэта? Бачу, чалавек знаёмы, а пазнаць не магу.

— Го-го, не пазнаеш, мамаша? Гвардзіі сяржант Ельніцкі!

Віктар задаволена рагатнуў, паставіў чамаданчык, падхваціў маці на рукі, маленькую, чорную, як высахлы на летнім сонцы балотны карчучок.

— А божачка ж мой! — раптам загаласіла Матрэна.— Даруй мне, божа! Дзіця сваё не пазнала! А як жа ты вырас, сыночак! А красатуля ж ты мая! — працягвала плакаць ад радасці і прыгаворваць старая.

— Ну, мамаша, ну! — не ведаў, як супакоіць яе разгублены Віктар, бо суседзі, якія таксама былі на пляцах усё чулі і бачылі, а хлапчукі чарадой, як вераб'і, імчалі ўжо да салдата, бо ў салдата павінен быць, як верылася ім, поўны чамадан значкоў, ваенных значкоў і салдацкіх зорачак таксама.

Адным словам, вярнуўся са службы салдат, як вярталіся і многія. Праўда, маленькі, закажанелы, няўдаленькі Вік-

тар на армейскіх харчах падрос на добры метр, разгарнуўся ў плячах і стаў падобны на свайго нябожчыка бацьку. І паставаю, і чорнымі валасамі, і нават носам з гарбінкаю, і белымі, як часнок, зубамі. Але ў гэтым дзіва вялікага не было.

— Прырода, яна, брат, сваё бярэ,— канстатаваў вечарам за сталом, устаўленым бутэлькамі самагонкі, сусед, стары стэльмах Даніла, які любіў пад усё падводзіць навуковую базу і гаварыць па-вучонаму, асабліва пасля таго як была выпіта не адна чарка. І тады ў вясковага мудраца замест любімага «брат» выгаворвалася «бат», за што Даніла і замеў адпаведную вулічную мянушку.

Салдацкі харч не толькі росту даў, але і ўпэўненасці некалі ціхаму і пакорліваму хлопцу. Першыя дні, як і належыць салдату, Віктар хадзіў па гасцях, потым узяўся быццам і за работу, паправіў пахіленыя і падпёртыя калкамі Матрэніны платы. Віктар частаваўся ў гасцях, дома, у кампаніі з сябрукамі. За чаркаю любіў расказваць пра сваю службу, напіраючы на тое, што ён там быў не проста пешка, а пры начальству, і не кожны «ліцер», гэтак ён называў лейтэнантаў, быў яму ўказ. А служыў Віктар пры намесніку начальніка па тыле палка, маёру Шабашкіну, вазіў яго на машыне. На гэтым расказчык прымаўкаў, быццам даходзіў да вялікае ваеннае ці дзяржаўнае тайны, а сам успамінаў палкавую буфетчыцу, разбітную трыццаціпяцігадовую казачку, якая прыручыла салдата і сустракала ахвотней, чым яго начальніка...

Аднак салдацкае гасцяванне зацягвалася. У вёсцы работа не чакае, і Матрэніна суседка, языкатая Волька не вытрывала і выгаварыла Матрэне, калі яны на колінцах палолі калгасную норму буракоў:

— А пара б ужэ і твайму Красатулі на работу ісці. Дакуль будзе выгульвацца. Ці яшчэ не ўсю тваю самагонку выпіў?

— Мой сын і мая самагонка! А ты, каб і хацела, дык да цябе ніхто выпіць не зойдзе! — адрэзала ёй Матрэна. Аднак вечарам сказала сыну: — Брыдка, Віцька, дома сядзець, людзі папікаць пачынаюць.

— Ні храна яны, мамаша, не смысляць у цяперашняй жызні. Я з прадсядацелям гаварыў. Машына ў яго скора будзе, «казёл». І я яго вазіць буду. Цяпер, мамаша, той жыве, хто да начальства бліжэй.

— Глядзі, Віцька. Бог не цяля, бачыць круцяля. А з цяперашнімі старшынямі як звяжашся...

Матрэна толькі рукою махнула. А неўзабаве Віктар у клятчатай рубашцы з закасанымі рукавамі, белазубы, кучаравы, імчаў на машыне старшыню гэтак, што аж пылам курэла ў вокны, і не толькі па калгасе, але і ў «раён», і на рыбалку і за рыбалку... А начамі саджаў поўную машыну хлопцаў і дзяўчат і кружыў па наваколлю па вечарынках і фэстах. Хапала тады яшчэ і вечарынак, і дзяўчат, і самагонкі мора не меранае было. Ад яе Красатуля не адмаўляўся, як і не крыўдаваў на мянушку, што прыліпла да яго. Як і гарэлка, яна яму падабалася. І ён падабаўся і дзяўчатам, і кабетам, а таму з цягам часу ягоны «козлік» не-не ды і начаваў ля плота пад бэзавым кустом пры хаце ўдавіцы...

Але кожнага дня вялікдзень быць не можа. Старшыню знялі, а новы за п'янку перавёў Красатулю на грузавую машыну. І на «газіку» Красатуля на першым часе не здаваўся, шастаў па вечарынках, пакуль не ўскочыў у сваё — не прывучыў ездзіць з сабою ў лес дзевяцікласніцу з Гразаўка, маленькую, рабацiністую з твару Жэньку Кавалькову.

Кончылася гэта тым, што сварлівая Кавальчыха ўляцела ў вёску пасля таго, як Красатуля паспрабаваў адмахнуцца ад дзяўчыны, і нарабіла гэтакае трансляцыі, што Красатулю не было як выкруціцца. Жэнька была яшчэ непаўналетняя.

Вяселля не гулялі, распісаліся маладыя ў сельсавеце, радня маладое пасядзела ў гасцях, як на памінках. З таго і сямейнае жыццё пачалося. Жэнька аказалася гэтакая ж ядкая характарам, як і яе маці. І характар прарэзаўся пасля таго, як нарадзіўся першы хлопец, а праз год следам і другі. Красатуля на сваю Рабенькую, як ён зваў жонку, аднак, зважаць не хацеў, хлапцаваў па вяселлях, выпіўках, жанчынах. Жэнька яму спуску не давала, Красатуля часам на рабоце з кабінкі вылазіць не хацеў — каб не бачылі паабдзіраны твар. Зусім не стала ладу ў сям'і пасля смерці старое Матрэны. Тая ўгаворвала Жэньку цярпець, пакуль перашалее, перакруціцца муж. Дзецям трэба бацька. А Жэнька неўпрыкмет выкруглілася ў спраўную, цягавітую, увішную кабету, па-свойму прывабную, каб на добры лад. Але Красатуля не мяняўся і нічога бачыць не хацеў.

А потым і здарылася прыгода, пасля якой і так крывое жыццё зусім пайшло пад адхон, падмяла пад сябе і пахавала Красатулю назусім. Падвозчык кармоў на кароўніку, дурны, як вып'е, Пятрочак за нішто збіў на горкае яблыка

Жэньку. Яна павезла на яго заяву ў суд. Паехалі на Красатулевай машыне. Ён з вычасаным чубам, у рубашцы з закасанымі рукавамі і ў адпрасаваных перад паездкаю штанах. І жонка з крывым і запухлым ад пабоеў тварам ды яшчэ і ў нейкай даўгаватай і шырокай, як старэчы андарак, спадніцы.

У кабінеце Красатуля зухавата пазіраў на дзябёлую, прыгожую з твару і гладкую жанчыну ў шэрым касцюме і белай кофтачцы. І ўсміхнуўся пераможна, калі тая пасля таго як забрала заяву ў жонкі, сказала:

— А вы пачакайце хвілінку. Як ваша прозвішча? Вы сведка?

— Не, я не сведка. Я шафёр... Гэта суседка, папрасіла, каб падвёз...

Красатуля прыасаніўся, гатовы працягваць гаворку і прыехаць хоць сёння ж на спатканне да гэтае белае жанчыны. Ён не заўважыў, што жонка яшчэ не выйшла з кабінета, стаяла ў дзвярах. Ён не бачыў, бачыла жанчына, якая забірала дакументы, як зялёна і люта ўспыхнулі суседчыны вочы, як зірнула яна на свайго ўжо зашмальцаванага жыццём суседа і грукнула, як адсекла, дзвярыма.

І калі ў наступны раз Красатуля дабраўся дадому апоўначы п'яны як гразь, хапіла сілы толькі выбрацца з кабінкі і ўваліцца ў сенцы на ложак, Жэнька сустрэла яго не крыкам, а біла старым валікам, якім некалі качалі бялізну і палотны і які застаўся ў спадчыну ад старое Матрэны. І забіла б насмерць, каб не прачнуліся дзеці і не нарабілі крыку.

Пасля гэтага Красатуля п'яны дадому ехаць баяўся, начаваў дзе давядзецца. Тым часам з-за п'янкі ў яго адабралі і машыну, цяпер Красатуля рабіў на трактары. Але і трактарыст патрэбны людзям чалавек, таму гарэлка не канчалася, натура Красатулева не мянялася, пакуль пасля чарговае сустрэчы дома тым самым нязменным валкам ён не трапіў у бальніцу.

Ці то Жэнька нешта і сапраўды адбіла яму, ці гарэлка зрабіла сваё, але з бальніцы Красатуля выйшаў быццам састарэлы і саслабелы. Плечы абвіслі, згорбіўся сам, шэрым, зямлістым стаў твар, і белыя цыганскія зубы быццам пашарэлі і не блішчалі болей.

Дадому п'яны ён цяпер паказвацца баяўся: падраслі сыны і, навучаныя маці, не давалі бацьку спуску. Жэнька нават перастала мыць яму адзенне, не гатавала есці, і Кра-

сатуля карміўся тым, што прыгатуе сам на газавай пліце раніцай альбо заскочыўшы дадому ўдзень.

Яго Рабенькая выйшла ў перадавікі, старэйшы сын пайшоў у армію, маладзейшы пастушіў ад калгаса вучыцца ў інстытут на ветэрынара, і Жэнька мае поўнае права распараджацца сабой, як хоча. Таму дадому яна часам вяртаецца позна, крыху і на падпітку, людзі пагаворваюць, што вінаваты ў гэтым памаўзлівы калгасны заатэхнік, але да яго памаўзлівасці людзі прывыклі і змірыліся з ёю, і Жэньку не асуджаюць. Звычайна Красатулі дома няма. А калі здараецца і дома, то ўжо спіць п'яным мёртвым сном у сваім закутку — пакойчыку, выгараджаным дошкамі пры печы, дзе звычайна дажываюць у вёсцы свой век старыя людзі. І тады Жэньчыны вочы загараюцца зялёным агнём і нібы шукаюць той дзедаўскі валік, які звычайна ляжаў у запечку.

— Красатуля праклятая! Суседку найшоў! Абязвечыў ззамаладу! Хай цябе бог карае! Дзеці і тыя дому сцураліся!..

І ноччу яна ўсхліпвае ў пасцелі, пакуль не праваліцца ў кароткі, як забыццё, сон, а досвіта ўстае і ідзе на кароўнік. А Красатуля яшчэ спіць, яму на работу пазней. За дзень яго нехта знойдзе — трэба што-небудзь прывезці чалавеку, падмагчы, і Красатуля не адмовіць. За работу ён грошай не бярэ, толькі частуецца. Усе гэта ведаюць. І яшчэ адзін дзень кане ў нябыт, як канае і ўсё яго жыццё.

# Змест

## Аповесць



## Апавяданні

*Литературно-художественное издание*

ЖУК АЛЕКСАНДР АЛЕКСАНДРОВИЧ

**ПРОКЛЯТАЯ ЛЮБОВЬ**

**Повесть, рассказы**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

ЖУК АЛЯКСАНДР АЛЯКСАНДРАВІЧ

**ПРАКЛЯТАЯ ЛЮБОЎ**

**Аповесць, апавяданні**

Рэдактар Л. К. Лявонаў. Мастак В. У. Альшэўскі. Мастацкі рэдактар М. Я. Шкурпіт. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Л. А. Дзядзюля.

ІБ № 3144

Здадзена ў набор 06.02.90. Падп. да друку 01.10.90. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$. Папера друк. № 2. Гарнітура тып Таймс. Высокі друк. Ум. друк. арк. 14,28. Ум. фарб.-адб. 15,54. Ул.-выд. арк. 15,74. Тыраж 23 500 экз. Зак. 127. Цана 1 р. 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Жук А.
Ж 85 Праклятая любоў: Аповесць, апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1991.— 269 с.
ISBN 5-340-00315-9.
Жук А. Проклятая любовь: Повесть, рассказы.

Яну Куляшу, герою аповесці «Праклятая любоў», ужо ішоў шосты дзесятак, калі ён пакахаў Галіну Русакевіч, якая вярнулася з Поўначы, куды некалі выслалі іхнюю сям'ю. Гэтае пачуццё прымусіла Яна азірнуцца на пражытыя гады, шмат перадумаць пра жыццё, пра чалавечае шчасце, пра лёс свайго пакалення на роднай зямлі.
Апавяданні пра нашых сучаснікаў, іхнія клопаты, радасці і трывогі.

4702120201—181
Ж ——————— 12—90
М 302(03)—91

ББК 84 Бел7